№ 7-8

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ І САЮЗУ ПРАЦАСЬВЕТЫ БССР

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1932

## Зьмест

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ БССР








№ 7-8 ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ № 7-8

МЕНСК ■ ■ БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА ■ ■ 1932

# Аб навучальных праграмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе

*Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня 1932 г.*

ЦК УсеКП(б) устанаўляе, што ў галіне пачатковай і сярэдняй школы па РСФСР за апошні год адбыліся значныя зрухі ў сувязі з увядзеньнем усеагульнага абавязковага навучаньня, пераходам да сыстэматычнага ўсваеньня навук на аснове пэўных навучальных плянаў, праграм і раскладаў. Аднак, яшчэ ня зьнішчан да канца карэнны недахоп школы, які заключаецца ў тым, што „навучаньне ў школе не дае выстарчальнага аб'ёму агульна-асьветных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, якія добра ўладаюць асновамі навукі (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, геаграфія і інш.)“. (Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 5 верасьня 1931 г.).

Важнейшымі прычынамі гэтага зьяўляюцца недахопы праграм (у асаблівасьці для 2-га канцэнтру школы—5, 6, 7 групы), нездавальняючасьць мэтадаў школьнай работы і слабасьць мэтадычнага кіраўніцтва з боку народных камісарыятаў асьветы і іх мясцовых органаў, слабая дысцыпліна ў школе, а іншы раз адсутнасьць усякай дысцыпліны і парадку.

Трэба таксама адзначыць адсутнасьць увязкі паміж рознымі зьвеньнямі школьнай сыстэмы, у рэзультаце чаго пачатковая і сярэдняя школы ні па выпускаемых кантынгентах, ні па ўзроўні ведаў не адпавядаюць задачам падрыхтоўкі кадраў для паступленьня ў тэхнікумы, ВТНУ і ВНУ.

ЦК УсеКП(б) пастанаўляе:

## 1. Аб навучальных праграмах

Канстатуючы, што пасьля пастановы Цэнтральнага камітэту ад 5 верасьня 1931 году навучальныя праграмы Наркамасьветы РСФСР для пачатковай і сярэдняй школы, у асаблівасьці праграмы 1-ай ступені, значна палепшыліся, сталі вышэйшымі па аб'ёме ведаў і больш сыстэматычнымі па разьмяшчэньні вучэбнага матар'ялу ў параўнаньні з праграмамі мінулых год, ЦК лічыць, што яны ўсё яшчэ маюць істотныя недахопы і павінны быць—у частцы праграм 5, 6, 7 груп—пераапрацаваны.

Асноўнымі недахопамі праграм зьяўляюцца:

а) Перагрузка праграм вучэбным матар'ялам, якая прыводзіць да таго, што рад дысцыплін праводзіцца ў школе насьпех, а веды і навыкі дзецьмі цьвёрда ня ўсвойваюцца і не замацоўваюцца (па матэматыцы—аддзел стэрэамэтрыі ў 7-й групе; па літаратуры—уключэньне ў вучэбныя праграмы твораў, недаступных вучням і г.д.).

б) Невыстарчальнасьць і нават адсутнасьць увязкі паміж паасобнымі праграмамі, у асаблівасьці паміж праграмай па матэматыцы і чарчэньні, а таксама паміж праграмамі па матэматыцы, фізыцы, хэміі і праграмай па працы і г. д. (геамэтрычныя веды, якія патрабуюцца праграмай па чарчэньні 3-га году, даюцца толькі ў 6-м годзе, вывучэньне фізыкі ў 5, 6 і 7 гадох не забясьпечана аб'ёмам матэматычных ведаў і г. д.).

в) Наяўнасьць прынцыповых памылак у радзе праграм і ўпраш-

чэнска-вульгарызатарскi падыход некаторых складальнiкаў праграм да сваёй задачы (адсутнасьць разуменьня аб паскарэньнi, разуменьня аб сiле i законах Н'ютона ў курсе фiзыкi, змазваньне разуменьня аб клетцы ў курсе бiалёгii, адсутнасьць арыентыроўкi на карту ў курсе геаграфii, паасобныя палiтычныя памылкi ў курсе грамадазнаўства).

г) Невыстарчальнасьць гiстарычнага падыходу да праграм па грамадзкiх прадметах, якая выяўляецца ў тым, што ў iх надзвычай слаба даецца ўяўленьне аб гiстарычным мiнулым народаў i краiн, аб разьвiцьцi чалавечага грамадзтва i г. д.

Iстотным недахопам зьяўляецца i тое, што не распрацаваны яшчэ праграмы па гiсторыi.

У адпаведнасьцi з гэтым ЦК прапануе:

1. Наркамасьветы РСФСР пераапрацаваць да 1 студзеня 1933 году праграмы для пачатковай i сярэдняй школы такiм чынам, каб забясьпечыць сапраўднае, добрае i сыстэматычнае засваеньне дзецьмi асноў навук, веданьне фактаў i навыкi правiльнай гутаркi, пiсаньня, сыстэматычных практыкаваньняў i iнш.

2. Пры пераапрацоўцы праграм кiравацца наступным:

а) Правесьцi ўнутранае перараэьмеркаваньне вучэбнага матар'ялу, праграм па матэматыцы, фiзыцы, хэмii i бiалёгii для груп 2-га канцэнтру, прывёўшы аб'ём i характар вучэбнага матар'ялу гэтых праграм у поўную адпаведнасьць з узроснымi асаблiвасьцямi дзяцей кожнай з гэтых груп. Адначасова з гэтым неабходна зрабiць i частковае скарачэньне праграм 2-га канцэнтру па матэматыцы, фiзыцы, бiалёгii i хэмii з тым, каб бязумоўна забясьпечыць цьвёрдае i добрае ўсваеньне i замацаваньне асноў кожнай навукi.

б) Зьнiшчыць iснуючыя факты невыстарчальнай увязкi памiж вучэбнымi праграмамi 2-га канцэнтру па матэматыцы, фiзыцы i хэмii, а таксама i памiж праграмамi па гiсторыi, грамадазнаўстве, лiтаратуры i мовах.

в) Улiчыць неабходнасьць выкарыстаньня ў вучэбных занятках (практыкаваньнi па расiйскай мове, матэматыцы, грамадзнаўстве i г. д., лябараторныя работы па фiзыцы, хэмii i прыродазнаўстве) матар'ялу сацыялiстычнага будаўнiцтва, забясьпечыўшы дакладны падбор даступнага дзецям матар'ялу.

г) Значна ўзмацнiць элемэнты гiстарызму ў праграмах па грамадазнаўстве, па мове i лiтаратуры, геаграфii, iлюструючы асноўныя разьдзелы i тэмы гэтых дысцыплiн неабходным фактычным матар'ялам, гiстарычнымi экскурсамi i параўнаньнямi.

д) Прадугледзець павялiчэньне колькасьцi гадзiн на матэматыку, пабудаваўшы курс матэматыкi ў пачатковай i сярэдняй школе такiм чынам, каб забясьпечыць пераход да наступных ступеняй прафтэхнiчнай асьветы.

е) У праграмы па фiзыцы—увесьцi адсутныя элемэнты статыкi, разуменьне аб сiле, аб законах Н'ютона; па бiалёгii—разуменьне аб клетцы i клетачнай будове арганiзму; па хэмii—неабходна больш сыстэматычнае складаньне праграмы, разьлiчанае на цьвёрдае ўсваеньне элемэнтарных хэмiчных паняцьцяў; па геаграфii—праграмма павiнна забясьпечыць веданьне карты, у асаблiвасьцi карты СССР, асноўных паняцьцяў фiзычнай геаграфii, асноўных элемэнтаў фiзычнай, прыроднай i эканамiчнай геаграфii СССР як у цэлым, так i кожнай з рэспублiк, краёў i абласьцей у паасобку; у вучэбныя праграмы па геаграфii павiнны быць уключаны ў належным аб'ёме i веды па геаграфii капiталiстычных краiн.

ж) Прызнаць неабходным, каб сярэдняя школа абавязкова забясьпечыла веданьне аднэй чужаземнай мовы кожнаму, якi канчае школу.

з) Адзначаючы, ня глядзячы на некаторае паляпшэньне, усё яшчэ нездавальняючы стан праграм i выкладаньня роднай мовы i грамадазнаўства, ЦК УсеКП(б) прапануе Наркамасьветы РСФСР зьвярнуць асаблiвую ўвагу на распрацоўку праграм па гэтых прадметах i паляпшэньне выкладаньня iх.

Праграма па роднай мове павінна забясьпечыць усваеньне сапраўды сыстэматычнага і дакладна акрэсьленага кола ведаў, а таксама добрых навыкаў правільнага чытаньня, пісаньня і вуснага говару, увёўшы ў практыку навучальнай работы вучняў самастойныя пісьмовыя работы, граматычны разгляд і інш., як у клясе, так і на даму.

і) Прызнаць неабходным у вучэбныя праграмы па грамадазнаўстве, літаратуры, мовах, геаграфіі і гісторыі ўвесьці важнейшыя веды, якія датычаць нацыянальных культур народаў СССР, іх літаратуры, мастацтва, гістарычнага разьвіцьця, а таксама і элемэнты краязнаўства СССР (прыродныя асаблівасьці, прамысловасьць, сельская гаспадарка, сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё і г. д.).

к) Надаючы вялікае значэньне пастановцы працоўнага навучаньня ў палітэхнічнай школе, прызнаць неабходным пераапрацаваць вучэбныя праграмы па працы з тым, каб забясьпечыць сапраўднае злучэньне навучаньня з прадукцыйнай працай і вывучэньне „ў тэорыі і на практыцы галоўных галін вытворчасьці“ (праграма УсеКП(б), кіруючыся ўказаньнямі Леніна, што палітэхнічны прынцып „не патрабуе навучаньня ўсяму, але патрабуе навучаньня асновам сучаснай індустрыі наогул“ (запіс Леніна на III сэсіі УсеЦВК 7-га скліканьня 26-27 верасьня 1920 году па дакладу Наркамасьветы).

Выходзячы з гэтага неабходна забясьпечыць, як указваў Ленін, наступныя „асновы палітэхнічнай асьветы“: „асноўныя паняцьці аб электрычнасьці“, „прыстасаваньне электрычнасьці да мэханічнай прамысловасьці“, таксама да „хэмічнай“, „таксама аб пляне электрыфікацыі РСФСР“, наведваньне „ня менш 1—3 раз электрычнай станцыі, заводу, саўгасу“, „ведаць такія-та асновы аграноміі і г. д. (распрацаваць дэтальна мінімум ведаў)“.

У сувязі і побач з гэтым вучням у сярэдняй школе павінна быць забясьпечана аўладаньне асноўнымі інструмантамі і атрыманьне навыкаў па апрацоўцы дрэва, мэталю і інш.

## II. Аб арганізацыі вучэбнай работы і ўмацаваньні школьнага рэжыму

Адзначыць, што ў адносінах арганізацыі вучэбных заняткаў у школе, пасьля пастановы ЦК ад 5 верасьня 1931 году, устаноўлен большы парадак (цьвёрдыя расклады, больш выразная арганізацыя вучэбнай работы і ходу вучэбных заняткаў).

Аднак, ня гледзячы на ўказаньне ЦК у гэтай пастанове аб тым, што ні адзін мэтад ня можа быць прызнан асноўным і ўнівэрсальным мэтадам вучобы, у практыцы работы школ атрымаў пашырэньне, як асноўны, так званы „лябараторна брыгадны мэтад“ (у радзе школ ён стаў унівэрсальным), які суправаджаўся арганізацыяй пастаянных і абавязковых брыгад, прывёўшых да скажэньняў у выглядзе абязьлічкі ў вучэбнай рабоце, да зьніжэньня ролі пэдагога і ігнараваньня ва многіх выпадках індывідуальнай вучобы кожнага вучня.

ЦК УсеКП(б) прапануе народным камісарыятам асьветы саюзных рэспублік ліквідаваць гэтыя скажэньні лябараторна-брыгаднага мэтаду, а вучэбны працэс у школе арганізаваць на наступнай падставе:

а) Асноўнай формай арганізацыі вучэбнай работы ў пачатковай і сярэдняй школе павінен зьяўляцца ўрок з данай групай вучняў са строга вызначаным раскладам вучняў. Гэта форма павінна ўключыць у сябе, пад кіраўніцтвам настаўніка, агульна-групавую, брыгадную і індывідуальную работу кожнага вучня з ужываньнем рознастайных мэтадаў навучаньня. Пры гэтым павінны ўсяляк разьвівацца калектыўныя формы вучэбнай работы, не практыкуючы арганізацыі пастаянных і абавязковых брыгад.

б) Настаўнік абавязан сыстэматычна пасьлядоўна выкладаць сваю дысцыпліну, усямерна прывучаючы дзяцей да работы над падручнікам і кнігай, да рознага роду самастойных пісьмовых работ, да работы ў габінэце, у лябараторыі, вучэбнай майстэрні, шырока ўжываючы, побач з гэтымі асноўнымі мэтадамі,

рознага роду дэманстрацыі вопытаў і прыбораў, экскурсіі (на завод, у музэй, у поле, у лес і інш.); пры гэтым настаўнік павінен усямерна дапамагаць дзецям пры затрудненьнях у іх вучэбных занятках. Трэба сыстэматычна прывучаць дзяцей да самастойнай работы, шырока практыкуючы розныя заданьні, у меру аўладаньня пэўным курсам ведаў (рашэньне задач і практыкаваньняў, выраб мадэляў, работа ў лябараторыях, зьбіраньне гербарыяў, выкарыстаньне прышкольных вучасткаў для вучэбных мэт і інш.).

ЦК абавязвае Наркамасьветы і іх органы бязумоўна забясьпечыць ва ўсёй вучэбнай рабоце школы кіруючую ролю настаўніцкага пэрсаналу.

в) У аснову ўліку школьнай работы павінен быць пакладзен бягучы індывідуальны сыстэматычна правадзімы ўлік ведаў вучняў. Настаўнік павінен у працэсе вучэбнай работы ўважліва вывучаць кожнага вучня. На аснове гэтага вывучэньня настаўнік абавязан у канцы кожнай чвэрці складаць характарыстыку пасьпяховасьці кожнага вучня па даным прадмеце. Усякія складаныя схэмы і формы ўліку і справаздачнасьці—забараніць.

Лічыць неабходным устанаўленьне ў канцы году праверачных іспытаў для ўсіх вучняў.

г) Прапанаваць Наркамасьветы тэрмінова распрацаваць мэтодыкі па асобных дысцыплінах, а таксама па розных відах вучэбна-выхаваўчай работы (напрыклад, у лябараторыі, на вытворчасьці, на прышкольным вучастку (дастасоўна да ўзросных асаблівасьцяй вучняў.

д) У радзе выпадкаў адміністрацыя школы і пэдагогі не зварачаюць увагі на парушэньні парадку ў школе і не праяўляюць ініцыятывы да ўмацаваньня сьвядомай дысцыпліны вучняў. З прычыны гэтага абавязаць загадчыкаў школ і пэдагогаў павесьці настойлівую выхаваўчую работу, змагаючыся з учынкамі вучняў, якія парушаюць парадак у школе, прыцягваючы да гэтай справы грамадзкія арганізацыі, бацькоў, камсамольскія і піянэрскія арганізацыі, а непапраўных з вучняў, хуліганствуючых, якія зьневажаюць настаўніцкі пэрсанал і парушаюць распараджэньні адміністрацыі школы і пэдагогаў і якія ломяць школьны рэжым, псуюць або крадуць маемасьць школы,—выключаць са школы бяз права паступленьня ў школу тэрмінам ад аднаго да трох год.

е) Прапанаваць народным камісарыятам асьветы распрацаваць рад мерапрыемстваў па сыстэматычнай пэдагагічнай прапагандзе, прыступіўшы неадкладна да складаньня і выданьня папулярнай пэдагагічнай літаратуры для бацькоў.

ж) У мэтах узьняцьця эфэктыўнасьці пэдагагічнай работы ў школе і ўлічваючы вялізарнае значэньне для гэтага забесьпячэньня школы такімі неабходнымі прыналежнасьцямі настаўніцкай працы, як вучэбныя падручнікі, вучэбная апаратура для габінэтаў і вучэбна-вытворчае абсталяваньне майстэрань і іншыя віды вучэбных падручнікаў,—распрацаваць у двухмесячны тэрмін плян разгортваньня выпуску і забесьпячэньня пачатковай і сярэдняй школы вучэбнымі дапамогамі (картамі, глёбусамі, нагляднымі табліцамі і г. д.), вучэбнай апаратурай для прырода-навуковых і фізыка-матэматычных габінэтаў, а таксама і плян стандартнага абсталяваньня рабочых пакояў і школьных майстэрань адпаведнымі варштатамі, інструмантамі і матар' яламі ў мэтах падвядзеньня належнай вучэбнай базы для арганізацыі палітэхнічнай школы.

Плян пашырэньня выпуску і паляпшэньня забесьпячэньня школ гэтымі падручнікамі павінен быць распрацован з такім разьлікам, каб ужо ў 1932-33 навучальным годзе дабіцца значнага павышэньня матар'яльнай вучэбнай базы ўсёй школьнай работы.

## III. Аб настаўніцкіх кадрах

1. Адзначаючы значны рост актыўнасьці настаўніка і павышэньне яго адказнасьці за работу на працягу апошніх год, ЦК УсеКП(б) падкрэслівае ўсё ўзрастаючую ролю настаўніка ў справе навучаньня дзяцей асновам навук, вы-

хаваньня ў іх сьвядомай дысцыпліны і камуністычных адносін да вучобы і працы.

ЦК УсеКП(б) абавязвае народныя камісарыяты асьветы саюзных рэспублік, савецкія і партыйныя органы ўсямерна забясьпечыць настаўніку ў яго рабоце неабходныя ўмовы для пасьпяховага выкананьня ім адказных і ганаровых абавязкаў па навучаньні і выхаваньні маладога пакаленьня Саюзу Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік. Сыстэматычная работа над павышэньнем ідэйна-палітычнага ўзроўню, агульнай асьветы і пэдагагічнага майстэрства настаўніка, безагаворачнае і дакладнае выкананьне дырэктыў ЦК і СНК СССР, аб прыраўнаньні настаўніка па снабжэньні прадуктамі і прамтаварамі да прамысловага рабочага, сваячасовая выплата заработнай платы, клапоты аб кватэры, сям'і і адпачынку настаўніка, чулыя адносіны да яго штодзённых патрэб,—усё гэта павінна характарызаваць сапраўднае выкананьне савецкімі і партыйнымі органамі дырэктыў партыі аб ленінскіх адносінах да настаўніка.

2. Наркамасьветы ўстанавіць дакладны парадак пераводу і назначэньня настаўнікаў і такую расстаноўку кадраў на мясцох, якая забясьпечвала-б правільнае выкарыстаньне на рабоце вопытных настаўнікаў і сыстэматычную дапамогу з боку апошніх маладым настаўніцкім кадрам.

Прапанаваць мясцовым органам не адрываць настаўніка для грамадзкай работы ў часе заняткаў у школе і падрыхтоўкі да іх (падрыхтоўка да лекцый, самаадукацыі, удзел на курсах і ў мэтадычных нарадах і г. д.), катэгарычна забараніўшы выкарыстаньне настаўніка для выкананьня розных тэхнічных даручэньняў па рабоце сельсавету, райвыканкому і г. д.

3. Лічыць неабходным рабіць прыёмы дзяцей настаўніцтва ў тэхнікумы, ВНУ і ВТНУ нароўні з рабочымі.

4. ОГИЗ'у да 1 студзеня 1933 году арганізаваць падбор і рассылку настаўнікам па даступнай цане камплектаў кніг, найбольш неабходных пэдагогам па асобных галінах ведаў і пэдагагічных пытаньнях.

Наркамасьветы сумесна з кнігагандлюючымі арганізацыямі апублікаваць у месячны тэрмін ільготныя ўмовы куплі і атрыманьня кніг настаўнікамі.

5. Наркамасьветы прыняць меры да таго, каб у найкарацейшы тэрмін паставіць належным чынам усю справу пэдагагічнай асьветы, завочнага і кароткатэрміновага навучаньня настаўнікаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на аўладаньне настаўніцтвам мэтодыкай і інструмантамі пэдагагічнай працы (умелае скарыстаньне для навучаньня падручнікаў, прыбораў, карты, наглядных табліц, кіно, радыё і г. д.).

Усямерна пашырыць практыку заахвочваньня і прэміяваньня настаўнікаў за лепшыя ўзоры работы, а таксама ўлік і выкарыстаньне ў кіраўніцтве дасягненьняў перадавых школ і настаўнікаў.

## IV. Аб старэйшых групах сярэдняй школы

У мэтах ажыцьцяўленьня праграмы партыі—„аб правядзеньні бясплатнай і абавязковай агульнай і палітычнай (якая знаёміць у тэорыі і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасьці) асьветы для ўсіх дзяцей абодвух родаў да 17 год“ (праграма УсеКП(б), а таксама ў мэтах хутчэйшага ўзьняцьця ўзроўню агульна-асьветнай і палітэхнічнай падрыхтоўкі вучняў сярэдняй школы, пашырэньня падрыхтаваных кантынгентаў для вышэйшай школы і зьнішчэньня ўзроснай неадпаведнасьці паміж сярэдняй і вышэйшай школай, прыступіць, пачынаючы з 1932-33 навучальнага году, да рэарганізацыі сямігадовай палітэхнічнай школы ў дзесяцігадовую.

Выходзячы з гэтага, прапанаваць СНК СССР у месячны тэрмін зацьвердзіць канкрэтны плян і разьмеры арганізацыі ў надыходзячым навучальным годзе над сямігодкай 8-х груп, як першы крок да дзесяцігадовай школы.

**ЦК УсеКП(б)**

Г. М. Брыгневіч

# Год барацьбы за рэалізацыю пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе

У пэрыяд дыктатуры пралетарыяту, гэта значыць у пэрыяд падрыхтоўкі ўмоў, якія робяць магчымым поўнае ажыцьцяўленьне камунізму, школа павінна быць ня толькі праваднікам прынцыпаў камунізму наогул, але і праваднікам ідэёвага, арганізацыйна-выхаваўчага ўплыву пралетарыяту на паўпралетарскія і непралетарскія пласты працоўных мас у мэтах выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм

(*З праграмы УсеКП)б*).

## Палітычнае значэньне пастановы ЦК аб школе

Гістарычнае рашэньне ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе—гэта праграма пабудовы нашай савецкай школы. Гэта праграма ставіць цэнтральнай задачай барацьбу за якасьць вучобы, узьняцьце тэарытычнага ўзроўню навучаньня, палітэхнічную перабудову школы і ўзмацненьне ўсей сыстэмы комуністычнага выхаваньня.

Пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦККП(б)Б аб школе намецілі праграму разгорнутай барацьбы партыі за савецкую палітэхнічную школу ў пэрыяд сацыялізму. Рэалізацыя гэтых пастаноў патрабавала вялізарнага напружаньня і мабілізацыі сіл , сродкаў кіруючых арганізацый, органаў улады і ўсёй пралетарскай грамадзкасьці.

НКА, гаспадарчыя арганізацыі, саюзы павінны былі разгарнуць баявыя тэмпы па ўмацаваньні матар'яльнай базы школ.

Пастановы ЦК патрабавалі ў найкарайцейшы тэрмін перабудаваць работу НКА і яго органаў на мясцох, патрабавалі чоткасьці, апэрацыйнасьці, адказнасьці за працу кожнага работніка ў падвышэньні свае кваліфікацыі, разгортваньня навукова - дасьледчай работы і рашучай барацьбы на два франты за генэральную лінію партыі ў культурным будаўніцтве, за разгортваньне культпаходу, за ўсенавуч шырокай пралетарскай грамадзкасьці.

Перад масай асьветнікаў стаяла задача, пад кіраўніцтвам нашай партыі, у самы кароткі тэрмін наладзіць дысцыпліну ў школах, забясьпечыць сапраўднае камуністычнае выхаваньне, забясьпечыць аўладаньне вучнямі праграмным матар'ялам. Перад настаўніцтвам стаяла і стаіць задача—„падрыхтаваць пакаленьне, якое здольна канчаткова ўстанавіць камунізм".

Гэта задача з асаблівай с!лай патрабавала разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў масах асьветнікаў.

Постанова ЦК УсеКП(б) зьяўляецца асаблівай баявой праграмай працы для камсамольскіх арганізацый—шэфаў усенавуча. Камсамол павінен быў стаць перадавым атрадам за лепшую рэалізацыю пастановы, асабліва ў галіне, ўсямернага ўзмацненьня піянэрскіх арганізацый.

Пастанова ЦК аб школе па ленінску вырашыла пытаньне аб ужываньні новых мэтадаў навучаньня.

Мэтады навучаньня павінны даваць сыстэму ведаў вучням, садзейнічаць „выхаваньню ініцыятыўных і дзейных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніц-

тва“. Пастанова ЦК абавязвала—„разгарнуць рашучую барацьбу супроць спроб перавесьці ўсю работу ў школе на „мэтад праектаў“, які падмяняў сыстэму ведаў ласкутнымі адрывачнымі, нічым не зьвязанымі кавалкамі і кавалачкамі ведаў. Гэтыя спробы „лявацкага“ мэтадычнага пражэкцёрства па сутнасьці вялі да разбурэньня школы, да адміраньня яе і зьніжэньня ролі настаўніка ў школе.

Галоўная праваапартуністычная небясьпека—адмаўленьне ад палітэхнізацыі, імкненьне захаваць старую славесную школу—увесь час заставалася і застаецца на пэдагагічным фронце. Адзначаючы гэты момант, пастанова ЦК падкрэсьлівае, што для пасьпяховай барацьбы з галоўнай правай небясьпекай ў школьнай працы неабходна ўзмацніць барацьбу з „лявацкімі“ скажэньнямі лініі партыі ў будаўніцтве маркса-ленінскай палітэхнічнай школы.

Уся партыя, настаўніцтва, пралетарская грамадзкасьць з вялізарным задавальненьнем спаткалі пастанову ЦК аб школе. Пастанова ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе выклікала вялікі працоўны ўздым сярод асьветніцкіх, рабочых і калгасных мас на неабходнасьць падняцьця якасьці школьнай работы.

## Барацьба за ўсенавуч

Год барацьбы за рэалізацыю пастановы ЦК аб школе характарызуецца ўсё ўзрастаючай увагай партыйнай арганізацыі, органаў улады і шырокай пралетарскай грамадзкасьці да школы і настаўніка, як цэнтральнай фігуры адукацыі і выхаваньня маладога пакаленьня. Работа ўсіх зьвеньняў сыстэмы нарасьветы ў мінулым навучальным годзе (1931—32 год) праходзіла ва ўмовах і на базе буйнага росквіту індустрыялізацыі краіны і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў.

Культурнае будаўніцтва, неадымная частка сацыялістычнага будаўніцтва, увесь мінулы год знаходзілася на ўздыме. „Пад кіраўніцтвам КП(б)Б працоўныя БССР дабіліся значных посьпехаў у будаўніцтве савецкай палітэхнічнай школы. З посьпехам завершана ў БССР увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньні на базе пачатковай школы і прыступлена да ўвядзеньня ўсенавуча за сямігодку па ўсіх гарадох, прамысловых цэнтрах і 17 раёнах. Агульны ахоп школай дзяцей ад 8 да 12 год складае па БССР каля 98 проц., прычым дзеці ахоплены навучаньнем на роднай мове. Увядзеньне ўсенавуча зьяўляецца буйнейшай перамогай ня толькі на культурным фронце, але і на гаспадарчым і на палітычным франтох. (З пастановы ЦК КП(б)Б аб школе).

Правядзеньне ўсенавуча гэта ёсьць рашаючы крок у справе культурнай рэвалюцыі, гэта асноўнае дасягненьне мінулага году на культурным фронце. Выкананьне ўсеагульнага навучаньня забясьпечвае ў першую чаргу пераход краіны на суцэльную пісьменнасьць, забясьпечвае нам прадпасылкі ў падрыхтоўцы пралетарскіх кадраў, камуністычна выхаваных, палітэхнічна разьвітых, забясьпечвае паскарэньне тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, а гэтым самым ажыцьцяўленьне лёзунгаў—„дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны“.

Адгэтуль палітычнае і гаспадарча-культурнае значэньне ўсенавуча. Усенавуч—„гэта буйнейшая рэформа, гэта буйнейшая палітычная перамога на культурным, палітычным і гаспадарчым фронце. Яна, гэта рэформа, павінна паслужыць базай для вялізарнейшага ўздыму краіны“ (Сталін).

Разгортваньне ўсеагульнага навучаньня па ўсім Савецкім саюзе, а ў прыватнасьці ў нас, у БССР, увесь час сустракала вялікае падтрыманьня з боку найшырэйшых працоўных мас. Гэтае падтрыманьне выяўляяся ў разгортваньні мясцовай ініцыятывы, асабліва па падвядзеньні матар'яльнай базы пад школу, вылучэньні работнікаў, праверкі работы апарату і г. д. Правядзеньне ўсенавуча арганізоўвала і арганізоўвае масы, уцягвае іх непасрэдна ў куль-

турнае будаўніцтва ў выглядзе культпаходу, культэстафэты, рэйдаў і г. д. Усе спробы адчыненага і скрытнага выступленьня клясавага ворага супроць усенавуча—у выглядзе забойства актывістых ці варожай агітацыі,—сустракаюць з боку шырокай пралетарскай грамадзкасьці рашучы адпор. Палітычная актыўнасьць мас разьбіла стаўку клясава-варожых сіл на зрыў усеагульнага навучаньня.

Арганізаваная нашай партыяй творчая ініцыятыва працоўных мас паказала такія тэмпы ў ажыцьцяўленьні ўсенавуча, якіх ня мела і ня можа мець ніводная капіталістычная краіна.

Калі Заходня-Эўрапейскай буржуазіі і буржуазіі ПАЗШ патрабаваліся цэлыя 10-годзьдзі каб правесьці ўсеагульнае навучаньне, то БССР правяла ўсенавуч на базе 4-годкі, а ў прамысловых цэнрах і 17 раёнах на базе 7-годкі ў працягу 2—3 год.

Посьпехі ўсеагульнага навучаньня асабліва яскравы на фоне заняпаду і дэградацыі капіталістычнай культуры. Дастаткова напомніць, што ў Заходняй Беларусі фашысцкай Польшчай разбураюцца апошнія рэшткі беларускіх школ, а дзесяткі тысяч дзяцей знаходзяцца па-за школай. У Амэрыцы за апошнія 60 год пісьменнасьць насельніцтва панізілася на 15 проц. Там-жа ў 1931 г. больш як 100.000 дзяцей атрымалі афіцыйныя пастановы не наведваць школу. Крызіс у капіталістычных краінах, жабрацтва, паўпэрызацыя мас абумоўлівае няпісьменнасьць прымушае адмовіцца ад наведваньня школ дзецьмі.

У БССР забясьпечана навучаньне дзяцей на роднай мове. Колькасьць школ нацыянальных меншасьцяй увесь час, у пасьля рэвалюцыйны пэрыяд, бесьперапынна ўзрастае. Толькі за апошні год сетка польскіх школ узрасла на 79 адзінак (у 1931 г. было 147 школ, а ў 1932 г.—226 школ.) Колькасьць яўрэйскіх школ узрасла да 230, расійскіх, літоўскіх і латыскіх да 139 школ.

Але да гэтага часу мы яшчэ назіраем разрыў паміж прадукцыяй, якую выпускае сямігодка і запатрабаваньнямі, што нам прад'яўляе рост сацыялістычнае гаспадаркі, гэта значыць з запатрабаваньнямі ў першую чаргу навучальных установ прафэсыянальнага тыпу. Таму паскарэньне тэмпаў правядзеньня ўсенавуча, палепшаньне якасьці выпускаемай прадукцыі са школы—важнейшая палітычна-гаспадарчая задача.

Мы павінны памятаць, што завяршэньне тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, ахоп МТС усіх калгасаў у другой пяцігодцы азначае адначасова ператварэньне сельска-гаспадарчай працы ў разнавіднасьць індустрыяльнае працы. Асноўнымі катэгорыямі сельска-гаспадарчых работнікаў будуць трактарысты, камбайнёры, шафёры, манцёры і г. д.

У сьвятле гэтых пэрспэктыў, пачатковае навучаньне ня можа задаволіць ні запатрабаваньняў сацыялістычнага будаўніцтва, ні культурных патрэбнасьцяй шырэйшых працоўных мас. Сямігадовая школа для ўсіх дзяцей,—вось той культурны мінімум, які мы павінны правесьці ў бліжэйшыя 2—3 гады. Толькі сямігадовае ўсеагульнае навучаньне можа падрыхтаваць нам для тэхнікумаў, ФЗВ, курсаў упаўне пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук.

Таму ЦК КП(б)Б прапанаваў „увесьці па ўсёй БССР з восені 1932 г. усеагульнае навучаньне за 7-гадовую школу, шляхам пераводу ўсіх скончыўшых у 32 годзе 4-гадовую школу ў 5-я групы ФЗС і ШКМ, з наступным распаўсюджаньнем усеагульнага абавязковага навучаньня на 6-х—7-х групы, увесьці абавязковасьць навучаньня для ўсіх дзяцей, якія зараз вучацца ў 6-х і 7-х групах ФЗС і ШКМ.“

Пераход на сямігадовы ўсенавуч зьяўляецца важнейшым паказчыкам якаснага палепшаньня школьнага будаўніцтва. Адначасова сацыялістычная краіна прыступае, пачынаючы ўжо з 1932—33 г., да ажыцьцяўленьня праграм нашай партыі аб агульнай палітэхнічнай адукацыі для ўсіх дзяцей да 17 год. Але працягваньне тэрміну навучаньня ня можа быць усеагульным. Шырокае

разгортваньне III концэнтру ў бліжэйшыя 2—3 гады абмяжоўваецца тым, што неабходна ўкамплектаваць тэхнікумы, ФЗВ маладняком, які прайшоў 7-годку.

## За якасьць работы

У пэрыяд рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б), за апошні год, нашай партыяй, органамі Наркамсьветы, саюзнай арганізацыяй прароблена вялікая ідэёва-палітычная работа сярод настаўніцтва. Распрацаваны новыя праграмы, па якіх школы працавалі ў 2-е паўгодзьдзе. Школа перайшла на прадметную сыстэму выкладаньня, уведзены плян, расклад, парадак. Рост асноўнай масы настаўніцтва ў аўладаньні марксыцка-ленінскай пэдагогікай і мэтадычным майстэрствам ішоў больш паскоранымі тэмпамі. Асобныя школы маюць вялікія дасягненьні ў галіне аўладаньня вучнямі асновамі навук, па ўвязцы тэорыі з практыкай і ў мабілізацыі вучнёўскіх арганізацый на папрацоўку праграмнага матар'ялу. Гэтыя школы прайшлі праграму, разгарнулі шырокую грамадзкую працу на вытворчасьці і ў калгасах, актыўна змагаліся і разгортвалі сацыялістычныя мэтады працы. Матар'ял конкурсу, які праведзен Наркамасьветы, з асобай яскравасьцю сьведчыць аб гэтым. Шэраг школ нашых раёнаў могуць лічыцца ўзорнымі па пастаноўцы сваёй работы. Да гэтых школ адносіцца 6-я Віцебская школа ФЗС, 12-я, 25-я і 20-я Менскія ФЗС, 8-я Барысаўская, 3-я Гомельская ФЗС, Рэчыцкая ўзорная ФЗС, першая Асіпавіцкая ФЗС, Гомельская польская ФЗС і інш. Добрых вынікаў дабіліся Жыткавіцкая яўрэйская ШКМ, Капыльская яўрэйская і беларуская ШКМ, Песачанская, Урэцкая, Ленінская, Заслаўская ШКМ ды інш. У кожным раёне маюцца пачатковыя школы і 7-годкі, якія далі высокія паказчыкі па арганізацыі працы і аўладаньні асновамі навук.

Кіраўніцтва, настаўнікі і вучні 6-ай Віцебскай ФЗС паставілі перад сабой задачу—„даць як мага больш праграмных ведаў вучням і змагацца за іх якасьць". Распрацаваны рабочыя пляны з дакладным вызначэньнем аб'ёму ведаў па кожным прадмеце. Ужываюцца актыўныя мэтады работы. Поўнасьцю выкарыстоўваецца час, які вызначан для лекцый. Выкладаемы матар'ял увязваецца з канкрэтнымі задачамі сацыялістычнага будаўніцтва.

Шляхам увязкі праграмных матар'ялаў з грамадзкай працай, шляхам асобных гутарак, настаўнікі сыстэматычна праводзяць работу з вучнямі па інтэрнацыянальным, антырэлігійным і клясавым выхаваньні. Арганізаваны рабочыя пакоі. Наладжана сувязь з вытворчасьцю. Заключан сацдагавор з фабрыкай „Прафінтэрн", куды вучні рэгулярна хадзілі набываць вытворчую практыку, увязваць свае тэарытычныя веды з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва.

„На аснове дагавору школы з фабрыкай „Прафінтэрн" ф-ка стала сапраўдным шэфам і памочнікам школы ў перабудове яе работы на аснове пастановы ЦК партыі. Дагавор, які быў заключан з фабрыкай, выканан...

Піянэры галоўнай сваёй задачай ў рабоце паставілі барацьбу за перабудову школы, за якасьць вучобы, за адпаведную дысцыпліну. Шэраг зьвеньняў зьяўляюцца ўдарнымі па вучобе і дысцыпліне. Напрыклад, 7-е зьвяно 5-га атраду мае 100-процантную пасьпяховасьць, добрую дысцыпліну і актыўны ўдзел у грамадзка-палітычным жыцьці школы.

На сёньняшні дзень 200 піянэраў зьяўляюцца ўдарнікамі вучобы" (з карэспандэнцыі ў „Піянэр Беларусі" (9/XI—32 г.).

Школьнае самакіраваньне наладзіла работу. „Сэктар вучобы наладзіў дапамогу адстаючым вучням у 5-й, 6-й і 7-й групах па фізыцы, матэматыцы, беларускай і расійскай мовах". У выніку работы сэктару вучобы пасьпяховасьць з 40 проц. павялічалася да 85 проц. Культмасавы сэктар арганізаваў у школе чытальні, дзе ў вызначаныя дні вучні ліквідуюць няпісьменнасьць сярод рабочых".

„Сэктар разгарнуў вялікую работу па выпісцы газэт. Школа атрымала ад гарбюро ДКА і газэтнага бюро пера-

ходны сьцяг „Піянэра Беларусі“ за лепшае распаўсюджваньне газэты“.

„Школьнае самакіраваньне шырока паставіла работу па разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва сярод вучняў. Цяпер у школе налічваецца 73 проц. вучняў-ударнікаў вучобы“.

„Насьценныя газэты і штодзёнкі школы адыгралі вялікую ролю ў справе выкананьня пастановы ЦК партыі аб школе. У школе выдаецца агульнашкольная насьценгазэта „За палітэхнізм“, а таксама ў кожнай клясе выдаюцца клясныя штодзёнкі. Школьная насьценгазэта кіравала кляснымі штодзёнкамі, арганізавала вакол сябе дзяткораўскі актыў, лік дзяткораў павялічыўся“. („Піянэр Беларусі“ 9/VI—32 г.).

У школе відаць чоткая мэтанакіраванасьць настаўніцкага калектыву—весьці змаганьне за якасьць вучобы. Распрацован апэрацыйны плян ліквідацыі „карэннага недахопу“, і ён сыстэматычна праводзіцца ў жыцьцё. Школа стварыла матар‘яльную базу палітэхнізацыі, актывізавала самакіраваньне, саюзныя арганізацыі, камсод, нізавы друк на барацьбу за якасьць вучобы.

Што спрыяла палепшаньню работы школы?

У школе ўведзены новы распарадак і цьвёрды рэжым заняткаў.

„Рабочы дзень кожнага піянэра і школьніка строга рэглямантаваны. Перагледжаны нагрузкі дзяцей і разьмеркаваны паміж вучнямі роўнамерна. Школа ў аснову свае работы паклала новыя праграмы. Уся школьная работа праводзілася па пляне. Апошні складзены канкрэтна і выразна, і на аснове яго складаюцца заданьні. У дэкадных плянах прадугледжаны зьмест работы, колькасьць часу на тую ці іншую дысцыпліну, мэтады работы, моманты антырэлігійнага, інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня, сувязь праграмнага матар‘ялу з вытворчай і грамадзкай працай“.

Піянэрскія арганізацыі і школьнае самакіраваньне мабілізавалі вучнёўскую масу на барацьбу з непасьпяховасьцю.

Вялікую работу па перабудове адыграў нізавы друк.

„Значную ролю ў справе палепшаньня работы школы адыграла ўвядзеньне адзінаначальля, узмацненьне ролі настаўнікаў у школе, павялічэньне адказнасьці настаўніка за групу, за свой прадмет“.

Гэтыя моманты забясьпечылі ў другім паўгодзьдзі выкананьне праграм, выкананьне пастановы ЦК партыі аб школе.

„6-я ФЗС і яе лепшыя настаўнікі: т. Раяк, Габец, Максімаў, Карага, Малышаў, Страздынь, Валынцевіч і заг. школы т. Каліноўскі, лепшыя вучні: т. Лісаў, Усыскін, Фрумін, Барэнбаум, Штэрлін, Сьцяпанава, дзьве ўдарныя брыгады—Фрумiна і Яновiча—высоўваюцца за пяршынство на Ўсебеларускім консурсе“ (Піянэр Бел. ад 9-VI—32 г.).

Асіпавіцкая 1-я ФЗС змагалася за рэалізацыю пастановы ЦК тымі-ж мэтадамі, што і Віцебская. Яна дабілася вялізарных посьпехаў у сваёй рабоце. Школа дала восем узорных лекцый для раённага настаўніцтва.

„У арганізацыі рабочага пакою ў школе вельмі вялікі ўдзел прыняла чыгуначная грамадзкасьць. Гэта пытаньне, у свой час пастаўленае заг. школы на паседжаньні чыгуначнага камітэту, выявіла вялікае спачуваньне і падтрыманьне з боку чыгуначнікаў. Апошнія нават высунулі сустрэчны плян—замест 6 варштатаў абяцалі зрабіць 8, што і выканалі. Значную дапамогу аказалі чыгуначнікі рабочай сілай, матар‘яламі і інструмантамі“. („Калгасная Праўда“—Асіпавічы 6/VI—32 г.).

У трэці трымэстр школа ўступіла са значнымі дасягненьнямі ў галіне вучобы. Аб гэтым сьведчаць чарговыя вучотныя зводкі па групах за другі трымэстр. Па многіх дысцыплінах у групах маецца пасьпяховасьць ад 90 да 100 проц. Адсеву ў школе бадай ня было.

У барацьбе за рэалізацыю гістарычнай пастановы ЦК аб школе, камсамольская і, пад яе кіраўніцтвам, піянэрская арганізацыя былі передавікамі і арганізатарамі вучнёўскага калектыву. Змагаючыся за ліквідацыю „карэннага недахопу“ школы, яны сталі на чале арганізацыі сацыялістычных мэтадаў працы, сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Камсамольцы і піянэры на 100 проц. ахоплены ўдарным рухам. Гэтыя посьпехі (камсамольскае і піянэрскае арганізацый) павялічылі іх аўтарытэт і павялічылі прыток вучняў у іх шэрагі. Камсамольская ячэйка вырасла бадай ў 2 разы. Настолькі-ж павялічыўся лік піянэраў. Амаль ўсе вучні былі ахоплены добраахвотнымі таварыствамі і арганізацыямі (Мопр, СВБ, АСО і інш.).

Змаганьне за рэалізацыю пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе ўзьняла вялікую зацікаўленасьць вучняў да агульна-*палітычных* пытаньняў сацыялістычнай рэчаіснасьці. Камсамольцы, піянэры і наогул вучні прымалі актыўны ўдзел у правядзеньні цэлага шэрагу гаспадарча палітычных кампаній як у школе, так і па-за ёй. („Калгасная Праўда“—*Асіпавічы* 6-VI-32 г.)

Цікавы мэтад работы арганізавала Рэчыцкая яўрэйская ФЗС. Школа пачала ўжываць новыя, жывыя формы барацьбы за якасьць навучаньня шляхам разгортваньня ўзорнага дня“.

* *
*

„Раніца. 8 гадзін, 28 хвілін. Званок“.

8-30. Усе вучні сядзяць на сваіх мясцох. У групах абсалютная цішыня. Вучні з напружанай ўвагай ловяць кожнае слова настаўніка, акрэсьлена, яскрава, падрыхтавана адказваюць на кожнае запытаньне, пастаўленае настаўнікам. Настаўнікі і вучні прыйшлі падрыхтаванымі да заняткаў. Адчуваецца сьвядомая дысцыпліна вучняў“.

„З 400 вучняў толькі адзін спазьніўся на 4 хвіліны. Вучні варожа, з прыкрасьцю ў твары, але моўчкі сустракаюць спазьніўшагася таварыша“.

„Ніводнага прагулу, ніводнага вучня, ня выканаўшага заданьня, сьвядомая дысцыпліна, культурнае правядзеньне перапынкаў, прыкладная чыстата ў клясах, узорныя лекцыі настаўнікаў, выпуск групавых штодзёнак, таварыская дапамога адстаючым вучням, нябывалая актывізацыя вучняў вакол якаснай прапрацоўкі праграмнага матар'ялу. Вось вынікі „узорнага дню“ ў школе. Аб гэтым указвалі ў сваіх уражаньнях рабочыя-бацькі вучняў, вучнёўскія брыгады і настаўнікі 2-й сямігодкі, якія прысутнічалі на лекцыях.“

„Праведзеная практыка арганізацыі „узорнага дню“ па школе красамоўна падкрэсьлівае, што „узорны дзень“ вучобы ёсьць магуны вагар у перабудове школьнай работы на рэйкі, якія поўнасьцю забясьпечваюць рэалізацыю пастановы ЦК аб школе. Кожны настаўнік у гэты дзень адзначыў, прыкметна адчуваў, што ён прапрацаваў у групах больш чым намячаў у пляне.“

Пасьля заняткаў вучні аднагалосна заявілі: „пératворым застаўшыяся дні вучобы ва ўзорныя дні, даб'емся, каб у будучым навучальным годзе наша школа стала ўзорнай савецкай палітэхнічнай школай.“

„Узорны дзень“—жывая, форма барацьбы за якасьць навучаньня... „Узорны дзень“ актывізуе вучнёўскую і настаўніцкую грамадзкасьць, паказвае, як патрэбна працаваць, добрасумленна вучыцца, з усёй яскравасьцю і паўнатой паказвае лепшых і горшых з настаўнікаў і вучняў, зьяўляецца магутным стымулам у рабоце адстаючых вучняў.

„Узорны дзень“—гэта „крок да ўзорных будняў савецкай палітэхнічнай школы.“ („Рэчыцкая Праўда“—5/VI—32.

Гомельская польская ФЗС мабілізавала ўвесь пэдагагічны пэрсанал, вучнёўскі калектыў, шырокую пралетарскую грамадзкасьць на рэалізацыю пастановы ЦК.

У выніку гадавой работы пасьпяховасьць вучняў 1-га канцэнтру—98проц., 2 канц.—96 проц. Школа дабілася поўнай плянавасьці ў сваёй рабоце; сац-

спаборніцтвам і сацабавязацельствам ахоплены 94 проц. вучняў. Умовы сваячасова правяраюцца і выконваюцца.

Высокая якасьць засваеньня матар‘ялу і вялікі процант пасьпяховасьці дасягнуты дзякуючы падняцьцю дысцыпліны і арганізацыі цясьнейшай ўвязкі тэорыі з практыкай.

Школа плянава працуе на заводзе, у школе, У школе арганізаваны майстэрні і рабочы пакой. Школа прымае актыўны ўдзел у грамадзка-палітычных пытаньнях.

Добра арганізавана школьнае самакіраўніцтва.

Матар‘яльнае абслугоўваньне рабят арганізавана добра.

За добрую якасьць працы прэміраваны загадчык школы т. Нэй; Паўлоўская-настаўніца і піянэр-важаты прэміраваліся чатыры разы.

„Штодзённая насьценгазэта першай аб‘яднанай ШКМ (г. Слуцак) мае вялікі вопыт барацьбы за ліквідацыю адставаньня ў вучобе і наладжваньня сьвядомай дысцыпліны. Газэта з нумару ў нумар сыстэматычна мабілізавала вучнёўскія масы на ўдарнае ажыцьцяўленьне пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе, штодзённа паказвала лепшыя вопыты працы і пераносіла іх на ўсе адстаючыя вучасткі. Першы нумар штодзёнкі вышаў 25 лютага. З гэтага-ж нумару газэта стала актыўным арганізатарам мас на ліквідацыю „карэннага недахопу“ школы, адставаньня ў вучобе. Штодзённа, апэрацыйна ганьбуючы зрыўшчыкаў вучобы, прагульшчыкаў і лодыраў, арганізуючы на сваіх старонках чырвоныя і чорныя дошкі і дыяграмы аб ходзе навучальнага году, штодзённа дабівалася поўнага выкананьня задач, пастаўленых партыяй перад школай.“.

„Газэта дамаглася таго, што большасьць вучняў старэйшых груп за 3 месяцы ня маюць ніводнага прагулу, спазьненьня і парушэньня працоўнай дысцыпліны“.

„Рэдактар штодзёнкі—камсамолец т. Клеер зьяўляецца лепшым ударнікам вучобы і грамадзка-палітычнай работы, за ўвесь навучальны год ня меў ніводнага прагулу і парушэньня дысцыпліны... а сёньня вучнёўскі настаўніцкі калектыў школы адзначае вялікую ўрачыстасьць выпуску 100-га нумару сваёй газэты“ („Ленінскі Шлях“—Слуцак 9 VI-32 г.).

У лепшых школах у цэнтры ўвагі настаўніка стаіць пытаньне практычнай перабудовы школы, як скласьці плян працы, як актывізаваць вучня, як увязаць тэорыю з практыкай, як прайсьці праграму, наладзіць дысцыпліну, мабілізаваць грамадзкасьць, падняць улік працы.

Усе гэтыя моманты сьведчаць аб масавым руху за рэалізацыю пастаноў аб школе, за ўздым у першую чаргу якасьці вучобы школ. Выходзячы з лічбовых дадзеных з 25 раёнаў, сярэдняя пасьпяховасьць вучняў па БССР складае 87, 88 проц. У паасобных раёнах гэтая лічба павышаецца. Так, напрыклад, Менскі—92 проц., Лёзьнянскі Полацкі—91 проц., Слуцкі—90 проц., Барысаўскі — 89,6 проц., Петрыкаўскі—89,4 проц. і інш. Горшыя раёны даюць 83,4 проц. і нават 75,9 проц. пасьпяховасьці (Бягомльскі раён); школы першага канцэнтру, у тым ліку і пачатковыя, даюць ніжэйшыя паказчыкі, чым школы 2 канцэнтру.

Сярэдняя пасьпяховасьць вучняў школ БССР у 87,88 проц. трэба прызнаць яўна здавальняючай.

Усе галіны навукі павінны быць пастаўлены на службу сацыялістычнаму будаўніцтву. Выкладчык павінен выходзіць у першую чаргу з пункту погляду вырашэньня гэтае задачы.

У пэрыяд дыктатуры пралетарыяту школа павінна выкаваць будаўнікоў, здольных канчаткова ўстанавіць камунізм

Школа павінна даць моладзі яскравае разуменьне задач сацыялістычнага будаўніцтва. Даць сьвядомыя сацыялістычныя адносіны да працы, уменьне падняць яе прадукцыйнасьць, уменьне арганізаваць сацыялістычнае спаборніцтва. Школа павінна выхаваць беражлівыя адносіны да сацыялістычнай маё-

масьці, выпрацаваць разуменьне і ўменьне бачыць клясавага ворага пралетарыяту і рашуча весьці з ім барацьбу.

Наш вучань павінен ня ў меншай меры набыць у школе гатоўнасьць, здольнасьць, навыкі, уменьне да барацьбы з перажыткамі капіталістычнага ладу ў сьвядомасьці людзей: рэлігійнасьцю, забабонамі, ідэалізмам, уласнасьцю, індывідуалізмам і г. д. Мы ня можам сказаць, што школа з гэтымі задачамі справілася ў апошні год.

Падводзячы вынікі рэалізацыі пастановы ЦК аб школе, канстатуючы вялікія недахопы, ЦК КП(б)Б лічыць, што гэтыя зрухі ў параўнаньні з тымі вялікімі задачамі, якія прад'яўляюцца школе сучасным этапам сацыялістычнага будаўніцтва, зусім нязначны, што тэмпы рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б застаюцца нездавальняючымі, і належнага павароту ў рабоце школы яшчэ няма. „Карэнным недахопам“ школ, як і раней, застаецца недастатковасьць аб'ему агульна-асьветных ведаў і нездавальняючае вырашэньне задачы падрыхтоўкі для тэхнікумаў і ВНУ зусім пісьменных людзей, добра аўладаючых асновамі навук“.

У справе ліквідацыі „карэннага недахопу“ наша школа мае значныя зрухі, але гэтыя зрухі слабыя, недастатковыя, не замацаваны; вучні па-ранейшаму ў сваёй асноўнай масе, асабліва другога канцэнтру, недастаткова аўладоўваюць асновамі навук.

На падставе матар'ялаў Навуковадасьледчага інстытуту „Кам. Выхав“, добра ведаюць гісторыю прыгоннага пэрыяду, 1905 г., 1917 г. (3 група), разумеюць сацыялістычнае будаўніцтва (IV гр); ёсьць таксама веды па тэмах: Прамысловы пераварот у Ангельшчыне і сусьветная імпэрыялістычная вайна (6-7-я групы). Добра разьбіраюцца ў клясавых суадносінах у розныя гістарычныя пэрыяды.

Адначасова яшчэ маем цэлы шэраг паняцьцяў, у якіх вучні блытаюцца, ня ўнікаюць у сутнасьць справы, праяўляючы мэханічнае засваеньне ведаў; адказы іх па некаторых пытаньнях паказваюць часта просты набор слоў без разуменьня іх. Гэта датычыцца, напрыклад, уразуменьня такіх пытаньняў:

а) Што такое плянаваная гаспадарка, чаму немагчыма плянавая гападарка ў буржуазных краінах?

б) Формула Леніна—„Савецкая Ўлада плюс электрыфікацыя—камунізм;

в)Шэсьць умоў т. Сталіна(4-я група).

Гэта паказвае, што ўпамянутыя часткі праграмы для вучняў IV групы слаба мэтадычна прапрацаваны.

Па матэматыцы, асабліва па арытмэтыцы, маем вялізарнейшы прарыў: вучні нават 6-х і 7-х груп яшчэ ня ведаюць, альбо слаба ведаюць дзесятковыя ці простыя дробы, а таксама процантныя вылічэньні. Асабліва трэба адзначыць, што вучні ня могуць разьвязваць самых простых задач.

Вуснага лічэньня бадай што зусім не разумеюць. Яны вельмі часта не асмысьляюць лічбаў, а пішуць і выводзяць іх мэханічна, не зьвяртаючы ўвагі, ці гэтыя лічбы адпавядаюць сапраўднасьці, альбо не. Увязкі тэарытычных правіл з практычным ужываньнем гэтых лічбаў няма; настаўнікі часта выкладаюць матэматыку схалястычным спосабам. Ня відаць ніякай рацыяналізацыі ў рабоце па матэматыцы.

Каб знайсьці 1 проц, ад 500 вучні пішуць:

100—1
1—0,01
$0{,}01\left(\frac{39}{1-6\ 21}\right)$
500
5 %

такое рашэньне прыкладу зяўляецца масавым зьявішчам.

Множаньне і дзяленьне праводзяць самымі прымітыўнымі спасабамі:

5,24
300,6
3144
000
000
1572
1575,144

Слабыя веды па арытмэтыцы перашкаджаюць разьвязваньню прыкладаў па геамэтрыі. Сума сумежных куткоў-180°, адзін кут больш другога на 20 градусаў, колькі ў кожным.

$$\left.\begin{array}{r}180 : 2 = 90\\ 90 - 20 = 70\\ 70 + 20 = 90\end{array}\right\}\text{ альбо }\left\{\begin{array}{r}180 - 90 = 90\\ 90 - 20 = 70\\ 90 + 20 = 110\end{array}\right.\text{ і г. д.}$$

Таксама складаньне задач па геамэтрыі і альгебраічн. раўнаньняў зрабіла ня больш 20 проц., вучняў.

Па фізыцы няма ўвязкі тэорыі з практыкай: закон Архімэда яны фармулююць літара ў літару, але разьвязаць практычнае заданьне... у вадзе з паветраным шарам не змаглі амаль што $^3/_4$ вучняў 5-х груп (з 17 абсьледваных 6-х груп), тое самае з сілай вады, з эксцэнтрычнай сілай і законам Паскаля.

Бальшая блытаніна ў паняцьцях сіла і энэргія (цяжкі матар'ял).

Па батаніцы шмат вучняў ня ведаюць тэмы сьцябло, ліст і насеньне; ня ўвязваюць ведаў па тэхнічных культурах з ведамі аб сьцябле і проц. годнасьці насеньня, мала вучняў правільна адказваюць нават у ШКМ.

Цяжкое праграмное пытаньне: хлёрафіл; вучні блытаюцца ў разуменьні хлёрафілу (пішуць: хлёрафія каб быў зялёны ліст; альбо хлёрафія ўтварае спіжыўныя матэрыі і г. д.).

Па хэміі: для 5-й групы цяжка засвоіць закон захаваньня матэрыі (даюць прымітыўныя адказы: вадарод замяняецца тлёнам і г. д); трэба перанесьці гетае паняцьце ў VII групу.

Слаба разумеюць сутнасьць шчолачы і іх розьніцу з кіслотамі.

Слабая ўвязка хэміі з практыкай (не адказваюць на пытаньне аб хэмічнай вытворчасьці). Часта маем мэханічнае засваеньне хэмічных формул: формулу памятаюць добра, а яснага разуменьня няма.

„Карэнны недахоп" па мове далёка не зьліквідаваны; памылкі ў VI і VII групах даходзяць да 20-25 проц. ад усіх слоў, г. зн. на кожныя 4-5 слоў маем адну граматычную памылку. Большая колькасьць вучняў пішуць без належнага парадку, хаця тут маем у некаторых школах вялізарнейшыя дасягненьні: 39 ФЗС у Менску, Барысаўская 8-я, Навасёлкаўская ШКМ.

Вучні яшчэ ня ўмеюць фармуляваць свае думкі просьценькімі сказамі; на гэта вельмі мала зварачваецца ўвагі настаўнікам; часта думку, якую можна выразіць 2-ма, паўтары радкамі, вучні выражаюць вялікімі сказамі—гавораць „кругом да окала", сутнасьці і ня скажуць, граматыку слаба ведаюць: тут не адчуваецца чоткага кола ведаў па кожнай групе. Такое становішча ведаў, зразумела, зусім нездавальняючае.

Трэба зьнішчыць прычыны павольнай перабудовы школы.

Вялікі процант другагодніцтва (па дадзеных 25 раёнаў БССР-15 проц.); наглядаецца фармальнае засваеньне ведаў па фізыцы, матэматыцы, грамадзнаўстве. Гэта паказвае, што пытаньне ліквідацыі „карэннага недахопу" нашай школы ня вырашана.

Мы ў гэтым годзе зрабілі недастаткова, каб стварыць палітэхнічную школу, школу, пабудаваную на падставе рэвалюцыйнай тэорыі Маркса-Леніна-Сталіна.

„Важнейшымі прычынамі гэтага зьяўляюцца недахопы праграм (у асаблівасьці для другога канцэнтру школы 5-я, 6-я, 7-я, групы), нездавальняючасьць мэтадаў школьнай работы і слабасьць мэтадычнага кіраўніцтва з боку народных камісарыятаў асьветы і іх мясцовых органаў, слабая дысцыпліна ў школе, а іншы раз адсутнасьць усякай дысцыпліны і парадку" (з паст. ЦК УсеКП(б).

## Аб праграмах

Новыя праграмы, якія былі распрацаваны на падставе рашэньня ЦК УсеКП(б) ад 5 верасьня, значна вышэй стаяць па аб'ёму ведаў навук, у іх лепш і больш сыстэматычна разьмеркаваны матар'ял. Гэтыя праграмы адбіваюць мэтавыя ўстаноўкі савецкай палітэхнічнай школы, якія даны ў пастанове ЦК аб школе.

Але праграмы маюць вялікія недахопы.

Праграмы грамадазнаўчых дысцыплін па першым і другім канцэнтры недакладна вызначаюць і акрэсьліваюць аб'ём сыстэматычных ведаў. Праграмы па грамадзнаўстве і іншых прадметах перагружаны і слаба ўлічваюць узросныя асаблівасьці вучняў. Недакладна і неканкрэтна вызначана сувязь тэорыі з практыкай.

Праграмы недастаткова вызначаюць веды аб гістарычнасьці мінулага народаў, краін, раьвіцьця грамадзкіх фармацый і г. д. Асобныя дысцыпліны не ўвязаны ў патрэбнай меры паміж сабой. У паасобных дысцыплінах прапушчаны шэраг важнейшых пытаньняў.

Гэтыя недахопы нашых праграм адбіліся на якасьці вучобы дзяцей.

Школа ў мінулым годзе часта праводзіла работу па новых праграмах, бяз увязкі з сацыялістычным будаўніцтвам, барацьбой і жыцьцём рабочай клясы.

Цэлы шэраг недахопаў нашых праграм патрабуе правесьці ўнутранае пераразьмеркаваньне матар'ялаў, асабліва праграм па матэматыцы, фізыцы, хэміі.

Праграмы патрабуюць прывядзеньня аб'ёму і характару вучэбнага матар'ялу ў адпаведнасьці з узроснымі асаблівасьцямі рабят кожнай групы.

„Адначасова з гэтым неабходна зрабіць частковае скарачэньне праграм 2-га канцэнтру па матэматыцы, фізыцы, біалёгіі і хэміі з тым, каб бязумоўна забясьпечыць цьвёрдае і добрае ўсваеньне і замацаваньне асноў кожнай навукі".

Вучань павінен ня толькі аўладаць фармальна праграмным матар'ялам, але трэба давесьці на лекцыях, каб было вядома значэньне, напрыклад, тэорыі матэматыкі для тэхнікі, вытворчасьці працы, значэньне матэматыкі ў аўладаньні тэхнікай шырокімі працоўнымі масамі, плянаваньня і г. д.

Мы не павінны забываць ні на хвіліну, што „спосаб вытворчасьці матар'яльнага жыцьця, абумаўляе сабою працэс сацыяльнага, палітычнага і духоўнага жыцьця наогул" (Маркс), „што гісторыя ўсяе папярэдняе грамады, ёсьць гісторыя барацьбы клясаў" (Маркс).

А таму вывучаць гісторыю трэба ўсебакова: экономіку, палітыку, культуру, узаемадзеяньне паміж імі, тэй ці іншай грамадзкай фармацыі. Патрэбна гісторыю браць у яе развіцьці, паказаць ступені разьвіцьця, „скачкі" рэвалюцыі; паказаць як гісторыя ўплывае на сучаснасьць, а не абмяжоўвацца толькі азначэньнем. Такую пастаноўку работы мы маем толькі ў невялікай колькасьці школ, што і зьяўляецца нашым вялікім прарывам.

З гэтае прычыны ЦК УсеКП(б) прапануе НКА пры прапрацоўцы новых праграм „значна ўзмацніць элемэнты гістарызму ў праграмах па грамадазнаўстве, па мове, літаратуры, геаграфіі, ілюструючы асноўныя разьдзелы і тэмы гэтых дысцыплін неабходным фактычным матар'ялам, гістарычнымі экскурсіямі і параўнаньнямі".

Вельмі цяжка з прычыны недахопу часу і ведаў усе гэтыя пытаньні ахапіць на лекцыях. Таму перад намі стаіць задача скарыстаць пазашкольны час вучняў. Даць яму цікавую кніжку па ўсіх гэтых пытаньнях. Даць вучню папулярную, цікавую, простую кніжку аб матэматыцы, якая расказала-б яму гісторыю і значэньне гэтае навукі.

Пытаньне ўвязкі тэорыі з практыкай слаба акрэсьлена ў нашых праграмах; у практычнай рабоце па гэтых пытаньнях школы ідуць вобмацкам, з аглядкай і вельмі трусьліва. Наша школа дала недастатковыя веды, не дала ў неабходнай меры практычных навыкаў, не навучыла, як сьлед, вучняў грамадзкай працы. Частка школ, настаўніцтва не жадае і ня ўмее працаваць над гэтым пытаньнем і не скарыстала багатага матар'ялу, жывых прыкладаў акаляючага асяродзьдзя сацыялістычнага будўніцтва і клясавай барацьбы.

У бягучым годзе нам патрэбна „улічыць неабходнасьць выкарыстаньня ў вучэбных занятках (практываньні па расійскай мове, матэматыцы, грамадазнаўстве і г. д., лябараторныя работы па фізыцы, хэміі і прыродазнаўстве) матар'ялу сацыялістычнага будаўніцтва, забясь-

печыўшы дакладны падбор даступнага дзецям матар'ялу". (З паст. ЦК УсеКП(б).

Праграмы матэматыкі, фізыкі, геаграфіі, прыродазнаўства неабходна папоўніць цэлым шэрагам выдаў, якія ня былі ўключаны ў праграм мінулага году: паняцьце аб сіле, аб законах, паняцьце аб клетцы і г. д.

ЦК УсеКП(б) надае надзвычайнае значэньне аўладаньню вучнямі сярэдняй школы ведамі аднэй з замежных моў.

ЦК з асаблівай сілай падкрэсьлівае неабходнасьць у вучэбных праграмах, асабліва па гуманітарным цыклі, „увесьці важнейшыя веды, якія датычаць нацыянальных культур народаў СССР, іх літаратуры, мастацтва, гістарычнага разьвіцьця, а таксама і элемэнты краязнаўства СССР (прыродныя асаблівасьці, прамысловасьць сельская гаспадарка, сацыяльна-эканамічнае развіцьцё і г.д.)"

Хоць 1931—1932 г. прайшоў пад знакам усямернага палепшаньня мэтадычнага кіраўніцтва, але мы з усёй катэгарычнасьцю павінны сказаць, што арганізацыя апэрацыйнага мэтадычнага кіраўніцтва школай і праца па падвышэньні кваліфікацыі настаўнікаў была па БССР зусім правалена. Больш-менш нармальна працавала мэтадаб'яднаньне Віцебску, Магілева, Гомеля. Але ў такіх раёнах, як Ворша, Лепель, Вушачы, Сураж, Бярэзіна і шэрагу іншых работа па мэтадычным кіраўніцтве і падвышэньні кваліфікацыі настаўніцтва ня была распачата.

Гэта сьведчыць аб палітычнай недаацэнцы работы на гэтым вучастку, сьведчыць аб адсутнасьці арыентацыі, у якую кропку біць, за якое зьвяно ўхапіцца, каб выцягнуць увесь ланцуг.

Мэтады работы ў школе—самае вузкае месца. У мэтадах выкладаньня нашай школы пануе прымітыўнасьць, шаблённасьць, пераважае славеснасьць, няўменьне зацікавіць дзяцей прадметам, прыкладам. У гэтым пытаньні значная колькасьць школ скацілася на правыя пазыцыі да славеснай школы, не жадаючы і ня ўмеючы працаваць над перабудовай мэтадаў работы. Жывой ілюстрацыяй гэтага можна прывесьці Аршанскую чыгуначную ФЗС, якую *дэталёва* абсьледвала камісія ЦК КП(б)Б і НКА.

Школа мае вялікую колькасьць груп разьвітых, актыўных рабят, ня дрэнны склад настаўнікаў. Але па грамадазнаўчых дысцыплінах школа ўвяла брыгаднa-лябараторны мэтад, як асноўны, вядучы, праваліруючы мэтад. Работа па гэтым мэтадзе вылілася ў мэханічную зуброжку і адшукваньне схэматычных адказаў на схэматычныя пытаньні. У рабоце брыгад пануе абязьлічка, няма адказнасьці кожнага вучня за выкананьне заданьня, у выніку—засваеньне ведаў блытанае, нямоцнае, адарванае ад задач сацыялістычнага будаўніцтва.

## Мэтады школьнай работы

Мы не ліквідавалі да канца мэтадычнага пражэкцёрства. Надзвычайна часта ў нашай сярэдняй школе лябараторны-брыгадны мэтад за гэты год стаў унівэрсальным мэтадам, арганізацыя сталых і абавязковых брыгад, разгортваньнё пры гэтым абязьлічкі ў вучэбнай рабоце і зьніжэньне ролі настаўніка зьявіліся ў выніку ўжываньня лябараторна-брыгаднага мэтаду работы. Неабходна адзначыць, што недаацэнка, а часам цкаваньне індывідуальнай работы былі спадарожнікамі лябараторна-брыгаднага мэтаду.

Усім вядома, што мэтодыка выкладаньня арганічна зьвязана з мэтадамі і зьместам „асноў навук", што стаяць перад школай, перад клясай. Навучыцца самастойна мысьліць, разьвіць максымум ініцыятывы на падняцьце прадукцыйнасьці працы, навучыць працаваць калектыўна і арганізавана—задача сёньняшняга дню. Таму ў мэтодыцы трэба ўхапіцца за галоўнае зьвяно, за якім-бы пацягнуўся ўвесь ланцуг, як казаў Ленін. У матэматыцы галоўнае лёгічнае мысьленьне, у прыродазнаўстве—назіраць і абагульняць, грамадазнаўстве—сувязь грамадзкіх зьяў, сувязь іх з грамадзкімі зьявамі акаляючага жыцьця. Дзеля гэтага адзін мэтад ня можа быць прызнаны асноўным і ўнівэрсальным мэтадам вучобы. Брыгадны мэтад, як галоўны, вядучы, ня мог даць магчымасьць выявіць усе здольнасьці

вучняў, ня мог садзейнічаць пасьпяховаму засваеньню вучнямі асноў навук. Дзеля гэтага ЦК УсеКП(б) прапануе НКА саюзных рэспублік ліквідаваць гэтыя скажэньні, а вучэбны працэс арганізаваць на наступнай аснове: „Асноўнай формай арганізацыі вучэбнай работы ў пачатковай і сярэдняй школе павінен зьяўляцца урок з данай групай вучняў са строга вызначаным раскладам заняткаў і цьвёрдым складам вучняў. Гэта форма павінна ўключыць у сябе, пад кіраўніцтвам настаўніка, агульнагрупавую, брыгадную і індывідуальную работу кожнага вучня з ужываньнем рознастайных мэтадаў навучаньня.“

ЦК абавязвае Наркамасьветы і іх органы бязумоўна забясьпечыць ва ўсёй вучэбнай рабоце школы кіруючую ролю настаўніцкага пэрсаналу.

Ня лепш абстаіць справа з прымацаваньнем школ да вытворчасьці. Кампанія перазаключэньня калдагавароў паміж школай і предпрыемствам, калгасам ці саўгасам звычайна не даацэньваецца. Пытаньне не ўзьнята на належную палітычную вышыню, адказнасьць гаспадарнікаў за палітэхнізацыю школы, прымацаванай да прадпрыемства, зусім нізкая. У лепшых выпадках нашы гаспадарнікі вылучаюць паношаныя станкі, дынамо, інструктара да працы, некалькі лому і браку мэталёвага, але такія выпадкі мы маем толькіў буйных гарадох, як Менск, Гомель, Віцебск і інш. Слабасьць работы гаспадарнікаў у галіне палітэхнізацыі мы павінны асабліва падкрэсьліць.

У апошняй пастанове ЦК партыі прапануе забясьпечыць сапраўднае спалучэньне навучаньня з вытворчай працай, вывучэньне асноў сучаснай індустрыі, вывучэньне „у тэорыі і на практыцы галоўнейшых галін вытворчасьці“(прагр. ЦК УсеКП(б).

Спробы клясавага ворага прышчапіць непасрэдна ці праз сваю агентуру элемэнанты-пралетарскай ідэалёгіі знайшлі сваё канкрэтнае выражэньне ў мінулым годзе ў школах БССР. Можна прывесьці цэлы шэраг выпадкаў, калі вучні ў паасобных школах карысталіся забароненымі падручнікамі (Аршанскі, Лепельскі раёны і інш.) Былі выпадкі заціску самакрытыкі і крытыкі (Дукора, Быхаў, Менск), адсутнічала ўсялякая работа па інтэрнацыянальна-клясавым выхаваньні (частка школ Менску).

Яўнае ці скрытнае супраціўленьне наступу сацыялізму на культурным фронце ў будаўніцтве школы Маркса-Леніна дыктуе неабходнасьць падвышэньня клясавай пільнасьці ва ўсім зьмесьце школьнай работы.

Бальшавіцкай няпрымірымасьцю, партыйнай ваяўнічасьцю павінны мы сустрэць усе спробы прышчапіць дзецям элементы антыпралетарскай ідэалёгіі, сказіць лінію партыі ў будаўніцтве нашай школы. На гэтай аснове мы павінны весьці барацьбу на кожным канкрэтным вучастку школьнай работы. У мінулым годзе мы мелі шэраг выпадкаў, якія сьведчаць аб тым, што тэорыя „адміраньня школы“, зьніжэньне ролі настаўніка—ня выкрыта да канца; з другога боку, назіраецца паварот шэрагу школ і настаўнікаў да старое, славеснае, схалястычнае школы з усімі яе атрыбутамі: бальнай сыстэмай, палачнай дысцыплінай. Ельская ўзорная ШКМ прыняла бальную сыстэму па адзначэньні посьпехаў вучняў, пры гэтым „дадумалася“ вызначыць яўна хуліганскія выпадкі з боку вучняў балам 10, а клясава-варожыя выпадкі вучняў-балам 50. Усё, як належыць у добрай буржуазнай школе, —посьпехі і паводзіны адзначаюцца баламі.

Аршанская чыгуначная ФЗС „у барацьбе“ за дысцыпліну складае акты на кожны ўчынак вучня.

Ёсьць простае скарыстаньне вучняў як фізычнай сілы.

У Магілеўскім раёне ў Княжыцкай ШКМ вучні старэйшых груп працавалі з восені 1931 г. паўтары месяцы на копцы бульбы, 10 дзён працавалі ўвесну на пасеўнай кампаніі. У выніку пасьпяховасьць вучняў надзвычайна панізілася, другагоднікаў аказалася да 20 проц.

У зьвязку з гэтым правядзеньне разгорнутай барацьбы на два франты, павышэньне клясавай пільнасьці—важнейшы абавязак кожнага асьветніка (інструктара, арганізатара школьнага будаўніцтва).

Важнейшай прычынай недастатковых посьпехаў у ліквідыцыі „карэннага недахопу“ нашай школы зьяўляецца слабасьць дысцыпліны, а часам яе адсутнасьць, адсутнасьць парадку і няўменьне яго наладзіць. Наадварот, там, дзе добра пастаўлена дысцыпліна і рэжым школьніка, там гэта ў значнай ступені абумаўляе нармальную работу школы.

„У шэрагу выпадкаў адміністрацыя школы і пэдагогі ня зварачваюць увагі на парушэньне парадку ў школе, не праяўляюць ініцыятывы да замацаваньня сьвядомай дысцыпліны вучняў“. Такое становішча зьяўляецца зусім недапусьцімым, шкодным у выхаваньні маладога пакаленьня. Яно разбурае школу, зводзіць на нішто аўтарытэт настаўніка, дэзарганізуе паводзіны вучняў, дае глебу да антыграмадзкіх і нават хуліганскіх выпадаў у школе.

Гэта ўсё абавязвае ня толькі павесьці вялізарнейшую выхаваўчую работу сярод вучняў, але прымаць рашучыя крокі да выключэньня вучняў з школы бяз права паступленьня ў школу тэрмінам ад 1 да 3 год“.

Апэрацыйнае кіраўніцтва школаю ў мінулым годзе праходзіла слаба. Паварот апарату НКА, раёну і прафсаюзу працасьветы да канкрэтнага апэрацыйнага кіраўніцтва школамі быў невыстарчальны. Абсьледваньне раду Райана (Дрыса, Вушачы, Лепель, Ворша) паказала, што канкрэтнае кіраўніцтва школай, праверка прынятых пастаноў і зацікаўленасьць работай школ з боку РК КП(б)Б і асабліва партячэек зусім слабае.

Камсамольская арганізацыя—шэф усенавуча зусім слаба дапамагала ў рабоце школ; слаба праводзілася кіраўніцтва школьнымі піянэр-арганізацыямі, слаба даваўся камсамолец на курсы настаўніка.

„Зусім невыстарчальная ўвага да пытаньня работы школы з боку РВК і с/с“.

Нездавальняючы ахоп школ кіраўніцтвам тлумачыцца ў значнай меры слабасьцю раённых аддзелаў народнай асьветы і пастаянным адрывам работнікаў на іншую працу.

На мясцох, часам у цэнтры, ёсьць цэлы шэраг работнікаў, якія лічаць, што ў слабасьці Райана вінаваты выключна Наркамасьветы, хто-ніхто пераносіць гэтую віну на саюз, забываючы аб галоўным гаспадары раёну—РВК. Менавіта РВК у першую чаргу абавязан, можа і павінен, умацаваць раённыя зьвеньні ў кіраўніцтве школай.

Значная колькасьць раёнаў, у прыватнасьці Дрысенскі, Кармянскі, Дубровенскі, Горацкі, Чавускі, Сураскі, Лепельскі, не паставілі барацьбу за якасьць цэнтральнай задачай ў школе.

У большасьці раёнаў інспэктары асьветы амаль зусім ня бываюць у школе і абмяжоўваюцца, па сутнасьці, папяровым кіраўніцтвам.

Некаторыя РВК (Горацкі, Дубровенскі) не зразумелін неабходнасьці вылучэньня інструктароў узорных школ, арганізацыі майстэрань, рабочых пакояў, музэяў і г. д.

Гаспадарчыя раённыя і грамадзкія арганізацыі ў большасьці раёнаў адносіліся апартуністычна да рэалізацыі пастановы ЦК аб школе (Шклоў, Дуброўна, Полацак, Горкі, Чавусы.) У выніку ў раёнах амаль няма зруху ў матар'яльным забесьпячэньні настаўнікаў, арганізацыі гарачых сьнеданьняў, гарбаты ў школах, забесьпячэньня вопраткай і абуткам вучняў.

У настаўніцкіх колах шэрагу раёнаў пануе недаацэнка сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Раённыя арганізацыі ў першую чаргу павінны стаць рухаючымі фактарамі культурнай рэвалюцыі.

Раённыя арганізацыі, сельскія саветы і сельпарт'ячэйкі павінны павесьці больш рашучую і сыстэматычную барацьбу за сапраўдную савецкую школу, за хутчэйшую рэалізацыю пастаноў партыі і ўраду аб школе.

Пастанова ЦК у частцы „кіраўніцтва школай“ мае выключнае значэньне для НКА і асабліва для раённага кіраўніцтва. Для забесьпячэньня апэрацыйнага кіраўніцтва школамі, ЦК прапануе;

„Дабіцца належнага пераломy ў рабоце школ шляхам: а) дыфэрэнцыяванага апэрацыйнага кіраўніцтва школай, б) наладжаньня працы раённых і сельскіх мэтадаб'яднаньняў, інструктароў мэтадыстаў і грамадзкіх інструктароў, даючы па пытаньнях работы мэтадбюро і інструктароў падрабязныя інструкцыі“.

Разам з гэтым ЦК прапануе: „РКі гаркомам КП(б)Б правесьці прымацаваньне школ да парт'ячэяк; ячэйкам КП(б)Б вылучыць аднаго члена бюро ячэйкі, асноўнай нагрузкай якога будзе работа ў школе“.

Адначасна ЦК прызнае ненармальным адрыў работнікаў НК асьветы ад сваёй непасрэднай працы і пасылку іх арганізацыямі на розныя кампаніі. ЦК прапануе: „катэгарычна забараніць карыстаньне на іншай працы інструктароў-мэтадыстых“.

Пытаньне палепшаньня якасьці нашай школы-гэта цэнтральная задача бягучага навучальнага году. Над гэтым пытаньнем павінен працаваць упарта і самааддана кожны настаўнік, камсамолец, культармеец, кожны работнік на культурным фронце.

Важнейшай задачай кожнай школы, кожнага настаўніка і органаў нарасьветы, зьяўляецца далейшая ўпартая барацьба за павышэньне пісьменнасьці вучняў і аўладаньне імі „асновамі навук“. На кожным настаўніку ляжыць адказнасьць за поўнае засваеньне вучнямі акрэсьленага праграмамі абе'му ведаў па кожнай групе і дысцыпліне, за якасьць кожнай лекцыі; на кожным настаўніку ляжыць абавязак дасканалай падрыхтоўкі да лекцыі, практычных занятках і г. д.

## Больш увагі настаўніку

Год барацьбы за рэаалізацыю пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б паказаў, што мы маем вялізарнейшыя магчымасьці ў хутчэйшы тэрмін цалкам правесьці ў жыцьцё дадзеныя пастановы. На працягу гэтага году меўся значны ўздым сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў асяродзьдзі настаўніцтва. Масавы асьветнік настойліва шукае формы і мэтады работы для ўздыму прадукцыйнасьці працы школы.

Узрасла актыўнасьць настаўнікаў унутры школы, у клясе, у мэтадбюро, на вытворчай нарадзе, у школьным савеце, сярод дзіцячых арганізацый і ў грамадзкай працы.

Тым ня менш, задача ліквідацыі „карэннага недахопу“ школы ўпіраецца ў якасьць падрыхтоўкі настаўніка, гэтай цэнтральнай фігуры ў адукацыі і выхаваньні маладога пакаленьня.

У зьвязку з хуткімі тэмпамі школьнага будаўніцтва, мы адчуваем востры недахоп пэдагагічных кадраў. У мінулым годзе і пачатку бягучага навучальнага году, маладых, слаба падрыхтаваных настаўнікаў накіравана ў раёны да 7 тысяч чалавек. Па некаторых раёнах склад маладых настаўнікаў даходзіць да 50 проц.

Бліжэйшы аналіз паказвае, што якасьць работы па аўладаньні вучнямі праграмным матар'ялам нізкая ў тых школах, дзе працуюць яшчэ нявопытныя ,маладыя настаўнікі, або настаўнікі і з вялікім стажам, але якія нядбайна, нясумленна адносяцца да сваіх абавязкаў. У гэтых настаўнікаў другагодніцтва даходзіць да 45 пр.; адсеў вучняў таксама даволі значны. Маладому настаўніку ня створаны неабходныя ўмовы для падвышэньня сваёй кваліфікацыі здараецца і так што настаўніцтва, асабліва актыў, перагружаны нагрузкамі нават тэхнічнага парадку, а таму ня маюць часу для падвышэньня кваліфікацыі, для падрыхтоўкі да заняткаў. У раёнах мае месца недапушчальная практыка адрыву настаўнікаў ад заняткаў у школе на тэхнічную работу.

Нявопытнасьць маладых настаўніцкіх кадраў, вялікі процант з кароткатэрміновай падрыхтоўкай, зусім слаба адукаваных-патрабуе вялізарнейшай, паглыбленай работы па падвышэньні кваліфікацыі настаўніцкіх сіл. Мы не павінны забываць, што важнейшай умовай, якая забясьпечвае перабудову школ на палітэхнічнай аснове, ліквідацыю „карэннага недахопу“ школы, зьяўляецца падрыхтоўка і перападрыхтоўка падагагічных кадраў.

А таму неабходна:

„Наркамасьветы прыняць меры да таго, каб у найкарацейшы тэрмін паставіць належным чынам усю справу пэдагагічнай асьветы, завочнага і кароткатэрміновага навучаньня настаўнікаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на аўладаньне настаўніцтвам мэтодыкай і інструмантамі пэдагагічнай працы, умелае скарыстаньне для навучаньня падручнікаў, прыбораў, карт, наглядных табліц, кіно, радыё і г.-д.“

З асаблівай вастратой мы павінны падкрэсьліць аб неабходнасьці з боку раённых арганізацый наладзіць узорныя школы, паказальныя фактычныя лекцы і г. д. Вопыт лепшай работы нашай школы павінен стаць здабыткам усяго настаўніцтва.

Трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на працу школ па грамадазнаўчых дысцыплінах. Тут неабходна праверка, сыстэматычны нагляд і сыстэматычная дапамога па падвышэньні якасьці выкладаньня і кваліфікацыі грамадаведа.

Пазашкольная работа з дзецьмі павінна быць шырока разгорнута, прычым тут павінна быць падведзена матар‘яльная база. За работу па-за школай, за яе арганізацыю і правядзеньне павінен адказваць школьны калектыў на чале з загадчыкам школы.

Мы павінны паўтарыць (мінулагоднюю навіну), што ў першую чаргу камуніст і камсамолец павінен дабіцца рашучага пералому ў якасьці работы палітэхнічнай школы. Кожны камуніст і камсамолец у першую чаргу павінен дамагчыся засваеньня вучнямі дакладна-акрэсьленых, агульнаадукацыйных і палітэхнічных ведаў і навыкаў, у першых шэрагах змагацца за выкананьне пляну школьнай работы, ісьці ў першай шарэнзе па падвышэньні свае кваліфікацыі.

## Матар‘яльная база школ

Матар‘яльная база школы за апошнія гады значна расьце. Дастаткова напомніць, што водпуск сродкаў па мясцовым каштарысе на школы першага канцэнтру за год узрос на 79 проц. (з 23 млн. руб. да 35. млн. руб у 31-32 г.) Водпуск сродкаў на школы другога канцэнтру узрос на 89 проц. (з 12 млн. р. да 23 млн. руб.)

Але пры значным росьце асыгнаваньняў матар‘яльная база школы ўвесь час адстае ад запатрабаваньняў усенавуча. Слабым месцам зьяўляецца будаўніцтва, рамонт, абсталяваньне мебляй і асабліва абсталяваньне школьнімі навучальнымі прыладамі. Рост кубатуры школьнай плошчы значна адстае ад колькасьці ўцягваемых школамі кантыгэнтаў. Дастаткова сказаць, што ў такіх цэнтрах, як Менск, Віцебск за час рэвалюцыі пабудавана па аднэй школе у той час, як кантыгэнт вучняў павялічыўся больш як у два разы.

Правесьці задачу 7-гадовага ўсенавуча—гэта значыць у першую чаргу паставіць яе ў адзін рад з гаспадарча-палітычнымі кампаніямі. Паставіць гэтую задачу перад рабочымі і калгасьнымі масамі, мабілізаваць усе арганізацыі на практычнае вырашэньне яе.

Каб падняць якасьць вучобы неабходна пад школу падвесьці цьвёрдую матар‘яльна грашовую базу. У першую чаргу патрэбна скончыць будаўніцтва. Наш будаўнічы фонд вызначаны ў 410 будаўнічых адзінак. Закончыць будаўніцтва ў кожным раёне павінна стаць справай гонару кожнага райінспэктарыяту, кожнага с/савету. Але гэты фонд ня можа задаволіць нашай патрэбы. Таму перавозка і прыстасаваньне кулацкіх будынкаў у разьмерах, неабходных для забесьпячэньня адчыненьня новых камплектаў, павінна быць вырашана.

Ня меншай задачай стаіць аслабаненьне школьнай плошчы, занятай пад кватэрамі, установамі і арганізацыямі. На гэты вучастак работы ЦК зварачвае асаблівую ўвагу: „абавязаць РК КП(б)Б няўхільна выканаць пастанову ЦВК і СНК СССР і БССР аб высяленьні да новага навучальнага году са школ усіх прыватных жыхароў, таксама рознага роду ўстановы для дарослых (вячэрнія курсы, тэхнікумы), прыраўняўшы школы ў гэтых адносінах да дамоў Ваенведу і НК Шляхоў Зносін“ (з паст. ЦК КП(б)Б).

У гэтым навучальным годзе мы павінны адвесьці раённай школе вучэбны участак. Вучэбны вучастак пры ШКМ, пры школе 1 ступені павінен складацца з 2 разьдзелаў — жывёлагадоулі і расьлінаводства. Прышкольны вучастак павінен дапамагчы вучням асвоіць асновы сацыялістычнай с/г. вытворчасьці, даваць школе прадукты для арганізацыі грамадзкага харчаваньня. Кожная школа павінна разводзіць дробную жывёлу, птушкі, трусоў, свіньні

Усе работы на прышкольным вучастку, апрача непасільных для дзяцей, павінны выконвацца дзецьмі ў час, які адведзены на вытворчае с/г. навучаньне.

Адсутнасьць вырабу палітэхнічнага абсталяваньня адчуваецца на ўсёй працы школы. Школа ня мае дзе купіць абсталяваньне для майстэрні, фізлябараторыі, хэмічнай лабараторыі і г. д. Наркамасьветы заключаны ўмовы на палітэхнічнае абсталяваньне з БАКТ на 2 млн. руб., станка інструмант-116 тыс. руб., РОМО-20,000 р., усяго на суму 2.136.000 р. Гэты заказ выконваецца нездавальняюча. Такое становішча ня можа быць далей цярпіма, тым больш у гэтых адносінах мы адсталі ад іншых саюзных рэспублік ня толькі РСФСР, але ЗСФСР і шэрагу інш. Чарговая задача— пераабсталяваць 2-3 заводы па вырабу палітэхнічнага абсталяваньня і прыстасаваць Віцебскую мэблевую фабрыку для вырабу стандартных частак школьных парт, сталоў, шафаў і інш. школьнай мэблі.

Пытаньне стандартызацыі, ідэалёгічнай і мэтадычнай вытрыманасьці школьнай прылады, дапаможніка—надзвычайна важна. Вырашэньне гэтага пытаньня ў БССР да гэтага часу бадай ня мела месца. Ні Навукова-дасьледчы інстытут ні Наркамасьветы, ні Легпром—ніхто гэтым пытаньнем не займаецца. А гэта значыць, што ў гэтай галіне існуе поўная неразьбярыха, саматужніцтва, анархія. Гэткае становішча абавязвае НКА ў бліжэйшы тэрмін, яшчэ ў 1932 г. пабаявому ўзяцца за работу на гэтым вучастку.

Мы павінны асобна спыніцца на скарыстаньні таго абсталяваньня, якое ёсьць, што кідаецца ў вочы пры наведваньні школ у Воршы, Рэчыцкім і Сеньненскім раёнах Магілеве—гэта няўменьне захоўваць, скарыстаць і ашчэдна аднесьціся да фізычных прыбораў, хэмічных рэактываў карт, падручнікаў і г. д. Усё гэта звальваецца ў кучу, абыяк, насьпех у зламаную шафу. Гарвалёўская ШКМ, Рэчыцкага раёну, у гэтых адносінах пабіла рэкорд. Маленькая колькасьць палітэхнічнага абсталяваньня: падручнікі сшыткі, крэйда, карты, кніжкі, бібліятэка—усё звалена ў адну шафу. Адсутнічае зусім належны парадак.

Абследваньне школ Махаўскага с/с. брыгадзірам В. Жабінскім з 8 да 14 сакавіка 1932 г. паказвае, што акты аб прыёме і здачы школ адсутнічаюць. Клясных дошак няма ў Асавецкай школе і адну дошку на 4 групы мае Ліпецкая школа. Лямп няма ў Косьцінскай школе, лікпункты працуюць амаль упацёмку з цяжкасьцямі. Парт не хапае ў Дубраўскай школе. Рабочых пакояў і майстэрняў няма. У Дубраўскай школе карта вісела пад самай стольлю, так што прышлося зьнізіць да масы вучняў. У гэтых школах па словах абсьледваценя ўсе „настаўнікі школ с/с ударнікі, але ў той час сацспаборніцтва і ўдарніцтва не разгорнута і ўмоў па сацспаборніцтве няма.“

Шырэйшыя мерапрыемствы, што праводзяцца нашай партыяй па палепшаньні культурна-бытавога і матар‘яльнага становішча настаўніцтва, часта зрываюцца з прычыны нядбайных адносін раённых і сельскіх арганізацый.

Умінулым навучальным годзе мы мелі вялікі прарыў на вучастку падручнікаў. Апошніх часта не хапала, а ў некаторых выпадках карысталіся клясава варожымі падручнікамі, што сьведчыла ня стольскі аб жаданьні даць вучню кніжку і веды для работы, колькі аб прытупленьні палітычнай пільнасьці і клясавава варожых вылазках.

Мы не задавальняем запатрабваньне настаўніка, яго справядлівае запатрабаваньне атрымаць неабходны добры падручнік, які быў-бы пабудаваны на падставе навукова-марксыцкай прапрацоўкі дысцыпліны, які даваў-бы добры матарял вучню і дапамагаў-бы ў працы нашаму настаўніку.

Кожны с/савет павінен палічыць сваім абавязкам даць школьнае памяшканьне, даць інтэрнат, арганізаваць сталоўку і гарачыя сьнеданьні.

Наркамасьветы, раённыя арганізацыі, с/саветы павінны сумець арганізаваць, энтузыязм шырокіх рабочых і калгасных мас, шырокіх працоўных мас аднаасобнікаў. Неабходна выявіць і арганізаваць гэты энтузыязм, накіраваць яго на сталае стварэньне матар'яльнай базы для разгортваньня ўсенавуча і палепшаньня якасьці ва ўсёй школьнай працы.

# ЗА МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКУЮ ТЭОРЫЮ Ў ПЭДАГОГІЦЫ

І. Піліпік

## Псыхалёгія ў дапасаваньні да мэтодыкі выхаваўча-адукацыйнай працы ў Тарндайка і Пайля

Асноўнай палітычнай задачай 2-й пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых будаўнікоў бясклясавай сацыялістычнай грамады. Гэтая гістарычная дырэктыва XVII парт. канфэрэнцыі ўскладае вялікія задачы на савецкую палітэхнічную школу, як на адзін з сродкаў „поўнага зьнішчэньня падзелу грамады на клясы". У выкананьне вялікай задачы камуністычнага выхаваньня, якая стаіць перад савецкай школай, асабліва значэньне набывае мэтодыка выхаваўча-адукацыйнай працы ў школе. Задачай зьнішчэньня „карэннага недахопу" школы, недахопу агульна-адукацыйных ведаў вучняў, востра пастаўлена ва ўсю шырыню праблема рацыяналізацыі пэдагагічнага працэсу. Якасьць апошняга залежыць у асноўным ад агульнай падрыхтаванасьці настаўніка, ад уменьня апошняга перадаць веды вучням, ад правільнай пастаноўкі пытаньня плянаваньня сваёй працы, уменьня арганізаваць падлік працы, пэдагагічны кантроль над ведамі і працай.

У пэдагагічнай працы пытаньні разьвіцьця псыхічных працэсаў вучняў, пытаньні ўспрыманьня, абдумваньня, запамінаньня і г. д. —граюць важную ролю. Для высьвятленьня гэтых пытаньняў, для высьвятленьня асаблівасьцяй тэй ці іншай аўдыторыі, з якой вядзецца пэдагагічная праца—патрэбна псыхалёгія.

На неабходнасьць улічваць асаблівасьці аўдыторыі, месца, прафэсіі і інш., асабліва ў справе агітацыі і прапаганды, шмат разоў указваў Ленін, падкрэсьліваючы тую думку, што з розным складам аўдыторыі трэба гаварыць неаднолькава. Вось як ставіў пытаньне Ленін: „Аб рэспубліцы ўсякі сацыял-дэмакрат[1]), які робіць дзе-б там ні было палітычную прамову, павінен гаварыць заўсёды. Але аб рэспубліцы трэба ўмець гаварыць: аб ёй **нельга гаварыць аднолькава** на заводзкім мітынгу і ў казацкай вёсцы, на студэнцкім сходзе і ў сялянскай хаце, з трыбуны 3-й Думы і са старонак зарубежнага органу. Здольнасьць майстэрства ўсякага прапагандыстага і ўсякага агітатара ў тым і заключаецца, каб **найлепшым чынам зрабіць уплыў на даную аўдыторыю**, робячы для яе невядомую ісьціну, магчыма **больш пераканальнай**, магчыма **лягчэй засваяемай магчыма наглядней і цьвярдзей запамінаемай**" (запечатлеваемой). Усё гэта: і неабходнасьць лічыцца з розным складам аўдыторыі і паказваемы спосаб высьвятленьня пэўнай ісьціны —робіць яе больш пераканальнай, лягчэй засваяемай", „наглядней і цьвярдзей запамінаемай, усё гэта мае непасрэдныя адносіны і да мэтодыкі выхаваўча-адукацыйнай працы ў школе. „Агітатар павінен гаварыць так, каб яго разумелі; ён павінен адыходзіць ад таго, што добра вядома слухачам. Усё гэта зразумела само-сабой і адносіцца не да аднэй толькі агітацыі сярод сялян. З возьнікамі трэба гаварыць інакш, чым

---

[1]). Напісана у 1911 г. т. XV, стар. 288. Курсіў усюды І. П.

з матросамі, з матросамі інакш, чым наборшчыкамі"[2]). Гэтага патрабаваў Ленін яшчэ у 1899 г. Гэта мае пэўныя адносіны і да мэтодыкі выкладаньня ў школе, але трэба адзначыць, што правіла „гаварыць так, каб яго разумелі", „адыходзіць ад таго, што добра вядома слухачам", не заўсёды прымаецца пад увагу настаўнікамі; аб гэтым сьведчаць паказаньні школьных інструктароў. Інструктар Казанцаў у „ЗКП" прыводзіць такі факт: „у Міхайлаўскай школе, у 3-й групе, пэдагог праводзіў гутарку аб аналёгіі ў пабудове арганізму жывёлы і чалавека і рабіў, прыкладна, такі дзіўны вывад:— „Так, дзеці, і запомніце, што ў чалавека дарослага ёсьць мэтодыка, і ў дзіцяці, як народзіцца, ёсьць мэтодыка, і ў жывёлы, напрыклад у цяляці, таксама ёсьць свая мэтодыка.—Невядома, аб якой мэтодыцы гаварылася ў школе, але вучні, выказваючы зьдзіўленьне, глядзелі на настаўніка і абсалютна нічога не разумелі".

Такіх фактаў можна прывесьці шмат.

Неабходнасьць улічваць асаблівасьці псыхічных працэсаў у вучняў рознага ўзросту відавочна. Задачай дадзенага артыкулу зьяўляецца прасачыць дапасаваньне псыхалёгічных прынцыпаў да мэтодыкі выхаваўча-адукацыйнай працы ў школе амэрыканскімі буржуазнымі псыхолёгамі Тарндайкам і Пайлям. Тут маюцца на ўвазе іх працы: Тарндайк: „Принципы обучения, основанные на психологии" выданьне 3-е, 1930 г. і Пайль—„Психология в приложении к обучению" 1930 г. Для таго, каб высьвятліць, у чым заключаецца „майстэрства навучаньня", заснаванае па псыхалёгіі ў памянёных аўтараў, неабходна прааналізаваць іх мэтадалёгію як у псыхалёгіі, так і ў пэдагогіцы і мэтодыцы, адзначыць, што ў іх ёсьць агульнага і асаблівага, што каштоўнага і шкоднага для пралетарскай школы, а разам з гэтым закрануць некаторыя пытаньні дапасаваньня псыхалёгіі да мэтодыкі па лініі паасобных псыхічных працэсаў. Аналіз прынцыповых установак Тарндайка і Пайля ў галіне псыхалёгіі, неабходна зрабіць тым больш, што перад псыхалёгіяй, як навукай, асабліва востра стаіць пытаньне аб яе марксыцка-ленінскіх пазыцыях у барацьбе з усякімі антыпралетарскімі тэорыямі, з усім, што зьяўляецца ў той ці іншай форме выражэньнем буржуазнага ўплыву на ідэалёгію пралетарыяту. У вобласьці псыхалёгіі мы маем клясава-варожыя ўплывы ў асноўным у выглядзе мэханістычнага матар'ялізму, які прыводзіць да ідэалізму.

Характэрнай рысай мэтадалёгіі Тарндайка і Пайля зьяўляецца буржуазная партыйнасьць, вульгарны мэханістычны матар'ялізм, які пераблытваецца з ідэалізмам, эклектыка. Для іх характэрным зьяўляецца абстрактны падыход да чалавека і яго псыхічных працэсаў, пры якім разглядаюцца псыхічныя працэсы не канкрэтнай гістарычнай клясавай асобы, а індывідума „наогул", індывідума, ізаляванага ад клясавага асяродзьдзя, у якім ён выхаваўся, ад грамадзкіх адносін, з якімі ён зьвязаны. Такі мэтадалёгічны падыход, прадыктаваны неабходнасьцю захаваць сапраўдны клясавы твар буржуазіі, прыводзіць да таго, што большасьць іх псыхалёгічных прынцыпаў не абумоўлена ні ў сацыяльных, ні ва ўзросных адносінах.

Мэханістычнае нізьвядзеньне ўсей псыхікі і паводзін чалавека да сыстэмы рэакцый арганізму на зьнешнія раздражальнікі, якія пасылаюцца асяродзьдзем, і ўнутраныя раздражальнікі, якія ўзьнікаюць у самым арганізьме, ігнараваньне якаснай своеасаблівасьці вышэйшых псыхічных працэсаў—другая асаблівасьць іх, як і Карнілава, мэтадалёгіі. Паводзіны для Тарндайка ёсьць сыстэма рэакцый, а псыхіка—толькі больш складаная форма паводзін, г. зн. тыя-ж рэакцыі. У сыстэму рэакцый уключаюцца, побач з фізыялёгічнымі зьявамі: дыханьнем, сном, фізычнымі практыкаваньнямі—успрыйманьне прадметаў, разуменьне сувязі, вывядзеньне заключэньня, успамін аб фактах і іншыя псыхічныя працэсы (31). Да ліку раздражальнікаў (стымулаў) адносяцца мова, рухі, паветра, сьвятло, кнігі, прылады, агульнае асяродзьдзе, законы, бібліятэкі і г. д. (31).

[2]) Ленін—т. II, ст. 554.

З гэтага відаць, што Тарндайк і Пайль разглядаюць асяродзьдзе як крыніцу стымулаў, у лік якіх мэханістычна ўключаюцца ўсе грамадзкія зьявы. Такі погляд на асяродзьдзе і, акрамя гэтага, біалёгізацыя ўсяго грамадзкага жыцьця (па Тарндайку—на інстынктах эмацыянальнай рэакцыі „у значнай меры засноўваецца грамадзкае жыцьцё") (178)—зацямняе сваяасабліваcьць законамернасьці грамадзкага разьвіцьця, зацямняе клясавую барацьбу **ў інтарэсах буржуазіі.** Прызнаньне, што „рухаючая сіла паводзін—гэта інстынкты, дадзеныя чалавеку ад прыроды, і ідэі, успрынятыя ім дзякуючы выхаваньню" (161)—мае на мэце зацямніць тое палажэньне Маркса, што „паводзіны капіталістага—ёсьць толькі функцыя капіталу, адаронага ў яго асобе воляй і сьвядомасьцю". Паводзіны нельга зразумець на аснове толькі псыхалёгічных законаў, бо паводзіны ёсьць функцыя грамадзкіх адносін, у якіх чалавек жыве і дзейнічае. У сувязі з гэтым, паміж іншым трэба адзначаць, што тэрмін паводзін, як прадмет псыхалёгіі, неправамерна пашырае межы псыхалёгіі. У гэтым пытаньні, трэба мець на ўвазе наступнае ўказаньне Леніна: „Мэтафізік-псыхолёг разважаў аб тым, што такое душа?... Бяз луздым тут быў ужо прыём. Нельга разважаць аб душы, не растлумачыўшы ў прыватнасьці псыхічных працэсаў; прагрэс тут павінен заключацца ў тым, каб кінуць агульныя тэорыі і філёзофскія канцэпцыі (построения) аб тым, што такое душа, і здолець **паставіць на навуковую глебу вывучэньне фактаў, якія характарызуюць тыя ці іншыя псыхічныя працэсы".** І далей: „ён, гэты навуковы псыхолёг, адкінуў філёзофскія тэорыі аб душы і непасрэдна (прама) ўзяўся за вывучэньне **матар'яльнага субстрата псыхічных зьяў—нэрвовых працэсаў,** і даў, скажам, аналіз і тлумачэньне такога-та ці такіх-та псыхалёгічных працэсаў" [1]). З гэтай выняткі відаць, што Ленін матар'яльным субстратам псыхічных зьяў лічыў нэрвовыя працэсы і, што аднэй з непасрэдных задач псыхалёгіі, ён лічыў вывучэньне псыхічных працэсаў і іх матар'яльнага субстрата.

У пытаньнях пэдагогікі і мэтодыкі буржуазная партыйнасьць праводзіцца Тарндайкам яшчэ больш адкрыта. Які падыход у Тарндайка да „майстэрства навучаньня"?..

Ідэалы школы і прадметы навучаньня выводзяцца Тарндайкам з псыхалёгіі, ён адкрыта прызнае, што ідэалы вызначаюцца буржуазіяй (25); для ўказаньня класавага характару іх прывядзем некаторыя фармулёўкі Тарндайка: „Галоўныя ідэалы, якія, з пункту гледжаньня лепшых і аўтарытэтных мысьліцеляў, павінны быць дасягнуты выхаваньнем у Амэрыцы", нізьводзяцца да таго, каб прывіць (внушить) ідэалы актыўнасьці, гонару, абавязку, любові, і паслухмянасьці", „падтрымліваць імкненьне да вышэйшых неэгаістычных (удовольствий) занятках 27. Па ідэалах Тарндайка, такім чынам, павінна быць выхаваны паслухмяныя паслугачы буржуазіі, якія „не турбавалі-б яе спакою". (Ленін). Прадметы выкладаньня, як і ідэалы школы, нявыводзяцца з псыхалёгіі. Тарндайк падкрэсьлівае, што „правільнае выкладаньне вызначае прадметы навучаньня, грунтуючыся не на інтарэсах (вучняў), а на агульных мэтах выхаваньня". (73).

Толькі майстэрства навучаньня ён спрабуе абгрунтаваць, адыходзячы ад псыхалёгічных прынцыпаў. Як ён разважае?.. Прыкладна, ход разважаньня ў яго наступны: паводзіны—сыстэма рэакцый, у аснове паводзін (сыстэмы-рэакцый) ляжаць інстынкты і ідэі, а раз так, то з іх і трэба пачынаць выхаваньне і навучаньне, каб дапасаваць вучня да акаляючага (буржуазнага) асяродзьдзя (28). Прыродныя нахілы, інстынкты—адыходны момант і аснова навучаньня, зразумела, чаму Тарндайк гаворыць: „навучаць—значыць выкарыстоўваць прыродныя нахілы для ідэальных мэтаў" (53). Але тут ён сустракае перашкоду: нельга лічыць прыроду (бязумоўна—нахілы дзяцей рабочых) надзейным праваднікам да ідэалаў выхаваньня (68), яго непакоіць тое, што па яго выразе: „інстынкты—дужа добрыя (прекрасные)...

1). Ленін, т. I, стар. 64.

паслугачы, але небясьпечныя паны“ (48), дзеля гэтага, да гэтай асновы паводзін трэба адносіцца асьцярожна. Не ўсякія інстынктыўныя рэакцыі, не ўсякія паводзіны вучня пажаданы для буржуа; каб выхаваць пажаданыя паводзіны, патрэбна пэўнае майстэрства, вось чаму разважае Тарндайк: „можна вызначыць **майстэрства навучаньня, як майстэрства ствараць і затрымліваць стымулы з тым, каб выклікаць ці папярэдзіць тыя ці іншыя рэакцыі**“ (30). Прычым „рэакцыі з боку вучня—гэта рознастайныя думкі, пачуцьці, фізычныя рухі, якія ўзьнікаюць у розных камбінацыях“. (30). Паколькі рэакцыі вучня падзяляюцца на пажаданыя і шкодныя, то апошнія „трэба **затрымліваць, не ствараючы** стымулаў, якія выклікаюць нежаданыя рэакцыі, **замяняючы шкодныя** рэакцыі **пажаданымі** ці зьвязваючы іх з **няпрыемнымі адчуваньнямі**, гледзячы па абставінах“ (160). Найбольшай увагі заслугоўвае маральнае выхаваньне дзяцей рабочых у інтарэсах буржуазіі. Для гэтага „у маральным жыцьці яшчэ важней, чым у жыцьці інтэлектуальным, заменяць шкодную рэакцыю супроцьлеглай—добрай, ці пажаданым нахілам, не разьлічваючы на пакараньне“ (163). „**Узнагароджваць** правільныя імпульсы—першае правіла навучаньня“ (197), бо ў будучыні „рэакцыі вучня на тыя ці іншыя стымулы будуць менавіта тыя, вынікі якіх у мінулым давалі яму задавальненьне“. (60). Але важна ня толькі выклікаць пажаданыя рэацыі, „задача выхаваньня заключацца ў тым, каб пры дапамозе практыкаваньня падтрымліваць пажаданыя, інстынктыўна-эмацыянальныя рэакцыі і **ўзнагароджваць** іх чым-небудзь **прыемным**“ (178), важна ператварыць іх у прывычку. А значыцца:

1. Зьвязваць з непажаданымі рэакцыямі няпрыемныя адчуваньні (і пакараньні—) (48).

2. Узнагароджваць пажаданыя рэакцыі чым-небудзь прыемным, каб ператварыць іх у прывычку—вось правілы навучаньня ў Тарндайка.

Як-жа ператварыць пажаданыя рэакцыі ў прывычныя ?..

Прынцыпы навучаньня па Тарндайку—гэта прынцыпы ўтварэньня прывычак (196), а „рэальны напрамак, які прымаюць паводзіны чалавека, залежыць ад прывычак да дзеяньня, і няма іншага шляху забясьпечыць прывычкі да дзеяньня, як толькі пры дапамозе саміх дзеяньняў“ (163). Адсюль выцякае правіла навучаньня-**практыкаваньне** ў сувязі з тымі-ж універсальнымі правіламі: „прыводзьце ў сувязь тое, што вы хочаце, каб зьвязвалася ў будучым, **узнагароджвайце** добрыя (хорошие) імпульсы і наадварот, аддзяляйце тое, што вы хочаце, каб не зьвязвалася ў будучым. Імкнецеся да таго, каб непажаданыя імпульсы прыносілі **незадавальненьне**“ (113). Такім чынам, праз—1) практыкаваньне, 2) узнагароды, 3) пакараньні павінна праходзіць утварэньне прывычак. Нават **пры ўспамінаньні** прадметаў „вучань павінен атрымліваць **узнагароду** за устанаўленьне сувязі паміж прадметамі“ (122). Акрамя таго, няма іншага шляху да прыцягненьня ўвагі вучня „акрамя“ як разьвіцьцё цікавасьці і **ўзнагарода акту ўвагі** пачуцьцем задавальненьня вучня“ (110).

Якую-ж ацэнку мы павінны зрабіць гэтай мэтодыцы?... Калі мы зьвернемся да Кільпатрыка („Основы метода“), то мы ўбачым, што і ў яго „існуюць два шляхі навучыць вучня паважаць правы і пачуцьці другіх: 1) шлях пагроз і подкупаў і 2) шлях зьмены характару такім чынам, каб у вучня зьявілася жаданьне паважаць правы і маральныя пачуцьці другіх“ (102).

Мэтодыка Тарндайка аналёгічна мэтодыцы Кільпатрыка. Гэта мэтодыка-мэтодыка пугі і цукеркі і муштры. Яна адпавядае агульным прыёмам буржуазіі ў клясавай барацьбе супроць рабочых (прыёмы гвалту, подкупа і ідэалёгічнага ўплыву). Заснаваная на ўзнагародах, пакараньнях, муштры мэтодыка Тарндайка глыбока варожая пралетарскай школе.

Што агульнага ёсьць у Пайля ў параўнаньні з Тарандайкам?.. Гэтым агульным ў пытаньнях мэтодыкі зьяўляецца тое, што Пайль таксама вялікую ўвагу зварачвае на трэнаж , на зуброжку; практыкаваньням і галоўным чынам

завучваньню ўяго прысьвячаны 38 тэзісаў з агульнага ліку-114; мала ўвагі зьвернута на сьвядомую творчую працу вучня. Школа ў абодвух выступае як школа выкладаньня і навучаньня, няма і намёку на сувязь навучаньня з палітэхнічнай адукацыяй і выхаваньнем у марксыцкаленінскім разуменьні. Праблема працы разглядаецца вузка мэтадычна з пункту гледжаньня „прыроднага нахілу карыстацца пры занятках сваімі рукамі“ (113), „патрымаць расьліны ў сваіх руках“, „даць дзецям у рукі мадэлі розных геамэтрычных форм“, „задаволіць на ўроках ручной працы нахіл дзіцяці да карыстаньня сваімі рукамі“—гэта ўсё, што ёсьць у Пайля аб праблеме працы. У абодвых арыентыроўка на буржуазную сыстэму выхаваньня.

Адрозьнівае Пайля ад Тарандайка яго схалястычнае адабражэньне... псыхалёгічных прынцыпаў, якія ня зьвязаны ў пэўную сыстэму, а проста пералічваюцца; ілюстрацыя да гэтых прынцыпаў даецца з розных галін школьнай працы, таксама без ўсякай сыстэмы. Зусім іншую (і неправільную) пазыцыю займае Пайль ў пытаньні аб ўзаемаадносінах псыхалёгіі і мэтодыкі. Паводле Тарандайка „сучасныя псыхалёгічныя веды бліжэй да нуля, чым да дасканаласьці... дапасаваньне іх да пэдагогікі часта няпоўнае, неакрэсьленае, хісцкае (шатко)“, „ўсякі разважлівы (здравомыслящий) чалавек можа здавальняюча вучыць, ня ведаючы і недапасоўваючы псыхалёгіі, але ўсякі настаўнік пры іншых роўных умовах“ большых посьпехаў дасягне, калі будзе дапасоўваць псыхалёгію, навуку аб прыродзе чалавека ў сваёй працы“ (32). Пайль (таксама і Выгоцкі) заяўляе, што толькі псыхалёгія можа даць навуковае вырашэньне праблемє навучаньня і навуковае абгрунтаваньне яго мэтадаў (8).

Гэтае сьцьвярджэньне Пайля (і Выгоцкага) прызнаць правільным нельга. Навуковае абгрунтаваньне мэтадаў выхаваўча-адукацыйнай працы, мы павінны даваць з пункту гледжаньня ленінізму **і дыялектычнага матар'ялізму**, а ня толькі і ня гэтулькі з пункту гледжаньня псыхалёгіі.

Да пытаньня, „як вучыцца“ моладзі Ленін падыходзіў з пункту гледжаньня асноўнай задачы моладзі—задачы „стварэньня камуністычнай грамады“ (т. XXV ст. 384). Гэтую асноўную задачу Ленін ставіць у канкрэтных умовах 1920 г. Па лініі гаспадарчага будаўніцтва сюды адносілася: „задача гаспадарчага аднаўленьня ўсей краіны, рэарганізацыя і аднаўленьне земляробства і прамысловасьці на сучаснай тэхнічнай аснове, якая грунтуецца на сучаснай навуцы, тэхніцы, электрычнасьці.., трэба ведаць, як тэхнічна дапасаваць яе (электрычнасьць. П., і да прамысловасьці, і да земляробства, і да асобных галін прамысловасьці і земляробства. Трэба навучыцца гэтаму самім, трэба навучыць гэтаму ўсё падрастаючае пакаленьне“, калі вы гэту задачу засвоіце, толькі тады вы для сябе зможаце пабудаваць тую камуністычную грамаду, якой ня зможа пабудаваць старое пакаленьне“ (389). Гэтая асноўная задача вызначае і прынцыпы адбору ведаў, якія павінна засвоіць моладзь, і напрамак вырашэньня аднаго з галоўных пытаньняў вучэньня, выхаваньня і адукацыі, „як павінна вучыцца моладзь, калі яна сапраўды хоча апраўдаць назву камуністычнай моладзі, і каб падрыхтаваць яе да таго, каб яна змагла пабудаваць і скончыць тое, што мы пачалі“ (385). У адносінах да гэтага апошняга пытаньня „як вучыцца“, Ленін падкрэсьлівае важнасьць уменьня **аб'яднаць веды** і разам з гэтым „дзейнічаць так, як таго сапраўды камунізм патрабуе“ (385); неабходна **перапрацаваць** у сваім сазнаньні ўсе атрыманыя веды. „Вы павінны ня толькі засвоіць іх (веды), але засвоіць так, каб **аднесьціся да іх крытычна**“ (388). Ленін падкрэсьлівае важнасьць уменьня „ўзяць сабе ўсю суму чалавечых ведаў і ўзяць так, каб камунізм ня быў-бы ў вас чымсьці такім, што **завучана**, а быў-бы тым, што вамі самімі **прадумана**, быў-бы тымі вывадамі, якія зьяўляюцца няўхільнымі з пункту гледжаньня сучаснай адукацыі“ (389). А наша школа павінна даваць моладзі асновы ведаў, даваць уменьне **выпрацоўваць самім камуністычныя погляды**“ (394).

У гэтых указаньнях Леніна мы бачым узор: 1) камуністычнай мэтанакіраванасьці і бальшавіцкай партыйнасьці ў

пастаноўцы пытаньня „як вучыцца“; 2) правільных суадносін тэорыі і практыкі, „ператварыць камунізм у кіраўніцтва для вашай практычнай працы“ (390); 3) неабходнасьць канкрэтна ставіць пытаньне аб мэтадах, а не разважаць аб мэтадах наогул; 4) неабходнасьць актыўнага, крытычнага, прадуманага засваеньня ведаў. У поўнай адпаведнасьці з указаньнямі Леніна—у пастанове ЦК Усе КП(б) ад 5/9-дасягненьні школы ацэньваюцца, таксама, з пункту гледжаньня запатрабаваньняў сучаснага этапу сацыялістычнага будаўніцтва, і падкрэсліваецца, што мэтады павінны „садзейнічаць выхаваньню ініцыятыўных і актыўных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва“. Недавалася ніякіх падстаў для гутарак, меўшых месца сярод практычных працаўнікоў масавай школы аб „галоўным (вядучым), але не унівэрсальным мэтадзе, гутарак, якія „абгрунтоўвалі“ як асноўны так званы „лябараторна-брыгадна мэтад“ які ў радзе школ стаў унівэрсальным (пастанова ЦК УсеКП (б) ад 25/VIII 32 г.

У задачу дадзенага артыкулу не ўваходзіць разгляд усіх мэтадалёгічных пытаньняў мэтодыкі. Тут важна толькі падкрэсьліць, што не псыхалёгія, а мэты школы, прадыктаваныя палітыкай рабочай клясы, вызначаюць і зьмест і мэтады савецкай палітэхнічнай школы ў пэрыяд дыктатуры пралетарыяту. Актыўнае, крытычнае, прадуманае засваеньне ведаў ня можа быць дасягнута пры пасыўных мэтадах працы.

Пры выбары актыўных мэтадаў працы, неабходна ўлічваць асаблівасьці вучэбнай дысцыпліны (прадмету), асаблівасьці аўдыторыі. Псыхалёгія тут выступае як адна з прадпасылак правільнай арганізацыі пэд. працэсу.

Шмат з таго каштоўнага, што дае Пайль, вядома настаўніцтву. Сюды можна аднесьці ўказаньні аб складаньні раскладу занятка, у якім „усе цяжкія працы неабходна ставіць у другой палове ранішніх гадзін, а такія заняткі, як ручная праца, пісьмо і маляваньне, непасрэдна пасьля першай паловы дня“, бо „працаздольнасьць ўзрастае паступова і найвышэйшага пункту дасягае ў сярэдзіне школьнага дня“ (103) [1].

Трэба ўлічваць у пэдагагічнай працы і тое палажэньне, што прыхільнасьць (распалажэньне) „ці 'няпрыхільнасьць вучня да прадмету заняткаў зьяўляецца важным фактарам навучаньня. Першае паскорвае засваеньне, другое перашкаджае (14.)

(14-в) „Настаўнік павінен быць асьцярожным, каб не згубіць у вучня ўпэўненасьці ў сваіх сілах, даючы яму залішне цяжкія заданьні (9 3-а). Каштоўнай зьяўляецца заўвага Н. К. Крупскай аб слабых вучнях: „Калі я стала настаўніцай, я ведала, трэба ахоўваць слабых вучняў, не даваць ім заўважыць, што яны менш здольныя, чым другія,- адстаюць. Імкнулася незаметна ўдыхнуць у іх веру ў свае сілы. Я ведала, што вучні не павінны заўважваць, з кім мне лягчэй займацца, з кім цяжэй. Да ўсіх дзяцей трэба адносіцца аднолькава, да цяжкіх дзяцей памякчэй, паўважлівей, але так, каб гэтага вучні не заўважылі. І ўдавалася, такім чынам, падцягваць слабых. Што гэта было?... Мой суб'ектыўны падыход да дзяцей?... Не! Лепшае настаўніцтва майго часу лічыла, што так менавіта трэба падыходзіць да дзяцей [2]) У якім напрамку павінны разьвівацца эмоцыі піянэраў, правільна ўказваецца Н. К. Крупскай: „арганізацыя юных піянэраў ня можа быць падобнай на арганізацыю дарослых“, але духам камунізму яна павінаа быць *прасякнута*. Раней за ўсё яна павінна даць дзецям шмат радасных перажываньняў: харавыя сьпевы, рытмічныя гімнастыкі, купаньне, экскурсіі ў прыроду, паэзія апавяданьняў ля кастра, наведваньне фабрык, удзел ў пралетарскіх сьвятах- ўсё гэта пакіне нязмывальнае ўражаньне на ўсё жыцьцё, зьвяжа гэтыя перажываньні з прадстаўленьнямі аб арганізацыі, аб калектыве“ (233) [3]).

Увага вучняў зьяўляецца адным з асноўных момантаў у пэдагагічным пра-

---

[1]) Лічбы азначаюць № тэзіса.

[2]) „На путях“... № 3, 1928 г., ст. 3.

[3]) Матар'ял падацца па кніжцы „Воспитание молодежи“.

цэсе. Ад здольнасьці канцэнтраваць увагу ў значнай ступені залежыць паспяховасьць вучняў. Дзеля гэтага важна спыніцца на прыёмах аўладаньня ўвагай вучня, якія раіць Пайль. Ён падкрэсьлівае, што ў пачатку працы неабходна: „канкрэтна ўказваць мэту, якая павінна быць дасягнута, рабіць абгаварэньне матар'ялу ў клясе цікавым, пры дапамозе прывядзеньня прыкладаў і параўнаньняў з бягучага жыцьця і з кола пытаньняў, якія цікавяць вучняў“ (12-а). „Усе моманты ў форме пабочных думак і знадворных раздражэньняў, якія адцягваюць увагу, павінны быць адхілены, бо адцягваючы ўвагу, яны перашкаджаюць засваеньню“ (13).

Канцэнтрацыя ўвагі „можа да некаторай ступені разьвівацца шляхам пэрыядычных паўтарэньняў прапрацаванага“ (94-б). Ад ступені канцэнтрацыі ўвагі залежыць і характар ўспрыйманьня вучня.

На ўспрыйманьне вучня ўплывае яго папярэдні вопыт, адсюль важна „адыходзіць ад таго, што добра вядома слухачом“. (Ленін). „Усякія новыя веды трэба зьвязваць з якім-небудь стварыўшымся ў вучня інтарэсам, інакш кажучы, якім-небудзь шляхам зьвязваць гэтыя веды з раней набытымі ведамі. Адсюль вынікае перавага, якая атрымліваецца з параўнаньня ад далёкага і чужога з непасрэдным вопытам, з блізкім і знаёмым, і невядомага з вядомым. Важна ня толькі каб былі веды, але каб яны былі належным чынам арганізаваны“. (Крупская—122-123). Калі для часткі вучняў і характэрны той ці іншы тып успрыйманьня: зрокавы, слухавы, маторны, камбінаваны, то для большасьці характэрным зьяўляецца камбінаваны тып успрыйманьня. З гэтага пункту гледжаньня для ўсебаковага засваеньня ведаў нельга абмяжоўваць вучняў толькі зрокавым ўспрыйманьнем, чытаньнем кніжак, павінна мець месца і слухавое ўспрыйманьне, напрыклад, добрая лекцыя асабліва ў сярэдняй школе і ВНУ-, і другія спосабы засваеньня (моторныя), павінны ўлічвацца індывідуальныя асаблівасьці вучняў ў пытаньні засваеньня ведаў.

Поруч з увагай, у педагагічным працэсе грае вялікую ролю асмысьленьне ўспрыймаемага. Мысьленьне вучня 1-га канцэнтру характарызуецца канкрэтнасьцю, вобразнасьцю, эмацыянальнасьцю, але чым старэйшы вучань, тым правільней ён навучаецца мысьліць абстрактна, тым меншую ролю грае для яго мысленьня эмацыянальная афарбоўка. Вось чаму, для правільнай арганізацыі пэд. працэсу, неабходным зьяўляецца нагляднасьць выкладаньня, але нагляднасьць павінна быць актыўная, каб выхоўваць дзейнае матар'ялістычнае мысьленьне. Простае завучваньне, без разуменьня, без уменьня растлумачыць, ня ёсьць сапраўднае мысьленьне. Пайль гэтаму пытаньню ўдзяляе мала ўвагі, націск робіцца на практыкаваньне і за вучваньне. Тарндайк дае каштоўныя ўказаньні аб тым, што „галоўныя сродкі, якімі настаўнік можа дапамагчы вучню сканцэнтраваць сваю думку на абгавараемым пытаньні—гэта параўнаньне, супроцьстаўленьне, аналіз“ (142), што неабходна разьвіваць сьвядомыя адносіны да мэты, да якой вядзе разважаньне, да матар'ялу гэтага разважаньня, а таксама „кіраваць разумовым адборам пры дапамозе параўнаньня, супроцьстаўленьня і аналізу выхоўваць прывычку заўсёды правераць яго вынікі“ (144).

У заключэньне трэба адзначыць, што поўная мэханістычных памылак прадмова Выгоцкага да кніжкі Тарндайка, зусім не дае клясавага аналізу гэтай кніжкі.

На пытаньне аб дапасаваньні псыхалёгіі да мэтодыкі выхаваўча-адукацыйнай працы ў школе павінна быць зьвернута ўвага і практычных працаўнікоў масавай школы і ў першую чаргу катэдр у пэдагагічных ВНУ, у мэтах рацыяналізацыі пэд. працэсу.

Мядзёлко

# Аб распрацоўцы палітэхнічнага профілю раёну

I

Савецкая палітэхнічная школа ставіць сваім заданьнем „падрыхтаваць усебакова разьвітых членаў камуністычнага грамадзтва“, праводзячы „цесную сувязь навучаньня з грамадзка-вытворчай працай“. Школа павінна ў працэсе сваей работы навучыць вучняў на зусім канкрэтным і даступным для іх матар'яле аналізаваць вытворчыя працэсы, знаходзіць у іх агульныя навуковыя прынцыпы, азнаёміць у тэорыі і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасьці.

Дзеля гэтага патрэбна палітэхнічная база, патрэбны выточныя аб'екты вывучэньня. У якасьці базы неабходна выкарыстаць палітэхнічнае абкружэньне школы. Пад палітэхнічным абкружэньнем мы разумеем прыроднае багацьце, якое зьяўляецца базай вытворчасьці, фабрыкі і заводы, МТС, саўгасы і калгасы, электрастанцыі, транспарт—наогул, усе галіны народнае гаспадаркі, якія знаходзяцца ў данай мясцовасьці, уключна да дробных прадпрыемстваў, якія шляхам экскурсій можна выкарыстаць для азнаямленьня з агульнымі навуковымі прынцыпамі вытворчых працэсаў. Дзеля таго, што большасьць сельскіх школ ня маюць дастатковага палітэхнічнага абсталяваньня, трэба выкарыстаць і бліжэйшыя ўзорна-апорныя школы, ФЗС, ШКМ, якія маюць дастатковае абсталяваньне ў гэтых адносінах. Трэба мець на ўвазе і дзіцячую тэхнічную або с/г. станцыю, калі яна ёсьць у раёне, клюбы, якія маюць радыё, кіно-ўстаноўку і г.д.

Але, каб выкарыстаць палітэхнічнае абкружэньне, трэба яго ведаць. Палітэхнічнае выхаваньне ў школе настойліва вымагае вывучэньня мясцовага краю, мясцовага раёну. У справе ажыцьцяўленьня палітэхнізму адным з важнейшых заданьняў зьяўляецца распрацоўка палітэхнічнага профілю раёну.

Мэтавая ўстаноўка—даць сыстэматычнае комплексное апісаньне раёну, якое павінна даць ясны малюнак, што можна ўзяць у аснову палітэхнічнага навучаньня вучняў.

Характар апісаньня—сьціслы, ясны, зразумелы шырокім колам працоўных, радавому настаўніку і вучню.

Матар'ялам для складаньня палітэхнічнага профілю раёну могуць служыць: геаграфічнае апісаньне, карты, мэтэаралёгічныя, геалёгічныя і інш. спэцыяльныя дасьледваньні, друкаваныя працы, статыстычныя даныя, справаздачы, вытворчыя пляны, пэрспэктыўны плян народнае гаспадаркі данага раёну, зьвесткі розных устаноў і арганізацый, газэтны матар'ял і ўрэшце матар'ялы спэцыяльных абсьледваньняў брыгадамі паводле пэўнага разьдзелу ці пункту схэмы профілю р-ну або па вывучэньні пэўнае галіны нар. гаспадаркі.

Для распрацоўкі палітэхнічнага профілю р-ну трэба карыстацца дапамогай самай шырокай грамадзкасьці. Дзеля гэтага ствараюцца брыгады з удзелам працаўнікоў райЗА, райпляну, статаддзелу, школьных працаўнікоў, спэцыялістаў з прадпрыемстваў, саўгасаў, калгасаў, МТС і інш. Кожнай брыгадзе даручаецца распрацоўка пэўнага разьдзелу схэмы або групы пытаньняў. Увесь сабраны матар'ял разглядаецца на шырокай спэцыяльнай нарадзе і пасьля гэтага злучаецца ў адно сыстэматычнае цэлае.

II

Уся схэма складаецца з 4 слупкоў. У 1-шым слупку пералічаюцца аб'екты вывучэньня. Амаль усе аб'екты, паданыя ў першай частцы схэмы пад загалоўкам „агульныя зьвесткі“, ёсьць у кожным раёне, за выключэньнем у некаторых раёнах такіх аб'ектаў, як, напр., прамысловасьць, электрыфікацыя, чыгункі, хаця ў даны час ня ў кожным раёне ёсьць гэтыя а'бекты, але ў пэрспэктывах разьвіцьця нар. гаспадаркі могуць быць уключаны ў пляны пяцігодкі. У такіх выпадках у 2-гім слупку „фактычны

матар'ял" супроць таго ці іншага аб'екту адзначаецца: „прамысловасьць не разьвіта" або „чыгункі ў раёне няма, бліжэйшая чыгунка праходзіць у такім-та раёне, бліжэйшая чыгуначная станцыя (назва) на адлегласьці столькіх-та кілёмэтраў ад раённага цэнтру". Калі ў плян другой пяцігодкі ўнесена разьвіцьцё тае ці іншай галіны нар. гаспадаркі, якая да гэтага часу не існавала ў р-не, дык гэта трэба адзначыць у 3-цім слупку: „Гісторыя і пэрспэктывы разьвіцьця нар. гаспадаркі".

У другой частцы схэмы: „Галіны народнае гаспадаркі" у першым слупку ўказваюцца толькі тыя аб'екты, якія ёсьць у раёне і тыя, якія намечаны ў пляне разьвіцьця нар. гаспадаркі. У кожным раёне, калі ня існуе фабрычна-заводзкай цяжкай прамысловасьці, дык бязумоўна ёсьць віды лёгкай індустрыі, саматужная прамысловасьць, ёсьць майстэрні, млыны, маслабойні і інш., што і павінна быць уключана ў апісаньне.

Што датычыцца селькай гаспадаркі, дык саўгасы абавязкова павінны быць апісаны ўсе, калі іх ня шмат у раёне. А калгасаў трэба выбраць для апісаньня 3-4 найбольш буйныя, тэхнічна ўзброеныя, якія маюць першараднае значэньне ў сельскай гаспадарцы раёну. Але калі ў якім-небудзь радавым калгасе ёсьць што-небудзь цікавае (машына, інкубатар, дробнае прадпрыемства, досьледы, цікавыя культуры і інш), што можна выкарыстаць для палітэхнічнага навучаньня, дык бязумоўна трэба гэта адзначыць.

2-гі і 3-ці слупок трэба запоўніць матар'ялам, указаным у самой схэме.

4-ты слупок: „Магчымасьці скарыстаньня школай" запаўняе кожная школа паасобку. Тут трэба ўказаць, што і як можа школа выкарыстаць з мэтай азнаямленьня вучняў з асновамі вытворчасьці, з агульнымі навуковымі прынцыпамі ўсіх вытворчых працэсаў. Тут-жа трэба ўказаць адлегласьць таго ці іншага аб'екту ад даннае школы.

III

Распрацаваны, такім чынам, палітэхнічны профіль р-ну павінен быць у кожнай школе.

Дзеля таго каб мець поўнае ўяўленьне аб палітэхнічным профілі раёну, трэба распрацаваць рад карт. У іх будзе паказана тэрытарыяльнае разьмяшчэньне розных зьяў, якія характарызуюць жыцьцё раёну. Маючы такія карты, можна будзе адным поглядам ахапіць увесь раён у цэлым, яны ў канкрэтнай форме ставяць заданьні, над якімі трэба працаваць у межах раёну, а параўнаньне даных, нанесеных на карту за шэраг год, паказваюць дасягненьні савецкага будаўніцтва і напрамак, па якому разьвіваецца жыцьцё раёну.

У мэтах палітэхнічнага вывучэньня раёну карты павінны навочна даць наступныя даныя:

1. Прыроднае багацьце раёну. Тут адзначаюцца лясы, лугі, тарфяныя балоты, карысныя выкапні, крыніцы энэргіі і інш. Умоўнымі знакамі адзначаюцца багацьці, якія так ці інакш выкарыстоўваюцца чалавекам і якія зусім не выкарыстоўваюцца. У тлумачэньні да карты ўказаць, якія бліжэйшыя задачы дзеля лепшага выкарыстаньня багацьцяў, на што ў першую чаргу зьвярнуць увагу.

2. Карта глеб раёну. Яе можна зрабіць толькі на аснове дакладных дасьледваньняў пад кіраўніцтвам спэцыялістаў-глебаведаў. Часамі бывае магчымасьць выкарыстаць ужо гатовыя матар'ялы, сабраныя навуковай экспэдыцыяй.

3. Карта тэхнікі. На ёй знаходзяцца ўсе даныя, якія характарызуюць тэхнічныя дасягненьні чалавека на тэрыторыі раёну: электрастанцыя, завод, фабрыка, МТС, тэхнічныя майстэрні, мэханічныя рухавікі, млыны, маслабойні, чыгуначныя пабудовы, турбіны, ветраныя рухавікі, тэлефоны, тэлеграф, радыё і інш.

4, Эканамічныя карты з паказам саўгасаў, калгасаў, зон пашырэньня розных культур і інш.



# СХЭМА

## распрацоўкі палітэхнічнага профілю раёну

| Аб'екты вывучэньня | Фактычны матар'ял | Гісторыя і пэрспэктывы разьвіцьця народнай гаспадаркі на 2-ю пяцігодку | Магчым. выкарыст. школай |
|---|---|---|---|
| | **А. Агульныя зьвесткі** | | |
| **I. Прыроднае абкружэньне** | | | |
| 1. Геаграфічнае палажэньне | Месцазнаходжаньне раёну ў межах БССР. Межы раёну. | Назва і межы раёну да рэволюцыі. Зьмены адміністрацыйнага падзелу за 15 год рэвалюцыі. Прычыны, якія выклікалі апошнюю зьмену адмістрацыйн. падзелу. | |
| 2. Тэрыторыя і насельніцтва | Плошча раёну ў кв. клм. Шчыльнасьць насельніцтва на 1 кв. клм. Колькасьць паселішч у раёне. Колькасьць сельсаветаў. Агульны лік жыхароў. Нацыянальны склад насельніцтва ў процантах. | Зьменны ў складзе насельніцтва за 15 год рэволюцыі | |
| 3. Клімат | Агульная характарыстыка клімату раёну. Сярэдняя тэмпэратура вэгетацыйнага пэрыяду. Хістаньні тэмпэратуры. Гадавая колькасьць ападкаў. Найбольшая колькасьць ападкаў на пэўныя м-цы. | | |
| 4. Рэльеф і глеба | Паверхня раёну (узвышшы, нізіны, вадападзелы). Глеба—у якой частцы раёну якая (чарназём, суглінкі, падзолы і інш.). | | |
| 5. Карысныя выкапні | У якой мясцовасьці, якія (гіпсы, гліны, пяскі, мэталі, солі). | Калі і кім рабіліся дасьледваньні карысных выкапняў. Ці адбываліся і ці адбываюцца распрацоўкі іх. Якія існуюць пэрспэктывы ў сэнсе распрацоўкі і здабываньня. | |
| 6. Рэкі, вазёры, балоты | У якіх мясцовасьцях знаходзяцца. Працягласьць, шырыня, глыбіня іх. | | |
| 7. Расьліннасьць | Прадстаўнікі расьліннасьці іншых краін, акліматызаваныя ў мясцовых умовах. Прадстаўнікі мясцовай расьліннасьці. Якія віды з іх маюць значэньне ў народнай гаспадарцы і як выкарыстоўваюцца. Лясныя пароды ў процантных суадносінах. | Досьледы акліматызацыі прадстаўнікоў расьліннасьці іншых краёў. | |
| 8. Жывёлы | Галоўныя віды жывёл у раёне. Якія з іх маюць значэньне ў народнай гаспадарцы і як выкарыстоўваюцца з гэтай мэтай. | Мерапрыемствы ў адносінах жывёл, якія маюць значэньне ў народнай гаспадарцы. | |
| **II. Вытворчае абкружэньне** | | | |
| 1. Прамысловасьць | Агульная колькасьць заводаў і фабрык. Агульная колькасьць рабсілы, занятай у прамысловасьці. Агульная прадукцыя ў рублёх і ў асноўных адзінках, якія выпрацоўваюцца ў прадпрыемствах. Такі самы матар'ял і аб саматужных прадпрыемствах. | У кожным з указаных разьдзелаў вытворчага абкружэньня (прамысловасьць, сельская гаспадарка з яе падзеламі, тэхнічнае пераўзбраеньне народнай гаспа- | |

| Аб'екты вывучэньня | Фактычны матар'ял | Гісторыя і пэрспэктывы разьвіцьця народнай гаспадаркі на 2-ю пяцігодку | Магчым. выкарыст. школай |
|---|---|---|---|
| 2. Сельская гаспадарка<br>а) сацыялістычны сэктар сел.-гас. | Колькасьць саўгасаў у раёне. Плошча саўгаснай зямлі.<br>Процант калектывізацыі. Колькасьць калгасаў, сярэдняя колькасьць гаспадарак у калгасе. Адзінаасобны сэктар у процантных адносінах. Плошча зямлі калгаснай у адносінах да плошчы, якая знаходзіцца ў карыстаньні адзінаасобнікаў (у проц.). | даркі) даць кароткае апісаньне стану да кастрычніцкай рэвалюцыі, ад кастрычніцкай рэвалюцыі да пачатку першай пяцігодкі, дасягненьні першае пяцігодкі і пэрспэктыві другой пяцігодкі. | |
| б) паляводства | Агульны лік га карыснай зямлі. З іх—ворнай зямлі, сенажаці, выгану, пад сялібай. Колькасьць няўжыткаў. Асноўны напрамак паляводства. Плошча, якая займаецца пад асноўныя віды культур (збожжа, кармовых траў і караньплодаў, тэхнічных культур, сілосных культур).<br>Сярэдняя ўраджайнасьць паасобных відаў і гатункаў культур.<br>Пашыранасьць гатунковых культур. Якія гатункі культывуюцца.<br>Спосабы апрацоўкі глебы. Наколькі шырока ўжываецца раньні пар, зябліва узорваньне. Якія вынікі ўжываньня агратэхнічных мерапрыемстваў. | | |
| в) садоўніцтва і гародніцтва | Плошча, занятая пад садамі. Характар садоўніцтва—спажывецкі, прамысловы. Каштоўныя ў прамысловасьці гатункі дрэў. Ягадныя насаджэньні.<br>Плошча, занятая гародамі. Асноўныя віды агародных культур. Прамысловае гародніцтва. Парніковае гародніцтва.<br>Шкоды, якія наносяць розныя шкоднікі. Спосабы барацьбы з імі. Найбольш пашыраныя шкоднікі. | | |
| г) лесаводства | Процант лясістасьці. Найбольш лясістыя с.-савета. Пераважная парода дрэваў у проц. (асіна, бяроза, дуб і інш.). Колькасьць *га* пад лесам, з іх вылучанага лесу мясцовага значэньня—саўгасам, калгасам і ўстановам. Дзяржаўны лясны фонд. | | |
| д) жывёлагадоўля | Напрамак жывёладоўлі ў раёне: спажывецкая, таварная жывёла. Колькасьць малочна-таварных фэрм. Колькасьць саўгасаў і калгасаў мясного напрамку. Колькасьць інкубатараў, іх разьмеры. Найбольш пашыраныя пароды жывёлы (коняй, кароў, авечак, сьвіней).<br>Пчалярства. Колькасьць пасек, вульляў, в іх—рамачных, калодных. Узорныя пасекі.<br>Рыбацтва. Мясцовае, прамысловае значэньне. Улоў. Рыбацкія арцелі.<br>(Пры распрацоўцы гэтага пункту трэба ўказаць, дзе, у якой мясцовасьці, які з паказаных відаў жывёлагадоўлі найбольш пашыраны. Якое значэньне мае: прамысловае ці мясцовае). | | |

| АБ'ЕКТЫ ВЫВУЧЭНЬНЯ | Фактычны матар'ял | Гісторыя і пэрспэктывы разьвіцьця народнай гаспадаркі на 2-ю пяцігодку | Магчым. выкарыст. школай |
|---|---|---|---|
| **III. Тэхнічнае пераўзбраеньне народнай гаспадаркі** | | | |
| 1. Электрыфікацыя. | Дзе і колькі існуе электрастанцый. Іх магутнасьць. Аб'екты абслугоўваньня электраэнэргіяй. | | |
| 2. Трактарызацыя. | Колькасьць МТС у раёне. Колькасьць у іх трактараў. Магутнасьць трактараў. Іх маркі. Плошча зямлі, якую абслугоўваюць трактары. | | |
| 3. Сельска-гаспадарчыя машыны. | Насычанасьць с.-г. машынамі. Колькасьць паасобных відаў машын на калгас, саўгас (сеялак, касілак, жняярак, снопавязалак, малатарань, складаных малатарань і інш. складаных машын). | | |
| 4. Машынна-зьнішчальныя станцыі. | Дзе і колькі існуе машынна-зьнішчальных станцый. Колькасьць машын станцыі (ручных, конных, маторных апырскваццеляў, машын сухога апыльваньня, колькасьць пратравіцеляў збожжа і інш.). | | |
| 5. Шляхі і сродкі зносін: | | | |
| а) чыгункі, | Якая чыгунка праходзіць у раёне. Яе працягласьць. Якія с.-саветы перасякае. Адлегласьць чыгуначнай станцыі ад раённага цэнтру. | | |
| б) суднаходныя рэкі, | Іх працягласьць, шырыня і глыбіня. Якія с.-с. перасякаюць або з якімі мяжуюцца. Адлегласьць прыстані ад раённага цэнтру. | | |
| в) шосэйныя дарогі і тракты, | Працягласьць, стан, прыгоднасьць для аўтатранспарту. | | |
| г) тэхнічныя сродкі зносін. | Колькасьць аўтамабіляў, матацыклетак, вэлёсыпэдаў, маторных лодак і інш. Месцы іх канцэнтрацыі. | | |
| | **Б. Галіны народнае гаспадаркі** | | |
| 1. Горназдабываючая прамысловасьць:<br>а) апал<br>б) карысныя выкапні<br>2. Сельская гаспадарка:<br>а) саўгасы<br>б) калгасы<br>в) МТС<br>3. Электрыфікацыя<br>4. Хэмічная прамысловасьць:<br>а) выраб будаўнічых матар'ялаў (цэгла, вапна, цэмант, шкло і інш.),<br>б) асноўная хэмічная вытворчасьць (вытворчасьць кіслот, шчолакаў, соляй) | Апісаньне кожнага прадпрыемства праводзіцца паводле наступнай схэмы:<br>1. Месцазнаходжаньне прадпрыемства<br>2. Назва прадпрыемства<br>3. Аб'яднаньне, у якое ўваходзіць, або ўстанова, да якой належыць данае прадпрыемства<br>4. Сыр'явая база. Які матар'ял і адкуль паступае на прадпрыемства.<br>5. Сілавыя ўстаноўкі прэдпрыемства. Якую энэргію яны скарыстоўваюць (вецер, вада, цяпло). Азначаная магутнасьць і сыстэма машын, год устаноўкі, зношанасьць, паўната выкарыстаньня вызначанай магутнасьці і магчымасьць далейшага пашырэньня і павялічэньня магутнасьці. Калі сілавая ўстаноўка працуе на апале, то яго сорт, прывознае яно (адкуль) ці мясцовае, кошт апалу. | Калі было арганізавана прадпрыемства, хто быў яго уласьнікам да рэвалюцыі. Стан прадпрыемства да кастрычніцкай рэвалюцыі (паводле паасобных разрэзаў схэмы, паданай у другім слупку) і дынаміка разьвіцьця за 15 год рэволюцыі. Пэрспэктывы далейшага разьвіцьця на 2-ю пяцігодку. | |

| Аб'екты вывучэньня | Фактычны матар'ял | Гісторыя і пэрспэктывы разьвіцьця народнай гаспадаркі на 2-ю пяцігодку | Магчым. выкарыст. школай |
|---|---|---|---|
| в) сухая перагонка дрэва.<br>5. Мэталюргія (выплаўка чыгуна, жалеза, сталі і інш. мэталяў)<br>6. Машынабудаўнічая прамысловасьць.<br>7. Будаўніцтва:<br>а) буйныя пабудовы<br>б) дробныя жыльлёвыя і гасп. будовы<br>в) будовы мастоў, дарог.<br>8. Віды лёгкай індустрыі:<br>а) прадуктовая прамысловасьць,<br>б) тэкстыльная,<br>в) скура-абутковая<br>г) валяльная,<br>д) паліграфічная,<br>е) папярова-картанажная,<br>ж) швэйныя і трыкатажныя ф-кі,<br>з) лёгкая апрацоўка мэталю,<br>і) лёгкая апрацоўка дрэва. | 6. Тэхналёгічныя працэсы (віды апрацоўкі матар'ялаў).<br>а) цэхі асноўныя<br>б) цэхі падсобныя<br>7. Выканаўчыя прылады і машыны (у цэхах), вытворчыя печы. Паўната іх выкарыстаньня і магчымасьці павялічэньня.<br>8. Перадача, унутрызаводзкі транспарт (пад'ёмныя краны, канвэйер, лябёдкі, ваганэткі).<br>9. Сыстэма плянаваньня і арганізацыя вытворчасьці:<br>а) плянавае, тэх.-нармовачнае, канструктарскае бюро, дасьледчыя лябараторыі;<br>б) адзінкавая, сэрыйная, масавая вытворчасьць;<br>в) сацыялістычныя мэтады працы;<br>10. Кадры<br>а) колькасьць рабсілы<br>б) спэцыялісты і кваліфікаваная сіла<br>в) у колькі зьмен працуе прадпрыемства<br>11. Прадукцыя (значэньне прадпрыемства ў сыстэме народнай гаспадаркі):<br>а) колькасьць прадукцыі, якая выпускаецца<br>б) куды накіроўваецца прадукцыя (на мясцовыя патрэбы, у рэспублікі Савецкага саюзу, на экспарт).<br>12. Сувязь данага прадпрыемства з іншымі галоўнымі галінамі вытворчасьці БССР, СССР, заграрічнымі.<br><br>Увага. Пры апісаньні с.-г. вытворчасьці (саўгасы, калгасы) у асноўным можна карыстацца вышэйпаданай схэмай з некаторымі зьменамі, якія вынікаюць з асаблівасьцяй с.-г. вытворчасьці, напрыклад:<br>У п. 4 трэба даць наступныя зьвесткі:<br>Зямельныя ўгодзьдзі, глеба, розныя віды і ўгнаеньні, якія ўжываюцца ў даным с.-г. прадпрыемстве, скарыстаньне мясцовых рэсурсаў угнаеньня (попел, гаспадарчыя адкіды).<br>Насеньне — адкуль атрымліваецца і якія сарты культывуюцца.<br>П. 6. Галіны сельскай гаспадаркі — спэцыялізацыя (таварная прадукцыя), другарадныя галіны сельскай гаспадаркі. Севазвароты.<br>Спосабы апрацоўкі глебы. Глыбіня ўзворкі, глыбіня запраўкі насеньня галоўных культур. Віды параў. Час узворкі і пасеву яравых і азімых культур. Уборка (як яна праводзіцца), малацьба, сартаваньне. | | |

| АБ'ЕКТЫ ВЫВУЧЭНЬНЯ | Фактычны матар'ял | Гісторыя і пэрспэктывы разьвіцьця народнай гаспадаркі на 2-ю пяцігодку | Магчым. выкарыс. школай |
|---|---|---|---|
| | Пароды жывёлы, спосаб утрыманьня і догляду. Якія вынікі ўжываньня агратэхнічных мерапрыемстваў. | | |
| | П. 8. Конная, мэханічная цяга. | | |
| | Пры апісаньні элек растанцыі, карыстаючыся ў асноўным тэй самай схэмай, трэба ўказаць у п. 4, якую энэргію яны скарыстоўваюць, на які тэрмін хопіць мясцовага апалу. | | |
| 9. Транспарт і сувязь: | | | |
| а) чыгуначны трансп. | Якія і дзе знаходзяцца чыгуначныя станцыі. Кіраўніцтва, упраўленьне і арганізацыя работы на чыгуначнай станцыі. Ці ёсьць чыгуначны парк, дэпо, майстэрні (пры апісаньні іх кіравацца вышэйпаданай схэмай) | | |
| б) водны транспарт | Такія самыя зьвесткі аб прыстанях | | |
| в) аўтатранспарт | Таксама аб аўтапарках, гаражах | | |
| г) сувязь | Дзе знаходзіцца пошта, тэлеграф, тэлефон, радыёўстаноўкі. | | |
| **В. Культурна-бытавыя, палітасьветныя, дасьледчыя ўстановы і грамадзкія арганізацыі** | | | |
| 1. Дасьледчыя станцыі<br>2. Тэхнічныя і сельска-гаспадарчыя станцыі<br>3. Узорна-апорн. школы<br>4. ФЗС, ФЗВ, ШКМ, ШКВ, тэхнікумы<br>5. Клюбы, музэі, хаты-чытальні<br>6. Аўтадор<br>7. Асоавіяхім і інш. | З пералічаных аб'ектаў вывучэньня ўказваюцца тыя з іх (з указаньнем месцазнаходжаньня), якія могуць быць скарыстаны для палітэхнічнай адукацыі. Указваецца, дзе і якія праводзяцца досьледы, дзе і якія ёсьць лябараторыі, мэханізаваныя маистэрні, варштаты, машыны, радыёўстаноўкі, розныя апараты і інш. | Культурна-бытавы стан раёну да Кастрычніцкай рэвалюцыі.<br>Дынаміка разьвіцьця культурн. будаўніцтва ад Кастрычніцкай рэвалюцыі да канца першае пяцігодкі<br>Пэрспэктывы разьвіцьця культурнага будаўніцтва на 2-ю пяцігодку. | |

Л. Шашкоў

# Як арганізваць і праводзіць сацыялістычнае спаборніцтва ў школе

## А. Сутнасьць сацыялістычнага спаборніцтва ў разуменьні У. І. Леніна і т. Сталіна

Раней, чым перайсьці да пытаньняў арганізацыі і правядзеньня сацспаборніцтва ў школе, мы павінны ўскрыць і ўявіць сабе сутнасьць спаборніцтва ў разуменьні У. І. Леніна і тав. Сталіна. Бяз гэтага зусім немагчыма належным чынам арганізаваць сацспаборніцтва ў школе, тым больш правільна ім кіраваць і змагацца з усялякага роду скажэньнямі, з правым і „левым“ апартунізмам.

Што-ж такое сацспаборніцтва?

Т. Сталін, выходзячы з выказваньняў У. І. Леніна аб сацыялістычным спаборніцтве, азначае апошняе як „камуністычны мэтад будаўніцтва сацыялізму на глебе максымальнай актыўнасьці мільён-

ных мас працоўных", як „рычаг пры дапамозе якога рабочая кляса заклікана павярнуць усё гаспадарчае і культурнае жыцьцё краіны на базе сацыялізму".

У гэтых сваіх выказваньнях т. Сталін ускрывае ўсю рэвалюцыйную сутнасьць сацспаборніцтва, як камуністычнага мэтаду, які ў максымальнай ступені актывізуе і згуртоўвае шматмільённыя масы працоўных у справе сацыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбы, у справе дзейнай рэвалюцыйнай самакрытыкі. У другім месцы тав. Сталін падкрэсьлівае, што сацыялістычнае спаборніцтва „робіць карэнны пераварот у поглядах людзей на працу, паколькі яно,—кажа т. Сталін,—перарабляе працу з зазорнага і цяжкага цяжару, як яна лічылася раней, у справу чэсьці, у справу гонару, у справу адвагі і гэройства" (Сталін. Палітычн. справаздача на XVI партыйным зьезьдзе).

Такім чынам т. Сталін падкрэсьлівае, што асноўнае і „самае галоўнае ў сацспаборніцтве" заключаецца ў тым, каб выхаваць кожнага рабочага, кожнага працоўнага так, каб ён па дзелавому і зусім сьвядома адносіўся да працы і яе вынікаў

Такі „карэнны пераварот у поглядах людзей на працу" толькі і магчыма зрабіць ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту, ва ўмовах будуючагася сацыялізму, калі „працоўныя ўпяршыню ў гісторыі,—гаворыць У. І. Ленін,—атрымалі магчымасьць працаваць не на эксцлёататараў, а на саміх сябе". У У. І. Леніна мы знаходзім разгорнутае тлумачэньне, як сутнасьці камуністычнае працы, так і дзелавых, сьвядомых і камуністычных адносін да яе.

У. І. Ленін сутнасьць камуністычнае працы азначае наступным парадкам:

„Камуністычная праца ў больш вузкім і строгім сэнсе слова ёсьць дармовая праца на карысьць грамады, праца не для таго, каб выканаць той ці іншы абавязак, не для таго, каб атрымаць права на вядомыя прадукты, не па раней устаноўленых і ўзаконеных нормах, а праца добраахвотная, праца па-за нормамі, праца, якая даецца без разьліку на ўзнагароды, бяз умоў аб узнагародзе, праца па прывычцы працаваць на агульную карысьць і па сьвядомых (перайшоўшых у прывычку) адносінах да неабходнасьці працы на агульную карысьць, праца як запатрабаваньне здаровага арганізму" (Ленін—„Вялікі пачын").

Вось малюнак сутнасьці камуністычнае працы, як гэта праца мысьліцца пры поўным разгорнутым камунізьме. Але ці значыць гэта, што пэрыяд камуністычнае працы наступіць зразу, што элемэнт гэтае працы няма і ня можа быць, на першай стадыі камунізму, г. зн.—у пэрыяд сацыялізму? Не, гэта бязумоўна ня значыць. Так мэханістычна гэту справу разумець нельга. Да гэтай справы, як і да ўсякай іншай, трэба падыходзіць з пункту гледжаньня марксысцкай дыялектыкі

Дзе-ж і калі пачынае нараджацца камуністычная праца? Яна пачынае нараджацца ў эпоху дыктатуры пралетарыяту, у эпоху будуючагася сацыялізму і там, дзе зьяўляюцца самаадданыя, перамагаючыя цяжкую працу, клапоты радавых рабочых аб павялічэньні прадукцыйнасьці працы, аб ахове кожнага пуда хлеба, вугля, жалеза і іншых прадуктаў, якія дастаюцца не працуючым асабіста і ня іх бліжнім, а „дальнім", г. зн. усёй грамадзе ў цэлым, дзесяткам і сотням мільёнаў людзей" (Ленін—„Вялікі пачын").

Ці можам мы гаварыць аб тым, што ўжо ў сучасны момант з боку ўсіх рабочых на ўсе 100 проц маюцца самаадданыя адносіны да працы, клапоты і г. д. аб павялічэньні прадукцыйнасьці працы, аб ахове кожнага пуда хлеба, вугля, жалеза і г. д. Не, гэтага мы гаварыць ня можам, гэтага яшчэ няма. Мы значна ў гэтым пытаньні пасунемся наперад да канца 2-й пяцігодкі. На ўсе 100 проц. мы гэта будзем мець пры разгорнутым камунізьме.

Але ці можам мы сьцьвярджаць, што ўжо і ў дадзены пэрыяд будаўніцтва сацыялізму адсутнічае самаадданая праца, клапоты радавых рабочых па ахове пуда хлеба, жалеза і г. д., у якой бы там ні было ступені? Не, гэтага мы таксама сьцьвярджаць ня можам. Такое сьцьвярджэньне была-б няправільным, беспадстаўным. Вядомы элемэнт усяго гэтага, безу-

моўна, ужо і зараза мае масца ў асяродзьдзі рабочае клясы і працоўных мас. Аб гэтым сьведчаць правадзімыя суботнікі, якім У. І. Ленін надаваў надзвычайна вялікае значэньне, аб гэтым сьведчыць той энтузыязм, якім ахоплена ўся рабочая кляса і калгасьнікі,—той гэраізм, які праяўляюць асобныя рабочыя і цэлыя калектывы.

Аб гэтым, нарэшце, сьведчыць наяўнасьць сярод рабочае клясы і калгасьнікаў сацыялістыснага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Такім чынам, мы адказалі на пытаньне аб тым. што такое камуністычная праца і камуністычныя адносіны да яе і аб выніках гэтае працы. Апроч таго, у У. І. Леніна мы знаходзім разгорнутую характарыстыку, якасьцяй выхаванага камуніста, які сьвядома адносіцца да працы і вынікаў гэтае працы. У. І. Ленін азначае гэтыя якасьці наступным чынам: „вытрымаласьць, настойлівасьць, гатоўнасьць, рашучасьць і ўменьне сотні разоў паправіць і чаго-б гэта ні каштавала дабіцца справы,—гэтыя якасьці пралетарыят выпрацоўваў сабе 10, 15, 20 год да Кастрычніцкай рэвалюцыі, ён выпрацаваў іх на працягу 2 год пасьля гэтай рэвалюцыі, пераносячы нябачаныя галечу, голад, разбурэньні і нядолю“(Ленін—„Вялікі пачын“).

У. І. Ленін, як бачыце, у разуменьне „сьвядомыя“ адносіны да працы“ уключае ня толькі колькаснае і якаснае выкананьне той ці іншай работы, але і перамогу тых цяжкасьцяй, якія могуць спатыкацца ў працэсе працы, папраўленьні і „сотні разоў“—тых памылак і няўдач, якія могуць спатыкацца ў працэсе працы. Выканаць што-б там ні каштавала, дабіцца справы, давесьці яе да канца, не залежна ад тых умоў, у якіх вы будзеце знаходзіцца, выконваючы тую або іншую працу. Вось які завет У. І. Леніна. Вось да чаго зводзіцца разуменьне сутнасьці камуністычных адносін да працы і вынікаў гэтай працы. Яскравым прыкладам таго, як гэты завет У. І. Леніна ажыцьцяўляецца на справе, могуць быць рабочыя і інжынэрна-тэхнічны пэрсанал Ленінградзкага трактарнага заводу, якія на працягу самага караткага адрэзку часу з бальшавіцкай рашучасьцю перамаглі цяжкасьці, аўладалі передавой тэхнікай і перакрылі праэктную магутнасьць заводу. Такіх прыкладаў можна было-б прывесьці шмат. Гэтыя і ім падобныя прыклады гэраізму падкрэсьліваюць правільнасьць тэзісу У. І. Леніна аб тым, што „камуністычная арганізацыя грамадзкае працы трымаецца і, чым далей, тым больш будзе трымацца на свабоднай і сьвядомай дысцыпліне самых працоўных“ (Ленін).

Такім чынам, у аснове арганізацыі грамадзкае камуністычнае працы ляжыць свабодная і сьвядомая дысцыпліна, што зьяўляецца прамой супрацьлегласьцю „дысцыпліне голаду“, якая ляжыць у аснове капіталістычнай арганізацыі грамадзкай працы і „дысцыпліне палкі, якая, ляжыць у аснове арганізацыі працы ў час прыгону, „пры ўскрайняй цемры і забітасьці працоўных, якіх рабавалі, над якімі зьдзекавалася кучка памешчыкаў“ (Ленін).

Нельга забываць і тых акалічнасьцяй, што арганізацыя сацыялістычнага спаборніцтва на аснове свабоднай і сьвядомай дысцыпліны стала магчымай толькі пры дыктатуры пралетарыяту. „Наша задача,—гаворыць У. І. Ленін,—цяпер, калі сацыялістычны ўрад трымае ўладу, арганізаваць спаборніцтва.“ Далей у У. І. Леніна мы чытаем аб тым, што сацыялізм упяршыню стварае магчымасьць ужываць спаборніцтва сапраўды шырока, сапраўды ў масавым маштабе, сапраўды ўцягнуць вялікую колькасьць працоўных на арэне такой работы, дзе яны змогуць праявіць сябе, разгарнуць сваю здольнасьць і выявіць таленты“. У правільнасьці сказанага У. І. Леніным у свой час, нас пераконвае рэчаіснасьць сёньнешняга дня. Пераконвае нас той шырока разгорнуты рух пад кіраўніцтвам КП(б) сярод рабочых і працоўных мас у галіне вынаходніцтва, як выяўленьне творчай ініцыятывы і актыўнай самадзейнасьці шырокіх працоўных мас. Зусім іншы малюнак мы наглядаем у капіталістычнай грамадзе. Там не атрымліваюць свайго разьвіцьця, зьнікаюць і тыя не шматлікія вынаходніцтвы ў галіне навукі і тэхнікі, якія робяцца асобнымі буржуазнымі вучонымі.

Сацыялістычнае спаборніцтва, як гэта мы ўжо вышэй адзначалі, толькі магчыма пры дыктатуры пралетарыяту і што гэта сацспаборніцтва ня мае нічога агульнага з тым зьявішчам, якое ёсьць ў капіталістычнай грамадзе і вядома пад так званай капіталістычнай канкурэнцыяй. Зьмешваньне гэтых дзьвёх зусім розных рэчаў,—гаворыць т. Сталін,—зьяўляецца вялікай памылкай. Бо сацспаборніцтва і капіталістычная канкурэнцыя маюць зусім розныя, зусім супроцьлеглыя прынцыпы. „Прынцып канкурэнцыі: перамога і сьмерць адных, пабеда і панаваньне другіх“ (Сталін). Вось сутнасьць прынцыпа канкурэнцыі. Зусім іншы прынцып сацыялістычнага спаборніцтва. „Прынцып сацспаборніцтва—таварыская дапамога адстаючым з боку перадавых, з тым, каб дабіцца агульнага ўздыму“ (Сталін). Адзначым і яшчэ адну характэрную асаблівасьць, якая ўказвае на тую розьніцу, што існуе паміж капіталістычнай канкурэнцыяй і сацспаборніцтвам. Гэта асаблівасьць заключаецца у тым, што калі „канкурэнцыя гаворыць: дабівай адстаючых, каб умацаваць сваё панаваньне“ (Сталін), то „сацспаборніцтва гаворыць: адны працуюць дрэнна, другія добра, трэція лепей,—даганяй лепшых і дабіся агульнага ўздыму“ (Сталін—„Спаборніцтва мас“).

Нельга не адзначыць і таго факту, што калі капіталістычная канкурэнцыя выхоўвае індывідуалізм, нічым не замаскаваны эгаізм, дык сацспаборніцтва выхоўвае калектывізм, пачуцьце адказнасьці ня толькі за сваю працу, за свае паводзіны, але і за працу і паводзіны свайго таварыша, калектыву цалкам.

У заключэньне гэтага разьдзелу адзначым яшчэ адзін момант. Гаворачы аб сацспаборніцтве часамі забываюць пра той факт, што гэта сацспаборніцтва ня з неба звальваецца, не само па сабе прыходзіць, а што яго, як адзначае У. І. Ленін, трэба арганізаваць, а арганізаваўшы, трэба кіраваць ім. Гэта папершае. Падругое, што сацспаборніцтва трэба арганізаваць тады, калі перабудавана ўся праца школы ў адпаведнасьці з пастановамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе.

## Б. Школа ня можа і не павінна стаяць у баку ад сацспаборніцтва.

Савецкая палітэхнічная школа ня можа і не павінна стаяць у баку ад сацыялістычнага спаборніцва, якое шырака разгорнута сярод рабочае клясы і працоўных мас. Ня можа яна стаяць у баку ад сацспаборніцва, па-першае, таму, што сацспаборніцва зьяўляецца магутным фактарам у справе камуністычнага выхаваньня маладога пакаленьня. Па-другое, таму, што сацспаборніцва актывізуе і згуртоўвае дзяцей і настаўніцва на барацьбу за ліквідацыю карэннага недахопу школы які адзначан у пастанове ЦК Усе КП(б)і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе. Недахоп гэты заключаецца ў тым, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы ўпаўне пісьменных людзей, добра ўладаючых асновамі навук (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, геаграфія і інш.)

У У. І. Леніна, па пытаньні аб неабходнасьці разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва ў школе, мы знаходзім, калі не прамыя, дык ва ўсякім разе ўскосныя ўказаньні. Так, напрыклад, У. І. Ленін у адным месцы падкрэсьлівае тое становішча каб у школе падрыхтоўвалася тое, што ў жыцьці ажыцьцяўляецца“ (Ленін). Сацспаборніцтва ў жыцьці ажыцьцяўляе рабочая кляса і наогул працоўныя пад кіраўніцтвам КП(б), актыўна ўдзельнічаюць у сацыялістычным будаўніцве на аснове сацспаборніцтва, і ў працэсе гэтага перавыхоўваюцца, мяняючы карэнным чынам свой погляд і адносіны да працы.

Мы ведаем, што ступень актыўнасьці ў спаборніцтве і правільная яго арганізацыя залежаць ад таго, наколькі правільна, па-ленінску—сталінску разумеецца сутнасьць, яго значэньне і неабходнасьць сацыялістычнага спаборніцва.

Адгэтуль з неабходнасьцю вынікае задача школы„ з маладых год, з дванаццаці год, выхоўваць маладое пакаленьне ў сьвядомай, дысцыплінаванай працы“ (Ленін). З маладых год рыхта-

ваць сьвядомых, актыўных будаўнікоў сацыялізму і барацьбітоў рэвалюцыянэраў за сусьветны камунізм, якія потым больш актыўна, больш дзейна прымалі-б ўдзел у будаўніцтве сацыялізму, на аснове сацыялістычнагв спаборніцтва. Такая падрыхтоўка будучых сьвядомых будаўнікоў сацыялізму, пачынаючы з „маладых год, з дванаццаці год", павінна ісьці праз усю суму адукацыйна-выхаваўчых мер, сыстэматычнага, плянамернага, клясаванакіраванага ўзьдзейнічаньня школы праз удзел у грамадзка-вытворчай працы, і ў прыватнасьці гэта падрыхтоўка павінна ісьці і праз арганізацыю сацспаборніцтва ў школе.

Нельга, нарэшцэ, не паставіць у сувязі неабходнасьць разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва ў школе з тым месцам праграмы нашае партыі дзе гаворыцца аб тым, што школа „са зброі клясавага панаваньня буржуазіі робіцца зброяй поўнага зьнішчэньня падзелу грамады на клясы, зброяй камуністычнага перараджэньня грамадзтва".

Для ўсіх і кожнага зразумела, што роля сацыялістычнага спаборніцва ў справе „камуністычнага перараджэньня грамадзтва" надзвычайна вялікая і адказная. Нам думаецца, што, апрача правых апартуністаў, у гэтым ніхто ніколі не сумняваўся і ня можа сумнявацца.

Надзвычай актуальная роля сацыялістычнага спаборніцтва, у сьвятле тых мэт і задач, якія стаяць перад нашай школай, у справе камуністычнага выхаваньня. Мэты, якія ставіць школе рабочая кляса,—кажа У. І. Ленін,—вядуць да росквіту асобы кожнага дзіцёнка, да пашырэньня яго кругагляду, да паглыбленьня яго сьвядомасьці". Росквіт асобы, паглыбленьне сьвядомасьці дзіцёнка-самым найлепшым чынам зьвязваюцца з тымі задачамі, якія стаяць перад сацспаборніцвам наогул і перад сацспаборніцтвам у школе, у прыватнасьці. Задачы гэтыя зводзяцца да таго, каб у максымальнай ступені актывізаваць і згуртаваць дзяцей навакол вучэбна-выхаваўчых пытаньняў, навакол пытаньняў барацьбы за якасьць вучобы на аснове творчай ініцыятывы і сьвядомай дысцыпліны, на аснове сьвядомых адносін да працы і вынікаў гэтае працы.

У. І. Ленін, гаворачы аб мэтах нашае школы, адначасна з гэтым адзначае поўную супроцьлегласьць мэты нашай школы мэтам буржуазнай школы, сутнасьць якой зводзіцца да таго, каб „даць капіталістым услужлівых халопаў, выхаваць прыгодных слуг, якія былі-б здольны даваць ім прыбытак і разам з гэтым не турбавалі-б яе спакою і бязьдзельля" (Ленін, т. XXV, стар. 386,выд. 2).

Далей, У. І. Ленін на 3-м зьезьдзе камсамолу, гаворачы аб сутнасьці камуністычнага выхаваньня, падкрэсьлівае тое становішча, што моладзь, арганізаваная ў камуністычны саюз, „засвойваючы тыя або іншыя веды" адначасна з гэтым дапамагала-б „той моладзі, якая сама ня можа вызваліцца з цемры няпісьменасьці." І далей У. І. Ленін кажа, што „быць членам саюзу моладзі значыцца весьці справу так,. каб аддаваць сваю работу, свае сілы на агульную справу". І гэтыя апошнія задачы ў справе камуністычнага выхаваньня таксама, самым лепшым чынам зьвязваюцца з задачай сацспаборніцва ў школе, а менавіта: выхаваньне калектывізму, пачуцьцяў адказнасьці ня толькі за сваю справу, але і за справу і дзеяньне калектыву цалкам.

Арганізоўваючы сацыялістычнае спаборніцва ў школе, мы ні на адну хвіліну не павінны забываць спэцыфічнасьці дзіцячага асяродзьдзя, той якаснай асаблівасьці, якая існуе паміж дзіцячым асяродзьдзем і асяродзьдзем дарослых, тых якасна розных мэт і задач, якія стаяць перад гэтымі пакаленьнямі.

І што таму зьяўляецца зусім недапушчальным мэханічнае перанясеньне сацыялістычнага спаборніцтва сярод дарослых у дзіцячае асяродзьдзе. Сацыялістычнае спаборніцтва ў школе павінна мець свае якасныя асаблівасьці ў параўнаньні з сацыялістычным спаборніцтвам сярод дарослых. Гэта для кожнага зьяўляецца бяспрэчным.

У чым-жа павінна заключацца розьніцца паміж сацспаборніцтвам сярод дарослых і сацспаборніцтвам сярод дзяцей?

Якасная розьніца паміж сацспаборніцтвам сярод дарослых, з аднаго боку,

і сацспаборніцтвам сярод дзяцей, з другога боку, павінна быць такой-жа, якая існуе паміж дарослымі і дзецьмі, як у сэнсе іх фізычнага і разумовага разьвіцьця, так і ў сэнсе іх ролі ў сацыялістычным будаўніцтве.

Асноўнай задачай дарослых працоўных мас зьяўлецца—актыўны ўдзел у будаўніцтве сацыялізму, у клясавай барацьбе пад кірайніцтвам УсеКП(б), на аснове сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, якія выхоўваюць сьвядомыя адносіны да працы, выхоўваюць пачуцьці калектыўнасьці. Асноўнай-жа задачай моладзі і падлеткаў трэба лічыць вучобу, барацьбу за якасьць гэтай вучобы, барацьбу за ауладаньне асновамі навук, актыўны ўдзел у грамадзка-вытворчай працы і клясавай барацьбе, падпарадкуючы гэта апошняе вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

Гэта задача моладзьдзю і падлеткамі ажыцьцяўляецца на аснове сацыялістычнага спаборніцва і ўдарніцва ў школе.

Вось у асноўным да чаго можа быць зьведзена розьніца паміж дарослымі і дзецьмі. Падкрэсьліваем, што гэта толькі асноўная розьніца, якой не вычэрпываецца розьніца цалкам ува ўсіх сваіх дэталях.

Падкрэсьліўшы спэцыфіку дзіцячага асяродзьдзя і выходзячы з яе, мы павінны зараз даць кароткі аналіз якасных асаблівасьцьцяй сацспаборніцтва сярод дзяцей у школе ў актыўным адрозьненьні яго ад сацспаборніцтва сярод дарослых. Асаблівасьць сацспаборніцтва сярод дзяцей у школе заключаецца, па-першае, у тым, што спаборніцва ў школе павінна насіць больш канрэтны характар,чымсьці гэта сярод дарослых. Гэтым я ні ў якай ступені ня хочу сказаць, што сацспаборніцтва сярод дарослых павінна насіць абстракатны, адцягнуты характар. Так разумець мяне не патрэбна. Гэтым я толькі хацеў падкрэсьліць той факт, што сацспаборнітва сярод дзяцей павінна розьніцца адносна большай яскравасьцю і большай канкрэтнасьцю. Гэта азначае, што ўвагу дзяцей трэба заўсёды канцэнтраваць на „мінімальнай“ колькасьці аб'ектаў па сацспаборніцтве, што дагавары па сацспаборніцтву ў школе павінны адрозьнівацца сваёй якасьцю і канкрэтнасьцю. Дагавары гэтыя павінны заключацца на значна карацейшыя тэрміны, чымсьці гэта можа мець места сярод дарослых. Праверка дагавароў, таксама павінна адбывацца значна часьцей.

Нарэшце, яшчэ адна асаблівасьць зводзіцца да таго, што як меры адзнакі лепшых ударнікаў, так і меры ўзьдзейнічаньня на горшых, меры барацьбы з ілжэўдарнікамі павінны значна паміж сабой адрозьнівацца. Больш падрабязна аб гэтых мерах гутарка будзе потым.

## В. Суадносіны паміж сацспаборніцвам, як мэтадам камуністычнага выхаваньня і іншымі мэтадамі вучэбна-выхаваўчай работы ў школе

У першым разьдзеле, на падставе выказваньняў У. І. Леніна і т. Сталіна мы даказалі, што сацыялістычнае спаборніцтва зьяўляецца мэтадам камуністычнага выхаваньня наогул, і ў прыватнасьці яно гэткім зьяўляецца ў школе.

Нам усім добра вядома, што, апрача сацыялістычнага спаборніцтва, як мэтаду камуністычнага выхаваньня, існуе яшчэ шмат мэтадаў вучэбна-выхаваўчай работы ў школе. У гэтым разьдзеле мы і ставім сваёй задачай паказаць тыя ўзаемаадносіны, якія існуюць і павінны існаваць паміж сацспаборніцтвам, як мэтадам камвыхаваньня і іншымі мэтадамі вучэбна-выхаваўчай работы ў школе.

У чым-жа заключаецца розьніца паміж сацспаборніцтвамі і ншымі мэтадамі?

„Левакі“, як вядома, гэта пытаньне разьвязвалі зусім няправільна. У „левакоў“, Шульгіна і Крупенінай, асноўным, вядучым, унівэрсальным мэтадам зьяўляўся мэтад праектаў, які, паглынаў сабою ня толькі сацспаборніцтва, як мэтад камвыхаваньня, але і дыялектычны мэтад.

Вось як адзін з „левакоў“ т. Осіпцаў, на падставе выказваньняў Шульгіна, азначае „ўзаемаадносіны паміж сацспабор-

ніцтвам, як мэтадам і іншымі мэтадамі, у прыватнасьці паміж сацспаборніцтвам і мэтадам праектаў, як унівэрсальным мэтадам: „Звычайна ў мэтах пэдагагічных, яно (сацспаборніцтва—Л.Ш.), абумовіўшы выбар праэктаў, потым уваходзіць сустаўной часткай у праект. Гэта азначае, што сучасны праект павінен быць так арганізаваны, што ў ім, як адзін з сустаўных момантаў павінна быць у наяўнасьці спаборніцтва" (Осипцев„ Сельская школа и соцсоревнование". стр. 13).

Устаноўка т. Осіпцавым даецца зусім няправільная, па сутнасьці справы антыленінская. Сацспаборніцтва разумеецца зусім няверна. Па Осіпцаву атрымліваецца, што сацспаборніцтвам не прасякаецца ўся праца школы і, галоўным чынам, вучэбна-выхаваўчая, а сацспаборніцтва ўваходзіць у праект, як сустаўная частка апошняга.

І гэта не выпадковая апіска альбо агаворка. У другім месцы, на той-жа самай старонцы, т. Осіпцаў падкрэсьлівае, што сацспаборніцтва ёсьць „форма арганізацыі работы, і з гэтага боку яно можа ў школе альбо зусім стаяць самастойна, альбо можа ўваходзіць у праект. Як бачыце, пытаньне ставіцца альбо, альбо. Альбо сацспаборніцтва ўваходзіць сустаўной часткай у праект, альбо яно стаіць зусім асобна, выступае само ў якасьці праекту. Такім чынам, „левакі" альбо атоесамлялі сацспаборніцтва, як мэтад камуністычнага выхаваньня з мэтадам праектаў, альбо цалкам уключалі яго ў гэты мэтад праектаў на падставе падпарадкаваньня сацспаборніцтва, як мэтаду камвыхаваньня, унівэрсальнаму мэтаду праектаў. Мэтад праектаў супроць стаўляўся сацспаборніцтву і выключалася апошняе, як мэтад камвыхаваньня, якім павінна быць прасякнута ўся работа школы, які ляжыць і павінен ляжаць у аснове ўсёй вучэбна-выхаваўчай і грамадзкай вытворчай работы ў школе, незалежна ад таго, у якіх формах і якімі мэтадамі гэта работа будзе праводзіцца.

Нельга не адзначыць той блытаніны, якая мае месца па гэтым пытаньні ў артыкуле Алісіевіча і Равіна, не кажучы ўжо аб тым, што імі ў гэтым артыкуле дапушчана вялікая недарэчнасьць і ў адносінах мэтадаў вучэбна-выхаваўчай работы ў школе, У гэтым артыкуле мы чытаем: „Уся праца нашай палітэхнічнай школы павінна быць прасякнута сацыялістычнымі формамі працы, сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам. Таму ўсе ўказаныя актыўныя мэтады працы атрымаюць поўнае сваё выяўленьне, калі яны будуць ужывацца пад кутам гледжаньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва".

(Камвыхаваньне № 1-2, за 1932 г., стар. 64).

Як бачыце, у трактоўцы Алісіевіча і Равіна мы маем, праўда, у некаторай толькі ступені, тое самае, аб чым ужо гаварыў „лявак" Осіпцаў. У іх трактоўцы, як і ў трактоўцы Осіпцава, альбо сацспаборніцтва выступае толькі як форма працы, а ня мэтад камуністычнага выхаваньня, альбо сацспаборніцтва—гэта толькі кут гледжаньня. Як першая, так і другая, і асабліва другая, устаноўкі Алесіевіча і Равіна зьяўляюцца зусім няправільнымі, блытанымі. Гэтыя ўстаноўкі не дапамагаюць настаўніку ў яго практычнай рабоце, а толькі блытаюць, дэзаарыентуюць. Ні ў У. І. Леніна, ні ў т. Сталіна мы нідзе не знаходзім аб тым, што сацспаборніцтва—гэта форма працы, а тым больш, што гэта—кут гледжаньня.

Такія ўстаноўкі па пытаньні ўзаемаадносін паміж сацспаборніцтвам і іншымі мэтадамі вучэба-выхаваўчай працы ў школе, мы павінны асудзіць і рашуча адкінуць.

У чым-жа сутнасьць правільнага разуменьня ўзаемаадносін паміж сацспаборніцтвам і іншымі мэтадамі вучэбна-выхаваўчай работы ў школе? Правільнае разуменьне ўзаемаадносін паміж сацспаборніцтвам і іншымі мэтадамі вучэбна-выхаваўчай работы ў школе заключаецца, па-першае, у тым, што сацспаборніцтва зьяўляецца метадам камуністычнага выхаваньня, як гэта падкрэсьлівае т. СТАЛІН, а не формай працы, а тым больш кутам гледжаньня, а ня часткай праекта, альбо самастойным праектам, як гэта сьцьвярджаў т. Осіпцаў. Па-другое, у тым, што сацспаборніцтва не выключаецца і ня можа выключацца іншымі мэтадамі вучэбна-выхаваўчай

работы ў школе і ня супроцьстаўляецца імі Сацыялістычнае спаборніцтва ня выключае сабой іншых мэтадаў, а наадварот абавязкова прадугледжвае іх. Таксама сацспаборніцтва ня можа быць рашчыняемым ў іншых мэтадах і атоесамляемым з іншымі мэтадамі, як гэта мы бачылі ў „левакоў“,

Сацспаборніцтва разгортваецца ў школе пры любых формах школьнае працы, пры карыстаньні любой сумай мэтадаў, як у справе вучэбна-выхаваўчай працы, так і ў справе грамадзка-вытворчай працы школы, падпарадкуючы апошняе першаму.

## Г. З чаго пачаць арганізацыю сацыялістычнага спаборніцтва ў школе

Перш за ўсё адкажам на пытаньне аб тым, з чаго пачаць арганізацыю сацспаборніцтва ў школе? якую папярэднюю працу неабходна правесьці перш, чым прыступіць да складаньня і афармленьня дагавароў па сацспаборніцтве ў школе? Разгортваньне сацспаборніцтва ў школе, нам думаецца, мэтазгодна пачынаць з падрыхтоўкі грамадзкай думкі навакол пытаньняў аб арганізацыі сацспаборніцтва ў школе. Арганізоўваючы грамадзкую думку вакол сацспаборніцтва ў школе, неабходна ў працэсе гэтага выявіць і ўсьвядоміць сабе, як галоўнейшыя вучасткі работы школы, так і галоўнейшыя недахопы ў працы школы ёсьць з тым, каб потым усе гэтыя пытаньні паставіць у цэнтры ўвагі сацспаборніцтва ў школе. Чаму, менавіта, з гэтага патрабна пачаць разгортваньне сацспаборніцтва ў школе? А таму, як гаворыць У. І. Ленін, каб сацспаборніцтва стала здабыткам шматмільённых працоўных мас, у перакладзе на мову сацспаборніцтва ў школе шматмільённых мас дзетвары, каб гэта сацспаборніцтва ня зьяўлялася чымсьці такім, з неба зваліўшымся, навязаным зьверху, а каб гэта дзетвара, іх бацькі ды і само настаўніцтва ў працэсе гэтай падрыхтоўчай работы глыбока ўсьвядомілі сутнасьць сацспаборніцтва і яго неабходнасьць, усьвядомілі-б тыя агромністыя магчымасьці, якія дае сацспаборніцтва ў школе ў сэнсе паглыбленьня вучэбна-выхаваўчай і грамадзка-вытворчай работы школы.

У працэсе падрыхтоўчай работы па разгортваньні сацспаборніцтва ў школе— неабходна напомніць дзецям вынікі сацспаборніцтва ў школе ў мінулым годзе, пазнаёміць іх хоць ў кароткіх рысах, з тымі станоўчымі і адмоўнымі момантамі, якія мелі месца ў справе сацспаборніцтва ў мінулым годзе. Гэта апошняе неабходна зрабіць для таго, каб лепшыя ўзоры скарыстаць пры разгортваньні сацспаборніцтва, а таксама ўхіліцца тых адмоўных момантаў, якія мелі месца ў арганізацыі сацспаборніцтва ў мінулым. Пажадана, па-магчымасьці, азнаёміць дзяцей з станоўчымі і адмоўнымі момантамі ў справе сацспаборніцтва на прадпрыемстве, да якога школа прымацавана, і, нарэшце, з станоўчымі і адмоўнымі момантамі ў справе сацспаборніцтва той школы, з якой дадзеная школа спаборнічала, альбо спаборнічае ў сучасны момант.

Гэтыя экскурсы, нам думаецца, ў значнай ступені палегчаць справу арганізацыі спаборніцтва ў школе і дадуць магчымасьць ухіліцца ад цэлага шэрагу памылак.

Самае лепшае і самае правільнае, калі-б ініцыятыва аб разгортваньні сацспаборніцтва ў школе ў пачатку году выходзіла ад рабочых, калі школа прымацавана да прадпрыемства, альбо калгасьнікаў, калі школа прымацавана да калгасу. Добра было-б калі-б прадстаўнік заводу, альбо калгасу, зьявіўшыся на першы сход вучняў і расказаўшы ў кароткіх рысах аб сутнасьці сацспаборніцтва, аб тым, як у іх гэта справа пастаўлена, якія ёсьць дасягненьні і недахопы, падаў-бы ў заключэньне думку аб неабходнасьці арганізаваць сацспаборніцтва ў школе альбо больш правільна яго аднавіць

На гэтай-жа першай стадыі па арганізацыі сацспаборніцтва ў школе высьвятляюцца і вызначаюцца асноўныя напрамкі, па якіх павінна разгортвацца гэта сацспаборніцтва.

Нам думаецца, што такімі асноўнымі напрамкамі, па якіх павінна разгортвацца

і ісьці сацспаборніцтва ў школе, патрэбна лічыць: а) сацспаборніцтва з другой школай, б) сацспаборніцтва паміж групамі, г) сацспаборніцтва паміж брыгадамі ўнутры груп,[1]) д) сацспаборніцтва паміж гурткамі, е) сацспаборніцтва паміж сэктарамі самакіраўніцтва. Па ўсіх гэтых напрамках павінны быць складзены пісьмовыя дагавары па сацспаборніцтве.

У практыцы школы да гэтага часу мела і яшчэ мае месца сацспаборніцтва паміж вучнямі і іх бацькамі, а таксама, сацспаборніцтва паміж вучнямі і настаўнікамі, і нарэшце, надзвычайна многа было і ёсьць размоў аб яшчэ адным напрамку сацспаборніцтва ў школе, гэта паміж школай і прадпрыемствам або калгасам. Нам думаецца, што ў далейшым гэтыя напрамкі сацспаборніцтва ў школе не павінны мець месца. Возьмем сацспаборніцтва паміж вучнямі і іх бацькамі. Што карыснага для справы з гэтага спаборніцтва? Абсалютна нічога. Калі мы возьмем і паглядзім дагавары паміж вучнямі і бацькамі, то мы там знойдзем, што вучань бярэ на сябе абавязкі добра вучыцца, добра наведваць школу і г. д., а бацька з свайго боку, яму за гэта абяцае купіць тую або іншую рэч. І вучань, такім чынам, выконвае (ды яшчэ калі выконвае, ніхто і ніколі гэтага не праваўраў) тыя або іншыя абавязкі толькі таму, каб атрымаць ад бацькі паабяцаную рэч. Такі-ж анэкдатычны характар носяць і дагавары паміж вучнямі і настаўнікамі. Такім сацспаборніцтвам скажаецца самая ідэя сацспаборніцтва і яго сутнасьць, ня кажучы ўжо аб тым, наколькі зьяўляецца наогул мэтазгодным арганізоўваць сацспаборніцтва паміж дзецьмі і дарослымі. Нам думаецца, што ў гэтым ніякай мэтазгоднасьці і патрэбы няма.

Але ці значыць гэта, што як бацькі вучняў, так і настаўнікі школы павінны стаяць зусім у баку ад сацспаборніцтва? Не, гэта не значыць. Сацспаборніцтва сярод бацькоў вучняў разгортваецца камітэтам садзейнічаньня школы, і ідзе гэта спаборніцтва па лініі сацспаборніцтва бацькоў з бацькамі, шляхам даваньня індывідуальных абяцаньняў па такіх пытаньнях, як стварэньне добрых умоў для працы дзіцяці, як сваечасовае накіраваньне яго ў школу ды інш. Што-ж тычыцца адносін да сацспаборніцтва настаўніка, то апошняе, перш за ўсё кіруе сацспаборніцтвам сярод дзяцей, нясе адказнасьць за правільную пастаноўку сацспаборніцтва ў школе. Але ўсё гэта не выключае спэцыяльнага разгортваньня сацспаборніцтва сярод настаўніцтва, як калектыву дадзенай школы. Сацспаборніцтва сярод дзяцей ні ў якім разе нельга зьмешваць з сацспаборніцтвам сярод настаўніцкага калектыву. Сацспаборніцтва сярод настаўнікаў арганізоўваюць, праводзяць яго і ім кіруюць прафсаюзныя органы.

А часта бывае, што настаўнік, прыкрываючыся тым, што кіруе сацспаборніцтвам сярод дзяцей, на гэтай падставе не прымае аніякага ўдзелу ў сацспаборніцтве па лініі настаўніцкага калектыву. Гэта, зразумела, зьяўляецца неправільным, памылковым зьмешваньнем таго і другога.

Скажам некалькі слоў адносна сацспаборніцтва паміж школай і прадпрыемствам або калгасам. Вельмі многія лічаць, што дагавор (праект якога заўсёды распрацоўваецца Нар. кам. асьветы і іншымі ўстановамі), які заключаецца паміж школаю і прадпрыемствам або калгасам, зьяўляецца дагаворам па сацспаборніцтве. Гэта, зразумела, няправільна, гэта зьяўляецца вялікай памылкай. Гэты дагавор не зьяўляецца дагаворам па сацспаборніцтве, а афіцыйным дакумантам урадавых органаў, які зьяўляецца абавязковым для кожнае школы і для кожнага прадпрыемства альбо калгасу, да якіх прымацавана тая або іншая школа. Гэты дагавор, нарэшце, зьяўляецца такім дакумантам, які ў афіцыйным парадку абавязвае як школу, так і прадпрыемства ўзаемна выканаць суму абавязкаў, вызначаных у дагаворы. Такім чынам, зьмешваць гэты дагавор з дагаварамі па сацспаборніцтве ў школе, атое самляць яго з гэтым дагаворам ні ў якім выпадку нельга: гэта зусім розныя рэчы. Калі звычайны дагавор, які заключаецца паміж школай і прадпрыемствам не зьяўляецца дагаворам па сацспаборніцтве, то магчыма патрэбен якісьці дадатковы дагавор паміж школай і прадпрыемствам, які зьяўляўся-б дагаворам па сацспаборні-

[1]) Маюцца на ўвазе часовыя і неабавязковыя брыгады.

цтве? Нам думаецца, што такога дадатковага дагавору зусім не патрэбна. І разгортваць спэцыяльна сацспаборніцтва паміж школай і прадпрыемствам таксама не патрэбна. Чаму? Па-першае, таму, што гэты дагавор у значнай ступені паўтараў-бы сабой абавязковы дагавор, як дакумант урадавых органаў; па-другое, што зусім зьяўляецца не мэтазгодным, як гэта ўжо мы і раней адзначылі, разгортваньне сацспаборніцтва дзяцей з дарослымі.

Зусім дастатковым трэба лічыць 100% выкананьне як школай, так і прадпрыемствам або калгасам, МТС абавязковага дагавору на аснове сацспаборніцтва, якое разгорнута ў школе і на прадпрыемстве.

Усё гэта ні ў якім разе не выключае таго, што як школа, так і прадпрыемства, да якога яна прымацавана, узаемна цікавяцца ходам і вынікамі сацспаборніцтва, узаемна адно аднаму дапамагаюць у гэтым пытаньні, узаемна выкарыстоўваюць лепшыя ўзоры для лепшай арганізацыі сацспаборніцтва.

## Д. Аб асноўных прынцыпах складаньня дагавароў па сацспаборніцтве

Пытаньне аб тым, як скласьці дагавор па сацспаборніцтве наогул і ў прыватнасьці па сацспаборніцтве ў школе, зьяўляецца надзвычайна вялікім і складаным пытаньнем.

У гэтым разьдзеле, аўтар ня ставіць сабе задачу адказаць на ўсе дробныя пытаньні, якія могуць узьнікаць у школе пры складаньні дагавароў па спаборніцтве тым больш, ня ставіць сабе задачу даць зусім гатовыя ўзоры гэтых дагавароў.

У гэтым разьдзеле аўтар ставіць перад сабой вельмі скромную задачу—гэта ўказаць толькі тыя асноўныя прынцыпы, якімі патрэбна кіравацца пры складаньні дагавароў па сацспаборніцтве ў школе.

Першы прынцып заключаецца ў тым, каб у дагаворы па сацспаборніцтве была-б абавязкова адлюстравана і праходзіла-б чырвонай ніткай асноўная задача школы—гэта барацьба за якасьць вучобы, за аўладаньне асновамі навук, барацьба з асноўнымі недахопамі школы, адзначанымі ў пастановах ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Другі прынцып заключаецца ў тым, што паміж агульна-школьным дагаворам, які зьяўляецца дагавор школы з другой школай, і ўсімі іншымі (групавымі, брыгаднымі, гуртковымі і г. д.) дагаварамі павінна існаваць арганічная сувязь. Сувязь гэта заключаецца ў тым, што агульна-школьным дагаворам у асноўным ахапляюцца ўсе вучасткі школьнае працы. Брыгадныя-ж, групавыя і інш. дагавары будуюцца на аснове агульна-школьнага дагавору, з улікам тых пытаньняў, якія ўваходзяць у агульна-школьны дагавор. Мэтазгоднасьць такой сувязі заключаецца ў тым, што брыгады, групы і іншыя, выконваючы свае дагавары ў вядомай ступені будуць выконваць і агульна-школьны дагавор. Такая пабудова дагавароў ўнясе большую арганізаванасьць і плянавасьць у справу разгортваньня сацспаборніцтва ў школе, значна палегчыць арганізацыю і правядзеньне сацспаборніцтва. Пры такой арганізацыі сацспаборніцтва трэба чакаць куды лепшых вынікаў. Пабудова агульна-школьнага дагавору з вучотам брыгадных, групавых і інш. дагавароў і пабудова апошніх з вучотам пытаньняў, маючых месца ў агульна-школьным дагаворы, не азначае таго, што гэта справа павінна быць бюракратызавана, што рамкі і кола пытаньняў гэтымі дагаварамі ўзаемна абмяжаваны.

Арганічную ўвязку паміж **гэтымі** дагаварамі і ўзаема-вучот пры іх складаньні трэба разумець такім чынам, што скажам, брыгаднымі, групавымі і інш. дагаварамі ў асноўным павінны быць вычэрпаны пытаньні агульна-школьнага дагавору, але могуць далёка імі не абмяжоўвацца. У склад гэтых дагавароў могуць быць уключаны цэлы шэраг дадатковых пытаньняў, калі ў гэтым будзе знойдзена неабходнасьць і магчымасьць для іх выкананьня. У агульна-школьным дагаворы могуць быць паасобныя моманты, якія ні ў якай ступені ня будуць ахоплены ўсімі іншымі дагаварамі. Такія паасобныя моманты змогуць быць выкананы зусім самастойна, па-за брыгаднымі, групавымі і інш. дагаварамі.

Трэці прынцып, які заўсёды трэба памятаць, заключаецца ў тым, што пры складаньні таго або іншага дагавору павінен быць у максымальнай ступені забясьпечан актыўны ўдзел саміх дзяцей, адпаведных груп або брыгад.

Гэта значыць, што тэкст дагавору не даецца дзецям у гатовым выглядзе, які раней распрацован настаўнікам або камсамолам габінэтным парадкам, а абавязкова тэкст гэты распрацоўваецца альбо цалкам брыгадай, калі ідзе гутарка аб дагаворы брыгады, альбо групкомам, калі ідзе гутарка аб дагаворы той ці іншай групы, альбо вучкомам, калі ідзе гутарка аб дагаворы агульна-школьным. Распрацоўка тэксту таго ці іншага дагавору вядзецца з актыўным удзелам настаўніка, пры яго непасрэдным удзеле, пад яго непасрэдным кіраўніцтвам і адказнасьцю. А таму настаўнік перш чым ісьці на брыгаду альбо групком ці вучком, дзе будзе ісьці гутарка аб тэксьце дагавору, павінен абавязкова загадзя прадумаць кола пытаньняў, якія павінны ўвайсьці ў той ці іншы дагавор.

Чацьверты прынцып заключаецца ў тым, што дагавор павінен быць ў сваіх установуках і формулёўках пытаньняў палітычна-вытрыманым.

Пяты прынцып састаіць у тым, што пры складаньні дагавору неабходна заўсёды ўлічваць пэдалёгічныя (узросныя і г. д.) асаблівасьці дзяцей. Што гэта значыць? Гэта значыць, што зьмест дагавору, яго канкрэтнасьць, колькасьць пытаньняў, яскравасьць фармуляваньня пытаньняў як з боку іх зьместу, так і з боку мовы і стылю павінны быць пастаўлены ў шчыльную сувязь з кожнай паасобку групай, з яе ўзросным і разумовым разьвіцьцём.

Шосты прынцып заключаецца ў тым, што пытаньні ў дагавор павінны ставіцца толькі тыя, якія могуць быць выкананы дзецьмі. А таму кожнае пытаньне, якое ўносіцца ў дагавор павінна быць дакладна прадумана, усебакова абгаворана з пункту гледжаньня мэтазгоднасьці ўнясеньня яго ў дагавор, з пункту гледжаньня магчымасьці яго выкананьня.

Выкананьне кожнага паасобку дагавору павінна быць абумоўлена пэўным тэрмінам. Тэрміны, на якія складаюцца дагаворы, залежаць ад характару пытаньняў, якія ўваходзяць у дагавор і ўзросных асаблівасьцяй дзяцей. Пры гэтым мы павінны адзначыць, што для больш старэйшых узростаў тэрміны дагавароў могуць быць больш працяжнымі, а для малодшых—на больш карацейшы час. Але тым ня менш дагаворы паміж брыгадамі і групамі не павінны заключацца больш як на чвэртку навучальнага году, а агульна-школьны дагавор ня больш, як на дзьве чвэрткі. Мэтазгоднасьць, іменна, гэткіх тэрмінаў абумоўліваецца, па-першае, пэдалёгічнымі меркаваньнямі, па-другое, тым, што падагульненьне вынікаў па сацспаборніцтве, праверка выкананьня дагавароў і інш. якраз будзе супадаць з падагульненьнем усёй вучэбна-выхаваўчай і грамадзка-вытворчай працы школы.

Вось тыя асноўныя прынцыпы, з якіх трэба выходзіць і якімі трэба кіравацца пры складаньні дагавароў па сацспаборніцтве ў школе. Выходзячы з гэтых прынцыпаў і імі кіруючыся пры складаньні дагавароў, мы атрымаем, што ў цэнтры ўвагі сацспаборніцтва ў школе, а значыцца, і ў цэнтры дагавароў па сацспаборніцтве будуць стаяць пытаньні вучэбна-выхаваўчай працы школы: барацьба за якасьць вучобы, за аўладаньне асновамі навук, барацьба за сьвядомую школьную дысцыпліну, барацьба за палітэхнізацыю школы.

Кіруючыся гэтымі прынцыпамі, мы забясьпечым дзейны, актыўны ўдзел вучняў, пад непасрэдным кіраўніцтвам настаўніка, у разгортваньні сацспаборніцтва і складаньні саміх дагавароў.

Калі мы ў сьвятле гэтых прынцыпаў праналізуем складзеныя дагаворы па сацспаборніцтве да пастановы ЦК УсеКП(б)аб пачатковай і сярэдняй школе, дык атрымаем зусім іншы малюнак, чым ён выкрышталізоўваецца і павінен атрымацца ад дагавароў, складзеных на падставе вышэй падкрэсьленых прынцыпаў.

Аналіз дагавароў, складзеных да пастановы ЦК УсеКП(б), паказвае, што ў гэтых дагаварох усе пытаньні ўзяты з галін, грамадзкай працы школы. У гэтых дагаварох мы не знаходзім ніводнага пункту аб школьнай дысцыпліне, ніводнага пытаньня, накіраванага на барацьбу за

якасьць вучобы, на барацьбу за аўладаньне асновамі навук. У гэтых дагаварох падкрэсьліваецца падпарадкаванасьць практычным канкрэтным справам вучэбна-выхаваўчых задач школы. „Левакамі“ па гэтым пытаньні давялася яўнаняправільная, антыленінская ўстаноўка. Так, напрыклад, „лявак“ Дойнікаў у сваёй кніжцы—„Соцсоревнование и школа“ піша аб тым, што „грамадзка-карысная работа школы зьяўляецца асноўным стрыжнем спаборніцтва. Правільна арганізаванае спаборніцтва павінна ўмець кожны крок барацьбы за фармальныя паказаньні вучэбнай работы школы пераключыць на барацьбу за навыкі грамадзка-карыснай і вытворчае працы“ (Дойнікаў, ст. 41). Мы бачым, такім чынам, як „левакі“ такую важную справу, як сацспаборніцтва, скарыстоўвалі ў мэтах разбурэньня школы. Накіроўвалі сацспаборніцтва па шляху паглыбленьня карэннага недахопу школы. Мы бачылі, што ў „левакоў“ з кола пытаньняў па сацспаборніцтве зусім выпадалі такія пытаньні, як барацьба за якасьць вучобы, барацьба за аўладаньне асновамі навук, як усё гэта замянялася грамадзка-карыснай працай і толькі навакол пытаньняў гэтае працы, разгортвалася сацспаборніцтва ў школе.

## Е. Мэтодыка і тэхніка афармленьня дагавароў па сацспаборніцтве

Нарэшце, тэкст дагавору распрацаваны. Што-ж рабіць далей? Калі гутарка ідзе аб дагаворы брыгады, часовай і не абавязковай у распрацоўцы якога прымала ўдзел брыгада цалкам пад кіраўніцтвам настаўніка, усе пункты дакладна абгавораны, прадуманы, дык у такім выпадку гэты дагавор тут-жа на пасяджэньні брыгады прымаецца і падпісваецца.

Пасьля падпісаньня дагавору брыгада вырашае пытаньне аб выкліку другой брыгады па сацспаборніцтве. Гэта робіцца пры той умове, калі да моманту падпісаньня ня будзе выкліку якой-небудзь другой брыгадай, калі-ж такі выклік будзе, то брыгада яго абгаварвае, прымае з сваімі пратакольнымі заўвагамі (калі такія будуць).

Некалькі складаней пытаньне з афармленьнем групавога дагавору. Зразумелая рэч, што распрацоўкай тэксту дагавору ўся група не займаецца і ня можа займацца. Тэкст гэтага дагавору, з вучотам агульнашкольнага дагавору, распрацоўваецца групкомам з дапамогай піянэрскай і камсамольскай арганізацый і пад кіраўніцтвам настаўніка.

Пасьля таго, як тэкст дагавору той або іншай групы распрацаваны, ён павінен быць вельмі ўважліва абгавораны на агульным сходзе ўсёй групы і тут-жа падпісаны. На гэтым-жа сходзе вырашаецца пытаньне аб выкліку на сацспаборніцтва другой групы і даручаецца групкому аформіць гэту справу.

Яшчэ складаней справа з афармленьнем агульнашкольнага дагавору. Тэкст дагавору распрацоўваецца вучкомам, таксама пад кіраўніцтвам настаўніка і пры актыўным удзеле камсамолу і піянэрарганізацыі. Распрацаваны і абгавораны на пасяджэньні вучкому тэкст дагавору пускаецца на абгаварэньне яго ў групы і нават брыгады. І толькі пасьля гэтага тэкст дагавору выносіцца на абгаварэньне агульнашкольнага сходу вучняў, калі гутарка ідзе аб пачатковай школе і сходаў па канцэнтрах, калі гутарка ідзе аб ФЗС і ШКМ. На гэтым-жа сходзе ўрачыста, у прысутнасьці ўсяго сходу, падпісваецца вучкомам. Тут-жа яшчэ да падпісаньня зачытваецца дагавор (калі гэтакі ёсьць) другой школы, з якой школа ўступае ў сацспаборніцтва.

Калі-ж такога дагавору няма, а значыць і выкліку на сацспаборніцтва з боку другой школы, то ў такім выпадку агульны сход вырашае пытаньне аб выкліку, і якой іменна школы, на сацспаборніцтва і даручае аформіць гэту справу вучкому. У сувязі з гэтым мы павінны адзначыць, што школа ўступае ў сацспаборніцтва толькі з адной якой-небудзь школай, а ня з некалькімі школамі, як гэта іменна мела месца ў некаторых выпадках да гэтага часу. У аднолькавай ступені гэта датычыцца брыгад, груп, гурткоў, сэктароў.

Праз такія-ж стадыі праходзіць афармленьне і ўсіх іншых дагавароў. Усе яны павінны быць напісаны вялікімі

літарамі і вывешаны ў клясах і школьным клюбе. Копіі дагавароў павінны захоўвацца ў справах вучкому і групкомаў.

Нельга абыйсьці маўчаньнем пытаньня аб тым, па якой лініі трэба раней арганізоўваць сацспаборніцтва школы з другой школай, альбо трэба раней арганізоўваць сацспаборніцтва ўнутры школы, а потым з другой школай. Нам думаецца, што больш мэтазгодным было-б раней аформіць сацспаборніцтва школы з другой школай, а потым ужо, з улікам кола тых пытаньняў, якія прадугледжаны агульнашкольным дагаворам, пачаць разгортваньне ўнутры школы. Але ўзводзіць гэта ў абавязковае правіла ні ў якім выпадку нельга і таму, менавіта, што іншы раз разгортваньне сацспаборніцтва з другой школай па цэлым шэрагу прычын зацягваецца на доўгі час. І дзякуючы гэтаму, школа на працягу значнага адцінку часу не змагла-б наогул займацца пытаньнямі сацспаборніцтва.

Нам думаецца, што калі афармленьне агульнашкольнага дагавору зацягваецца, то ў такім выпадку, можна разгортваць сацспаборніцтва ўнутры школы з улікам тых асноўных пытаньняў, якія павінны быць ахоплены агульнашкольным дагаворам па сацспаборніцтве.

## Ж. Як арганізаваць і праводзіць вучот па сацспаборніцтве ў школе

Бясспрэчна, што пытаньне вучоту і праверкі ходу сацспаборніцтва зьяўляецца надзвычайна важным і адначасна надзвычайна складаным. Але, ня гледзячы на гэта, мы маем вялікую недаацэнку гэтага пытаньня. Вельмі часта ў школах можна наглядаць такі малюнак, што сацспаборніцтва так-сяк арганізавалі, дагаворы прынялі, урачыста іх падпісалі, а кантроль за выкананьнем гэтых дагавароў не арганізавалі. Нам думаецца, зусім невыпадкова тое становішча, што значная частка запаўняўшых анкеты з 3-й ФЗС гор. Масквы скардзіцца на тое, што дагавары ня выконваюцца, што сацспаборніцтва толькі на паперы, а на справе яго зусім няма. Гэтыя недахопы, як відаць, у значнай ступені магчыма растлумачыць дрэннай пастаноўкай вучоту па сацспаборніцтве, дрэннай праверкай штодзённа ходу сацспаборніцтва ў школе.

Многія з ліку запаўняўшых анкету проста зазначаюць, што „ня *было дакладнага* вучоту“, альбо на тое, што гэты вучот „дрэнна вядзецца“. У гэтым напрамку мы атрымалі шмат заўваг з боку дзяцей.

Правільная і зусім дакладная пастаноўка вучоту па сацспаборніцтве прадугледжвае папярэдні вучот тых вынікаў і дасягненьняў, якія мелі месца ў школе да арганізацыі сацспаборніцтва. Аб гэтых дасягненьнях неабходна ведаць для таго, каб потым можна было-б дакладна ўстанавіць рух наперад на аснове сацспаборніцтва.

Вось чаму вучот маючыхся дасягненьняў і недахопаў да моманту разгортваньня сацспаборніцтва ў школе, у паасобных групах, брыгадах і г. д., мы лічым першай і зусім неабходнай стадыяй. Як вынік вучоту па сацспаборніцтве на гэтай першай стадыі, дзесьці павінна быць яскрава і зусім акрэсьлена запісана, што, скажам, % да сацспаборніцтва другагодніцтва па школе і па асобных групах такі, % непасьпяваючых такі-от, % прагулаў такі-от спазьненьняў такі-от і г. д. Апрача таго, што ўсе гэта павінна быць дзесьці запісана, патрэбна гэтыя паказчыкі ў выглядзе графікі вывесіць у кожнай групе, у клюбе, у сталоўцы. Гэта неабходна зрабіць для таго, каб усякаму школьнаму калектыву быў-бы вядомы адпраўны пункт у справе сацспаборніцтва, каб потым самі вучні маглі-б бачыць свой рух наперад на аснове сацспаборніцтва.

Другой стадыяй вучоту па сацспаборніцтве зьяўляецца штодзённы, так званы, бягучы вучот. Бягучы вучот у брыгадах праводзіцца брыгадзірамі. У групах гэты бягучы вучот праводзіцца спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі па сацспаборніцтве, якія вылучаюцца групкомамі. Па агульна-школьным дагаворы і наогул па сацспаборніцтве ў школе вучот праводзіцца вылучаным вучкомам. Вучот якасных і колькасных паказчыкаў, а таксама станоўчых і адмоўных момантаў па сацспаборніцтве праводзіцца ў спэцыяльна-заведзеных

для гэтай мэты сшытках. У гэтых-жа сшытках адзначаюцца вучні, як з добрымі паказчыкамі, так і дрэннымі, парушыцелі школьнай дысцыпліны, зрыўшчыкі сацспаборніцтва. Станоўчыя і адмоўныя моманты па сацспаборніцтве, высьветленыя ў працэсе бягучага вучоту, асьвятляюцца ў насьценнай газэце школы, заводу, школы, з якой вядзецца спаборніцтва.

Зараз скажам толькі некалькі слоў аб трэцяй стадыі вучоту па сацспаборніцтве.

Вучот па трэцяй стадыі праводзіцца кожны месяц. Больш правільна „вучот па трэцяй стадыі, як і па другой, называць ня вучотам, а праверкай ходу сацспаборніцтва і праверкай выкананьня паасобных памылак, у мэтах лепшага кіраўніцтва сацспаборніцтвам.

Вучот па трэцяй стадыі ў малодшых групах, там, дзе дагаворы заключаюцца на больш кароткія тэрміны, можа супадаць з перазаключэньнем дагавораў, і тады гэта будзе ўжо ітогавы вучот па сацспаборніцтве. У старэйшых групах важнасьць гэтага вучоту заключаецца ў тым, што ён там супадае з паловай чвэрткі навучальнага году. І тыя або іншыя недахопы, выяўленыя ў працэсе гэтага вучоту, можна будзе, пры жаданьні, у другой палове яшчэ выправіць, наверстаць, як кажуць, затрачанае. Вучот па трэцяй стадыі арганізоўваецца і праводзіцца вучкомам.

Вельмі важнай справай зьяўляецца вучот на чацьвертай стадыі. Гэты вучот праводзіцца ў канцы кожнай чвэрткі навучальнага году і супадае з падагульненьнем усёй вучэбна-выхаваўчай і грамадзка-вытворчай працы школы, за чвэртку навучальнага году. З чаго трэба пачынаць гэты вучот? Дадзеныя аб якасным і колькасным вучоце па сацспаборніцтве, як вядома, накапляюцца ў настаўніка і прадстаўнікоў вучняў. Значыцца, вучот па чацьвёртай стадыі і трэба пачынаць з узгадненьня дадзеных, якія ёсьць у настаўніка і прадстаўнікоў вучняў. Такое ўзгадненьне неабходна зрабіць для таго, каб унікнуць тых непаразуменьняў, якія мелі месца ў 3-й Маскоўскай ФЗС. Сутнасьць гэтых непаразуменьняў заключаецца ў тым, што ў часе падвядзеньня вынікаў па сацспаборніцтве за чвэртку года, вучні высоўвалі адны паказчыкі, а настаўнікі некалькі іншыя, вучні гавораць, што % наведваньня ўрокаў вучнямі такі-от і больш нізкі, настаўнік гаворыць аб іншым больш высокім. У выніку, атрымаўся зрыў вучоту, як гэта мы ўжо раней адзначалі. Адгэтуль трэба зрабіць наступны вывад: толькі ўзгадніўшы пытаньне паказчыкаў паміж настаўнікам і прадстаўнікамі вучняў, можна ставіць пытаньне вучоту на агульным сходзе групы, потым на агульным сходзе вучняў усёй школы, калі гутарка ідзе аб пачатковай школе, альбо на агульным сходзе вучняў па канцэнтрах, калі ідзе гутарка аб ФЗС і ШКМ. На агульны сход, прысьвячаны падагульненьню сацспаборніцтва ў школе пажадана запрасіць прадстаўнікоў школы, з якой дадзеная школа спаборнічае, і прадстаўнікоў заводу альбо калгасу, да якіх школа прымацавана.

Узгадненьне пытаньня вучоту мысьліцца на такой аснове, каб рашаючым было-б усё-ж слова настаўніка, які ні ў якім выпадку не павінен падаўляць сваім аўтарытэтам ініцыятыву вучняў.

У выніку гэтага вучоту на чацьвертай стадыі складаецца бюлютэнь вынікаў па сацспаборніцтве і вывешваецца ў клясах, школьным клюбе і на прадпрыемстве. Нам думаецца, што мэтазгодна спаборнічаючым школам абмяняцца гэтымі бюлетэнямі і вывесіць іх таксама на відным месцы.

Вынікі вучоту шырока асьвятляюцца ў насьценнай газэце школы, заводу альбо калгасу, а таксама насьценнай газэце школы з якой заключана спаборніцтва. Вынікі па сацспаборніцтве даводзяцца да ведама бацькоў праз пастаноўку спэцыяльнага дакладу аб сацспаборніцтве ў школе.

У працэсе гэтага вучоту намячаецца ўжо кола пытаньняў, якія павінны быць ахоплены новымі перазаключанымі дагаварамі.

### 3. Аб прэміраваньні, чырвоных і чорных дошках і барацьбе з ілжэ-ўдарнікамі.

Усім вядома, што частка (прэміраваньне, чырвоная дошка) гэтых пытаньняў ужываецца ў справе сацспаборніцтва сярод дарослых у тым выпадку, калі трэба адзначыць лепшых ударнікаў, іх адданую працу і сьвядомыя адносіны да апошняй. Другая частка гэтых пытаньняў ужываюцца ў тым выпадку, калі трэба адзначыць зрыўшчыкаў сацспаборніцтва, адзначыць ілжэўдарнікаў.

Усе гэтыя меры у тым і ў другім выпадку ужываюцца і ў справе сацспаборніцтва ў школе. І гэта ня глядзячы на тое, што ў літаратуры па сацспаборніцтве ў школе ў большасьці выпадках прэміраваньне ў школе ды іншыя меры зусім адхіляюцца.

Здавалася-б, што „левакі", якія ідэалізавалі дзяцей і атаесамлялі іх з дарослымі, павінны былі-б трымацца таго погляду, што прэміраваньне ў школе неабходна практыкаваць. У сапраўднасьці-ж, як гэта ні дзіўна, вельмі многія з „левакоў" выказваюць у літаратуры адваротны погляд, выказваюць той пункт гледжаньня, што прэміраваньне, ды інш. не павінна мець месца ў школе.

Так, напрыклад, у працы „левака" Осіпцава „Сельская школа и соцсоревнование" мы чытаем наступнае: „Нам думаецца, што ў пэдагагічна правільна арганізаваным сацспаборніцтве ніякім прызам і прэміям няма месца. Прэміяльнасьць абавязкова ўнясе моманты конкурэнцыі ў сацспаборніцтва. Прэміяльная сыстэма мае сваё права на існаваньне ў вытворчасьці, улічваючы склаўшуюся псыхалёгію дарослых. Але яму ня месца пры выхаваньні новага пакаленьня, якое павінна стварыць новыя, больш каштоўныя звычкі, думкі і дзеяньні".

Да гэтай-жа думкі далучаецца і змыкаючыся з „левакамі" праф. Медынскі. Нарэшце, Н. К. Крупская ў апошніх сваіх выступленьнях таксама адхіляла прэміраваньне і іншыя ўзнагароды сярод дзяцей. Колькасьць тэарэтыкаў-пэдагогаў можна было-б значна павялічыць, якія далучаюцца ў асноўным да выказаных думак па пытаньні прэміраваньня і іншых мер узьдзейнічаньня у справе сацспаборніцтва ў школе.

Цікава, што з гэтымі думкамі, разыходзяцца думкі актыву вучняў сярод якога праводзілася анкета па сацспаборніцтве. Амаль усе, запаўняўшыя анкету на пытаньне аб тым, патрэбна ці не—прэміраваць лепшых ударнікаў, адказалі станоўча, прыводзячы той матыў, што прэміраваныя яшчэ лепш, яшчэ больш актыўна прымаюць удзел у сацспаборніцтве, яшчэ лепш выконваюць свае абавязкі.

Чым тлумачыцца, што вучні выказаліся за прэміраваньне? Нам думаецца, тым, што на працягу некалькіх апошніх год прэміраваньне і іншыя ўзнагароды і меры ўзьдзейнічаньня мелі месца ў школе, і што, такім чынам вучні, запаўняўшыя анкету знаходзіліся відаць пад простым узьдзейнічаньнем гэтых фактаў.

Такім чынам, у гэтым выпадку мы маем разыходжаньне паміж тым, што гаварылася і гаворыцца ў літаратуры і тым, што робіцца практычна ў школах.

Зразумела, што такое становішча зьяўляецца ненармальным. Пакідаючы у баку пытаньне аб тым, як гэтае разыходжаньне тэарытычных разважаньняў з практыкай атрымалася, мы павінны даць адказ па сутнасьці ўсіх гэтых пытаньняў выказаць свае мяркаваньні.

Нам здаецца, што калі прэміраваньне мае свой сэнс сярод дарослых і выклікаецца там пэўнымі прычынамі, пэўнымі меркаваньнямі, то перанесеньне, (тым больш мэханічнае),прэміраваньня чорных дошак ды інш. у дзіцячае асяродзьдзе не выклікалася і не выклікаецца ніякімі, больш менш сур'ёзнымі прычынамі, больш менш сур'ёзнымі меркаваньнямі. Гэтую сваю думку паспрабуем ў далейшым абгрунтаваць. Для гэтага зусім неабходна зрабіць невялічкі экскурс і ўскрыць тыя матывы, якімі выклікаецца прэміраваньне, чырвоная дошка ды іншыя меры ўзьдзейнічаньня сярод дарослых, У чым жа заключаюцца гэтыя матывы? Матывы гэтыя заключаюцца ў тым, каб, па-першае, адзначыць адданыя і сьвядомыя адносіны да працы; па-другое, стымуляваць яшчэ лепшыя, больш узорныя

адносіны да працы ў далейшым; па-трэцяе, каб замацаваць гэтыя, паступова выпрацоўваемыя, сьвядомыя адносіны да працы, ператварыўшы з часам, пры разгорнутым камунізьме, у прывычку працаваць, пастолькі, паколькі дазваляюць яго здольнасьці, бяз усялякага прэміраваньня і ўзнагарод.

Апрача таго, прэміраваньне ды інш., разам з другімі момантамі выхаваўчага парадку, адыгрываюць вялікую ролю ў справе барацьбы з тымі звычкамі і разуменьнямі, якія стагодзямі прышчапляліся пралетарыяту і працоўным масам пануючымі эксплёататарскімі клясамі ў сваіх мэтах. З гэтага відаць, што прэміраваньне ды іншыя меры, маючыя месца ў справе сацспаборніцна, зьяўляецца не самамэтай, а толькі сродкам выхаваньня камуністычных адносін да працы, зьяўляюцца гістарычнымі катэгорыямі, якія маюць і павінны мець месца на пэўным гістарычным этапе.

Ці можам мы сьцьвярджаць, што гэтакімі матывамі і да іх падобнымі выклікаецца прэміраваньне ў справе сацспаборніцва сярод дзяцей?

Не, мы гэтага ні ў якім разе сьцьвярджаць ня можам. Ня можам сьцьвярджаць на той падставе, што дзіцячае асяродзьдзе якасна адрозьніваецца ад асяродзьдзя дарослых. А паколькі гэта так, дык і прышчапленьне дзецям і падлеткам камуністычных адносін да вучобы і грамадзка-вытворчай працы павінна мець іншыя формы і весьціся іншымі мэтадамі, чым гэта сярод дарослых.

Зразумела, што задача „з маладых год, з дванаццаці год“ (Ленін), прышчапляць сьвядомыя камуністычныя адносіны да вучобы і грамадзка-вытворчай працы зусім не здымаецца. Але гэта зусім не азначае таго, што ў мэтах выпрацоўкі гэтых якасьцяй, у лік іншых фактараў выхаваньне дзяцей і падлеткаў абавязкова неабходна ўключыць прэміраваньне ды іншыя меры.

Нам думаецца, што ў спараве камуністычнага выхаваньня, у справе разгортваньня сацспаборніцтва ў школе, бяз гэтых фактараў (прэміраваньня, чорных дошак і г. д.) упаўне магчыма абыйсьціся, што ў іх няма ніякай патрэбы, што, нарэшце, усё гэта можа замяніць сабою добрая арганізацыя сацспаборніцва ў школе і правільнае жывое кіраўніцтва ім.

Нам здаецца, што выхаваньне камуністычных адносін да вучобы і грамадзка-вытворчай працы, зьяўляецца справай працяжнага плянамернага, клясава накіраванага выхаваньня, справай добрай арганізацыі пэдагічнага працэсу ў школе, справай мэтодыкі выкладаньня, справай пастаноўкі працы ў школе, такім чынам, каб яна заўсёды зьяўлялася для вучняў цікавай, іх захапляючай. І на аснове ўсяго гэтага, бяз прэміраваньня, чорных дошак ды інш., мы зможам дасягнуць мэты, зможам выхаваць сьвядомых будаўнікоў сацыялізму і барацьбітоў-рэвалюцыянэраў за сусьветны камунізм, зможам выхаваць сьвядомыя адносіны да вучобы і грамадзка-вытворчай працы, зможам залажыць такі фундамэнт, які застанецца непарушным на ўсе жыцьцё, ператварыўшыся у фактар „па прывычцы працаваць“ (Ленін). Можна яшчэ прывесьці пару матываў у абарону нашае думкі супроць прэміраваньня дзяцей.

Мне здаецца, што, хто задумваўся над мэтазгоднасьцю ўжываньня прэміраваньня ў школе, той са мной згодзіцца, што гэта прэміраваньне, чорная дошка ды інш., у адносінах да дзяцей тоіць у сабе небясьпечныя моманты, выклікае шэраг непаразуменьняў сярод дзяцей.

Небясьпечныя моманты, якія тоіць у сябе прэміраваньне і іншыя меры, заключаецца ў тым, што яно, асабліва пры неправільным падыходзе да яго, можа выхоўваць у дзецях індывідуалізм, замест пачуцьцяў калектывізму, эгаізм, імкненьне абы хутчэй, абы лепш зрабіць, сваю працу, сваё заданьне і атрымаць прэмію, не зварачваючы ніякай увагі на дапамогу таварышом, не адчуваючы адказнасьці за працу і дзеяньне ўсяго калектыву цалкам. Падмацаваньне гэтаму мы знаходзім у адказах вучняў, запаўняўшых анкету па сацспаборніцтве, дзе якраз і разумеецца сацспаборніцтва, такім чынам, абы хутчэй і лепш выканаць толькі свае абавязкі, сваю працу.

У заключэньне два словы адносна тых непаразуменьняў, якія мелі месца ў школах у сувязі з прэміраваньнем і чорнымі дошкамі.

Што гэта за непаразуменьні?

Сутнасьць непаразуменьняў гэтых заключаецца ў тым, што ў шмат якіх выпадках зараз-жа пасьля прэміраваньня прэміраваныя вучні пабіваліся не прэміраванымі, і толькі за тое, што яны прэміраваны. Не прэміраваныя тыкалі пальцамі ў прэміраваных, ня давалі ім праходу, нават і ў тых выпадках, калі самі вучні, з захаваньнем шырокай дэмакратыі, высоўвалі лепшых ударнікаў для прэміраваньня,

Нам думаецца, што ў сучасны момант трэба накіроўваць сваю ўвагу не на прэміраваньне ды інш. у справе сацспаборніцтва у школе, а на як мага лепшую арганізацыю сацспаборніцтва ў школе, мінуючы прэміраваньне ды інш., на як мага лепшую арганізацыю працы ў школе, на актывізацыю мэтадаў выкладаньня. на моцнае засваеньне асноў навук.

Аб формах і мэтадах барацьбы з ілжэ-ўдарнікамі пагутарым у наступным разьдзеле.

## I. Хто арганізоўвае сацспаборніцтва ў школе і ім кіруе

Пытаньне арганізацыі і кіраўніцтва сацыялістычным спаборніцтвам у школе. зьяўляецца надзвычайна вялікім, складаным і надзвычайна важным.

Тым ня менш, ня гледзячы на сваё вялікае значэньне гэта пытаньне да гэтага часу не атрымала яскравасьці і свайго вырашэньня. Больш таго, на мінулым этапе ў пытаньні кіраўніцтва сацспаборніцтвам у школе, мы мелі шэраг скажэньняў.

Так, напрыклад, правыя апартуністыя ў пэдагогіцы выказвалі няўпэўненасьць у здольнасьці дзіцячага самакіраўніцтва—весьці арганізацыйна-выхаваўчую працу сярод усёй масы вучняў. Правыя апартуністыя выказвалі нявер'е ў здольнасьці дзяцей арганізоўваць сацспаборніцтва і ім кіраваць.

Дзіцячая самаарганізацыя ў разуменьні правых ёсьць ня што іншае, як толькі шырма, прыкрываючыся якой, сацспаборніцтва арганізоўвае і ім кіруе, ігнаруючы дзяцей, фактычна настаўнік.

У „левакоў" і блізкіх да іх (праф. Медынскі) пытаньне кіраўніцтва сацспаборніцтвам у школе вырашалася зусім няправільна, часамі яшчэ больш заблытвалася. У трактоўцы „левакамі" (Осіпцаў) і блізкімі да іх (Медынскі) пытаньня кіраўніцтва сацспаборніцтвам у школе атрымлівалася, што ім кіравалі усе каму хочацца, толькі не настаўнік. Апошні стаяў у баку ў якасьці пасыўнага наглядальніка. Так, у працах праф. Медынскага мы знаходзім такую ўстаноўку, што „кіраўніцтва сацспаборніцтвам у школе павінна знаходзіцца, так як гэта і на прадпрыемствах, у руках прафсаюзных органаў" (Зборнік „Сацспаборніцтва ў школе", стар. 91).

Гэтая ўстаноўка праф. Медынскага зьяўляецца зусім няправільнай, жыва нагадваючы тэорыю „адміраньня школы", выказваньні т. Шульгіна аб тым, што выхоўваюць прафсаюзы—„усе і ніхто", што настаўнік рашчыняецца ў гэтай агульнай масе выхавацеляў, робіцца ня прыкметным, і, нарэшце, як фіміам зьнікае зусім. У другім месцы праф. Медынскі, разьвіваючы гэтую сваю думку, падкрэсьлівае, што прафсаюзныя органы (мясцком, групком) кіруючы сацспаборніцтвам у школе толькі прыцягваюць да кіраўніцтва сацспаборніцтвам дзіцячую самаарганізацыю, піянэрарганізацыю, камсамол. Гутарка, як бачыце, ідзе не аб актыўным удзеле ў кіраўніцтве сацспаборніцтвам, з боку вучкому, піянэраў і камсамолу, а толькі аб прыцягваньні, сякой-такой дапамогі з іх боку. Настаўнік таксама ў праф. Медынскага выпадае. Нам думаецца, што правільная пастаноўка гэтага пытаньня павінна заключацца якраз у адваротным, а менавіта: непасрэднае кіраўніцтва сацпаборніцтвам у школе з боку вучкому, піянэрарганізацыі, камсамольскай ячэйкі і настаўніка, і, нарэшце, магчымая дапамога і садзейнічаньне з боку прафсаюзных арганізацый.

Правільна, што прафсаюзныя арганізацыі ня могуць і не павінны зусім стаяць у баку ад сацспаборніцтва ў школе, зусім ня цікавіцца ходам сацспаборніцтва ў школе ужо па адным тым, што сацспаборніцтвам у школе кіруе настаў-

нік, адказвае, за правільную пастаноўку сацспаборніцтва ў школе.

А паколькі гэта так, то прафсаюзная арганізацыя ня можа ня цікавіцца тым, як гэтай справай кіруе настаўнік, які зьяўляецца сябрам прафсаюзнай арганізацыі, ня можа не аказваць усялякага садзейнічаньня. Але адгэтуль ні ў якім выпадку нельга рабіць той вывад, які робіць праф. Медынскі, што прафсаюзныя органы непасрэдна кіруюць сацспаборніцтвам у школе, затушоўваючы і адсоўваючы на задні плян кіраўніцтва сацспаборніцтвам з боку вучкому, піянэрарганізацыі, настаўніка і камсамолу.

Праф. Медынскі спрабуе мэханічна перанесьці сацспаборніцтва сярод дарослых у дзіцячае асяродзьдзе, бяз вучоту спэцыфікі гэтага асяродзьдзя, не даацэньвае ролю настаўніка і дзіцячых арганізацый у справе кіраўніцтва сацспаборніцтвам у школе,

Далей „лявак“ Осіпцаў у сваёй працы „Сельская школа и соцсоревнование“ дае такую ўстаноўку па гэтым пытаньні, што зусім выпадае настаўнік. На стар 70 гэтай сваей працы т. Осіпцаў піша наступнае: „для школы ня трэба арганізоўваць якіх-бы там ні было штабаў спаборніцтва—гэта справа піянэрскіх і дзіцячых арганізацый. Яны павінны арганізоўваць і праводзіць гэту работу“. Адносна настаўніка і яго кіруючай і вядучай ролі, як бачыце, „лявак“ Осіпцаў зусім нічога не гаворыць. Арганізоўваюць, праводзяць і кіруюць сацспаборніцтвам толькі піянэрарганізацыя і дзіцячая самаарганізацыя. Грубейшая памылка т. Осіпцава заключаецца ў тым, што ён пераацэньвае дзіцячыя сілы не даацэньвае ролю і значэньне настаўніка ў справе арганізацыі і правядзеньня сацспаборніцва ў школе.

Осіпцаў не разумее таго, што настаўнік, прыкрываючыся гэтай апартуністычнай устаноўкай, мог стаяць у баку ад сацспаборніцтва.

З нашых крытычных папярэдніх заўваг у адносінах тых памылак, якія былі дапушчаны праф. Медынскім, Осіпцавым ды іншымі ў трактоўцы пытаньняў кіраўніцтва сацспаборніцтвам у школе, ужо вынікае, што да гэтага пытаньня мае адносіны шмат арганізацый, маючых месца ў школе, альбо толькі тыя або іншыя адносіны да школы. Такімі арганізацыямі зьяўляюцца: вучком, піянэрарганізацыя, камсамольская арганізацыя, настаўнік і нарэшце, у вядомай ступені, прафсаюзныя арганізацыі. Але было-б вялікай памылкай абмяжавацца толькі тым, што пералічыць тыя арганізацыі, якія маюць тое або іншае дачыненьне да арганізацыі сацспаборніцтва ў школе і кіраўніцтва ім. Гэта практычна настаўніку, зразумела, нічога б не дало. Там, дзе кіруюць усе, бяз усялякага разьмежаваньня, справа фактычна зводзіцца да таго, што ніхто ня кіруе. А такая неразьбярыха, абязьлічка, нам думаецца і зараз яшчэ мае месца ў школах. Так, напрыклад, у гутарцы з кіраўніцай піянэрскай базай пры 3-й Макоўскай ФЗС высьветлілася, што гэта кіраўніца яшчэ і зараз разумее суадносіны паміж арганізацыямі ў справе кіраўніцтва і арганізацыі сацспаборніцтва ў школе, такім чынам, што сацспаборніцтвам у школе кіруюць усе разам: піянэрарганізацыя, вучком, настаўнік і г. д. і што паміж гэтымі арганізаціямі ніякага разьмяжаваньняняма і ня можа быць. „Кіруем усе разам“—гэтак яна аўтарытэтна адказала ў заключэньне гутаркі. У выніку вось гэтакага кіраўніцтва—„усе і ніхто,“ мы маем у гэтай школе шмат недахопаў па сацспаборніцтве. І, відаць, зусім не выпадкова, што значная частка вучнёўскага актыву, сярод якога праводзілася анкета па сацспаборніцтве, па рознаму скардзілася на дрэннае кіраўніцтва сацспаборніцтвам у школе. Некаторыя з іх казалі аб тым, што брыгады заключаюць дагавары, але не выконваюць іх. Некаторыя адказвалі ў анкеце яшчэ прасьцей, што сацспаборніцтва „на словах маецца, а на справе яго няма“. А некаторыя адказвалі, што праца брыгад пасьля таго як разгарнулі сацспаборніцтва ў школе пагоршылася, і ставілі гэта ў сувязь з тым, што ня было належнага кіраўніцтва сацспаборніцтвам ў школе.

Усе гэтыя адказы, калі ня проста, дык ускосна, гавораць аб тым, што з кіраўніцтвам сацспаборніцтвам у школе далёка ня ўсё ў парадку. Трэба-ж зразумець, што пры больш правільным, выразным,

дыфіранцыяваным кіраўніцтве (дыфіранцыяваным у тым сэнсе, што кожная з арганізацый ведае сваю ўдзельную вагу ў справе кіраўніцтва сацспаборніцтвам) сацспаборніцтвам у школе можна было-б калі ня ўсіх, дык значнай часткі недахопаў на якія скардзяцца вучні, унікнуць.

У гэтым пытаньні патрэбна яснасьць, патрэбна казаць не аб тым, што ўсе арганізоўваюць і кіруюць сацспаборніцтвам, а патрэбна ясна і акрэсьлена вызначыць, што кожная з гэтых арганізацый робіць у справе кіраўніцтва сацспаборніцтвам. Гэту задачу у далейшым мы і папрабуем разьвязаць.

Хто-ж арганізоўвае і праводзіць сацспаборніцтва ў школе? Непасрэдна гэтай справай займаецца вучком. Але адказнасьць за арганізацыю і правядзеньне сацспаборніцтва ў школе нясе ня толькі вучком, але і настаўнік, і загадчык школы, у першую чаргу апошнія.

Адгэтуль з неабходнасьцю вынікае тое становішча, што ўся праца вучкому і групкомаў павінна працякаць пад непасрэдным кіраўніцтвам прымацаваных настаўнікаў як да вучкому, так і групкомаў. Але кіруючы сацыялістычным спаборніцтвам праз вучком і групкомы настаўнік ні ў якім выпадку не павінен сваім аўтарытэтам падаўляць ініцыятыву саміх вучняў, наадварот, настаўнік павінен усялякімі мерамі садзейнічаць праяўленьню творчай ініцыятывы з боку вучняў, кіруючы гэтай ініцыятывай і накіроўваючы яе ў належнае рэчышча. Піянэрская і камсамольскія арганізацыі, таксама прымаючы актыўны ўдзел у сацспаборніцтве ня толькі дапамагаюць вучкому і групкомам, але ў шчыльным кантакце з настаўнікам, кіруюць сацспаборніцтвам праз піянэраў і камсамольцаў, непасрэдна працуючых ў органах дзіцячага самакіраўніцтва.

Гаворачы аб непасрэдным кіраўніцтве сацспаборніцтвам з боку вучкому, ня трэба, зразумела, гэту справу ідэалізаваць і зачыняць вочы на тое становішча, што самі члены вучкому і члены групкомаў—гэтыя жывыя канкрэтныя кіраўнікі—самі маюць патрэбу ў кіраўніцтве і растлумачэньні ім сутнасьці і значэньня сацыялістычнага спаборніцтва ў разуменьні У. І. Леніна і т. Сталіна. Бо бяз гэтага зусім правільнага разуменьня, немагчыма і кіраваць спаборніцтвам у школе. І аб тым, што сярод не наогул дзяцей—школьнікаў, а менавіта сярод членаў вучкому і актыву груп значная частка не разьбіраецца ў сутнасьці сацспаборніцтва, паказваюць вынікі анкеты па сацспаборніцтве.

Толькі 60 проц. актыву адказала, праўда вельмі коратка, прымітыўна, але ў асноўным правільна на пытаньне аб тым, што такое сацспаборніцтва.

40 проц. актыву адказала на гэта запытаньне няправільна альбо страшэнна блытана. Прывядзем толькі некалькі адказаў. Першы адказ: „Я пад сацспаборніцтвам разумею ўдарніцтва на лепшае спаборніцтва паміж групамі і асобамі"; другі адказ: „сацспаборніцтва гэта спаборніцтва ў сацыялістычным будаўніцтве, г. зн. хто хутчэй і лепш пабудуе сваю галіну ў сацыяльным сьвеце". Вельмі многія, судзячы па адказах, разумеюць сацспаборніцтва як мэтад, які дае магчымасьць таму або іншаму паасобнаму вучню выканаць толькі свае абавязкі і пры гэтым выканаць іх як мага хутчэй, як мага лепш. Так, некаторыя з ліку запаўняўшых анкету адказвалі: „Сацспаборніцтва—рэкорд на лепшае выкананьне ўскладзеных на мяне задач". А вось другі адказ, амаль аналёгічны: „Я разумею так, што сацспаборніцтва—рэкорд на лепшае выкананьне сваіх абавязкаў". Гэтакіх і падобных да іх адказаў маецца вялікая колькасьць.

Такое няправільнае разуменьне сутнасьці спаборніцтва непасрэдна арганізуючымі і праводзячымі яго ў школе, гаворыць аб тым, што на настаўніка у першую чаргу ускладаецца вялікая адказнасьць ня толькі за кіраўніцтва спаборніцтвам, але і за растлумачэньне школьнікам, перш за ўсё актыву, сутнасьці сацспаборніцтва ў разуменьні У.І. Леніна і т. Сталіна.

Адпраўным момантам вучкому ў справе арганізацыі сацспаборніцтва ў школе павінна быць устаноўка, якая дадзена ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе, дзе яскрава гаворыцца аб тым, што асноўнай задачай дзіцячай самаарганізацыі зьяўляецца барацьба

„за якасьць вучобы і ўмацаваньне сьвядомай дысцыпліны ў школе“. Гэтыя два моманты ні на адну хвіліну не павінны забывацца вучкомам пры разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва ў школе. Барацьба за якасьць вучобы і ўмацаваньне сьвядомай дысцыпліны павінны знайсьці свой адбітак ува ўсіх дагаварох па сацспаборніцтве ў школе.

Пасьля гэтых агульных установак і паасобных заўваг, пяройдзем да разгляду той канкрэтнай працы, якую вучком ды іншыя арганізацыі павінны непасрэдна праводзіць сацспаборніцтва ў школе.

Пачнем з вучкому, гэтага непасрэднага арганізатара і кіраўніка сацспаборніцтвам у школе. Мы вельмі часта, гаворачы аб сацспаборніцтве ў школе, забываем словы У.І. Леніна аб тым, што сацспаборніцтва не зьяўляецца чымсьці такім, што само па сабе прыходзіць, а што яго перш за ўсё трэба арганізаваць. Адгэтуль першая задача, якую ставіць перад сабой вучком,—гэта арганізаваць сацспаборніцтва ў школе.

Нам думаецца, што мэтазгодней за ўсё пачаць арганізацыю сацспаборніцтва ў школе, як гэта мы і раней адзначалі, з падрыхтоўкі грамадзкай думкі сярод вучняў аб важнасьці і неабходнасьці спаборніцтва ў школе.

Пажадана, каб з гэтай мэтай вучком правёў-наступнае:

а) арганізаваў і правёў-бы агульна школьны сход вучняў і запрасіў на гэта сход прадстаўніка заводу, калі да апошняга школа прымацавана, альбо прадстаўніка калгасу, калі ідзе гутарка аб школе, прымацаванай да калгасу. Запрашаюцца гэтыя прадстаўнікі з тэй мэтай, каб яны на агульным сходзе вучняў расказалі дзецям аб ходзе сацспаборніцтва на заводзе або ў калгасе.

б) Адначасна з гэтым вучком клапоціцца аб тым, каб былі-бы напісаны і вывешаны лёзунгі, растлумачваючыя дзецям сутнасьць і значэньне сацспаборніцтва, заклікаючыя да ўдзелу ў сацспаборніцтве, мабілізуючы іх увагу і актыўнасьць навакол пытаньняў сацспаборніцтва ў школе.

в) Нарэшце, вучком зьбірае і вывешвае ў школьным клюбе партрэты лепшых ударнікаў заводу. Над партрэтамі кожнага ўдарніка абазначаецца вялікімі літарамі, чаму той або іншы ўдарнік, менавіта, зьяўляецца гэтакім.

Вось у асноўным да чаго можа быць зьведзена праца па мабілізацыі грамадзкай думкі вучняў навакол пытаньняў сацспаборніцтва ў школе.

Далейшая праца і турботы вучкому заключаюцца ў тым, што ён сочыць за тым, каб сацспаборніцтвам была ахоплена максымальная колькасьць вучняў школы альбо вучняў паасобных канцэнтраў, калі гутарка ідзе аб ФЗС і ШКМ. З гэтай мэтаю вучком праводзіць масавую растлумачальную працу сярод вучняў аб сутнасьці і значэньні сацспаборніцтва, у моц сваіх сіл і ведаў. Вучком даводзіць дзецям неабходнасьць прымаць удзел у спаборніцтве.

Вучком клапоціцца і аб тым, каб сацспаборніцтвам было ахоплена, апрача асноўных вядучых пытаньняў (барацьба за якасьць вучобы і ўмацаваньне сьвядомай дысцыпліны) па магчымасьці усе іншыя пытаньні і вучасткі працы школы. З гэтай мэтаю вучком кожны раз напярэдадні перазаключэньня дагавароў праводзіць спэцыяльныя нарады прадстаўнікоў групкомаў і старэйшых брыгадзіраў, дзе і даецца ўстаноўка адносна каля пытаньняў, якія павінны быць ахоплены сацдагаварамі.

Вучком арганізоўвае і праводзіць працу па растлумачэньні кожнаму вучню кожнага пункту, які ўвахозіць у брыгадны, групавы або агульна-школьны дагавары. Вучком сочыць за тым, каб усе гэтыя сацдагавары былі ў пісьмовым выглядзе і былі вывешаны на відных мясцох — у клясе, школьным клюбе, у сталоўцы.

Арганізоўваючы і кіруючы сацспаборніцтвам у школе, вучком у працэсе ўсяго гэтага высьвятляе паасобныя дасягненьні і недахопы ў працы брыгад і груп. З гэтай мэтай ён пільна сочыць за ходам спаборніцтва ў школе, праводзіць бягучую штомесячную і за чвэрць году праверку дагавароў, арганізоўвае і праводзіць зьлёты ўдарнікаў, заслухоўвае кароткія справаздачы—на пленуме вучкому, старэйшых брыгадзіраў і стараст груп аб ходзе сацспаборніцва. Вынікі праверкі сацдагавораў шырака асьвятляюцца ў насьценнай газэце.

У працэсе праверкі ходу сацспаборніцтва вучком выяўляе лепшых ударнікаў, а таксама і ілжэўдарнікаў. Прозьвішчы лепшых ударнікаў кожны раз адзначаюцца на агульных сходах у насьценнай газэце, на агульных сходах бацькоў.

Называючы прозьвішчы лепшых ударнікаў—вучняў, заўсёды адзначаецца тая канкрэтная праца, якая імі праароблена і якая дае права абвясьціць іх лепшымі ўдарнікамі.

Разам з гэтым вучком вядзе барацьбу і з ілжэўдарнікамі. Вядзецца гэта барацьба шляхам абвяшчэньня іх ілжэўдарнікамі, з указаньнем за што менавіта, на агульных сходах вучняў і сходах бацькоў. У мэтах барацьбы з ілжэўдарнікамі шырака скарыстоўваецца насьценная газэта. У апошняй друкуюцца прозьвішчы ілжэўдарнікаў, растлумачваецца тая шкода, якая прыносіцца ілжэўдарнікамі, зрываючымі пляны працы, парушаючы школьную дысцыпліну.

Вучком і саветы пад кіраўніцтвам настаўнікаў груп наладжваюць і праводзяць бягучы, штомесячны і заключны (па чвэртках году) вучот па сацспаборніцтве. З гэтай мэтай вучком сочыць за тым, каб кожная брыгада альбо група мелі спэцыяльныя сшыткі, дзе адзначаліся-б дадзеныя аб ходзе сацспаборніцтва.

У гэтых сшытках павінны адзначацца колькасьныя і якасныя паказчыкі выкананьня акрэсьленай той або іншай працы. Перад кожным месячным і заключным вучотам вучком праводзіць спэцыяльныя нарады брыгадзіраў і стараст груп, дзе дагаварваюцца аб формах і мэтадах правядзеньня вучоту, дамаўляюцца аб асноўных паказчыках, а таксама і тэрмінах правядзеньня месячага і заключнага вучотаў. Уся гэта арганізацыйная праца, як і самы вучот, праводзіцца з непасрэдным удзелам настаўніка і пад непасрэдным кіраўніцтвам апошняга.

Пасьля падвядзеньня вынікаў па сацспаборніцтве вучкомам складаюцца як агульна школьны, так і па паасобных групах бюлетэні, якія вывешваюцца ў клюбе і клясах.

Зараз некалькі слоў аб працы і ролі піянэраў і камсамольцаў.

Роля піянэраў у школе наогул і ў прыватнасьці роля піянэраў у сацспаборніцтве вызначана пастановай ЦК УсеКП(б) аб працы піянэрарганізацыі. У гэтай пастанове гаворыцца *аб тым*, што „кожны піянэр“ усюды ў школе, у сям'і, на вуліцы, у піянэр клюбе, у піянэр-лягэрах і г. д. быў-бы сапраўды „усім дзецям прыклад“.

Адгэтуль вынікае, што піянэры-школьнікі перш за ўсё прымаюць актыўны ўдзел ува ўсёй працы школы, і ў прыватнасьці яны прымаюць актыўны і дзейны ўдзел у сацспаборніцтве ў школе. Даюць лепшыя ўзоры па выкананьні ўскладзеных на іх абавязкаў, як па вучобе, гэтак і па грамадзка-вытворчай працы.

Піянэры, прымаючы актыўны ўдзел у сацыялістычным спаборніцтве, растлумачваюць школьнікам—не піянэрам сутнасьць і значэньне апошняга, даводзяць неабходнасьць прымаць удзел у сацспаборніцтве.

Але было-б вялікай палітычнай памылкай толькі гэтым абмяжаваць ролю піянэраў, а тым больш піянэр-арганізацыі цалкам. Піянэр-арганізацыя на аснове актыўнага ўдзелу піянэраў у сацспаборніцтве кіруе апошнім у школе. Ажыцьцяўляецца кіраўніцтва гэта праз працуючых піянэраў у органах самакіраўніцтва. З гэтай мэтай Савет атраду штомесячна заслухоўвае кароткія справаздачы піянэраў, працуючых у органах самакіраўніцтва, і дае ім дырэктывы ў іх далейшай працы. Апрача таго, піянэрарганізацыя цікавіцца і тым, як актыўна ўдзельнічаюць у сацспаборніцтве ўсе іншыя піянэры, наколькі яны сваім асабістым удзелам у сацспаборніцтве паказваюць прыклад усім дзецям.

Што-ж датычыцца камсамольцаў, дык апошнія таксама перш за ўсё прымаюць актыўны і дзейны ўдзел у сацспаборніцтве у школе. Растлумачваюцца сутнасьць і значэньне спаборніцтва школьнікам і піянэр-школьнікам. Камсамольская-ж арганізацыя ў цэлым (ячэйка) кіруе сацспаборніцтвам у школе. Кіраўніцтва гэта ажыцьцяўляецца праз камсамольцаў, прымацаваных да вучкому і іншых арганізацый самакіраўніцтва,

шляхам заслухоўваньня справаздач аб іх асабістай працы і кіраўніцтва сацспаборніцтвам у школе.

Пераходзім да пытаньня аб ролі настаўніка ў сацспаборніцтве.

Роля настаўніка вялікая і адказная.

Нам думаецца, што больш правільна будзе казаць аб ролі не аднаго-двух, прымацаваных настаўнікаў, а аб ролі ўсіх настаўнікаў, з націскам на прымацаваных і загадчыка школай. У самой справе, хіба справа толькі аднаго прымацаванага настаўніка да вучкому альбо прымацаваных настаўнікаў да групкомаў ратлумачваць сутнасьць і значэньне сацспаборніцтва ў разуменьні Леніна і т. Сталіна? Зразумела, што не. Зразумела, што гэта справа ўсіх настаўнікаў, растлумачыць сутнасьць і значэньне сацспаборніцтва ў працэсе прапрацоўкі праграм па сваіх галінах альбо групах, або калі ідзе гутарка аб пачатковай школе аб 1-м канцэнтры ФЗС і ШКМ.

Справа-ж прымацаваных настаўнікаў да вучкому або групкомаў дадаткова і больш паглыблена растлумачваць сутнасьць і значэньне сацспаборніцтва.

Такая дадатковая, растлумачальная праца сутнасьці спаборніцтва, сярод гэтых актывістаў патрэбна, нам думаецца для таго, каб гэтыя арганізатары і кіраўнікі сацспаборніцтвам у школе маглі-б займацца гэтай справай больш пасьпяхова.

Вялікая і адказная роля настаўніка па лініі практычнай дапамогі вучкому, групкомам і брыгадзірам у справе складаньня дагавароў, падбору пытаньняў, іх чоткая, ясная, зусім зразумелая для дзяцей формулёўка тэхнічнага афармленьня гэтых дагавораў.

Ня менш адказная роля настаўніка ў справе праверкі ходу сацспаборніцтва, пэрыядычнага і заключнага вучоту вынікаў сацспаборніцтва ў справе асьвятленьня вынікаў у насьценнай газэце і давядзеньня вынікаў сацспаборніцтва да шырокай грамадзказьці, рабочых і калгасьнікаў.

Падкрэсьліваем яшчэ раз, што настаўнік дапамагаючы вучкому і кіруючы сацспаборніцтвам у школе, павінен забясьпечыць актыўнасьць, творчаю ініцыятыву і самадзейнасьць з боку саміх вучняў, каб дзеці бачылі і адчувалі, што яны, пад дзейным кіраўніцтвам настаўніка, самі выпрацоўваюць дагавары іх тэхнічна афармляюць, правераюць, праводзяць вучот, змагаюцца з ілжэўдарнікамі.

Вельмі часта настаўнік ва ўсіх гэтых пытаньнях ідзе па лініі самага найменшага супраціўленьня: выцрацоўваецца габінэтным парадкам тэкст дагавору, прыкладна, паміж групамі альбо брыгадамі, а потым тэкст прыпадносіцца вучням з прапановай яго прыняць і падпісаць, і на гэтым справа канчаецца. Гэта куды прасьцей і лягчэй зрабіць, чым загадзя прадумаць тэкст дагавору, а потым разам з брыгадай, альбо групкомам, або з вучкомам, (калі гутарка, ідзе аб агульна-школьным дагаворы) разам абгаварваючы, абдумваючы калектыўна кожны пункт, нарэшце, намеціць тэкст дагавору, а потым яшчэ раз абсудзіўшы на агульным сходзе вучняў брыгады, групы, усёй школы—у залежнасьці ад таго, аб якім дагаворы ідзе гутарка, і толькі пасьля гэтага ўсяго яго прыняць і ўрачыста падпісаць.

Вось, пры такой пастаноўцы атрымалася-б, што вучні змаглі-б прадумаць кожны пункт дагавору, зразумелі-б яго сутнасьць, прасякнуліся-б адказнасьцю за выкананьне гэтага дагавору, паколькі яны-б адчувалі, што самі выпрацоўвалі яго, самі прымалі, самі зацьверджалі. Усё разам узятае мабілізавала-б вучняў для актыўнага выкананьня такога дагавору.

Тады-б не атрымалася ўражаньня ў вучняў, што ім навязваецца спаборніцтва зьверху і замацоўваецца пісьмовымі дагаварамі, дадзенымі ім у гатовым выглядзе.

В. М. Лотвіна

## Да пытаньня аб электрычнасьці ў 4-ай клясе савецкай палітэхнічнай школы

Уладзімер Ільліч Ленін у прадмове да кнігі Сьцяпанава „Электрыфікацыя РСФСР у сувязі з пераходнай фазай сусьветнай гаспадаркі“ піша аб значэньні кожнай электрычнай станцыі для прапаганды пляну электрыфікацыі наступнае: „трэба дамагацца, і мы даб'ёмся, таго, каб пры кожнай электрычнай станцыі ў Расіі (а іх больш 800) ня толькі была гэта кніга, але каб абавязкова ўтваралі агульна-даступныя народныя чытаньні аб электрычнасьці і аб электрыфікацыі РСФСР і аб тэхніцы наогул; каб кожны народны настаўнік у кожнай школе прачытаў, засвоіў гэты падручнік і ня толькі прачытаў, зразумеў і засвоіў сам, але змог-бы пераказваць гэта проста і зразумела вучням школы“ (Збор твораў т. Леніна, т. XXV, стар. 195-196).

Зусім яскравым і зразумелым будзе для нас, чаму т. Ленін аддаваў столькі ўвагі прапагандзе ідэі электрафікацыі, калі ўлічым тое значэньне, якое ён прыдаваў ёй як аснове сацыялістычнага будаўніцтва: „толькі тады ,калі пад прамысловасьць, сельскую гаспадарку і транспарт будзе падведзена тэхнічная база сучаснай буйнай прамысловасьці, толькі тады мы пераможам канчаткова.“

На III зьезьдзе камсамолу ў 1920 г. т. Ленін гаварыў: „Вы надта добра самі разумееце, што да электрыфікацыі няпісьменныя людзі не падыйдуць, і мала тут аднэй звычайнай пісьменнасьці. Тут недастаткова разумець, што такое электрычнасьць, трэба ведаць, як тэхнічна скарыстаць яе ў прамысловасьці, у земляробстве і ў асноўных галінах іх. Трэба навучыцца самім, трэба навучыць гэтаму ўсё падрастаючае працоўнае насельніцтва“. (Збор твораў, т.XVII, стар 319).

Аднэй з асноўных задач палітэхнізацыі зьяўляецца азнаямленьне з электрыфікацыяй, з электратэхнікай. У пастанове ЦК ЎсеКП(б) „Аб пачатковай і сярэдняй школе“ ад 5-га верасьня „прыводзяцца нататкі У. І. Леніна на тэзісы Крупскай, дзе ён піша аб задачах школ: „Нам патрэбны сталяры, сьлесары, зараз-жа. Бязумоўна, ня ўсе павінны стаць сталярамі, сьлесарамі і г. д., але з такім-та дадаткам агульна-адукацыйнага і палітэхнічнага мінімума“. „Задача школ II ступені (12-17) альбо вышэйшых клясаў II ступені—даць цалкам ведаючага сваю справу, цалкам здольнага стаць майстрам і замяніць практычна-падрыхтаванага да гэтага сталяра, плотніка, сьлесара і г. д. з тым, каб гэты „рамесьнік“ меў шырокую агульную адукацыю (ведаў мінімум асноў такіх-та і такіх-та навук, адзначыўшы дакладна якіх), быў камуністам (адзначыць, што павінен ведаць), і меў палітэхнічны кругавід і пачаткі, асновы палітэхнічнай адукацыі. Імення: а) асноўнае ўяўленьне аб электрычнасьці (пэўна адзначыць якое; б) аб ужываньні электрычнасьці ў механічнай прамысловасьці; в) таксама-у хэмічнай; г) таксама аб пляне электрыфікацыі РСФСР; д) наведаў ня менш 1-3 раз электрычную станцыю, завод, саўгас; е) ведаў такія-та асновы агранаміі і г. д., распрацаваў дэталёва мінімум ведаў“.

Праграма Наркамасьветы БССР па палітэхнічна-вытворчым навучаньні для 4-й клясы прадугледжвае знаёмства з электрычнасьцю, здабываньнем току ад дынамо-машыны і элемэнтаў, знаёмства з электрамагнітамі; веды пабудовы прасьцейшых гальвано-элемэнтаў, бата-

рэі элемэнтаў. З навыкаў намечана ўмець сабраць просты элемэнт, умець злучаць элемэнты пасьлядоўна і роўналегла, умець зрабіць званковую праводку. Акрамя гэтага, прапануецца элемэнтарнае азнаямленьне з праводкай электрычнага асьвятленьня (провад, штэпсэль, выключацель, патрон, лямпачкі, забясьпечная пробка).

Пажадана агульнае знаёмства з тэлеграфам і тэлефонам. Каб даць больш шырокае ўяўленьне аб крыніцы электрычнасьці, раіцца экскурсія на электрастанцыю. Як падагульняючы вынік, тэма: „Чаму мы імкнемся да электрыфікацыі."

Сярод некаторай часткі настаўніцтва існуюць погляды супроць гэтага раздзелу праграмы.

Як матыў яны высоўваюць цяжкасьць, недаступнасьць разуменьня для вучняў 4-й клясы. Практыка работы школ разбурае гэтае мяркаваньне. Пры гутарках аказваецца, што вучні ня толькі 4-й, а нават і 3-й клясы вельмі цікавяцца пытаньнямі электрычнасьці і ня толькі цікавяцца, але ведаюць што-кольвек, умеюць рабіць прымітыўныя працы па электратэхніцы. Так вучні 25-й Менскай ФЗС зрабілі ў рабочым пакоі мадэль тэлеграфа Морзэ, на дошцы зрабілі званковую праводку і некаторыя іншыя мантажныя працы.

Наша праца ўяўляе сабе першую спробу падагуліць веды, якія маюцца ў вучняў 4-й клясы (некаторых школ) па электрычнасьці; экспэрымэнтальна праверыць эфэктыўнасьць асобных момантаў пэдагагічнага працэсу: лекцыі-гутаркі аб электрычнасьці ў фізгабінэце, экскурсіі на электрастанцыю з мэтай праверкі набыцьця ведаў і навыкаў у выніку гэтай пэдагагічнай працы. Адначасова з гэтым, мы мелі на ўвазе проста выявіць, наколькі вучні 4-й клясы нашых школ маюць наогул магчымасьць і здольны аўладаць ведамі па электрычнасьці. Праца наша вялася 3-мя шляхамі. Першы—гэта прадметныя тэсты, другі—азнаямленьне вучняў з мадэльлю, канструкцыяй, электрастанцыяй і выкананьне імі заданьняў; трэці—анкета-тэст з вольнымі адказамі.

Прыборам для прадметных тэстаў і для выкананьня заданьняў служыла нам па асобным пляне зробленая канструкцыя, мадэль электрастанцыі. Уся гэта канструкцыя зьмяшчаецца на 4-х сталах. Электрастанцыя, як гэткая, зьмяшчаецца на адным з іх, які стаіць па сярэдзіне пакою насупроць астатніх, на якіх зьмяшчаюцца аб'екты абслугоўваньня электрастанцыі. На станцыі генэратарам зьяўляецца маленькая дынамо-машына (магутнасьцю-2 амп.$\times$2 вольт), якая прыводзіцца ў рух пры дапамозе перадатачнага кола. На краі стала стаіць разьмеркавальны шчыт. Гэта невялікая дошка (40$\times$28 сант.) На аднэй з бакоў дошкі зьверху прымацован невялікі вольтмэтр—ампэрмэтр. Пад ім прымацованы 4 рубільнікі: адзін зьверху (галоўны) ён кіруе альбо ўключае усю электрычную праводку, астатнія тры кіруюць асобнымі лініямі (фідэра). Над рубільнікамі наклеены надпісы—якой лініяй кіруе кожны з іх. З другога боку шчыта—мантаж праводкі. Ад дынамо працягнуты правады (па стале) да зажымаў галоўнага рубільніка, які правадамі роўналегла злучан з астатнімі рубільнікамі. Ад рубільнікаў ток ідзе да 3 фідэраў, а адтуль пступае ў паветраную сець, падвешаную на слупох. Ад апошняга слупа паветранай лініі, якая цягнецца ўздоўж вуліцы (стала) правады ідуць у розныя бакі да находзячыхся насупроць электрастанцыі, аб'ектаў, якія яна абслугоўвае: мадэль заводу, птушкаводнай станцыі і жыльлёвага дому. (Усё гэта макеты, якія стаяць на сталах). Што-ж уяўляюць сабою гэтыя аб'екты?

1) На тэрыторыі птушкаводнай станцыі ў плянавым парадку разьмеркаваны цэлы шэраг пабудоў, домікаў, птушатнікаў. Па дарожках расстаўлены 7 электрычных слупоў з ліхтарыкамі (электрычныя лямпачкі ад кішанёвых ліхтарыкаў); гэтыя ліхтары асьвятляюць усю птушкаводную станцыю. На слупох падвешаны правады (працяг паветранай электрычнай лініі ад электрастанцыі). Адны з правадоў дастаўляюць ток у надворныя ліхтары, а другія праходзяць ў будынкі і асьвятляюць гэтыя домікі (усе за адзін раз). Заканчваюць свой шлях правады на левым баку маленькага фанэрнага разьмеркавальнага шчытка птушкаводнай станцыі. На гэтым шчытку

маюцца два пераключальнікі (замест рубільнікаў), якія даюць магчымасьць пераключаць ток па чарзе то для асьвятленьня ўсей тэрыторыі птушкаводнай станцыі, то для будынкаў птушатнікаў асобна, (з-за маламагутнасьці дынамо нельга было асьвятляць адначасова адно і другое). Над пераключальнікамі на шчытку надпісы: „Птушкаводная станцыя“, „Будынкі птушатнікаў“.

2) Макет завода. Электрычная праводка ў завод цягнецца са слупа, які стаіць перад будынкам (з вулічнай сеці). Адна лінія правадоў ідзе да маленькага маторыка (магутнасьць-9 уат), які пры дапамозе трансмісіі прыводзіць ў рух машыны. Другая лінія, падвешаная пад стольлю, мае на сабе 5 электрычных лямпачак для асьвятленьня заводу. Так сама, як на птушкаводнай станцыі гэтыя лініі выходзяцца на разьмеркавальным шчытку, дзе маюцца два пераключальнікі замест рубільнікаў. Пры дапамозе гэтых пераключальнікаў ток пераключаецца альбо у маторы для прывядзеньня ў рух машын, альбо на асьвятленьне. Над пераключальнікамі надпісы. „матор“, „асьвятленьне“.

3) Макет жыльлёвага дому. Унутры усё памяшканьне асьвятляецца 2-ма электрычнымі лямпачкамі (у паталочных розетках). Лямпачкі маюць адзін агульны выключацель (маленькі, але сапраўдны). У доме ёсьць электрычны званок. Кнопка электрычнага званка прымацавана да знадворных дзьвярэй дому; каробка званка унутры дому прымацавана на сьцяне. Электрычная лінія цягнецца са слупа, які стаіць перад домам. На слупе электрычны ліхтар, які запальваецца тады, калі даюць сьвятло ў дом. Дах дому зьняты і дае магчымасьць бачыць усю ўнутранасьць дому і паварачваць выключацель.

На гэтым прыборы—канструкцыі, як мы ўжо гаварылі, намі былі пастаўлены прадметныя тэсты. Нашай мэтай было выявіць ў вучняў некаторыя веды па электратэхніцы. Адначасова з выяўленьнем ведаў, мы давалі ім магчымасьць азнаёміцца з усімі дэталямі нашай канструкцыі. Задачы нашых прадметных тэстаў адносіліся да 13 рэчаў, якія маюць адносіны да электрычнасьці; на электрастанцыі: 1) дынамо - машына, 2) разьмеркавальны шчыт, 3) вольтмэтр, 4) рубільнікі, 5) электрычныя слупы, 6) правады, 7) ізалятары на слупох; на заводзе: 8) машыны, 9) матор, 10) разьмеркавальны шчыт; у доме: 11) кнопка, 12) каробка ад званка, 13) электрычны выключацель.

Адносна гэтых рэчаў вучням ставілася 2 пытаньні: „Што гэта?“ „Для чаго яно служыць“? Аб мэтодыцы правядзеньня гэтых тэстаў мы пішам ніжэй.

Такім чынам, як мы ужо напаміналі, акрамя гэтых 2 частак нашага дасьледваньня—прадметных тэстаў і выкананьня заданьнў на гэтай канструкцыі, мы мелі яшчэ анкету-тэст з вольнымі адказамі—(дадаецца).

## Пастаноўка досьледаў па прадметных тэстах і па выкананьні заданьняў на канструкцыі

Першыя дзьве часткі нашага дасьледваньня: прадметныя тэсты і выкананьне заданьняў на нашай канструкцыі, праводзіліся індывідуальна. Анкета-тэст запаўнялася адначасова цэлай клясай—калектыўна. Пры індывідуальным дасьледваньні кожнага вучня паасобку запрашалі ў пакой. Пратакаліст запаўняў анкетную частку вучотнай карткі дасьледваньня. Вучню прапанавалася ўважліва агледзець усю мадэль электрастанцыі, напаміналася, каб ён заўважаў і дробязі. „Агледзеў усё? пытаўся экспэрыментатар. Пасьля адказу „Да“, „прыступалі да рашэньня прадметных тэстаў. Экспэрымэнтатар паказваў на вядомую рэч і пытаўся: „Што гэта“? альбо яшчэ ў дадатак: „Як гэта завецца?“ Незалежна ад якасьці адказу ставілася наступнае пытаньне „Для чаго гэта служыць?“, альбо яшчэ „Што яно робіць“? і „Для чаго ім карыстаюцца?“

Такім чынам ставіліся пытаньні аб усіх намі вышэйпералічаных рэчах, пачынаючы ад дынамо і канчаючы выключацелем. На адказ давалася 60 сэкунд у тых выпадках, калі вучань упарта адказваў „Ня ведаю“, наступнае пытаньне давалася зараз-жа.

Адказы фіксаваліся пратакалістам пад дыктоўку экспэрымэнтатара. Запісваліся яны ўмоўнымі адзнакамі, іншы раз запісваліся арыгіналныя адказы; тут-жа адзначаўся час на працягу якога адказваў вучань. Адказы падзяляліся намі на чатыры катэгорыі, кожная з іх для зручнасьці фіксаваньня мае сваю ўмоўную адзнаку: правільны адказ—плюс, часткова правільны—ікс, няправільны—мінус і „ня ведаю“—нуль.

Пры досьледах па выкананьні заданьняў на канструкцыі давалася прыблізна такога зьместу папярэдняе тлумачэньне:

„Усё, што ты бачыш тут, гэта маленькая электрычная станцыя, якая дае электрычнае сьвятло на птушкаводную станцыю, бачыш? Завод і дом (паказвалася пальцам). Электрычны сьвет атрымоўваецца тады, калі мы круцім гэта кола (гэта рабіў пабочны чалавек).

Для таго, каб запаліліся лямпачкі ў якім небудзь месцы трэба каб ты сам зрабіў гэта. Прыглядзься ўважліва, падумай, што табе трэба зрабіць (акрамя таго, што кола круцідца), каб лямпачкі запаліліся ў адным з гэтых будынкаў. Зразумеў? Пасьля таго, як атрымоўваўся адказ—„зразумеў“ (калі не разумеў, тады даваліся яшчэ раз тлумачэньні) давалася інструкцыя: зрабі так, каб запаліліся лямпачкі ў ліхтарах на птушкаводнай станцыі. Вучням дазвалялася чытаць надпісы на разьмеркавальных шчытох. Пры першай інструкцыі дабаўлялася: „помні, што на птушкаводнай станцыі сьвятло можа запальвацца ў 2 месцах, але не ў адзін і той-жа час—у ліхтарах на двары асобна, а ў будынку птушатнікаў асобна“.

Другое заданьне давалася: „Дай сьвятло ў памяшканьні птушатнікаў на птушкаводнай станцыі“. Усяго было 6 заданьняў. Для выкананьня гэтых заданьняў вучням трэба было зрабіць адну альбо 2 апэрацыі.

| Заданьні | Апэрацыі, патрэбныя для выкананьня |
|---|---|
| 1. Дай сьвятло птушкаводнай станцыі | а) Уключыць галоўны рубільнік,<br>б) уключыць рубільнік птушкаводнай станцыі. |
| 2. Дай сьвятло ў будынкі птушатнікаў на птушкаводнай станцыі. | а) Таксама як і ў першым заданьні.<br>б) пераставіць пераключальнікі на разьмеркавальным шчытку |
| 3. Дай сьвятло на завод. | а) Уключыць галоўны рубільнік,<br>б) уключыць рубільнік заводу. |
| 4. Зрабі так, каб пашла у рух машына на заводзе. | а) Уключыць галоўны рубільнік,<br>б) уключыць рубільнік заводу, пераставіць пераключацелі на разьмеркавальным чшытку заводу. |
| 5. Дай сьвятло ў дом.- Запалі лямпачкі ў доме, а потым патушы іх. | а) Уключыць галоўны рубільнік.<br>б) Уключыць рубільнік дому.<br>в) Павярнуць выключацель, каб запаліць і другі раз, каб патушыць сьвятло. |
| 6. Пазвані ў дом. | а) Уключыць галоўны рубільнік,<br>б) Уключыць рубільнік дому<br>в) Націснуць кнопку званка каля дзьвярэй дому. |

З-за маламагутнасьці нашай дынамо машыны прыходзілася пасьля выкананьня кожнага заданьня выключаць зусім тую лінію. Гэтыя апэрацыі намі ня ўлічваліся. Проста пасьля выкананьня кожнага заданьня прапанавалася: „выключы“. Часта вучні выключалі ня толькі рубільнік дадзенага аб'екту, але і галоўны рубільнік. Для выкананьня кожнага заданьня давалася максымум 180 сэкунд Сьвядома намі ня было праведзена ўзважваньня цяжкасьці кожнага з заданьняў, таму што ў асноўным яны не на многа адрозьніваюцца адно ад аднаго па сваіх прынцыпах, і ўзважваньне цяжкасьці кожнага заданьня ня ўнесла-б большай правільнасьці і дакладнасьці ў ацэнку рашэньняў заданьняў. Час адлічваўся з таго моманту, як вучань адказваў, што ён зразумеў, што ад яго

патрабуюць. Калі вучань за максымум часу ня выконваў заданьня, яму прапанавалася прывесьці усё у парадак (паставіць на месца пераключальнікі, уключыць рубільнікі), пасьля задаваліся наступныя заданьні. Па магчымасьці вёў пратакаліст запіс паводзін іспытуемага. Прывядзем прыклады. Першае заданьне: С. М. дзяўчынка—12 год: „цягне правады крупіць ручкі рубільнікаў, адцягвае іх уніз, нагнулася ніжэй да шчыта чытае надпісы, трымае ручку рубільніка птушкаводнай станцыі, пазірае на птушкаводную станцыю, стаіць гэтак нярухома, пасьля паварачваецца зноў да разьмеркавальнага шчыта, уключае рубільнік (запальваецца сьвет), выпускае з рук ручку рубільніка, выпрамляецца, усьміхаецца“.

Другое заданьне—„Бярэцца за ручкі рубільнікаў, круціць усе вінцікі вольтмэтра, хоча памагчы круціць кола дынамо, аглядваецца на птушкаводную станцыю, падыходзіць да яе бліжэй, глядзіць у ваконца домікаў, гладзіць дах, зварачваецца да разьмеркавальнага шчыта электрастанцыі, выключае і ўключае па парадку ўсе рубільнікі“.

Заданьне ня выканана—12 памылак.

Пераходзім к далейшаму заданьню. Другі прыклад; хлопчык-11 год ня выканаў першага і другога заданьня.—Пры выкананьні трэцяга заданьня: уключае і выключае ўсе рубільнікі, думае ўслых „што рабіць цяпер?“, падыходзіць да разьмеркавальнага шчыту углядваецца і кажа: „а для чаго гэта такі „галоўны“—глядзіць за разьмеркавальны шчыт і ў паўголаса сабе расказвае, як з тылавога боку шчыта зроблена праводка: гэты провад ідзе сюды, а гэты сюды—сходзяцца сюды (паказвае на клеммы „галоўнага“ рубільніка). Сходзяцца сюды ўсе—трэба паставіць „галоўны“. Уключае. Падышоў к заводу, агледзеў і папрабаваў, ці прымацована шчыльна машына, бярэ ў рукі правады, якія ідуць к разьмеркавальнаму шчыту завода.—Чытае надпісы на разьмеркавальным шчыце, задумваецца, стаіць, паварачвае пераключальнік асьвятленьня, ставіць яго на месца. (Лямпачкі запаліліся).

Кожнаму вучню пасьля правядзеньня экспэрымента напаміналі, каб ён нікому „ні таварышом“, ні „настаўніцы“ не расказваў аб тым, што ён рабіў тут. Тлумачылі яму, што гэта робяць досьлед, і калі ён раскажа таварышом, якія яшчэ тут ня былі, яны будуць ўжо падрыхтаваны і наш досьлед будзе неправільным.

### Вучот

Вучот выкананьня заданьняў вёў пратакалісты пад дыктоўку экспэрымэнтатара на асобнай вучотнай картцы (дадаецца). Рыскамі адзначаліся на картцы памылкі вучня пры выкананьні ім заданьня.

Памылкамі мы лічылі тыя непатрэбныя рухі, апэрацыі, якія рабіў вучань, але якія не маглі даць патрэбнага нам эфэкта, г. зн. што памылкі гэта ўсе апэрацыі, за выключэньнем патрэбных для выкананьня заданьняў. (Глядзі нашу табліцу).

Пры папярэдняй праверцы гэтага вопыту мы прабавалі фіксаваць улік правільных апэрацый, напрыклад: вучань уключыў галоўны рубільнік, потым выключыў потым зноў уключыў—значыць тут 3 апэрацыі, з якіх 2 правільныя, а 1 няправільная і непатрэбная.

Мы прышлі да заключэньня, што лепш будзе, калі мы будзем лічыць лік усіх непатрэбных апэрацый памылкамі, у даным выпадку 1 памылка, калі вучань выключыў рубільнік.

Заданьне лічылася выкананым тады, калі былі выкананы ўсе патрэбныя апэрацыі, якія даюць патрэбны нам вынік. Спачатку мы запісвалі памылкі наогул. Пасьля мы лічылі правільным, дыфэрынцыяваць памылкі і фіксаваць іх па трох групах: памылкі ў дынамо-машыны, калі вучні рабілі спробу круціць вінты на дынамо, брацца за шчоткі і г. д. Умоўна гэтыя памылкі мы адзначаем літарай „Д“. Літарай „Р“—мы адзначаем памылкі, якія вучні рабілі каля рубільнікаў на разьмеркавальным шчыце, г. зн. калі яны зусім ня ўключалі, альбо цягнулі іх ў розныя бакі, націскалі на пружыны, цьвікі, адцягвалі іх і г. д. Літарай „К“ мы адзначалі памылкі на

разьмеркавальных шчытох, на птушкаводнай станцыі і на заводзе, калі вучні перастаўлялі толькі адзін пераключальнік, замест абодвых, калі пераключальнікі павapaчвалі наогул, але ня ставілі на адпаведны кантакт, калі пераключальнікі ставіліся на другі кантакт і. г. д.

## Правядзеньне анкеты-тэсту

Анкета-тэст са свабоднымі адказамі праводзілася ў клясе. Вучні загадзя былі забясьпечаны ўсім неабходным для пісаньня.

Давалася тлумачэньне, што работа павінна праходзіць у абсалютнай цішыні, што з-за важнасьці экспэрымэнта ўсякае перашэптваньне, сьпісваньне у таварыша прынясе вялікую шкоду і непаразуменьне. Каб папярэдзіць непаразуменьне з-за незразумелага тэксту пытаньняў, анкеты зачытваліся ўслых, даваліся тлумачэньні зьместу, але такім чынам, каб не падсказаць адказу.

У час пісаньня забараняліся ўсякія запытаньні ўслых. У крайніх выпадках прапанавалася моўчкі падняць руку; экспэрымэнтатар падыходзіў к вучню, шэптам даваў тлумачэньне на незразумелае альбо дрэнна надрукаванае пытаньне.

## Аб'екты дасьледваньня

Аб'ектамі для нашага да'сьледваньня былі ўзяты 4-ыя клясы 3 школ ФЗС, ня зусім аднолькавых па свайму тыпе. Адна з іх прымацавана да вагонна-рамонтнага заводу.. Клясу гэтай школы мы называем умоўна клясай „В“. Клясай „Б“ мы называем 4-ю клясу школы, якая прымацавана да машына-будаўнічага заводу і зьмяшчаецца ў вытворчым раёне гораду. Апошняя кляса „А“—акраінная школы. Выходзячы з вышэйпералічаных задач, мы ўзялі нашым асноўным аб'ектам вывучэньня клясу „А“, вучні якой зусім мала бывалі на фабрыках, заводах, амаль зусім ня былі на электрастанцыі. На матар'яле клясы „А“ мы павінны былі выявіць эфэктыўнасьць экскурсіі на электрастанцыю і рост ведаў вучняў у залежнасьці ад яе. Кляса „Б“ дала нам матар'ял аб эфэктыўнасьці аднэй толькі лекцыі—гутаркі па электрычнасьці ў габінэце фізыкі. Кляса „В“ у нас кантрольная. Гэта значыць, што на працягу часу паміж першым і другім экспэрымэнтам у гэтай клясе ніякай пэдагагічнай работы з вучнямі па пытаньнях электрычнасьці і электрафікацыі ня толькі не праводзіліся, але нават было ўказана настаўніцы, каб яна і ў прыватнай гутарцы з вучнямі не запытвала іх аб экспэрымэнтах у Інстытуце.

Дасьледы праводзіліся 2 разы у клясах „А“ і „Б“: першы раз да пэдагагічнай працы, а ў другі раз пасьля яе. Застановімся падрабязна на працы, якая была праароблена кожнай клясай паасобку.

Кляса „В“, як мы гаварылі, кляса кантрольная. На працягу аднэй пяцідзёнкі ўсе вучні гэтай клясы былі прапушчаны праз нашы дасьледы. Вучні разьвязвалі альбо вырашалі прадметныя тэсты і выконвалі заданьні (глядзі табліцу) на мадэлі электрастанцыі. Пасьля ўсёй клясай была запоўнена анкета-тэст з вольнымі адказамі. Паўторнае дасьледваньне вучні прайшлі пасьля таго, як скончыла першы экспэрымэнт уся кляса. Кожны вучань праз пяць дзён пасьля першага разу падвяргаўся экспэрымэнту другі раз. Гэта кляса павінна была нам паказаць, наколькі павялічыцца арыентацыя і веды вучняў у электратэхніцы, ад аднаго толькі паўтарэньня экспэрымэнту; гэта кляса павінна была нам паказаць, якую ролю для павялічэньня ведаў вучняў адыграе тут практыкаваньне на мадэлі электрастанцыі. Мы робім агаворку, што прырост правільных выкананьняў заданьняў на нашай канструкцыі ў гэтай клясе можа пайсьці і за кошт неарганізаванага здабываньня ведаў, якія будуць атрыманы дзякуючы ўзросшаму інтарэсу вучняў да электратэхнікі. (Зразумела, што ў нас ня было стаўкі на самацёк, але мы толькі імкнемся па магчымасьці ўлічыць усе моманты, якія могуць даць прырост правільна выконваемых заданьняў у другі раз экспэрымэнту). Пры ўсёй нашай асьцярожнасьці, прадугледжанасьці, мы ўсё-ж ня былі гарантаваны ад „абмена вопытам“ па выкананьні заданьняў сярод вучняў. Выходзячы з гэтага

прырост вучняў, правільна выконваючых заданьні з першага па другі раз у клясе „В“, мы будзем лічыць кантрольным прыростам, альбо, калі можна так выразіцца, „натуральным“ прыростам проценту правільна выконваемых заданьняў, якія ня будзе вынікам арганізаванага пэдагагічнага працэсу. Улічваньне гэтага прыросту дасьць нам магчымасьць больш дакладна высьветліць эфэктыўнасьць пэдагагічнай работы, праробленай астатнімі 2-ма клясамі.

З клясай „А“, паміж першым дасьледваньнем і другім была праведзена настаўнікам фізыкі (2-га канцэнтру) лекцыя-гутарка ў габінэце фізыкі. Вучням была паказана маленькая дынамо-машына, якая давала пры вярчэньні сьвятло ў маленькую электрычную лямпачку; настаўнік растлумачыў чаму запальваецца лямпачка, паказаў ім прасьцейшыя доследы па здабываньні электрычнасьці. Вучням быў таксама паказан і электрычны званок. Пасьля гэтай гутаркі вучні былі прапушчаны праз паўторны экспэрымэнт.

Зусім бясспрэчным зьяўляецца недастатковасьць такога роду пэдагагічнай працы па электрычнасьці, але ў дадзеным выпадку мы жадалі высьветліць ролю аднэй толькі лекцыі-гутаркі. Больш паглыбленая работа была праведзена ў клясе „А“. Застановімся на гэтай рабоце падрабязна. Па дагаворанасьці з настаўнікам мы рашылі правесьці экскурсію з вучнямі гэтай клясы на электрастанцыю. Экскурсія была намі праведзена пасьля таго, як усе вучні прашлі ў першы раз экспэрымэнт. Вучнямі з вялікім захапленьнем была прынята наша прапанова пайсьці на электрастанцыю. У мэтах падрыхтоўкі іх і для стварэньня пэўных стымулаў больш глыбокай зацікаўленасьці экскурсіяй вучням быў зачытан загадзя прадуманы і падрыхтаваны плян экскурсіі. На лекцыі былі ўнесены некаторыя дапаўненьні. Зразумела, што вучням самім нельга было-б скласьці плян, бо яны не знаёмы былі яшчэ са станцыяй. Пасьля дагаворанасьці з адміністрацыяй электрычнай станцыі для нас былі вылучаны экскурсаводы. (Быў дан дазвол на правядзеньне экскурсіі групы ня больш чым у 15 асоб). Экскурсаводам быў дадзен падрабязны *плян нашай* экскурсіі і загадзя з імі было ўмоўлена, якія веды пажадана каб вучні атрымалі ў выніку гэтай экскурсіі.

У падрыхтоўцы да экскурсіі можа кінуцца ў вочы адсутнасьць аднаго з зьвеньняў папярэдняй работы, гутаркі аб электрычнасьці, аб тых машынах, якія там сустрэнуцца.—Ад гэтай папярэдняй дэталёвай гутаркі адмовіліся мы сьвядома, жадаючы вывучыць эфэктыўнасьць экскурсіі, як гэткай. У вывадах мы падрабязна застанаўліваемся аб абавязковасьці папярэдняй работы з дэманстрацыяй фізычных прыбораў.

## Экскурсія на электрастанцыю

Клясу „А“ падзялілі на 2 групы. Адна з іх ідзе раніцой, другая з 2-х гадзін. З нецярплівасьцю чакаюць вучні сканчэньня афармленьня прапускоў, пошуку экскурсаводаў. Вабяць да сябе яшчэ невядомыя карпусы станцыі, за мурамі якіх выпрацоўваецца цудоўны з тэхнікі электрычны ток. Нарэшце, прышлі. Пад кіраўніцтвам старэйшага майстра машыннай залі, прэмяванага ўдарніка, тав. Н. пачынаем нашу работу. Як было намечана па пляне, агляд станцыі праводзім у парадку, які супадае з ходам працесу здабываньня току ў яго пасьлядоўнасьці. Пачынаем з кацельнай. З двара ў кацельню, альбо сапраўдней к бункерам, падымаемся на ліфце. На гэтым самым ліфце падымаюць да бункероў апал. Падняліся. На пляцформе стаяць ужо да нас раней паднятыя ваганэткі з торфам, дравамі. Рабочыя лапатамі засыпаюць апал у бункеры. Кіраўнік тлумачыць, як пападае паліва ў топкі. Вучні пытаюцца: „Як можна нагрэць такія вялізарныя катлы“. Кіраўнік тлумачыць падачу паліва ў топкі, як награваюцца катлы і г. д.; ён прабуе растлумачыць пабудову катла. (Кіраўнік, захапіўшыся тлумачэньнем, усё часьцей пачынае скарыстоўваць тэхнічныя тэрміны незразумелыя вучням. Асобна зварачвае ўвагу вучняў на вымяральныя прыборы, якія знаходзяцца на катлох—паказвае ўзровень вады ў катле, ціск атмасфер (манометр і інш.) Зьдзіўленае „ого“ выклікае паведамленьне аб тэмпэратуры

ў 350°. З зацікаўленасьцю слухаюць вучні апавяданьне, як вада з артэзіянцкага калодзяжу старанна прачышчаецца, каб не забрудзіць катлы, падымаецца па трубах. Унушальна выглядаюць трубы, па якіх пара ідзе да паратурбінаў—у машынную залю. Тут-ж паказваюць і тыя трубы, па якіх ахалоджаная пара-вада ідзе да сваёй крыніцы—у кацёл. Прыцягвае увагу дзяцей старэйшы качагар, які ў гэты час рэгулюе краны, сочыць за стрэлкамі вымеральных прыбораў. Тут кіраўніком экскурсіі тлумачыцца праца людзей, якія працуюць на другім паверсе кацельнай: 6 чалавек каля бункероў прывозяць і засыпаюць апал, і 1, кваліфікаваны старшы качагар, сочыць за ўсёй працай на гэтым паверсе і за ўсімі вымяральнымі прыборамі.

Спускаемся па вузенькай лесьвіцы ўніз. У двух вялікіх топках пыхае полымя, якое нам відаць праз маленькія ваконцы. Пад імі ледзь прыкметна рухаюцца каласьніковыя краткі, і тут-жа на топках маюцца вымяральныя прыборы, якія ўлічваюць інтэнсыўнасьць гарэньня, вымяраюць тэмпэратуру і г. д. Гэтыя прыборы даюць магчымасьць кантраляваць працу ня толькі самой трубкі, але і працу качагара, г. зн. можна вылічыць, ці было эканомна скарыстана паліва, ці падтрымлівалася роўнамернае полымя, і ці адпавядае колькасьць скарыстанага паліва выпрацаванай за гэты час энэргіі. Апавядаюць аб тым, якая вялікая эканомія апалу маецца ў іх з таго часу як у кацельні было разгорнута сацспаборніцтва. Вучні ў сшытках запісваюць норму: 2¹/₂ кілё торпу на 1 кілёуат электрычнай энэргіі. Па гэтай норме можна даведацца, ці добра працаваў качагар, ці не. Вучням тлумачаць, якую працу выконвае качагар у кацельнай. Кіраўнік робіць спробу растлумачыць вучням сыстэму эканамэйера. Але гэта ім не зразумела, і яны ў гэты час сочаць за рухам каласьніковых кратак, глядзяць, як качагары праз маленькія вакенцы мяшаюць паліва ў топках.

Пераходзім у машынную залю. Шум і грукат аглушае і псуе урачыстае уражаньне ад гэтай высокай і чыстай залі з такімі бліскучымі, складанымі машынамі. Урачыстае ўражаньне павялічвае вялікі партрэт тав. Леніна і Чырвоны Сьцяг, які атрыман машыннай заляй за лепшую ўдарную працу. Падыходзім да пара-турбіны. Кіраўнік зварачвае ўвагу дзяцей на трубы, па якіх пара з кацельні праходзіць да паравых рухавікоў, і на трубы, па якіх скарыстаная пара зварачваецца ў кацёл. Пры нас пускаюць ў рух машыну. Вучні маюць магчымасьць сачыць за гэтым цікавым працэсам. Кіраўнік паказвае, як прыводзіцца ў рух электрычны генэратар. Праводзіцца паверхоўны агляд стаячай побач нямецкай машыны—рухавіка ўнутранага згараньня. Вучням тлумачаць розьніцу паміж гэтымі рухавікамі. Тут-жа даецца схэматычнае тлумачэньне здабываньня электрычнага току ў генэратары і перадача яго далей. Спускаемся ўніз, дзе зьмяшчаюцца кандэнсатары. Побач з імі праходзяць у зямлю кабелі ад генэратараў, якія ідуць пад зямлёй у горад, папярэдне заходзячы наверх да разьмеркавальнага шчыта. Карыстаемся выпадкам прадэманстраваць вучням пуск у ход матора, які тут стаіць; даюцца вучням назвы гэтых рэчаў—матор, рубільнік.

Перад намі паўстае пытаньне,—якім чынам кіруюцца прыборамі электрастанцыі і як вядзецца вучот энэргіі? Падымаемся на пляцоўку, дзе знаходзяцца разьмеркавальныя шчыты: агульны і трамвайны. Дакладна тлумачацца прыборы, якія ўлічваюць энэргію выпрацоўваемую генэратарам: ампэрмэтр, вольтмэтр (ня зусім зразумелым для вучняў розьніца паміж імі). Пры тлумачэньні гэтых прыбораў даецца толькі прызначэньне іх, а ня структура, ня сыстэма. Далей тлумачыць аб прызначэньні рубільнікаў. Увагу дзяцей прыцягнулі сыгнальныя лямпачкі, аб якіх яны атрымалі таксама тлумачэньне. Такім чынам вучні выслухалі аб тым, як утвараецца кіраўніцтва ўсімі прыборамі на разьмеркавальным шчыце.

Кантралёры, якія працуюць на шчытох самі апавядаюць аб сваёй працы, якую яны вядуць—вучот, рэгістрацыя выпрацоўваемай электраэнэргіі, вучот скарыстоўваемай электраэнэргіі горадам і г. д. Вучні атрымоўваюць адказ на пытаньні, дзе рыхтуюцца кадры працаўнікоў-кантралёраў. Дзецям гэта работа

падабаецца—„адказная, але чыстая і спакойная“. Коратка тлумачыць аб фідэрах як аб шляхох, па каторых электрычная энэргія праходзіць праз шыны ад разьмеркавальнага шчыта да спажыўцоў; указваецца, што фідэры бываюць альбо ў выглядзе кабеляў, альбо ў выглядзе паветранай праводкі на слупох. Вучань падказвае: „а я ведаю, яны праходзяць (кабелі) у такую будачку на вуліцы“—„трансфарматарную“—дапамагае кіраўнік. Падрабязна аб трансфармацыі электрычнага току ня тлумачыць. Вучні пытаюцца: „што гэта за чэрапы намалёваны?“—гэта на ртутных выпраміцелях. У сувязі з гэтым кіраўнік расказвае аб тэхніцы небясьпекі, якая ўжываецца на электрастанцыі і наогул каля электрычнасьці. Папярэджвае вучняў ня брацца за провад, які спадае са слупоў, не чапаць будак, дзе намаляваны такія чэрапы.

Пераходзім да пытаньня грамадзка-палітычнага жыцьця электрастанцыі. Тут заўважна павышаецца актыўнасьць вучняў. Шляхам цэлага шэрагу пытаньняў яны высьвятляюць: аб 5 гадовым пляне электрастанцыі, аб ударніцтве і сацспаборніцтве як станцыі цалкам, так і паміж асобнымі цэхамі і брыгадамі. Цікавяцца дзеці, ці маецца пры станцыі піянэратрад і якую работу ён праводзіць.

Кіраўнік апавядае аб рабоце партыйнай і камсамольскай ячэек, аб рабоце прафарганізацыі. Высьвятляецца, якую дапамогу аказалі рабочыя электрастанцыі пасеўнай кампаніі і калектывізацыі. Таксама даведваюцца, як праводзіцца ажыцьцяўленьне лёзунгу аб аўладаньні тэхнікай. Падрабязна распытваюцца пра маючыяся на станцыі курсы, лекцыі, тэхнічныя гурткі. Коратка растлумачваецца аб кіраўніцтве электрастанцыяй. Вучні заходзяць у кантору і на хаду знаёмяцца з працай, якая тут утвараецца.

З аднэй групай вучняў была праведзена падагульняючая гутарка ў канторы. У час гэтай гутаркі кіраўнік праверыў ці былі высьветлены ўсе пытаньні, намечаныя ў пляне, і як вучні запомнілі тлумачэньне. Кіраўніком запаўняліся прабелы ў ведах вучняў. У выніку высьветлілася), што вучні гэтай групы лепш засвоілі матар'ял экскурсіі, чым другія.

* * *

Лекцыя чытаньня. Вучні чытаюць апавяданьне: „Для чаго будуецца магутная электрастанцыя“. Завязваецца гутарка. Пасьля гутаркі высьвятляецца, якім апалам карыстаюцца на электрастанцыях (каменны і буры вугаль, торп, вада). Вядзецца гутарка аб тым, што такое электрыфікацыя, застанаўліваюцца на скарыстаньні электрычнасьці ў прамысловасьці, у с-гаспадарцы, у быце. Вучні ўносяць свае заўвагі: „пускаюцца машыны ўход“, на полі можна электрычныя плугі пускаць“ „малацілкі“, „веялкі“, „ужо маецца электрычны цягнік“.

Абгаварэньне экскурсіі. Успамінаюць, якія цэхі маюцца на электрастанцыі. Лепш за ўсё помняць машыны і кацельні. Вучні апавядаюць: „там маецца вялікі замураваны ў цэглу кацёл, у якім награваецца вада, выпрацоўваецца пара“. Апавядаюць аб працы качагараў: „старэйшыя качагары сочаць, каб кацёл не ўзарваўся“, „каб было даволі пары, а то турбіна працаваць ня будзе“. Машынны цэх больш цікавы. Вучні пералічваюць, што галоўныя машыны гэта—турбіна і генэратар. „Турбіну мы ня бачылі, яна зачынена“—скардзяцца вучні. Усьвядомілі, што турбіна рухае дынамо. Ведаюць, што дынамо выпрацоўвае электрычны ток, што разьмеркавальны шчыт служыць для кіраўніцтва і разьмеркаваньня ўсей электрычнай энэргіі. Яскрава ўяўляюць сабе вучні шлях электрычнай энэргіі ад разьмеркавальнага шчыта да спажыўцоў. Застанаўліваюцца на асобных пунктах гэтага шляху: ад разьмеркавальнага шчыта па кабелях у зямлю да трансфарматарных будак, адтуль па правадах, якія цягнуцца па гораду, падвешаныя на слупох, да розных спажыўцоў. Тут-жа азначаюць вучні, што мера, якой вымерваецца электрычная энэргія, гэта—уат, найбольш распаўсюджаная назва—кілёуат. Прыбор для вымерваньня скарыстанай энэргіі—лічыльнік.

На лекцыі па грамадазнаўству разгарнулася самая гарачая гутарка аб ударніцтве, сацспаборніцтве і выкананьні прамфінпляна на электрастанцыі. З вялікім захапленьнем успамінаюць яны пра Чырвоны сьцяг, які атрымаў машынны

цэх. „Малайцы, выканалі 5-цігодку за 2 гады". Застанаўліваюцца на значэньні ўдарнікаў, іх ролі ў выканаваньні прамфінпляну. Ня менш горача гавораць аб барацьбе з ілжэўдарнікамі. „Такіх выключаюць з саюзу, „на агульным сходзе даюць вымову", „вядуць растлумачальныя гутаркі", „пішуць аб іх у насьценгазэтах", „пішуць на чорную дошку", „а калі не дапаможа, трэба зьняць з працы", „яго нікуды, нікуды ня прымуць, пакуль ня справіцца". „Але застрэльшчыкамі ўдарніцтва на электрастанцыі зьявіліся камсамольцы"—з гонарам заключаюць вучні. Гутарка працягваецца ўнясеньнем выпадкаў ілжэўдарніцтва, якое сустракаецца ў іх клясе.

Пісаньне. Настаўніца разам з вучнямі намячае агульны плян апісаньня экскурсіі. Работа самастойная. Дзеці пішуць марудна—відаць, ня зусім прызвычаены да такой самастойнай работы. (Мэтазгодней было б пісаць усёй клясай цалкам).

Геаграфія Паўтараюць 5-цігодку электрыфікацыі Савецкай краіны. Разам з вучнямі настаўніца ў гутарцы ўспамінае, дзе і на чым па пляне 5-цігодкі будуць пабудаваны электрастанцыі. Называюць „Кузьнецкі Басэйн", „Падмаскоўны", „Днепрабуд", „Асінбуд", „Зема-Аўчальская" (на Каўказе). Настаўніца на геаграфічнай карце адзначае пункты пабудовы электрастанцыі.

На сходзе клясы, вучням зачытваецца адозва ЦБ ДКО аб шэфстве камсамолу над электрыфікацыяй і аб ролі піянэраў у гэтым шэфстве. Вучні выказваюцца аб тым, што трэба ў клясе арганізаваць электрычны гурток, каб яны навучыліся электратэхніцы, прапануюць абвясьціць сябе ўдарнікамі шэфства над элекрафікацыяй і паслаць аб гэтым допіс у газэту „Піянэр Беларусі".

## Аналіз вынікаў прадметных тэстаў

Веды прадметаў абсталяваньня электрастанцыі і прадметаў электрычнай праводкі, прыстасаваньняў электрычнай сыгналізацыі, адным словам, усіх тых прадметаў, аб якіх мы запытвалі ў вучняў пры прадметных тэстах, разьмяркоўваюцца пры першым экспэрымэнце такім чынам: на першым месцы стаіць кляса „В", на другім кляса „Б" і на апошнім кляса „А". Зусім наадварот—у другі раз экспэрымэнтаў.

**Табліца сярэдняй-арытмэтычнай правільных адказаў у процантах**

НА ПЫТАНЬНЕ: „ШТО ГЭТА".

| КЛЯСЫ | А | Б | В |
|---|---|---|---|
| 1 раз | 32 | 40,6 | 43 |
| 2 раз | 70,5 | 44,3 | 44 |
| Прырост | 38,5 | 3,7 | 1 |

НА ПЫТАНЬНЕ „ДЛЯ ЧАГО СЛУЖЫЦЬ"

| КЛЯСЫ | А | Б | В |
|---|---|---|---|
| 1 раз | 32,6 | 43,6 | 46,5 |
| 2 раз | 87 | 58,2 | 55,1 |
| Прырост | 54,4 | 14,6 | 8,6 |

Амаль аднолькавы лік правільных адказаў як для назвы прадметаў, так і для ўстанаўленьня іх прызначэньня. Гэтых усіх правільных адказаў, якія адносяцца да прызначэньня пералічаных адказаў, у дадзеным выпадку болей, чым назваў гэтых прадметаў. Прырост правільных адказаў пры паўторным экспэрымэнце будзе нам больш зразумелым, калі мы больш дэталёва застановімся на асобных пытаньнях. Што ведаюць вучні пры першым экспэрымэнце? Амаль ва ўсіх клясах ведаюць і называюць вучні слупы электрычныя, правады, якія на іх падвешаны. Многа правільных адказаў на пытаньні аб машынах на заводзе (макет). Амаль таксама размяркоўваюцца адказы і аб прызначэньні гэтых прадметаў. Зусім ня ведаюць вучні разьмеркавальнага шчыта, вольтмэтраў і рубільнікаў на электрастанцыі. З гэтых рэчаў ведаюць аб іх прызначэньні толькі пра рубільнікі прыблізна палова вучняў. (Магчыма яны даведаліся аб гэтым ў часе экспэрымэнту?). Лепш за астатніх ведаюць вучні клясы „В. Яны называюць дынамо правільна 53, 7 проц.; а вучні клясы „Б" ведаюць

толькі на 30, 3 і толькі на 20 працантаў ведаюць вучні клясы „А. Вытворчае прызначэньне дынамо, ня гледзячы на гэта ведаюць усё-ж лепш вучні клясы „Б“—33,3 проц.—нават больш, чым ведалі яго назву. Аднолькава гэта ўцямілі вучні клясы „А“ і „Б“—24 проц. Гэта значыць, што вучні клясы „В“ проста чулі назву „дынамо-машына,“ але не ўкладвалі у гэту назву ніякага зьместу. Мы маем выпадкі, калі вучні блытаюць назву і называюць, замест дынамо, матор і наадварот. Некаторыя імкнуцца ўгадаць назву невядомай ім рэчы па аналёгіі са знаёмымі: так вольтмэтр называюць: „гадзіньнік“, „лічыльнік“, „баромэтр“, „компас“. Аб прызначэньні яго кажуць: „каб ведаць колькі току вышла“. Аб рубільніках гаварылі: „ручка“, „уключацель“, „зажыгацель“. Нязначны процант вучняў ведае разьмеркавальную дошку на заводзе і прыблізна ўцямілі яе прызначэньне. Некаторыя адказвалі туманна: „пускаць ток“, „машыну пускаць“. Некаторыя называлі матор: „машына“ альбо „наматываць правады“. Ізалятары на вулічных слупох амаль усе называюць „чашкі“. Прызначэньне іх ня ведаюць; прабуюць таксама гадаць: „каб ток не пайшоў у дзераве“,-большасьць адказваюць: „для таго, каб накручваць правады“. У клясе „А“ на гэты тэст зусім няма правільных рашэньняў, у клясах „Б“ і „В“ малы процант—6,6 проц.; 14,6 проц. У дадзеным выпадку мы лічылі здавальняюча і прыблізныя адказы, чаго мы ў адносінах да астатніх тэстаў ніколі не рабілі.

Каробку электрычнага званка ў клясе „А“ ведаюць 12 проц. вучняў, у „Б“-30, 3 проц., у „В“ 46,3 проц. Аб прызначэньні яе ведаюць у клясах „А„ і „Б„ больш чым яе назву. У няправільных адказах пераважае азначэньне: „тэлефон“, „каб званіць“, „тэлефон, каб разгаварываць“. Часта называюць „будзільнік“, „шчотчык“. Назву кнопкі ад электрычнага званка ня ведаюць. Называюць проста: „званок“. Аб прызначэньні яе ведае адносна вялікі процант вучняў. Сярод няправільных адказаў часьцей за ўсіх сустракаюцца: „штэпсэль“, „пробка“.‘

Нарэшце аб выключацелях. У клясах „А“ і „Б“, у якіх 40 проц. вучняў маюць дома электрычнасьць, правільна ведаюць яго назву 48 проц. і 46 проц., у клясе „Б„ яго правільна называюць толькі 21, 2 проц. вучняў. Прызначэньне выключацеля ў клясах „А“ і „В“ ведаюць каля 80 проц. вучняў, у „Б“—66,3 проц. Часьцей за ўсё вучні на пытаньне: „што гэта“?, і на пытаньне: „для чаго гэта служыць?“—адказвалі адным адказам „гэта для таго, каб запальваць сьвет“.

**Агульная параўнаўчая табліца правільных адказаў па прадметных тэстах па ўсіх клясах у проц. на пытаньне—„што гэта?“**

| №№ п-ч. | НАЗВА ПРАДМЕТАЎ | 1-шы раз | | | 2-гі раз | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | А | Б | В | А | Б | В |
| 1 | Дынамо-машына | 20 | 30,3 | 59,7 | 76 | 81,8 | 78 |
| 2 | Разьмеркавальны шчыт | — | — | — | 88 | — | — |
| 3 | Вольтмэтр | — | — | — | 16 | — | — |
| 4 | Рубільнікі | 8,3 | 6,6 | — | 40 | 12,1 | 25 |
| 5 | Слупы | 96 | 93,9 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 6 | Правады | 92 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 7 | Ізалятары | 16 | 15 | 9,7 | 68,6 | 24,2 | 12,2 |
| 8 | Машыны | 96 | 87,9 | 96 | 96 | 100 | 100 |
| 9 | Матор | 8 | 6,6 | — | 40 | 15,1 | 2,5 |
| 10 | Разьмеркавальны шчыт на заводзе | 4 | — | 4,6 | 80 | — | 7,3 |
| 11 | Каробка электрычнага званка | 12 | 3,3 | 46,3 | 92,5 | 72,7 | 58,5 |
| 12 | Кнопка званка | 16,6 | 33,3 | 43,8 | 52,1 | 30,3 | 63,6 |
| 13 | Выключацель | 48 | 21,2 | 46,5 | 68 | 39,1 | 63,6 |
| | Арытмэтычная сярэдняя | 32 | 40,6 | 43 | 70,5 | 44,3 | 44 |

Пры паўторным экспэрымэнце, зусім натуральна павялічваецца ў клясе „А“ лік правільных адказаў, якія адносяцца да электрастанцыі. Вучні толькі ня зусім

добра помняць назвы: вольтмэтр, ампэрмэтр, але помняць іх прызначэньне. З табліцы можна бачыць, што назву дынамо-машына вучні клясы „А“ ведаюць на 56 проц. больш, чым у першы раз, а прызначэньне яе—на 72 проц. больш, таксама і разьмеркавальны шчыт; вольтмэтр правільна называюць усяго 16 проц. вучняў, а прызначэньне яго ведаюць 52 проц. вучняў. Прызначэньне рубільнікаў ведаюць усе, назву іх ведаюць 40 проц. вучняў. Трэба дадаць, што мы ў лік правільных адказаў ня ўключылі колькасьць прыблізных адказаў, якія ў нас маюцца. Аб прызначэньні разьмеркавальнага шчыта мы маем прыблізна правільных адказаў-20 проц., што разам з правільнымі складае 88 проц., аб вольтмэтры прыблізных адказаў 12 проц., разам з правільнымі 64 проц. Пасьля экскурсіі ведаюць назву ізалятараў на слупах 68,6 проц. вучняў (разам з прыблізнымі 73 проц.). Тыя-ж вучні ведаюць і прызначэньне ізалятараў; сярод адказаў, маецца наступнае: „каб ток не ў жалеза“, „каб правады не спадалі“, „каб манцёры не скалечыліся“. Пасьля экскурсіі вучні ўжо правільна называюць разьмеркавальную дошку на заводзе (80 проц. у нас правільных адказаў, і 88 проц. правільных адказаў аб яе прызначэньні); няма ўжотут такіх адказаў, як у першы раз, што гэта „лічыльнік“ і інш.. Амаль усе вучні ведаюць званок· Цікава, што прызначэньне выключацеля ведаюць усе вучні, а называюць яго нязначна больш вучняў, чым у першы раз. Тут трэба адзначыць, наогул недастатковую засваяемасьць ведаў ад аднэй толькі экскурсіі. Для замацаваньня гэтых ведаў неабходна была практычная праца вучняў з гэтымі рэчамі ў рабочым пакоі—тады ня было-б у нас адказаў: „забыў“, „ня помню“. Усё-ж экскурсія дае больш ведаў, чым, лекцыя-гутарка, хаця-б і з дэманстрацыяй фізычных прыбораў. Разультаты паўторнага экспэрымэнту ў клясе „Б“ сьведчаць нам, што вучні клясы „Б“ добра ведаюць назву дынамо, правільна называюць яе 81,8 проц. вучняў, а прызначэньне яе ведаюць 48,7 проц. вучняў. Веды аб разьмеркавальнымшчыце і аб вольтмэтры засталіся ранейшымі. Лепш, на 42,4 проц., ведаюць вучні званок. На 17,4 проц. лепш называюць яны выключацель, ведаюць яго празначэньне каля 88 проц. вучняў. Назву матор блытаюць вучні, а прызначэньні яго ўсё-ж ведаюць 54,5 проц. Мы бачым, што веды пасьля гутаркі павялічыліся, але усё-ж недастаткова, менш чым у клясе „А„

**Агульная параўнаўчая табліца правільных адказаў па прадметных тэстах па ўсіх клясах у проц. на пытаньне:—„для чаго гэта служыць“?**

| №№ п.-ч. | НАЗВА ПРАДМЕТАЎ | 1-шы раз | | | 2-гі раз | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | А | Б | В | А | Б | В |
| 1 | Дынамо-машына | 24 | 33.3 | 24,4 | 96 | 48,7 | 29,2 |
| 2 | Разьмеркавальны шчыт | 8 | 6,1 | — | 68 | 12,2 | 2,4 |
| 3 | Вольтмэтр | — | — | — | 52 | 0,1 | 2,4 |
| 4 | Рубільнікі | 52 | 45,4 | 63,4 | 100 | 78,4 | 82,9 |
| 5 | Слупы | 92 | 78,4 | 100 | 96 | 93.9 | 100 |
| 6 | Правады | 80 | 72,7 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| 7 | Ізалятары | — | 6,6 | 14,6 | 68 | 9,3 | 26 |
| 8 | Машына | 76 | 75,7 | 100 | 96 | 93,9 | 100 |
| 9 | Матор | 12 | 33,3 | 9,7 | 84 | 54,5 | 17 |
| 10 | Разьмеркавальны шчыт | 16 | 9.9 | 14,8 | 88 | 15,5 | 34 |
| 11 | Каробка званка | 32 | 36,3 | 48,7 | 88 | 75,5 | 48,7 |
| 12 | Кнопка | 54 | 66.3 | 51,2 | 96 | 87,8 | 78 |
| 13 | Выключацель | 88 | 66,3 | 78 | 100 | 87,8 | 83 |
| | У сярэднім у клясе | 32,6 | 43,6 | 46,5 | 87 | 58,2 | 55,1 |

У кантрольнай клясы „В“ мы заўважаем рост процантаў правільных адказаў пры паўторным экспэрымэнце. Рост гэты вельмі нязначны, ён ніжэйшы чым

ў клясе „Б“. Ідзе гэты рост пераважна па тых прадметах, якія сустракаюцца ў быце: выключацель, званок. Прычыны гэтага росту мы можам тлумачыць падсказваньнем, запытаньнямі.

Табліца прыросту правільных адказаў па прадметных тэстах у проц. па ўсіх клясах

| №№ п.-ч. | НАЗВА ПРАДМЕТА | На пыт.: — „што гэта“? | | | На пыт.: „для чаго служыць“? | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | А | Б | В | А | Б | В |
| 1 | Дынамо-машына | 56 | 61,5 | 24,3 | 72 | 15,4 | 4,8 |
| 2 | Разьмеркавальны шчыт | 88 | — | — | 60 | 6,1 | — |
| 3 | Вольтмэтр | 16 | — | — | 52 | 3,1 | 2,4 |
| 4 | Рубільнікі | 52 | 15,4 | 13,5 | 48 | 33 | 19,5 |
| 5 | Слупы | 4 | 7 | — | 4 | 15 | — |
| 6 | Правады | 8 | — | — | 20 | 17,3 | — |
| 7 | Ізалятары | 52,6 | 9,2 | 2,5 | 68 | 2,7 | 12 |
| 8 | Машыны | — | 11,1 | 4 | 20 | 28,2 | — |
| 9 | Матор | 32 | 8,5 | 2,5 | 72 | 21,2 | 5,3 |
| 10 | Разьмеркавальны шчыт на заводзе | 76 | — | 2,7 | 72 | 5,6 | 19,2 |
| 11 | Каробка званка | 80.5 | 42,4 | 12,2 | 56 | 39,2 | — |
| 12 | Кнопка званка | 35,5 | 3 | 19,8 | 32 | 20,5 | 27,2 |
| 13 | Выключацель | 20 | 17,4 | 17,1 | 12 | 21,5 | 5 |
| | У сярэднім | 38,5 | 3,7 | 1 | 54,4 | 14,6 | 8,6 |

У дадзеным выпадку мы маем прырост правільных адказаў на пытаньне: „што гэта?“—у сярэднім на 1 проц., а на пытаньне: „для чаго служыць“?- на 8,6 проц. Як мы ўмовіліся, гэты прырост мы будзем называць „натуральным“ прыростам. Адсюль, калі-б мы жадалі быць зусім дакладнымі ў вылічэньні эфэктыўнасьці экскурсіі, гутаркі, мы павінны былі-б ад паказальнікаў прыросту ў клясе „А“, ад 38,5 проц. адкінуць 1 проц. і ад 54, 4 проц. адкінуць 8,6 проц. Таксама трэба было-б зрабіць і ў адносінах да клясы „Б“. Сапраўды, нельга так мэханічна ў лічбах вылічваць веды вучняў; калі-б мы пайшлі на такі шлях, ён завёў-бы нас да праклоненьня перад лічбамі і мэханістычнага ўразуменьня складанасьці пэдагагічнага працэсу. Мы вылічвалі прырост ў клясе „В“, каб мець магчымасьць параўнаць адносны рост ведаў вучняў у клясах „А“,, „Б“ і „В“, якія залежыць ад працы, прароблена ў гэтых клясах, і такім чынам сьведчыць аб эфэктыўнасьці і значнасьці яе.

## Аналіз выкананьня заданьняў на мадэлі электрастанцыі

Як мы ўжо раней адзначалі, наша канструкцыя дэманструе здабываньне электрычнага току, разьмеркаваньне яго, тэхніку скарыстаньня і эксплёатацыю яго. У нас маюцца тры віды скарыстаньня электрычнай энэргіі: 1) як асьвятленьне, 2) як рухаючая сіла (ператварэньня ў мэханічную), і 3) сыгналізацыя.

Большасьць вучняў 4-й клясы знаёмы з гэтымі відамі карыстаньня электрычнай энэргіі. Папярэднія вынікі нашай працы пераканалі нас у гэтым. Для вырашэньня пастаўленых перад вучнямі задач, ад іх патрабавалася ў асноўным—мець уяўленьне аб электрычным ланцугу. Неабходнай умовай выкананьня заданьняў было ўключэньне рубільнікаў на разьмеркавальным шчыце. У кожным асобным выпадку трэба было дадаткова выканаць адну альбо 2 апэрацыі. Гэтыя дадатковыя апэрацыі былі для вучняў больш лёгкімі, паколькі яны краналіся непасрэднага скарыстаньня электрычнай энэргіі. Так у заданьнях 2-м і 4-м трэба было пераставіць пераключальнікі (замест рубільнікаў) на разьмеркавальных шчытох птушкаводнай станцыі і заводу. Ў 5-м і 6-м заданьнях патрабавалася толькі знаёмства са скарыстаньнем электрычнасьці ў быце: уменьне карыстацца выключальнікам, кнопкай электрычнага званка. З аналізу выкананьня заданьняў вучнямі становіцца відавочным, што найбольш цяжкімі для ўсіх груп не залежна ад роду і сацыяльнага паходжаньня, зьяўляюцца—другое і чацьвертае за-

даньні („даць сьвет у будынкі птушатнікаў“ і „пусьціць у ход машыну на заводзе“).

Аб цяжкасьці гэтых заданьняў выразна гаворыць нам адносна нізкі процант вучняў, якія выконвалі іх у параўнаньні з іншымі заданьнямі. Напрыклад: у клясе „А“ з хлопчыкаў (рабочых) выконваюць 2 і 4-е заданьні 28,6 проц. дзяўчынак (рабочых) — 14,3 проценту, 28,6 процантаў, група дзяцей служачых 2-е заданьне зусім ня выконвае, а 4-е заданьне на 60 проц. У клясе „Б“: з хлопчыкаў 2-е заданьне выконваюць 35,0 проц., 4-е—50 проц; з ліку дзяўчынак 2-е заданьне зусім ня выконваюць, а 4-е—18,8 проц. Мы бачым, што у абодвых клясах процант выкананьня астатніх заданьняў значна вышэйшы чым у 2-м і 4-м.
Так, у клясе „А“ астатнія заданьні выконваюцца на 28 проц. больш, чым заданьне 2-е і 4-е. Аналёгічнае становішча і ў клясе „В“.

**Табліца выкананьня 2 га і 4-га заданьняў у клясе „В“**

| | Выкон. усе заданьні | Выкон. 2-е заданьне | Выкон. 4-е заданьне |
|---|---|---|---|
| Дзеці рабочых | 58,3 | 50 | 37,5 |
| „ служачых | 57,2 | 51 | 47 |
| „ саматужнікаў | 49,6 | — | — |

Грунтуючыся на якасьці апэрацый неабходных для выкананьня гэтых заданьняў, мы робім вывад, што прычына цяжкасьці іх заключаецца ў перастаноўцы пераключальнікаў. Цікавым фактам зьяўляецца выкананьне 1-га заданьня, якое, здаецца, зьяўляецца найбольш цяжкім, таму што вучні ня маюць яшчэ навыку.

**Выкананьне першага заданьня ў параўнаньні з сярэднім проц. выкан. астатніх заданьняў**

| Клясы | Выкон. усе зад. | Выкон. 1-е зад. |
|---|---|---|
| А | 44,0 | 40 |
| Б | 50,0 | 45 |
| В | 56,9 | 49 |

Выходзіць, што 1-е заданьне выконваецца адносна лёгка. Але-ж дзяўчаты пры выкананьні гэтага заданьня адстаюць ад хлопчыкаў. У клясе „А“ з дзяцей рабочых 1-е заданьне выконваюць—57,2 проц. хлопч. і 14,3 проц.—дзяўчынак. (Аналёгічнае становішча і ў клясе „Б“, дзе з дзяцей рабочых гэта заданьне выканалі 66,6 проц. хлопч. і ўсяго 25 проц. дзяўч. Як відаць дзяўчаты у першы раз больш цяжка арыентуюцца у нашай канструкцыі, менш ведаюць электрычнасьць, з чым мы сустрэнемся і пры разглядзе выкананьня іншых заданьняў; асабліва гэта кідаецца ў вочы ў 5-м заданьні. Гэты факт мы падкрэсьліваем зусім не для таго, каб замацаваць пашыраную, нават, сярод некаторай часткі настаўнікаў думку, аб тым, што дзяўчаты у першым канцэнтры горш успрымаюць вытворчыя тэхнічныя звычкі і веды. Наадварот, мы жадаем зьвярнуць увагу настаўнікаў на гэты факт, каб асьвятліць, як выраўніваюцца паказальнікі выкананьня заданьняў дзяўчатамі ў другі раз экспэрымэнту, пасьля таго, як з імі была праведзена пэдагагічная работа, адсюль і вывад, што дзяўчаты павінны нараўне з хлопчыкамі праводзіць працу ў рабочым пакоі па вытворчым навучаньні. Пераходзім да 3 га заданьня. Гэта заданьне зьяўляецца па сутнасьці паўтарэньнем 2-га заданьня—мае ў сабе толькі адну апэрацыю і таму лягчэй ад астатніх.

**Ва ўсіх 3-х клясах сярэдняя процантаў вучняў, выконваючых гэта заданьне, вышэй сярэдняй выкананьня ўсіх заданьняў**

| Кляса | Сярэдн. вык. усіх заданьняў | Сярэдн. вык. 3-га заданьня |
|---|---|---|
| А | 44 | 60 |
| Б | 50 | 66 |
| В | 53,9 | 56 |

Возьмем 5-е заданьне. (Даць сьвет у дом). Як мы ужо раней гаварылі, гэта заданьне патрабуе ад вучняў, знаёмства з электрычнасьцю ў быце. Мы высьвятлілі, што з ліку вучняў дасьледаваных намі, маюць дома электрычнасьць: у клясе „А“—36 проц., у клясе „Б“—18,75 проц., у клясе „В“—39 проц.

З паданай табліцы відаць, што наяўнасьць электрычнасьці ў доме не зьяў-

ляецца дастатковым фактарам для аўладаньня неабходнымі ведамі і уменьнем абыходзіцца з электрычнасьцю. Тут разьбіваюцца і губляюць глебу пад сваімі нагамі усякія „ляванкія“ тэорыі Шульгіна аб „неарганізаваным выхаваўчым працэсе“, аб стыхійнасьці гэтага працэсу, „аб падпарадкаваньні вучобы стыхіі“. Для таго, каб больш ясна ўявіць сабе малюнак прычын выкананьня, альбо невыкананьня 5-га заданьня, дадзім вытрымкі з найбольш характэрных пратакольных запісаў.

Кляса „В“. Дзяўчынка 11 год, бацька рабочы-чыгуначнік, ня выканала ніводнага заданьня ні у першы, ні ў другі раз. Дома ёсьць электрычнасьць. Пры 5-м заданьні: „уключае і выключае рубільнік жыльлёвага дому, галоўны рубільнік, водзіць вачыма на адваротным баку разьмеркавальнага шчыта, цягне пружыны рубільнікаў“.

Дзяўчынка 10 год, бацька рабочы, электрычнасьці няма. Выканала 5-е заданьне за 1 хвіліну: „уключыла рубільнік жыльлёвага дому, глядзіць на дом, падыходзіць да яго бліжэй, заглядвае ў сярэдзіну, вачыма прасачыла ўнутранае распалажэньне правадоў, убачыла выключацель, павярнула яго“. Сьвет запаліўся. Калі мы паглядзім на пратакольныя запісы паводзін дзяўчат у другі раз, карціна каардынальна зьмяняецца ў залежнасьці ад праведзенай на працягу часу паміж абодвымі экспэрымэнтамі, работы ў школе. У клясе „А“: дзяўчынка, 13-ці год, бацька, рабочы. У першы раз 5-е заданьне ня выканала. У другі раз пасьля экскурсіі выконвае ўсе папярэднія заданьні.

Пры выкананьні 5-га заданьня: „падыходзіць да разьмеркавальнага шчыта, хутка ўключае рубільнік, пробуе, ці ўвайшоў ён моцна ў гняздо, падыходзіць да дому, глядзіць ў сярэдзіну, паварачвае выключацель, глядзіць як запаліліся лямпачкі ў доме. (Зноў паварачвае выключацель—тушыць сьвет. Усё гэта было праароблена без аднэй памылкі, хутка — за паўхвіліны. Цікава выкананьне 6-га заданьня „пазваніць у дом“. У сярэднім гэта заданьне выконваецца лёгка. З табліцы відаць, што процант вучняў, выконваючых гэта заданьне ў першы раз, значна вышэйшы, чым сярэдні процант вучняў выконваючых ўсе заданьні. Гэта лёгка тлумачыцца тым, што 6-е заданьне гэта апошняе, калі ўжо маецца некаторы навык і таму яшчэ тое, што ўсе дзеці ведаюць як пазваніць. Усё-ж маецца частка вучняў нявыконваючых гэта заданьне і ў такім выпадку, калі яны стаяць, здаецца перад лёгкай зусім задачай, яны тут зусім губляюцца, як перад загадкай і думаюць—„як-жа гэта пазваніць?“ У пошуках шляхоў, жадаючы хутчэй дабіцца рэзультату дзеці цягнуць пальцамі за пружыну званка, адкручваюць вольтмэтр, амаль бязупынна круцяць выключацель, націскаюць на усе вінты, нарэшце пачынаюць адкручваць вінцікі каробкі званка.

**Табліца выкананьня 6-га заданьня ў параўнаньні з усімі, ў процантах**

| Клясы | Выкан. усіх зад. | Выкан. 6-га зад. |
|---|---|---|
| А | 52 | 44 |
| Б | 56,6 | 50 |
| В | 63,4 | 56,9 |

Ў клясе „А“ у другі раз вучні выконваюць гэта заданьня у сярэднім за 15-20 сэкунд.

Матар'ялы сьведчаць аб тым, што ня ўсе клясы аднолькава ў першы раз выконваюць ўсе заданьні. На першым стаіць кляса „В“, на другім кляса „Б“ і на апошнім кляса „А“. З табліцы відаць, што ў межах асобных сацыяльных груп і родавых груп процант вучняў, выконваючых заданьні, хістаецца.

Падводзячы вынікі выкананьня заданьняў у першы раз трэба адзначыць, што ва усіх 3-х клясах процант дзяўчат, выконваючых заданьне ніжэй проценту хлопчыкаў той-жа сацыяльнай групы. У клясах „А“ і „В“ дзеці служачых даюць нязначна большы процант выкананьня, чым астатнія, але ў прынцыпе застаецца, што групы вучняў клясы „А“ ідуць ніжэй другіх клясаў.

Табліца выкананьня заданьняў у першы раз усімі клясамі ў проц.

| | В | Б | А |
|---|---|---|---|
| **Рабочыя** | | | |
| Хлопчыкі | 65 | 60 | 45 |
| Дзяўчынкі | 47 | 34,7 | 21 |
| Усяго | 58,3 | 48,7 | 33,3 |
| **Служачыя** | | | |
| Хлопчыкі | 80 | — | 75 |
| Дзяўчынкі | 39 | 46,7 | 56 |
| Усяго | 57,2 | — | 63,3 |
| **Саматужнікі** | | | |
| Хлопчыкі | — | — | 75 |
| Дзяўчынкі | 49,6 | — | — |
| Усяго | 49,6 | — | 75 |
| Па ўсей клясе | 56,9 | 50 | 44,0 |

Зусім асобна стаіць, вучань клясы „Б" Аск-М 13 г., сын рабочага. У першы раз ён выконвае ўсе заданьні, толькі ў 2-м заданьні ён робіць 5 памылак, ня ведае, як паставіць пераключальнікі; у 3-м заданьні 4 памылкі. Дзейнічае хутка, упэўнена—кожнае заданьне выконвае хутчэй, чым вызначаная норма — ад 30 — 120 сэкунд. Хлопчык ужо 4 гады піянэр; другую зіму ён працуе ўвечары на Дзіцячай тэхнічнай станцыі ЦК ЛКСМБ—вось прычына яго выкананьня заданьняў.

Зьвернемся да рэзультатаў паўторнага экспэрымэнту ў клясе „А", у якім мы пры першым экспэрымэнце мелі самы нізкі процант выкананьня заданьня; мы маем зараз, пасьля праведзенай намі экскурсіі на электрастанцыю і прапрацоўкі яе ў клясе 98 проц. выкананьня заданьняў.

Фактычна мы маем 100-проц. выкананьне заданьняў усімі вучнямі, за выключэньнем некалькіх дзяўчынак (служачых), з каторых толькі 66 проц. выконваюць 2-е заданьне. Гэта можна тлумачыць тым, што пераключальнікаў такога тыпу, якія ў нас замяняюць рубільнікі, яны ня бачылі. Такім чынам мы можам сказаць, што пасьля праведзенай пэдагагічнай работы прападае „адсталасьць" дзяўчат, іх веды выраўніваюцца з ведамі ўсей клясы. Мы маем у клясе „А" самы высокі процант выкананьня заданьняў у другі раз экспэрымэнту (з 44 проц. да 98 проц.) гэта значыць на 54 проц. больш.

Табліца выкананьня заданьняў у другі раз экспэрымэнту па ўсіх клясах у проц.

| | А | Б | В |
|---|---|---|---|
| **Рабочыя** | | | |
| Хлопчыкі | 100 | 95 | 91,6 |
| Дзяўчынкі | 100 | 78,6 | 58 |
| Усяго | 100 | 83,3 | 20,8 |
| **Служачыя** | | | |
| Хлопчыкі | 100 | — | 91,6 |
| Дзяўчынкі | 95 | 76,7 | 62,8 |
| Усяго | 96,7 | 76,7 | 18,1 |
| **Саматужнікі** | | | |
| Хлопчыкі | 100 | — | — |
| Дзяўчынкі | 83,3 | — | 83,3 |
| Усяго | 98 | 82,8 | 76,4 |

Для клясы „А", у кожнай асобнай групе вучняў, рост проценту выкананьня заданьняў у другі раз будзе тым большым, чым меншым быў процант выкананьня заданьняў у першы раз. Мы маем рост проценту вучняў, выконваючых заданьні хлопчыкаў рабочых—65 проц., дзяўчынак—79 проц.; хлопчыкаў служачых—25, дзяўчынак 39 проц. Мы бачым, што дзеці рабочых даюць у другі раз большы прырост проценту выконваючых заданьні, чым астатнія дзеці.

У клясе „Б", пасьля праведзенай лекцыі вучні пры паўторным экспэрымэнце даюць ў сярэднім 82,8 процантаў выкананьня заданьняў. У параўнаньні з першым разам на 32,8 процантаў болей.

Найбольш цяжкія заданьні другое і чацьвертае выконваюць у сярэднім 76 проц. вучняў у параўнаньні з першым разам на 45 проц. болей. Усе хлопчыкі, ва ўзросьце ад 13-14 год, выконваюць 2,-3,-4, 5 і 6-е заданьні. Першае-ж заданьне выконвае толькі 80 проц. Усе хлопчыкі, дзеці рабочых 11-12 г., выконваюць першае, 5, 6, заданьні—з астатніх заданьняў 80-90 проц. Не адстаюць тут і дзяўчынкі рабочых--ўсе яны (13-цігадовыя) у другі раз выканалі 3-е, 5-е, 6-е, заданьні. Адзінаццацігадовыя даюць меншы рост выконваючых заданьні. Невялікі прырост дзяўчынак служачых. Гэтыя даныя сьведчаць аб тым, што вучні аднесьліся з вялікай зацікаўленасьцю да лекцыі - гутаркі

і пастараліся засвоіць тыя веды, якія дапамаглі пры выкананьні заданьняў. На падставе нашых дадзеных, мы маем цяпер магчымасьць даць ацэнку эфэктыўнасьці лекцыі—гутарцы з дэманстрацыяй фізычных прыбораў. Рэзюмуем.—Такога роду лекцыя-гутарка павялічвае веды вучняў, але яна яшчэ не зьяўляецца вычарпальнай формай работы па электрычнасьці ў рабочым пакоі. Гэта зьяўляецца адным са зьвеньняў усёй работы па электратэхніцы для вучняў 4-ай клясы, усе-ж астатнія зьвеньні маюць яшчэ многа розных форм. Тут і экскурсія, тут і апэрацыйная практычная работа вучняў у рабочым пакоі. Неаднакроць намі ўжо напаміналася, што ў клясе „В“ паміж першым і другім экспэрымэнтамі ніякай пэдагагічнай работы, якая магла-б дапамагчы вучням ў выкананьні заданьня, не вялося. Пры разглядзе табліц мы заўважаем, што процант выкананьня заданьняў у другі раз павялічыўся на 19, 5 проц.,—у першы раз выконвалася 56, 9 проц., у другі раз 76, 4 проц. Кідаецца ў вочы 100 проц. выкананьне першага, 5, 6 заданьняў хлопчыкамі рабочых і 5, 6 заданьняў хлопчыкамі служачых. Удалося ўстанавіць, што сярод хлопчыкаў мела месца падсказваньне адзін аднаму сваіх дасягненьняў, даваліся парады: „Не забудзь уключыць галоўны рубільнік“ і г. д. Сярод дзяўчат—рабочых процант выкананьня павялічваецца толькі ў 1-м 4-м заданьнях, у астатніх усё застаецца, як раней. Толькі 5-е заданьне выконваюць на 30, 8 проц., больш дзяўчат служачых. Астатнія заданьні выконваюцца нязначна большым процантам, дзяўчат служачых—у сярэднім каля 15-16 проц. Такім чынам, у сярэднім у клясе „В“ у другі раз заданьні выконваюцца на 19, 5 проц болей, чым ў першы раз. Адкуль ўзяўся гэты рост? Мы гаварылі аб тым, што тут мела месца падсказваньне; акрамя гэтага, пры самым працэсе выкананьня заданьняў кожны шукаючы вырашэньня задачы рознымі шляхамі спрабуе ўсякія камбінацыі рубільнікаў, пераключальнікаў, кнопак; вар'іруе іх становішча і часам дасягае—такім эўрэстычным шляхам сваёй мэты. Набытае ўменьне напрыклад, уключэньне галоўнага рубільніка, ён скарыстоўвае пасьля і на другіх заданьнях. Такім чынам, дзякуючы практыкаваньню, можа павялічыцца процант вучняў, выконваючых заданьні. Будзем лічыць, што 19, 5 проц. росту зьяўляецца нармальным вынікам практыкаваньня вучняў у час экспэрымэнту плюс рознага роду фактары; як запытваньне ў тарышоў, бацькоў—назіраньні на вуліцах. Мы раней, калі гаварылі аб прадметных тэстах, папярэджвалі, што адніманьне ад агульнай цыфры прыросту процант у другі раз той цыфры процантаў, якую мы называем „натуральным“ прыростам, будзе механічным мэтадам. Усё-ж ўмоўна, каб больш дакладна вылічыць эфэктыўнасьць экскурсіі альбо лекцыі—гутаркі, мы адымем ад 54 проц. прыросту ў клясе „А“—19, 5 проц. Тады мы скажым, што эфэктыўнасьць экскурсіі на электрастанцыю выражаецца ў росьце выкананьня заданьняў з першага да другога разу экспэрымэнту ў 32, 5 проц. Лекцыя--гутарка дапамагла павялічэньню ведаў вучняў на 13, 3 проц. (32, 8 проц.—19, 5 проц.)

Усё гэта, так званая „колькасная“ старана. Зьвернемся да якаснай. Калі мы гаварылі аб выкананьні заданьняў, мы мелі на ўвазе, што вучань у пэўны адцінак часу разьвязвае пастаўленую перад ім задачу. Гэта значыць, што пры першым заданьні ён уключае галоўны рубільнік, ставіць на месца адзін з пераключальнікаў, і ў выніку на слупох птушкаводнай станцыі запальваюцца ліхтары. Пры другім заданьні запальваюцца лямпачкі ў памяшканьнях птушатнікаў, пры трэцім асьвятляецца завод і г. д. Кожны вучань у першы раз экспэрымэнту па-свойму шукае магчымасьці выканаць заданьне. У час гэтых шуканьняў ён робіць памылкі. Памылак бывае тым больш, чым менш ён ведае, як разьвязаць сваю *задачу. Гэта* датычыцца да тых вучняў, якія ў рэзультаце выконваюць заданьні. (Аб тых якія ня выконваюць, мы зараз ня гаворым).

Зразумела, што доўгія пошукі вырашэньня задачак з вялікім лікам памылак, адымаюць шмат часу. У першы раз экспэрымэнту ўсе вучні мелі, у агульным, аднолькавы багаж, прышлі без спэцыяльнай падрыхтоўкі. У другі раз экспэрымэнту іх веды розьніліся ў залежнасьці ад праведзенай з імі працы. Таму, калі

мы праглядаем пратакольныя запісы паводзін вучняў пры паўторным экспэрымэнце, мы бачым, што вучні клясы „А“ выконваюць заданьне не на вобмацак, ня доўга шукаючы, а ўпэўнена, хутка больш менш сьвядома. Пры першым экспэрымэнце вучні, выканаўшыя заданьні, робяць 49, 2 проц. заданьняў з памылкамі, пры паўторным экспэрымэнце ўсяго 28 проц. заданьняў выконваюцца з памылкамі, а лік памылак разьмяркоўваецца наступным чынам:

**Табліца працантаў заданьняў, выкананых з памылкамі ў клясе „А“**

| | Лік памылак | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| Процант заданьняў, выкананых з памылкамі 1-шы раз | — | 15,8 | 3,07 | 9,2 | 9,2 | 3,07 | — | 1,5 | 4,5 | 1,5 | 3,07 |
| Процант заданьняў, выкананых з памылкамі 2-гі раз | 6,1 | 6,7 | 4,8 | 4,1 | 0,6 | 2,5 | 0,6 | 1,38 | — | — | 1,38 |

З табліцы мы бачым, што ў другі раз павял чыўся процант заданьняў з аднэй памылкай, затое—па дзьве-тры памылкі робяць ўсяго 6, 7 проц і 4, 1 проц.; з большым лікам памылак маецца вельмі нязначны процант заданьняў. Гэта служыць выразным доказам, што ў другі раз вучні клясы „А“ выконваюць свае заданьні больш сьвядома з меншым лікам памылак, чым ў першы раз. У клясе „В“ мы маем таксама памяншэньне ліку памылак. Зусім аднолькавае становішча з лікам памылак у першы і другі раз у клясе „В“.

Хуткасьць выкананьня заданьняў у клясе „А“ значна ўзрастае. Калі ў першы раз заданьні ў большасьці сваёй выконваюцца на працягу часу ад 120 да 200 сэкунд, то ў другі раз большасьць заданьняў выконваецца на працягу часу ад 10 да 80 сэкунд—пераважна да 40. Памяншаецца час выкананьня заданьняў і ў клясе „Б“. Большасьць заданьняў у клясе „Б“ за 120 сэкунд, у клясе „В“ зьмены ўсэнсе хуткасьці выкананьня нязначны. Усе вышэй пералічаныя намі моманты, як для клясы „А“, так і часткова для клясы „В“, як зьмяншэньне ліку памылак наогул пры заданьнях, невялікі лік памылак пры кожным заданьні паасобку, хуткасьць выкананьня,упэўненае выкананьне, сьведчыць аб значнасьці розных зьвеньняў пэдагагічнай працы—экскурсіі, лекцыі, гутаркі. Нашы рэзультаты падцьвярджаюць, што ў 4-ай клясе магчыма вывучэньне элемэнтаў электратэхнікі. Бязумоўна, што праца ў рабочым пакоі павінна будавацца шырэй і глыбей, чым гэта было ўзята намі выключна для экспэрымэнтальных мэт.

**Табліца процанту вучняў, выканаўшых заданьне ў розны час (у сэкундах)**

| Клясы | Сэкунды | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да 10 | 10—20 | 20—30 | 30—40 | 40—50 | 50—60 | 60—70 | 70—80 | 80—90 | 90—100 | 100—110 | 110—120 | 120—140 | 140—160 | 160—180 | 180—200 | 200 і больш |
| **Першы раз** | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| А | 3,08 | 26,1 | 9,2 | 6,1 | — | 3,08 | 7,7 | 3,08 | — | 6,1 | — | — | 15,4 | — | — | 20 | — |
| Б | 3,06 | 20,05 | 2,04 | 6,1 | 5,1 | 1,1 | 17,4 | 3.08 | 1,01 | 4,08 | 4,08 | — | 14,2 | 5,4 | — | 12,3 | 4 |
| В | 10,8 | 10,8 | 7,2 | 7,2 | 17,2 | 1,4 | 10,5 | 4,3 | 4,2 | 0,71 | 2,8 | — | 10,8 | 2,1 | 1,4 | 6,4 | 0,7 |
| **Другі раз** | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| А | 14,2 | 21,8 | 14,9 | 12,2 | 3,3 | 2,4 | 6,8 | 8,1 | 2,7 | 2,4 | 1,3 | — | 4,1 | — | — | 6,1 | — |
| Б | 10,9 | 17,07 | 17,07 | 12,2 | 7,3 | 4,6 | 5,05 | 3,4 | 3,6 | 0,61 | 1,2 | 0,61 | 5,05 | 1,2 | — | 7,3 | 1,8 |
| В | 14,3 | 13,8 | 19,1 | 16,4 | 8 | 2,1 | 9,5 | 4,7 | — | 2,1 | — | 0,56 | 0,37 | 0,58 | 1,5 | 3,1 | — |

## Палітэхнічныя веды вучняў па электрычнасьці

Для таго, каб мы маглі больш поўна ацаніць дадзеныя нашых доследаў і каб больш яскрава высьветліць эфэктыўнасьць экскурсіі, нам трэба было высьветліць веды вучняў, якія меліся ў іх у той час, калі яны да нас прышлі.

З далучаемай анкеты-тэсту відаць, што яна дзеліцца на дзьве часткі:

Першая--гэта проста анкетныя пытаньні, пытаньні аб тым, ці былі вучні калі-небудзь на электрастанцыі, ці былі яны ў машыным аддзяленьні фабрыкі, заводу, ці бачылі яны дынамо-машыну, матор. Другая частка—гэта тэсты з вольнымі адзнакамі. Тут мы цікавімся, ці ведае вучань часткі разьмеркавальнага шчыта, ці прыглядаўся ён, як праводзяць электрычнасьць у дом, ці ведае ён аб ізаляцыі правадоў і іншыя пытаньні.

Цікава было праверыць, наколькі замацаваліся ў памяці веды аб пяцігодцы электрыфікацыі, ці ведаюць яны,—што што сказаў таварыш Ленін аб электрыфікацыі. Для зручнасьці ўсё гэта мы будзем называць анкетай-тэстам. Гэта анкета была праведзена па адным разе ва ўсіх трох клясах пасьля першага экспэрымэнтаваньня. У клясе „А“ яна была праведзена ў першы раз да экскурсіі, у другі раз паўторна, пасьля яе.

Застановімся на выніках нашай анкеты. Адказы на першыя пытаньні гавораць нам аб тым, што з ліку вучняў на электрастанцыі былі: з клясы „А„ 16,6 проц., з клясы „Б“ 3,3 проц. і з „В“—3 проц. У машынным аддзяленьні заводу,фабрыкі былі 3 клясы „В“-87,7 проц. вучняў, з клясы „Б“ 75,7 проц., з клясы „А“—27,7 проц. Гэтыя паказальнікі прымушаюць нас шукаць тут тлумачэньня лепшых адказаў вучняў—клясаў „Б“ і „В“ па нашых прадметах тэстах і на лепшае выкананьне заданьняў у першы раз. Вучні клясы „А“ ня бачылі матора, ня бачылі дынамо, называюць яго 11 проц Тут адчуваецца адсутнасьць арганізаваных наведваньняў фабрык і заводаў. Шмат вучняў клясы „Б“ бачылі дынамо-машыну. Некаторыя пішуць: „Відзеў матор у аўтамабілі,“ „у трамваі.“ Аб дынамо, як крыніцы электрычнага току, ведаюць аднолькава як вучні клясы „А,“ так і вучні клясы „В“, лепш ведаюць вучні клясы „Б“. Здавальняючых адказаў у іх 51,5 проц. Пытаньні, якія датычацца электрастанцыі толькі часткова знаёмы. Аб разьмеркавальным шчыце ніхто ня ведае; аб тым, чым прыводзяцца ў рух машыны электрастанцыі, ведаюць лепш другіх у клясе „Б“ 45,4 проц, у клясе „В“ 33 проц і зусім мала ў клясе „А“—усяго 22 проц.

Спасылаючыся на першае пытаньне нашай анкеты, можна канстатаваць, што веды гэтыя атрыманы не шляхам непасрэднага назіраньня, а кніжна. Пытаньні, якія адносяцца да электрамантажу найбольш цяжкія для клясы „А,“ чым астатнія. На пытаньне аб ізаляцыйных трубках і на пытаньне: чаму заўсёды працягваюцца два правады, зусім няма адказу. Усяго 5,5 правільных апісаньняў, як праводзіць у дом электрычнасьць. Мы не патрабавалі дэталёвага апісаньня працэсу электрамантажу з усімі тэхнічнымі тэрмінамі; нас цікавіла, ці маюць вучні толькі ўяўленьне аб гэтым працэсе. Вось якое апісаньне дае хлопчык 11 год, сын работніцы Б. Б.: „Спачатку пракручваюць у сьцяне дзьве дзіркі; праз гэтыя дзіркі ўстаўляюць трубкі (бліскучыя), праз трубкі па сьцяне прапускаюць правады ад слупа і потым праз такія кружочкі (выключальныя скрыначкі—заўвага аўтара) разводзяць правады па доме). Такое апісаньне сьведчыць праведаньне пасьлядоўных этапаў працы па праводцы электрычнасьці. Некаторыя дадаюць, што „трубкі ўнутры рэзінавыя“ што„на даху ставяць жалезную палку з чашкамі.“ Гэткіх апісаньняў у клясе „Б“ было 18 проц., а ў клясе „В“ 23.

Зусім мізэрныя паказальнікі аб ізаляцыйных трубках, трохі лепш ведаюць вучні аб ізаляцыі правадоў. Правільных адказаў ёсьць ад 33,3 да 45,4 проц. Паўтараем, што фармулёўкі, даваемыя вучнямі ня зусім дакладныя і значна адрозьніваюцца ад фармулёвак у падручніках па электратэхніцы; але важна тое, што ўсё-ж вучні маюць веды аб неабходнасьці ізаляцыі. Мы маем адказ: „Каб ток дарэмна не разыходзіўся,“ „каб ня

было пажара,“ „каб не цягнула за рукі,“ „каб ня ўбівала людзей.“

З цікавым фактам, мы сустрэліся ў клясах „Б“ і „В“. У клясе „Б“—12 проц, а ў „В“—2 проц. пішуць аб дадатных і адмоўных токах, „ёсьць плюс і ёсьць мінус, таму працягваюць два правады.“ Аб тым, што лічыльнік служыць для вымерваньня патрачанай электаэнэргіі ведаюць вучні клясы „В“ лепш, чым другія (39 проц. вучняў маюць дома электрычнасьць). У клясе „Б“ 44 проц. даюць правільны адказ, у клясе „А“ 27,7 проц; сярэдні паміж абодвыма клясамі ў клясе „Б“—36,3 проц. Пра скарыстаньне электрычнасьці пераважнымі зьяўляюцца адказы аб бытавым скарыстаньні электрычнасьці—„для асьвятленьня, „для ацяпленьня“; у клясе „А“ такіх адказаў 22 проц., а аб вытворчым скарыстаньні электрычнасьці 16,6 проц., у клясе „Б“ аб бытавым скарыстаньні гавораць усяго з 9 проц., а аб вытворчым—45 проц. У клясе „В“ адказы аднолькавыя маюць той і другі зьмест. Маюцца зусім дзіцячыя фармулёўкі: электрычнасьць палягчае працу чалавека. Не пад сілу было адказаць ім на пытаньне аб электрыфікацыі СССР. Дзяўчынка з клясы „Б“ піша: „Электрыфікацыя мае вялікае значэньне для СССР, без яе ня могуць працаваць машыны, ня будзе выканан прамфінплян у чатыры гады.“

Хлопчык з „В“ піша аналёгічнае: „Без электрычнасьці ня будуць працаваць заводы, ня будзе на вуліцах сьвету, на будзе кіно. У гэтых адказах і праяўляецца тое, што для вучняў 4-й клясы недаступны абагульненьні. Астатнія дзеці зусім не адказваюць на гэтыя пытаньні, альбо даюць таўталёгічны адказ: „вальшое, вялікае значэньне,“ відавочна, што ў школе вучні гэта пытаньне не прапрацоўвалі. У клясах „А“ і „В“ зусім ня ведаюць лёзунгу таварыша Леніна аб электрыфікацыі. У клясе „Б“ 21 проц. вучняў перадаюць яго сваімі словамі—пішуць прыблізны сэнс гэтага лёзунгу. Вось некаторыя запісы: „Толькі электрыфікацыяй можна разьвіваць сацыялізм,“ электрыфікацыя—шлях да сацыялізму“ Ленін казаў—калі СССР будзе электрыфікавана, мы пераможам капіталістых,“ „электрыфікацыя—магутнасьць СССР,“ „Трэба строіць электрычны век.“ Гэтыя адказы характарызуюць недастатковае разуменьне вучнямі ролі электрыфікацыі, не замацованы яшчэ веды аб геаграфічным разьмяшчэньні вялікіх электрастанцый, пабудаваных ужо і яшчэ будуемых. Часта блытаюць і называюць ўжо пабудаваныя—будуючыміся. Так у клясе „А“ на 18-е пытаньне—„Асінбуд, Днепрабуд, Волхаўская“—адказала усяго 16 процантаў вучняў. У клясе „В“ вучні называюць асобна ўжо пабудаваныя і асобна тыя, што будуюцца, хаця ў некаторых выпадках цяжка правесьці такое разьмежаваньне ў сувязі з рэканструкцыяй ужо пабудаваных. З пабудаваных называюць Волхаўскую. Асінстан, Шатурку, Сьвірскую, часткова Магнітагорскую: з будуючыхся: Днепрабуд, Канданежскую, Малавежскую і інш. Наогул, адказы на 49 проц. можна назваць правільнымі. Можна лічыць, што зусім малая колькасьць піянэраў у клясе „А“, мабыць, паслужыла прычынай адсутнасьці адказаў на пытаньне, хто зьяўляецца шэфам электрыфікацыі СССР і па той-жа прычыне большы процант адказваючых (39,3 проц.) маецца ў клясе „Б,“ дзе большасьць вучняў піянэры. Астатнія вучні даюць арыгінальныя, але няправільныя адказы: „Шэф гэта піянэры і школьнікі,“ „Камуністычная партыя“, „Ленін“, „Камунізм“, „піянэры.“ Пры паўторным правядзеньні анкеты ў клясе „А“ вучні даюць значна больш правільных адказаў; чым у першы раз. Але тут мы не маем яшчэ 100 проц. правільных адказаў, як гэта бывала па заданьнях альбо па прадметных тэстах. Веды павялічыліся ў галіне электратэхнікі—калі гавораць аб разьмеркаваньні шчыту, вучні ведаюць яго асноўныя часткі, ведаюць, чым прыводзяцца ў рух генэратары электрастанцыі. Ведаюць аб ізаляцыі правадоў і аб ізаляцыйных трубках, тое, чаго ня ведаў ніхто ў першы раз. Вучні клясы „А“ называюць лічыльнік і ведаюць аб адзінцы вымерваньня электраэнэргіі—ватт. 63,1 проц. вучняў даюць апісаньне вытворчага працэсу правядзеньня электрычнасьці ў дом. На гэты раз вучні ўжо больш прыдаюць

значэньне вытворчаму скарыстаньню электрычнасьці, чым бытавому: на першае даюць 63,1 проц. правільных адказаў, на другое—57,9 проц. Што сказаў таварыш Ленін аб электрыфікацыі, ведаюць 36,8 проц., даюць у адказах, як вучні клясы „Б“ у першы раз, прыблізны зьмест альбо сэнс гэтай думкі.

Анкета—тэст

| №№ п/ч. | ПЫТАНЬНІ | Проц. правільных адказаў па ўсіх клясах | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Б | В | А I раз. | А 2 раз |
| 1. | Ці быў ты калі-небудзь на электрастанцыі? | 3,03 | 3 | 16,6 | 84,2 |
| 2. | Ці быў ты калі небудзь у машынным адзяленьні заводу ці фабрыкі, дзе? | 75,7 | 87 | 27,7 | 94,7 |
| 3. | Ці бачыў ты матор, дзе? | 39,3 | 18 | 11,1 | 84,2 |
| 4. | Ці бачыў ты дынамо-машыну, дзе? | 72,3 | 86 | 11,1 | 89,4 |
| 5. | Як атрымоўваецца электрычны ток? | 51,5 | 21 | 22,4 | 89,4 |
| 6. | Якія ты ведаеш часткі разьмеркавальнага шчытка? | 0 | 0 | 0 | 47,3 |
| 7. | Чым прыводзяцца ў рух машыны электрастанцыі? | 45,4 | 33 | 22,4 | 78.9 |
| 8. | Апішы, што робяць калі праводзяць электрычнасьць у дом? | 18,1 | 23 | 5,5 | 63,1 |
| 9. | Чаму пры праводзе электрычнасьці праводзяць два правады? | 12,1 | 2,4 | 0 | 36,8 |
| 10. | Чаму дрот праваду пакрыт гумай альбо матэрыяй? | 45,4 | 39 | 33,3 | 78,9 |
| 11. | Чаму электрычныя правады з вуліцы ў дом праводзяць праз трубкі? | 18,1 | 9,7 | 0 | 53,6 |
| 12. | Якім прыборам вымяраецца кольк. скарыстанай электраэнэргіі? | 36,3 | 44 | 27,7 | 47,3 |
| 13. | Якой адзінкай меры вымяраецца колькасьць скарыстанай электраэнэргіі? | 18,1 | 8 | 5,5 | 57,9 |
| 14. | Для якіх мэт карыстаюцца электрычнасьць? | 45,4 | 48,8 | 22,2 | 63,1 б 57,9 п |
| 15. | Якое значэньне мае электрыфікацыя для Савецкай краіны? | 3 | 3 | 0 | 16 |
| 16. | Што сказаў тав. Ленін пра электрыфікацыю? | 21 | 0 | 0 | 36,8 |
| 17. | Колькі раённых элек. станцыі намечана пабудаваць па пляне 5-годкі | 6 | 49 | 0 | 63,1 |
| 18. | Якія вялікія электрастанцыйі пабудаваны ў С. С. С. Р. і якія будуюцца? | 0 | 43 | 0 | 47,3 |
| 19. | Што спарней—адна вялікая элект. станцыя ці некалькі малых, чаму? | 15,1 | 36,6 | 0 | 42,1 |
| 20. | Хто шэф элетрыфікацыі С. С. С. Р? | 39,3 | 5 | 0 | 21 арг. |

Хлопчык 12 год., сын рабочага, піша: „Электрыфікацыя плюс калектывізацыя-будзе камунізм“. Сярод арыгінальных адказаў маюцца некаторыя, якія імкнуцца сваімі словамі растлумачыць сэнс гэтай вялікай ідэі. Фармулююць некаторыя проста: калі мы электрыфікуем нашу краіну, мы хутчэй прыдзем да сацыялізму.“ Іншыя ня могуць абагуліць сацыяльнага значэньня электрафікацыі (альбо маюць яго толькі на ўвазе), але пішуць толькі аб гаспадарчым значэньні электрыфікацыі: „каб усё рабіць электрычнасьцю“, „каб пабудаваць больш фабрык“, „разьвіцьцё электрыфікацыі-разьвіцьцё прамысловасьці“. Маецца і чыста фармальнае канстатаваньне фактаў, без аналізу іх, не перадаючы ідэі: „Без алектрыфікацыі жыць дрэнна“.

Другія робяць вывад і, ужо ня выкладаючы думкі проста, заклікаюць: „трэба змагацца за электрыфікацыю“. Мы прызнаем, што ня гледзячы на разуменьне лёзунгу тав. Леніна вучнямі клясы „А“, усё-ж, судзячы па цыфравых дадзеных, лёзунг гэтай клясай ня быў засвоен. Ня было засвоена таксама значэньне электрыфікацыі—няма канкрэтных паказальнікаў, канкрэтнага разуменьня яе, пішуць часьцей за ўсё: „мае вялікае значэньне“, „вельмі карысна“; толькі адзін 14-гадовы хлопчык фармуляваў сваю думку больш канкрэтна: „мае вялікае значэньне для пашырэньня прамысловасьці, для асьвятленьня калгасаў, вуліц, дамоў“. Такіх часткова правільнах адказаў мы маем 16 проц., што зьяўляецца зусім недастатковым. Слабыя

веды па геаграфічных разьмяшчэньнях буйных электрастанцый. Большая частка называе Волхаўскую, Асінстан, з будуючыхся Днепрабуд. Такіх адказаў таксама мала, усяго 47,3 проц. На 19 пытаньне аб тым, якая электрастанцыя карысна—адказваюць правільна 42,1 проц. вучняў; у першы раз ніхто не акадзаў, значыць рост правільных адказаў і будзе 42,1 проц. Зусім недастатковым было правядзеньне кароткай гутаркі на сходзе аб шэфстве камсамолу над электрыфікацыяй. Усяго 21 проц. правільных адказаў даюць вучні на гэта пытаньне. Астатнія даюць такія расплывучатыя агульныя адказы: „рабочая кляса", „камуністычная партыя".

## Вывады анкеты

Некалькі слоў трэба нам сказаць аб самым мэтадзе анкеты—тэсту. Зусім правільна выступаюць за апошні час супроць такога захапленьня анкетамі. Самым захапляючым у гэтым мэтадзе зьяўляецца тое, што ён дае магчымасьць калектыўна праводзіць яго, дае магчымасьць за невялікі адцінак часу сабраць шмат матар'ялу. Гэты мэтад дае магчымасьць канстатаваць наяўнасьць ведаў, уяўленьняў; дае нам адказы на нашы запытаньні, але не дае нам магчымасьці высьветліць якасьць гэтых адказаў. Усё гэта патрабуе другіх дадатковых мэтадаў, аб якіх мы тут гаварыць ня будзем. У дадзеным выпадку наша анкета-тэст сябе апраўдае; з адказаў мы высьветлілі, што вучні клясы, „А" зусім мала бывалі на фабрыках, заводах. У клясе „А" зусім слаба былі прапрацаваны па геаграфіі і грамадазнаўстве тэмы электрыфікацыі СССР „5-годка эліктрыфікацыі". Вынікі сьведчаць аб малых тэхнічных ведах вучняў у клясе „А", у параўнаньні з вучнямі клясаў „Б" і „В". Паўторная анкета ў клясе „А" дае магчымасьць канстатаваць рост ведаў вучняў у асаблівасьці па электратэхніцы. На аснове гэтага мы можам заключыць аб значэньні экскурсій на электрастанцыю для набыцьця палітэхнічных ведаў. Недастаткова была прапрацавана наша экскурсія ў школе. Недасткова было абмяжавацца толькі гутаркамі па пытаньні аб будаўніцтве новых электрастанцый, па пытаньні шэфства камсамолу над электрыфікацыяй, аб значэньні электрыфікацыі, аб тым, што пісаў тав. Ленін аб электрыфікацыі. Выходзячы з гэтага, трэба гаварыць пра больш актыўныя формы замацаваньня ведаў вучняў. Для замацаваньня ведаў па электратэхніцы трэба было правесьці шэраг практычных работ у рабочым пакоі. Як канчатковы вывад, мы ўсё-ж зазначаем, што, ня гледзячы на нізкія паказальнікі ведаў вучняў клясы „А" пры правядзеньні анкеты і недастковай прапрацоўцы рэзультатаў экскурсіі, ўсё-ж пакзальнікі паўторнай анкеты сьведчаць аб росьце як тэхнічных, так эканамічных і грамадазнаўчых ведаў пасьля экскурсіі, што доказвае даступнасьць засваеньня гэтых ведаў вучнямі 4-й клясы. Адсюль сам напрашваецца вывад аб значэньні вытворчых палітэхнічных экскурсій на электрастанцыю для вучняў 4-й клясы. Параўнаньне процанту правільных адказаў на пытаньні анкеты па ўсіх 3 клясах, гаворыць нам аб неаднароднасьці ведаў вучняў як тэхнічных, так і грамадзнаўчых у залежнасьці ад становішча палітэхнічнай працы ў школе. Акрамя гэтага, нашы даныя сьведчаць аб зацікаўленасьці вучняў гэтымі пытаньнямі і аб імкненьні набыць веды хаця-б і пазашкольным шляхам. Адсюль яскравы пэдагічны вывад, што трэба заняцца плянавым, сыстэматычным засваеньнем гэтых ведаў, прадугледжаных праграмай політэхнічна-вытворчага навучаньня.

## Агульныя вывады

На аснове дадзеных нашых досьледаў мы заключаем, што тая частка праграмы па палітэхнічна-вытворчым навучаньні якую называюць электратэхнікай даступна для вучняў чацьвёртай клясы. Гэта пацьвердзіць практычны вопыт школ. Наша задача пры праходжаньні гэтай часткі праграмы зусім ня зводзіць к вывучэньню толькі „тэхнікі". Вывучаючы электратэхніку і электрычную станцыю, мы павінны паказаць вуч-

ням і сацыялістычны бок электрыфікацыі, як важнейшы фактар тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. На прыкладзе электрастанцыі мы павінны даць вучням разуменьне аб арганізацыі работы, аб сацыялістычных формах працы на прадпрыемстве, аб усім грамадзка-палітычным жыцьці прадпрыемства. Вучні павінны адчуваць, што тэхніка неабходна нам для сацыялістычнага будаўніцтва, для завяршэньня пабудовы сацыялізму. Уся работа па палітэхнічна-вытворчым навучаньні павінна ствараецца з камуністычнымі адносінамі да працы, да народнай маёмасьці, павінна спалучацца з выхаваньнем камуністычнай маралі, бо палітэхнічнае выхаваньне зьяўляецца сутнасьцю камуністычнага выхаваньня. Палітэхнічнае навучаньне, наогул, і яго састаўную частку—электрычнасьць, у праграме 4-й клясы ў прыватнасьці, нельга зводзіць толькі к аўладаньню вузка-тэхнічнымі навыкамі і ведамі. „Было-б у вышэйшай ступені не правільна адлучыць навыкі ад навуковых ведаў; тое і іншае павінны шчыльна сплятацца адно з адным. Нішто не зьяўляецца такім вялікім скажэньнем прынцыпаў палітэхнізму, як дуалізм голай працы і слоўнага палітэхнізму". (Праграма НКА БССР).

Усё гэта трэба праводзіць, ні на адну хвіліну не забываючы, „што грамадзка-вытворчая праца вучняў павінна быць падпарадкавана вучэбна выхаваўчым мэтам школы".

На аснове нашых досьледаў мы прапануем наступную мэтодыку правядзеньня экскурсіі на электрастанцыю. Экскурсію на электрастанцыю ў чацьвертай клясе раіцца праводзіць пасьля таго, як у клясе будзе прапрацавана асноўная частка праграмы па электрычнасьці. На досьледах павінна быць прадэманстравана здабываньне электрычнага току. Па магчымасьці трэба паказаць вучням работу невялікай дынамо-машыны. Цікава правесьці невялікую электрычную праводку, накшталт апісанага намі прыбора—мадэлі электрастанцыі (зразумела больш прымітыўна), скарыстоўваючы энэргію маючайся дынамо-машыны. Пры электрамантажы вучні павінны прывучацца крэсьліць схэмы праводкі (таксама прымітыўна). Некаторыя настаўнікі пачынаюць адразу праводзіць з вучнямі рамонт асьвятляльнай сеці—гэта рабіць нельга, бо вучні IV клясы яшчэ не знаёмы з тэхнікай небясьпекі, ня ўмеюць абыходзіцца з электрычнасьцю, у выніку могуць здарыцца няшчасныя выпадкі. Калі вучні маюць ужо ўяўленьне аб электрычным току, калі яны ўжо зрабілі мантажныя працы, калі ў асноўным ужо прапрацавана праграма па палітэхнічна вытворчым навучаньні (па электрычнасьці), пачынаецца падрыхтоўка да экскурсіі на электрастанцыю. Экскурсія мае тры этапы: падрыхтоўка, правядзеньне і падвядзеньне вынікаў—улік экскурсіі. Падрыхтоўка складаецца як з падрыхтоўкі настаўніка, так і падрыхтоўкі вучня.

1) Настаўнік павінен падрабязна азнаёміцца з электарстанцыяй настолькі, каб ён сам змог пасьля праводзіць экскурсію. Мэтазгодна, азнаямленьне з электрастанцыяй праводзіць ня кожнаму настаўніку паасобку, а гарадзкім калектывам настаўнікаў IV клясаў: і адміністрацыя хутчэй пойдзе на сустрэчу і дасьць дазвол на азнаямленьне аднаму альбо некалькім калектывам настаўнікаў, і само вывучэньне электрастанцыі будзе больш грунтоўным, дэталёвым, усебаковым.

2) Паралельна з вывучэньнем электрастанцыі, праводзіцца азнаямленьне з літаратурай па гэтым пытаньні.

3) Кожны настаўнік павінен дамовіцца з адміністрацыяй электрастанцыі аб дні і гадзіне экскурсіі, аб вылучэньні працаўніка (тэхніка альбо рабочага) у дапамогу настаўніку. Вылучанага трэба азнаёміць з плянам экскурсіі. Адна з галоўнейшых работ у падрыхтоўцы настаўніка—гэта складаньне падрабязнага, старанна прадуманага пляну. Акрамя пляну, карысна зрабіць адзнакі для сябе аб тым, на што трэба зьвярнуць больш ўвагі вучню, на якіх момантах у сувязі з праграмай матар'ялу трэба больш застанавіцца; заўважыць, дзе могуць сустрэцца цяжкасьці на экскурсіі.

Падрыхтоўкай вучняў у асноўным зьяўляецца праходжаньне праграмы: досьледы, дэманстрацыя фізычных прыбораў, электра-мантаж, званковая пра-

водка, крэсьленьне схэм, кіно; на лекцыях па грамадазнаўстве і геаграфіі-гутаркі аб электрыфікацыі і ажыцьцяўленьні яе ў СССР, аб геаграфічным разьмяшчэньні электрастанцыі. Тут жа ўваходзіць вывучэньне крыніц энэргіі. Роля гэтых крыніц энэргіі ў народнай гаспадарцы. У час гутаркі настаўнік знаёміць вучняў з плянам экскурсіі: тут жа вызначаюцца грунтоўныя пункты, на якіх трэба больш застанавіцца. Можна дадаткова паказаць на фізычных прыборах тыя зьявы, з якімі вучням прыдзецца сустрэцца, напрыклад: паказаць мадэль турбіны; яшчэ раз агледзець дынамо-машыну, альбо матор, каб на электрастанцыі ня прышлося-б усіх дэталяй тлумачыць. У час падрыхтоўкі трэба вучняў разьдзяліць на групы, каб у кожнай было ня больш чым па 20 чалавек (бо больш вучняў ня змогуць быць на экскурсіі); скласьці сьпіс кожнай, дакладна дагаварыцца аб месцы зборy (лепш за ўсе ў школе). Пажадана, каб на падрыхтоўчай гутарцы прысутнічалі ўсе вучні, бо гэта гутарка павінна быць так пабудавана, каб скараціць тлумачэньне ў часе экскурсіі.

Адсутнічаўшыя вучні будуць ставіць больш пытаньняў, ужо прапрацаваных у клясе, што будзе перашкаджаць нармальнаму ходу экскурсіі. Вучні павінны мець з сабой сшыткі з алоўкамі і цьвёрдыя папкі, каб на іх лягчэй было запісваць. Мэтазгодна, каб у кожнага, альбо ў кожных двух вучняў быў на руках ясна напісаны плян экскурсіі; каб можна было сачыць за ходам яе правядзеньня. Загадзя трэба ўмовіцца, хто з вучняў будзе крэсьліць, хто будзе рабіць схэмы.

**Правядзеньне экскурсіі.** Як мы ўжо раней адзначалі, па магчымасьці павінен праводзіць экскурсію сам настаўнік. Ён добра ведае сваіх вучняў, ведае, што і як прапрацавана, сам складаў пляны экскурсіі. Настаўнік зможа зьвязаць матар'ялы экскурсіі з маючыміся ў вучняў ведамі: лепш будзе ведаць, як замацаваць іх. Настаўнік зможа ўлічыць зацікаўленасьць вучняў. Кіраўнік экскурсіі з вытворчасьці ня здолее (хаця-б і маючы гатовы плян), пры тлумачэньні адрозьніць найбольш патрэбнае для вучняў ад другараднага. Часта такога роду кіраўнікі апавядаюць цяжка зразумелай для вучняў мовай з вялікай колькасьцю тэхнічных тэрмінаў. Гэта толькі стамляе вучняў і змазвае ўсё значэньне экскурсіі. Экскурсія пачынаецца з папярэдняй гутаркі (хвілін 5-10) на самой электрастанцыі аб цэхах аб ходзе працэсу вытворчасьці. Экскурсію лепш праводзіць у парадку саўпадаючым з ходам здабываньня току, пасьлядоўна знаёмячыся з усімі стадыямі. Пачынаць трэба з кацельнай: паказаць бункера і апал, які туды засыпаецца, катлы (дзе яны замураваны), топкі, вымяральныя прылады-растлумачыць аб працы рабочых. Перад тым, як пайсьці ў машынную залю трэба раней растлумачыць дзецям галоўныя аб'екты, якія там маюцца і коратка сказаць аб іх працы, бо ў самой залі такі грукат, што часам і крыку ня чуваць. У машыннай залі праглядаюць па чарзе ўсе галоўнейшыя машыны: турбіны, генэратары; пры разглядзе разьмеркавальнага шчыта можна яго намаляваць. Трансфарматары можна паказаць, але падрабязна застанаўлівацца на транфармацыі току ня трэба. Больш падрабязнае тлумачэньне машыннай залі трэба даваць у якім-небудзь блізкім пакоі альбо канторцы, дзе менш шуму. Падрабязна вывучаецца грамадзка—палітычнае жыцьцё электрастанцыі. Усё вывучэньне цалкам праводзіцца ўсёй клясай, але пры наведваньні бюро ячэйкі КП(б)Б фабкома можна хадзіць па чарзе невялічкімі групкамі. Такім-жа парадкам вывучаецца і кіраўніцтва электрастанцыі. Наогул трэба так праводзіць тлумачэньні, каб не парушыць правільных суадносін, паміж слоўнымі тлумачэньнямі і дэманстрацыяй адбываючыхся працэсаў, каб не загрузіць аднымі тлумачэньнямі, альбо, наадварот, каб зусім не праводзіць „маўкліва“ экскурсіі. Кіраўнік павінен сачыць за тым, як трымаюць сябе вучні: не дазваляць ім рассыпацца па ўсім цэху, пры тлумачэньнях так расставіць вучняў, каб яны бачылі аб'ект, аб якім ідзе гутарка і добра слухалі настаўніка. Пасьля таго, як скончан агляд электрастанцыі можна паглядзець і дапаможныя цэхі, там жа на электрастанцыі праводзіцца заключная гутарка. У часе гэтай гутар-

кі вучні высьвятляюць незразумелыя для іх пытаньні. Настаўнік „па пляне" коратка паўтарае, шляхам пастаўленых вучням пытаньняў, усё бачанае. Тут-жа дапаўняюцца недастатковыя весткі, і ўрэшце замацоўваюцца набытыя веды. У часе гутаркі трэба памятаць, што экскурсія вельмі стамляе вучняў, і таму трэба імкнуцца, каб даць невялічкі перапынак для адпачынку. У часе заключнай гутаркі трэба так арганізаваць, каб ўсе вучні сядзелі за сталом і маглі-б запісваць вынікі. Экскурсію раіцца праводзіць ня больш 3-4 гадзін. Карысна, каб вучні дома ў той-ж дзень запісалі (па пляну) экскурсію, намалявалі малюнкі, схэмы. Далейшая прапрацоўка праводзіцца ў школе. Матар'ял здабыты на экскурсіі прапрацоўваецца потым на лекцыях па грамадазнаўстве, геаграфіі і на занятках вытворчага палітэхнічнага навучаньня. Канчатковы ўлік экскурсіі робіцца ў гутарцы, можа быць яшчэ дабаўлена і выстаўка. Для замацаваньня ведаў трэба скарыстаць літаратуру, дыапазытывы, фото-ілюстрацыі, тэхнічны кіно-фільм. Вучні могуць рабіць мадэлі.

**ЗАЎВАГА:** Экскурсію можна праводзіць ня толькі на цэнтральную электрастанцыю, але раённую і нават на электрастанцыю пры якім-небудзь заводзе, альбо фабрыцы, дзе маецца свой генэратар.

## АНКЕТА

1. Школа .......................... кляса ..........................
2. Прозьвішча, імя ..........................
3. Узрост .......................... 4. Стан (хлопец, дзяўчына) ..........................
5. Сацыяльнае паходжаньне .......................... 6. Заняткі бацькоў ..........................

..........................

1. Ці быў ты калі небудзь на электрастанцыі? ..........................
2. Ці быў ты ў машынным аддзяленьні заводу, фабрыкі, дзе? ..........................

..........................

3. Ці бачыў ты дынамо-машыну, дзе? ..........................

..........................

4. Ці бачыў ты матор, дзе? ..........................

..........................

5. Адкуль бярэцца электрычны ток? ..........................

..........................

6. Якія ты ведаеш часткі разьмеркавальнага шчыта? ..........................

..........................

7. Чым прыводзяцца ў рух машыны электрычнасьці? ..........................

..........................

..........................

8. Апішы, што робяць, калі праводзяць электрычнасьць у хату? ..........................

..........................

..........................

..........................

9. Чаму пры праводзе электрычнасьці праводзяць два правады?

10. Чаму дрот праваду пакрыты гумай альбо матэрыяй?

11. Чаму правады электрычнасьці з вуліцы ў хату праводзяць праз трубкі?

12. Якім прыборам зьмяраецца колькасьць скарыстанай электраэнэргіі?

13. Якой адзінкай меры вымяраецца колькасьць скарыстанай электраэнэргіі?

14. Для якіх мэт карыстаюцца электрычнасьцю?

15. Якое значэньне мае электрыфікацыя для Савецкай краіны?

16. Што сказаў т. Ленін пра электрыфікацыю?

17. Колькі раённых электрастанцый намечана пабудаваць у пляне пяцігодкі?

18. Якія вялікія электрастанцыі пабудаваны ў СССР і якія будуюцца?

19. Што спарней, адна вялікая электрастанцыя, ці некалькі малых, чаму?

20. Колькі кілёват-гадзін электрычнасьці будзе выпрацоўвацца к канцу пяцігодкі?

21. Хто шэф электрафікацыі?

22. Чым могуць дапамагчы школьнікі і піянэры разьвіцьцю электрыфікацыі Савецкага саюзу?

Котаў і Арлоў

# Кіно-фільм—на службу палітэхнічнай школе

У гэтай працы намі пастаўлена задача высьветліць уплыў тэхнічнага кіно-фільму на веды дзяцей 2-га канцэнтру ФЗС. Гэта вызвана тым, што зараз ФЗС і ШКМ карэнным чынам перабудоўваюць сваю працу з слэвеснай кніжнай школы ў сапраўдную палітэхнічную школу.

„А палітэхнічная школа —гэта такая школа, якая праводзіць выхаваньне і адукацыю ў злучэньні з вытворчым трудом; знаёміць у тэорыі і на практыцы з асноўнымі галінамі вытворчасьці; вучыць карыстацца прасьцейшымі інструмантамі ўсіх вытворчасьцяй; рыхтуе ўсебакова разьвітых сяброў камуністычнай грамады.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задач, пастаўленых перад палітэхнічнай школай, нашы ФЗС і ШКМ на сёньняшні дзень не перабудавалі сваю працу па прынцыпу палітэхнічнага навучаньня і к таму ня маюць матар'яльных магчымасьцяй па абсталяваньне рабочых пакояў, майстэрняў, лябораторый і г.д.

У пошуках іншых шляхоў дапамагчы школе, даць вучню тыя ці іншыя палітэхнічныя веды, мы скарысталі кіно, як больш таннае і дастушнае для школы, вынікі якога зьмяшчаем у гэтай брашуры. На працягу сакавіка—красавіка 1932 г. намі зроблен вопыт над 73 вучнямі 2-га канцэнтру Менскай 20-й ФЗС, на кінофільме „Ад руды да мэталю", зьмест якога наступны: у першай частцы была паказана чарцёжная—рабочы пакой са сталамі, на якіх былі чарцяжы розных дэталяў, машын і станкоў, чарцёжныя прылады і ў стала чарцёжнікі за працай. Пакой плянава-разьмеркавальнага аддзелу на экране быў паказан так: інжынэрна-тэхнычныя працаўнікі разьмяркоўвалі чарцяжы па цэхах і рабілі надпісы на чарцяжох: мадэльнаму—тэрмін выкананьня дэкада, ліцейнаму—тэрмін выкананьня 5 дзён і г. д. Працэсы працы ліцейнага заводу—фармовачны цэх: 1) разmалваньне зямлі для фармоўкі 2) фармоўка, 3) устаноўка мадэляў у формы і выемка іх з форм, 4) абсыпка форм мукою, 5) накладваньне верхняй апокі на ніжнюю пры дапамозе электра-падёмнага перадвіжнага крану, 6) кантроль фармоўкі. Пры памянёных працэсах фармовачнай справы былі адабражаны матар'ялы, ужываемыя пры фармоўцы, як-та: пясок, конскі гной, суглей, мука і працэсы працы па падрыхтоўцы іх для фармоўкі, а менавіта прасейваньне пяску і зямлі, зьмешваньне пяску, гною і суглею ў адну фармовачную масу.

У другой частцы карціны паказаны працэсы дастаўкі коксу, чыгунных чушак і вапняка пры дапамозе электрапад'ёмнага крана к вагранцы і загрузка яе гэтым матар'ялам. Выпуск расплаўленага чыгуна з вагранкі ў каўшы па жолабу; аслабаненьне чыгука у каўшох ад шлаку шляхам абсыпкі паверхні расплаўленага чыгуна вапняком, ад чаго ён робіцца коркай, якая потым здымаецца асобнымі маленькімі каўшамі. Разноска і разьліўка расплаўленага чыгуна пры дапамозе электрапад'ёмнага перасоўнага крана па вялікіх формах і ў маленкія ручныя каўшы для заліўкі імі невялікіх форм. Выемка астыўшых дэталяў з апок вялікіх, таксама пры дапамозе электра-пад'ёмнага крану, а маленькіх уручную і дастаўка іх у абрубачнае аддзяленьне для далейшай іх апрацоўкі.

У трэцяй частцы—здабыча жалезнай руды: геалёгічная разьведка залежай руды, дзе была паказана разьведвальная партыя за работай з геалёгічнымі і геадэзычнымі прыладамі, з дапамогай якіх было знойдзена месца знахаджэньня руды, і выяўлена была займаемая ёю плошча. Бурэньне ў глыб зямлі для адшуканьня таўшчыні пласта жалезнай руды. Бурэньне ўтваралася пры дапамозе спэцыяльна пабудаванага калавароту, які прыводзіца ў рух конскай сілай. Распрацоўка руды ў горных мясцовасьцях: сьвярленьне вялікіх скал руды, якія не пад сілу рабочым для нагрузкі іх у ваганэткі, электрычным сьвярлом для закладкі дынаміту і ўзрыву іх. Зарадка скалы дынамітам, закладка

шнура, меры перасьцярогі рабочых ад выбуху і момант выбуху скалы. Узрыў скалы, пракладка вузкакалеек, нагрузка ваганэтак рудой і возка іх пры дапамозе коняй альбо мэханізаваным шляхам пры дапамозе каната, які прыводзіцца ў рух электраматорам, к жалезнай дарозе і доменнай печы.

Від шахты па здабычы вуглю, абсталяваньне яе, працэс здабычы вугалю мэханізаваным спосабам пры дапамозе электрычных урубавых машын і ручным спосабам—кіркамі. Перавозка вугалю на месца пад'ему на ваганэтках коньмі і пад'ём вугалю пад'ёмнымі электрычнымі кранамі. Адпраўка вугалю цягніком да месца яго прызначэньня.

У чацьвертай частцы паказана абслугоўваньне доменнай печы; лябараторыя—выяўленьне хэмічнага складу вуглю і руды. Падвесная дарога для транспартываньня матар'ялу ў доменную печ. Загрузка доменнай печы вугалем і рудой. Разрэз доменнай печы: 1) калош, шахта, распор, заплечыкі, гарно; тэмпэратура ў печы па слаёх: першы слой 200°С другі 600° С і трэці 900° С. Паветрадульныя машыны, іх прызначэньне і праца; паветраправады. Выхад атрыманых у печы газаў.

У пятай частцы—матор, рухаючы жэрнавы, якія разламваюць зямлю. Падрыхтоўка плошчы і зямлі для выліўкі чыгуну з доменнай печы. Ломка астыўшых балваноў, нагрузка імі ваганэтак і адпраўка к цягніку.

У шостай частцы—пракатка жалеза. Зборка пракатных станкоў і дэманстраваньне на іх працэсаў пракаткі. Награваньне жалезнай балванкі да белага каленьня і перадача яе электра-пад'ёмным перасовачным кранам у пракатныя станкі для прыдачы ёй адпаведнай формы і выраб на пракатных станкох патрэбнага фабрыкату, як-та: лістовае жалеза, рэйкі, таўровае жалеза, дроб, вагонныя колы і г.д.

Кіно-фільм быў бяз надпісаў, а таму інструктар па вытворчаму навучаньню 20-й ФЗС, пры паяўленьні на экране тых ці іншых працэсаў вытворчасьці, агрэгатаў, машын, працэсаў працы і г.д., даваў дзецям тлумачэньне. Парадак экспэрымэнтаваньня ў нас быў наступны: дзеці вызываліся групамі па 15—20 асоб. Кіно-фільм дэманстраваўся ў Інстытуце камуністычнага выхаваньня ў спэцыяльна прыстасаваным для кіно экспэрымэнтаў пакою, пры адпаведным абсталяваньні. Дзеці рассаджаліся за сталы па два чалавекі за стол, даўжыня якога 1,5 мэтра.

Да дэманстраваньня кінофільму дзецям даваліся для запаўненьня анкеты, складзеныя па зьместу кінофільму.

## АНКЕТА

дзеля досьледу па выяўленьні ўплыву тэхнічнага фільму на палітэхнічныя веды і звычкі.

1. Прозьвішча. 2. Кляса. 3. Узрост. 4. Стан (хлопчык, дзяўч.) 5. Заняткі бацькоў. 6. Дзе працуюць бацькі. 7. У якасьці каго. 8. Якое мае прызначэньне чарцёжная на мэталяапрацоўчым і мэталюргічным заводах. 9. Чым займаецца плянава-разьмеркавальны аддзел на мэталяапрацоўчым заводзе. 10. Апішы працэсы працы ў ліцейным цэху. 11. Якія матар'ялы ўжываюцца ў мадэльным цэху. 12. Якія матар'ялы ўжываюцца ў ліцейным цэху. 13. Апішы працу вагранкі. 14. Якія матар'ялы загружаюцца ў вагранку. 15. Як разьліваецца расплаўлены чыгун па формах. 16. Якім чынам устанаўліваецца, ці ёсьць у зямлі руда. 17. Як здабываецца жалезная руда. 18. Як пабудавана шахта. 19. Як здабываецца каменны вугаль. 20. Як пабудавана доменная печ. 21. Чым загружаецца доменная печ. 22. Розьніца паміж вагранкай і доменнай печчу. 23. Якім чынам робяцца дрот рэйкі, колы, ліставое жалеза.

Для таго, каб вучні ў час запаўненьня анкеты не перагаварваліся паміж сабою, не заглядвалі адзін да другога ў анкету і наогул не перашкаджалі ў працы друг другу, паміж вучнямі на сталох ставілі шчыты. Акрамя гэтага за вучнямі быў наладжан кантроль, каб яны ня мелі ніякай магчымасьці абменьвацца думкамі друг з другам і каб маглі атрымаць тлумачэньне па зьместу незразумелых пытаньняў анкеты, а менавіта: 2 наву-

кова-тэхнічныя працаўнікі і 2інструктары па вытворчаму навучаньню знаходзіліся паміж сталамі.

Да запаўненьня анкеты намі праводзілася з вучнямі гутарка, у якой вытлумачаны нашы мэты зацікавіць дзяцей кінафільмам,адбіваючым вытворчасьць і па асобныя працэсы вытворчасьці мэталюргічнай і мэталяапрацоўчай прамысловасьці. Анкеты вучнямі запаўняліся першы раз на працягу 30 хвілін. Зараз-жа, пасьля запаўненьня анкет вучнямі, дэманстравалі кіно-карціну на працягу 80-ці хвілін. Пасьля дэманстраваньня кінокарціны рабілі перапынак для дзяцей на працягу 5 хвілін, а потым зноў дзеці рассаджваліся за сталы такім-жа чынам, як і да кіно, і запаўнялі новую анкету, такую, як і першую, пад такім-жа самым кантролем.

Сваім экспэрымэнтам мы высьветлілі сацыяльны стан дзяцей,пол і ўзрост, правільныя адказы, няправільныя адказы і ня даўшых зусім адказы на пытаньні анкеты 30 экспэрымэнтаваных вучняў 5-й групы далі наступныя паказчыкі да кіно: правільных адказаў; 120, альбо 25 проц. з ліку 480 пытаньняў, прыпадаючых на ўсіх вучняў, няправільных адказаў—211,альбо 44 проц., зусім не адказалі на149 пытаньняў, альбо 31 проц.

У VI групе экспэрымэнтавалася 24 вучні,і вынікі,атрыманыя да кіно, наступныя: з 384 пытаньняў, прыпадаючых на ўсіх вучняў, правільных адказаў 139,альбо 36, 1проц.няправільніх адказаў 117,альбо 30, 6проц.,зусім не адказалі на 128 пытаньняў, альбо 33, 3 проц.

У VII групе экспэрымэнтаваліся 19 вучняў і вынікі маем атрыманы да кіно наступныя:з300пытаньняў,прыпадаючых на усіх вучняў, правільных адказаў 142 альбо 49, 7 проц,; няправільных адказаў—56, альбо 15, 1 проц,; зусім не адказалі на 106 пытаньняў, альбо 35, 2 проц.

З вышэй прыведзеных даных мы бачым, што паказчыкі V групы ніжэй паказчыкаў VI групы, а паказчыкі VI групы ніжэй паказчыкаў VII гупы. Гэтую розьніцу паміж паказчыкамі па групах мы тлумачым узростам і адукацыяй дзяцей.

Для большай нагляднасьці прыводзім гэтыя вынікі ў табліцы № 1.

Табліца № 1

| Адказы | 5 група 30 вучн. | 6 група 24 вучн. | 7 група 19 вучн. |
|---|---|---|---|
| | У процантах | | |
| Правільныя | 25 | 36 1 | 49,7 |
| Няправільныя | 44 | 30,6 | 15,1 |
| Зусім не адказалі | 31 | 33,3 | 35,2 |

З вынікаў, атрыманых да кіно, відаць, што процанг правільных адказаў павышаецца ў залежнасьці ад групы; акрамя таго, мы бачым, што ў малодшых дзяцей маецца большае імкненьне адказваць на ўсе пытаньні анкеты, ня ўлічваючы, правільна ці не—яны адказваюць на пытаньне, як-та: няправільных адказаў у 5 групе ў процантных адносінах больш чым у наступных 6 і 7 групах паасобку, а зусім не адказалі на пытаньні меншы процант у параўнаньні з наступнымі старэйшымі групамі.

Калі-ж мы прасочым адказы вучняў на паасобныя пытаньні анкеты, то атрымаем наступную карціну.

На 8-ае пытаньне анкеты 73 вучні далі правільных адказаў 34, альбо 46,6 проц., няправільна адказалі на 26 пытаньняў, альбо 35,6 проц. Зусім не адказалі на 13 пытаньняў, альбо 17, 8 проц. На 9-ае пытаньне правільных адказаў 25, альбо 34, 3 проц, няправільных адказаў—22. (30, 1 проц),не адказалі на 26 (35, 6 проц.) На 10-е пытаньне правільных адказаў—38 (52%), няправільных—28 (38,4%), зусім не адказалі на 7 (9,6%). На 11-е пытаньне—34 вучні (46,6%), адказалі правільна, 37 (50,7%)—няправільна, зусім не адказалі—2 (2,7%). На 12-е пытаньне правільных адказаў—41 (56,2%), няправільных—29 (39,7%), зусім не адказалі—3 (4,1%). На 13-е пытаньне правільных адказаў — 13 (17,8%), няправільных — 26 (35,6%), зусім не адказалі—34 (46,6%) На 14-е пытаньне правільных адказаў—25 (34,9%), няправільных—31 (42,5%), зусім не адказалі—17 (23,3%). На 15-е пытаньне правільных адказаў—41 (56,2%), няправільных—14 (19,2%), зусім не адказалі—18 (24,6%). На 16-е пытаньне правільных адказаў—16 (21,9%), няправільных—28 (38,4%), зусім не адказалі—19 (39,7%). На 17-е пытаньне правільных адказаў — 16 (21,9%), няправільных — 32 (43,8%), зусім не адказалі—25 (34,3%).

На 18-е пытаньне правільных адказаў—18 (24,6%), няправільных—15 (20,5%), зусім не адказалі—40 (54,8%). На 19-е пытаньне правільных адказаў—16 (21,9%), няправільных—42 (57,5%), зусім не адказалі—15 (20,6%). На 20-е пытаньне правільных адказаў—2 (2,7%), няправільных—17 (23,3%), зусім не адказалі—57 (78,1%). На 21-е пытаньне правільных адказаў—43 (58,9%), няправільных—17 (23,3%), зусім не адказалі—13 (17,8%). На 22-е пытаньне правільных адказаў—23 (31,5%), няправільных—16 (21,9%), зусім не адказалі—34 (46,6%). На 23-е пытаньне правільных адказаў—21 (28,8%), няправільных—9 (12,3%), зусім не адказалі—43 (58,9%).

Для большага ўяўленьня ў гэтых прыведзеных выніках дадаем табліцу № 2.

Табліца № 2.

| Нумар пытальнай анкеты | Колькасьць пытаньняў на 73 вучні | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Правіл. адказ | | Няправіл. адказ. | | Зусім не адказ. | |
| | Кольк. | У пр ц | Кольк | У проц. | Кольк | У проц. |
| 8 | 34 | 46,6 | 26 | 35,6 | 13 | 17.8 |
| 9 | 25 | 34,3 | 22 | 30,1 | 26 | 35,6 |
| 10 | 38 | 52,0 | 28 | 38,4 | 7 | 9,6 |
| 11 | 34 | 46,6 | 37 | 50,7 | 2 | 2,7 |
| 12 | 41 | 56,2 | 29 | 39,7 | 3 | 4,1 |
| 13 | 13 | 17,8 | 26 | 35,6 | 34 | 46,6 |
| 14 | 25 | 34,9 | 31 | 42,5 | 17 | 23.3 |
| 15 | 41 | 56,2 | 14 | 19,2 | 18 | 24,6 |
| 16 | 16 | 21,9 | 28 | 38,4 | 29 | 39,7 |
| 17 | 16 | 21,9 | 32 | 43.8 | 25 | 34,3 |
| 18 | 18 | 24,6 | 15 | 20,5 | 40 | 54,8 |
| 19 | 16 | 21,9 | 42 | 57,5 | 15 | 20,6 |
| 20 | 2 | 2,7 | 14 | 19,2 | 57 | 78,1 |
| 21 | 43 | 58,9 | 17 | 23,3 | 13 | 17,8 |
| 22 | 23 | 31,5 | 16 | 21,9 | 34 | 46,6 |
| 23 | 21 | 28,8 | 9 | 12,3 | 43 | 58,9 |
| Разам . | 406 | 34,8 | 386 | 33,0 | 376 | 32,2 |

З гэтых даных мы бачым, што на 8-е, 10-е, 11-е, 12-е, 15-е і 21-е пытаньні большая палова дзяцей, у сярэднім 52 проц., адказалі правільна; г. зн., што вучні да кіно ўжо мелі прадстаўленьне аб прызначэньні чарцёжнай на мэталяапрацоўчай і мэталюргічнай прамысловасьці, аб працэсах працы у ліцейным цэху, аб матар'ялах, ужываемых у мадэльным і ліцейным цэху, аб працэсе разьліўкі расплаўленага чыгуна па формах і матар'ялах, загружаемых у доменную печ. На пытаньні 11-е, 14-е, 17-е і 19-е амаль палова дзяцей, у сярэднім 48,6 проц., няправільна адказала, г. зн. палова дзяцей ня мае прадстаўленьня аб матар'ялах, ужываемых у мадэльным цэху, аб матар'ялах, загружаемых у вагранку, аб здабычы жалезнай руды і каменнага вугалю. І на пытаньні 13-е, 18-е, 20-е, 22-е і 23-е большая палова дзяцей, у сярэднім 57 проц., зусім не адказалі. Гэта гаворыць аб тым, што вучні маюць вельмі малае прадстаўленьне альбо зусім ня ведаюць аб працы ваграні, аб пабудове шахты, доменнай печы, розьніц паміж ваграніай і доменнай печчу, а таксама зусім ня ведаюць пра пракатку жалеза. Падагульваючы вынікі ведаў вучняў па мэталяапрацоўчай і мэталюргічнай прамысловасьцях, трэба падкрэсьліць, што ўсе апошнія пяць пытаньняў, на якіх не адказалі большасьць вучняў, прыпадаюць па зьместу к тым агрэгатам, машынам і станкам памянутых вытворчасьцяй, якіх дзецям ніколі ня прыходзілася сапраўды бачыць, альбо пра якіх ім школа мала гаварыла, як-та: аб ваграніцы, доменнай печы, пракатных станкох і г. д. Адсюль мы ўжо з упэўненасьцю можам гаварыць, што кіно для школы зьяўляецца вельмі карысным сродкам у справе палітэхнізацыі, бо на сёньняшні дзень для таго, каб пабачыць розныя віды вытворчасьцяй Савецкай краіны, школа ня мае ніякай магчымасьці, і к таму-ж яшчэ шляхі зносін не зьяўляюцца зусім даступнымі і дасканалымі, каб без затраты лішняй энэргіі і сродкаў маглі-б экскурсіраваць з аднаго раёну ў другі ня толькі дзеці, але і дарослыя. Але-ж нельга гаварыць, што кіно здавальняе і здаволіць поўнасьцю прад'яўляемыя к яму патрабаваньні. Краіна Саветаў штогодна і штомесячна пакрываецца сеткай чыгуначных і шасэйных дарог, і, мабыць, у хуткім будучым паветровыя шляхі зносін вырашаць канчаткова гэтую праблему, якая, паўтараем, зьяўляецца толькі пакуль-што будучынай. Дзеля гэтага мы павінны скарыстаць усе тыя магчымасьці, якія нам даступны ў сучасны момант. А кіно зьяўляецца даступным, у якім можна пабачыць, менавіта, тую вытворчасьць, якая знаходзіцца ад нас на дзесяткі, сотні і тысячы кілёмэтраў.

Пяройдзем да вывучэньня вынікаў, атрыманых па ведах вучняў пасьля прагляду кіно-карцін. 5-я група дала наступныя паказчыкі: з 30 вучняў па ўсіх пытаньнях у ліку 480, прыпадаючых на ўсіх вучняў, далі правільных адказаў—252 (52,5 проц.), няправільных адказаў—159 (33,1 проц.) і зусім не адказалі на 69 пытаньняў (14,4 проц).

6-я група. З 24 вучняў з агульнага ліку 384 пытаньняў далі правільных адказаў 208 (54,2 проц.), няправільных адказаў—120 (31,2 проц.) і зусім не адказалі—на 56 пытаньняў (14,6 проц.).

7-я група. З 19 вучняў з агульнага ліку 304 пытаньняў далі правільных адказаў 175 (57,6 проц.), няправільных адказаў—69 (22,7 проц.) і зусім не адказалі на 50 пытаньняў (19,7 проц ). Для наглядначсьці гэтых вынікаў прыводзім табліцу № 3.

Табліца № 3.

| Адказы | 5-я група 30 вучняў | | 6-я група 24 вучні | | 7-я група 19 вучняў | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькі пытаньняў | У проц. | Колькі пытаньняў | У проц. | Колькі пытаньняў | У проц. |
| Правільныя . . | 252 | 52,5 | 208 | 54,2 | 175 | 57,6 |
| Няправільныя . | 159 | 33,1 | 120 | 31,2 | 69 | 22,7 |
| Зусім не адказ. | 69 | 14,4 | 56 | 14,6 | 60 | 19,7 |

З атрыманых вынікаў мы зноў бачым, што рост колькасьці правільных адказаў таксама павышаецца, як і ў першай табліцы, адпаведна ўзросту і адукацыі дзяцей, і што крывая імкненьня адказваць на ўсе тыя пытаньні, на якія яны змогуць і, ня змогуць адказваць—абы адказаць, пачынае затухаць адпаведна павышэньню гадоў навучаньня; г. зн., што наша думка, выказаная па гэтаму пытаньню ў прывядзеньні першай табліцы, знайшла сваё падтрыманьне ў прыведзеных толькі што вывадах. Калі-ж параўнаем табліцы № 1 і № 2, дык відавочна эфэктыўнасьць паказанай намі кінокарціны, а менавіта: вучні 5-й групы далі прырост правільных адказаў на 27,5 проц., лік няправільных адказаў зьменшыўся на 10,9 проц., а зусім не адказаўшых зьменшылася на 16,6 проц. У 6-й групе прырост правільных адказаў маем на 18,1 проц., няправільных адказаў зьменшылася на 1,0 проц., і зусім не адказаўшых зьменшылася на 17,7 проц.

У 7-й групе правільных адказаў павялічылася на 7,9 проц., а няправільных адказаў ня зьменшылася, а *павялічылася* на 6,6 проц., зусім не адказаўшых на пытаньні анкеты зьменшылася на 17,3 процантаў.

Групіруем гэтыя вынікі ў табліцы № 4.

Табліца № 4.

| Група | Прырост правільных адказаў | Зьмяншэньне няправільных адказаў | Памяншэн. ліку вучняў, не адказаўшых на пытаньні |
|---|---|---|---|
| | У процантах | | |
| 5-я . . . . . . . | 27,5 | 10,9 | 16,6 |
| 6-я . . . . . . . | 18,1 | 1,0 | 17,7 |
| 7-я . . . . . . . | 7,9 | —6,6 | 17,5 |
| Сярэдняя арытмэтычная па групах разам . . . | 17,6 | 1,7 | 17,3 |

У слупку няправільных адказаў мінус стаіць перад 6,6 таму, што *даная група* ня зьменшыла процант няправільных адказаў, а павялічыла.

Гэтая табліца выразна паказвае эфэктыўнасьць кіно-карціны. Мы бачым, што сярэдні процант, а менавіта 17,9% зьяўляецца вынікам прагляду кіно-карціны. Зараз-жа прагледзім вынікі школы цалкам па ўсіх пытаньнях анкеты, на якія атрыманы адказы пасьля кіно, што прыводзім у табліцы № 5.

Табліца № 5.

| Нумар пытаньня анкеты | Колькасьць пытаньняў на 73 вучні | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Правіл. адказ. | | Няправіл. адказ. | | Зусім не адказ. | |
| | Кольк. | У проц | Кольк. | У проц | Кольк. | У проц. |
| 8 | 54 | 74,0 | 17 | 23,3 | 2 | 2.7 |
| 9 | 37 | 50,7 | 27 | 37,0 | 9 | 12,3 |
| 10 | 44 | 60,3 | 25 | 34,2 | 4 | 5,5 |
| 11 | 35 | 47,9 | 37 | 50,7 | 1 | 1,4 |
| 12 | 43 | 58,9 | 28 | 38,4 | 2 | 2,7 |
| 13 | 33 | 45,2 | 28 | 38.4 | 12 | 16,4 |
| 14 | 42 | 56,2 | 23 | 31,5 | 9 | 12,3 |
| 15 | 59 | 80,8 | 11 | 15,1 | 3 | 4,1 |
| 16 | 52 | 71,2 | 15 | 20,6 | 60 | 82,0 |
| 17 | 38 | 52,1 | 30 | 41,1 | 5 | 6.8 |
| 18 | 39 | 53.4 | 10 | 13.7 | 24 | 32,9 |
| 19 | 20 | 27.4 | 41 | 56,2 | 12 | 16.4 |
| 20 | 5 | 6,8 | 18 | 24,7 | 50 | 68,5 |
| 21 | 52 | 71.2 | 13 | 17.8 | 8 | 11,0 |
| 22 | 29 | 39,7 | 18 | 24,7 | 26 | 35,6 |
| 23 | 50 | 68,5 | 7 | 9,6 | 16 | 21,9 |
| Разам . | 631 | 54,0 | 348 | 29,8 | 189 | 16,2 |

Калі мы ў прывезденых данных па кожнаму пытаньню да кіно падкрэсьлілі, што 52 проц. дзяцей правільна адказалі на 6 пытаньняў, дык у атрыманых выніках пасля кіно бачым, што значна большая частка дзяцей, а менавіта: — 60,8 проц. правільна адказала ўжо не на 6 пытаньняў, а амаль на ўсе, г. зн. на наступныя №№ пытаньняў анкеты: на 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18, 21, 23, з якіх 9, 13, 14, 16, 17, 18, 23 пытаньні, г. зн. прызначэньне плянава - разьмеркавальнага аддзелу на мэталяапрацоўчым заводзе, праца вагранкі, матар'ялы, загружаемыя ў вагранку для выплаўкі чыгуна, спосабы разьведваньня жалезнай руды ў зямлі і здабыча яе, пабудова шахты, матар'ялы загружаемыя ў доменную печ—да кіно ня былі вядомы. Набольшасьць пералічаных толькі што з гэтых пытаньняў, зразумела, вучні не маглі ў школе на заводзе атрымаць адказы, бо без разгляду самых сапраўдных шахт і г. д., без наглядных дапаможнікаў нельга па кніжцы альбо ў лекцыі ўявіць і вывучыць. Нават самую вагранку дзеці не ўяўлялі сабе, ня гледзячы на тое, што шмат разоў на заводзе яе бачылі. Гэта сьцьвярджае аб тым, што часта большасьць складаных машын і агрэгатаў нельга зразу вывучыць на самым прадпрыемстве, ня даўшы вучням папярэдніх ведаў аб іх пабудове, прызначэньні і г. д. з ілюстрацыямі, як асобных частак процэсаў працы, абслугоўваньні іх, апрацоўваемых імі матар'ялах і цалкам іх—на схэмах, малюнках; а галоўным чынам —на кіноэкране з падрабязным тлумачэньнем з боку вопытнага пэдагога па вытворчаму навучаньню. Няправільна адказалі на 11, 17, 19, у сярэднім 49, 3 проц вучняў. Зусім не адказалі на 20-е пытаньне 68, 5 проц. з усяго складу вучняў. Такім чынам, мы ўжо маем значна меншую колькасць пытаньняў, на якія няправільна альбо зусім не адказана вучнямі. Тут, зразумела, не застанаўліваючыся на тлумачэньнях прычын неадказаў вучняў на пытаньні, можна сьцьвярджаць, што вучні ў школе ня вывучылі пабудову доменнай печы, шахты і г. д., і кіно-карціна, аб якой мы ня можам сказаць, як сапраўдна адпавядаючай вучэбным запатрабаваньням школы, не змагла даць поўнае прадстаўленьне вучням таму, што, як мы ўказалі, была бяз надпісаў, і, акрамя гэтага, некаторыя моманты працэсаў працы на заводзе і самой вытворчасьці хутка пралятадлі перад вачыма вучняў, што магло паслужыць слабаму запаміананьню яе. У заключэньне трэба сказаць, што, ня гледзячы на тыя недахопы, аб якіх мы толькі што ўпаміналі адносна кіно-фільма, усё-ж такі кіно дае магчымасьць паказаць дзецям з усёй канкрэтнасьцю, з усімі характэрнымі асаблівасьцямі такія рэчы, якія па адлегласьці і па тэрміну нельга іншым шляхам так паказаць, а гэты паказ найбольш зразумелы для канкрэтна мысьлячых дзяцей школьнага ўзросту. Мы гэтым не гаворым, што кіно можа замяніць сабой любы від работы: кнігу, экскурсію, лябараторыю, карты, дыяграмы, якімі мы карыстаемся ў школе. Але кіно павінна рацыянальна дапаўняць розныя актыўныя метады і формы работы і само павінна скарыстоўвацца, як актыўны мэтад; а актывізацыя яго павялічваецца з дапамогай дадатковых мэтадаў: гутаркі, кнігі, экскурсіі і г. д. Усё гэта не выключае працу настаўніка, а надварот—паглыбляе і ўскладае больш адказнасьці, бо ня мысьлім прагляд фільмы без пэдагога, які павінен прыстасаваць к сваёй працы атрыманы з Белдзяржкіно фільм. На падставе свайго асабістага вопыту і пажаданьня нельга не падкрэсьліць тое, што скрыстоўваць фільмы для вучэбнай мэты для ўсіх груп разам немагчыма, бо ўзросты, зразумела, розныя, што можа вызваць незацікаўленасьць вучняў, цяжкасьць і блытаніну. Трэба вучэбныя фільмы прыстасоўваць да праграм кожнага навучальнага году, як па зьместу так і па напрамку і абхвату. К таму-ж школьны фільм павінен быць кароткамэтражны альбо сэрыйны, увязваючы агульнасьцю тэмы, але кожная асобная частка з гэтай сэрыі пры патрэбнасьці магла-б быць скарыстана на асобным этапе працы ў школе. Такі кароткамэтражны фільм, які тлумачыць асобныя працэсы і дае магчымасьць іх паўтараць, павінен быць з вялікай карысьцю скарыстованы па такіх дысцыплінах, як фізыка, біолёгія, хэмія. Толькі трэба памятаваць, што фільм не павінен

быць загружан такім матар'ялам, які можа быць лёгка атрыманы другімі сродкамі з кнігі, дыяграм, малюнкаў і г. д. Аб мэтодыцы скарыстаньня кіно Н. Д. І. Камвыхаваньня прадстаіць яшчэ шмат працы. Трэба мабілізаваць для гэтай справы навуковыя і мэтадычныя сілы і вывучыць такія пытаньні, як працягласьць кіно-паказу для вучняў малодшага і старэйшага ўзросту, уплыў на іх псыхіку і г. д. Але-ж прасоўваньне справы кінофікацыі школы, зразумела, залежыць зараз у большай ступені ад прыцягненьня да гэтай справы пэдагагічнай і кіноматаграфічнай грамадзкасьці і ад правядзеньня раду арганізацыйных мер. Трэба разгарнуць у гэтай галіне шырокі масавы паход па мабілізацыі грамадзкай думкі вакол кінофікацыі школы, — за неабходную добраякасную кінопрадукцыю і за высокую мэтадычную якасьць працы пэдагога з кінофільмам. У пастанове ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе сказана, што „Наркомасьветы супольна з кіноарганізацыямі распрацаваць мерапрыемствы па скарыстаньні кіно для школы, у асаблівасьці для палітэхнізацыі школы“. Адгэтуль мы бачым, якую вялікую ролю павінна адыграць кіно ў справе палітэхнізацыі, бо ў палітэхнізм уваходзяць не толькі прасьцейшыя інструманты, але і ўсё багацьце тэхнічнага разьвіцьця чалавецтва. Кіно зможа паказаць фільм па гісторыі тэхнікі, як зарадзілася машына, як эвалюцыянiравалі старынныя прылады працы, як з іх зьявіліся новыя, як зьвілася машына і г. д. У пытаньнях палітэхнізму кіно мае выключнае значэньне; як паказаць, напрыклад, што адны і тыя-ж працэсы ўтвараюцца ў розных галінах працы. Нельга-ж аббегаць усе заводы, а кіно зможа паказаць і разьвіць гэта у зьвязку і на падставе, мабыць, адной экскурсіі, якая была раней. Заканчваючы, трэба спадзявацца, што пры садзейнічаньні ўсёй савецкай пэдагагічнай грамадзкасьці Наркамасьветы Беларусі і Белдзяржкіно ў бліжэйшы час распрацуюць канкрэтны тэматычны плян кінофікацыі школы.

# АБМЕН ВОПЫТАМ ПРАЦЫ

**Ю. Лазарэвіч**

## З вопыту працы 3-й Гомельскай чыгуначнай узорнай ФЗС за 1931-32 навучальны год

3-я Гомельская чыгуначная школа адчынена ў 1926 г. Неабходнасьць яе адчыненьня выклікана тым, што на ўскраіне гораду вырас вялізарны чыгуначны пасёлак „Чырвоны Кастрычнік". Каб абслужыць дзяцей насельніцтва пасёлку, рабочых і служачых чыгункі, Аддзел асьветы Заходніх чыгунак пабудаваў каменную двухпавярховую школу з адзінаццацьма кляснымі пакоямі і вялікай заляй. Пераважна ў школе навучаліся дзеці рабочых і служачых Гомельскага вузла, дэпо і галоўных майстэрняў (якія потым ператвораны ў завод імя Ланцуцкага).

З пераходам чыгуначных школ у веданьне НКА школа пачала абслугоўвацца па тэрытарыяльнай адзнацы, акрамя дзяцей рабочых і служачых чыгункі і дзяцей бліжэйшага гарадзкога насельніцтва—рабочых бліжэйшых заводаў (Клінкерны завод, Скуразавод, Спартак, Конзавод), а таксама дзяцей ваеннаслужачых і выхаванцаў авіябрыгады, саўгасу РТСТ, бліжэйшых калгасьнікаў і аднаасобнікаў.

У выніку такога комплектаваньня школы сацыяльны склад вучняў малюецца наступным чынам:

| Канцэнтр | Агульная кольк. вучняў | Рабочых чыгункі | Рабочых інш. прадпрыем. | Калгасьнікаў | Сялян аднаасобнікаў | Рамесьнікаў | Служачых | Ваеннаслужачых | Іншых |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Першы | 370 | 171 | 113 | 3 | 2 | 2 | 68 | 2 | 5 |
| Другі | 163 | 85 | 44 | 9 | 11 | 1 | 17 | — | — |
| Разам | 533 | 256 | 157 | 12 | 13 | 3 | 85 | 2 | 5 |

На працягу свайго шасьцігадовага існаваньня школа некалькі раз мяняла сваю структуру. Спачатку—сямігодка, потым—дзевяцігодка з прафэсійным ухілам, потым—пэдкурсы, потым дарожна-будаўнічы тэхнікум, нарэшце—зноў сямігодка, а зараз мяркуецца адчыненьне 8-й групы.

Усе гэтыя зьмены патрабавалі карэнных зьмен і ў комплектаваньні школы пэдскладам. Адыход ад школы 3-га канцэнтру і тэхнікуму, якія станавіліся самастойнымі адзінкамі (Аўтадарожны тэхнікум), цягнулі за сабой і адыход настаўнікаў, падзел бібліятэкі, габінэтаў, што вельмі шкодна адбілася на працы школы. Паказальным зьяўляецца для школы такі факт, што на працягу толькі двух апошніх год зьмянілася 7 загадчыкаў школы (28-29 і 29-30).

У 1931-32 навучальным годзе ў пэдскладзе школы таксама адбыліся вельмі значныя зьмены, прычым у вельмі шкодным кірунку для працы школы. Так загадчыкаў навучальнай часткай да другога паўгодзьдзя зьмянілася 3, выкладчыкаў фізыкі—3, грамадазнаўства па 5 групах—3, матэматыкаў па 5 групах—2, хэмікаў—2, прыродазнаўцаў—2 (пры чым, у 5 групах амаль усё першае паў-

годзьдзе прыродазнаўства не выкладалася), выкладчыкаў роднае мовы—2. Пры замене выбыўшых настаўнікаў новымі часта атрымоўваліся значныя перапынкі ў рабоце па прадметах (родная мова—да 2 месяцаў), не заўсёды выконвалася пастанова аб камплектаваньні ўзорнай школы лепшымі настаўніцкімі сіламі. Ня лепш была справа і з тымі, якія заставаліся на месцы. Частыя хваробы ўтваралі значныя прарывы па прадметах (расійская мова і геаграфія), недахоп настаўнікаў вымушаў дапушчаць сумяшчэньне, якое не магло не адбіцца на якасьці працы (адзін настаўнік на 2 і 4 груп, па 4 групе матэматыка ў 3 пятых групах).

Толькі ў 2-м паўгодзьдзі склад настаўніцтва канчаткова стабілізаваўся ў наступным выглядзе:

| КАНЦЭНТР | Кольк. груп | Колькасьць настаўнікаў | Які год працуе ў гэтай шк. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Першы | Другі | Трэці | Чацьверт. | Пяты |
| Першы . . . . | 10 | 9 | 4 | 3 | — | — | 2 |
| Другі . . . . | 6 | 15[1]) | 7 | 3 | 2 | — | 3[2]) |
| Разам . | 16 | 23 | 11 | 6 | 2 | — | 5 |

Сярод 15 настаўнікаў II канцэнтру—выкладчыкі нямецкай мовы, маляваньня, сьпеваў, фізвыху, ваенізацыі і грамадазнаўства па 5-х групах працуюць па сумяшчэньні ў некалькіх школах (напр., выкладчык ваенізацыі ў 6-ці школах) і скарыстаны школай у поўнай меры быць ня могуць.

У сувязі з пастановай ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, 3-я Гомельская чыгуначная школа вызначаецца ўзорнай у пачатку першага паўгодзьдзя (кастрычнік месяц), але ніякіх асаблівых мерапрыемстваў, як арганізацыйных, так і гаспадарчых, у сувязі з гэтым, праведзена ня было. Школа ўсё першае паўгодзьдзе была ў стадыі камплектаваньня пэдскладам, дадатковых сродкаў не адпушчалася да новага бюджэтнага году, нават да вытворчасьці школа ня была прымацавана, а адсюль і ўдзел пралетарскай грамадзкасьці ў будаўніцтве ўзорнай школы быў самы нязначны, калі прыняць яшчэ пад увагу, што ў 1-м паўгодзьдзі з прычыны пошасных хвароб бацькоўскія сходы былі зусім забаронены.

Але выдзяленьне школы ўзорнай паставіла перад калектывам школы пытаньне змаганьня з „карэнным недахопам", вызначаным у пастанове ЦК УсеКП(б). Пятыя групы амаль на палавіну былі ўкамплектаваны вучнямі з вясковых школ, якія не адпавядалі ні па ўзроўні сваіх ведаў, ні па разьвіцьці гарадзкой школе. У шостых групах выявілася шмат адстаючых вучняў і дэзарганізатараў; ня лепш была справа і з 7-й групай. Добраякаснага падліку працы ў мінулым годзе ня было, дакладныя характэрыстыкі вучняў па паасобных дысцыплінах адсутнічалі, чаму ў новых настаўнікаў шмат часу трацілася на азнаямленьне з вучнямі. З прычыны частых зьмен выкладчыкаў і значных перапынкаў у працы па асобных дысцыплінах, зьявіліся ў вучняў дэмабілізацыйныя настроі, панізілася працдысцыпліна. Па некаторых прадметах да канца першага паўгодзьдзя выявіліся нават прарывы ў вызначэньні праграмнага матар'ялу, а часткова і ў якасным яго засваеньні (родная мова, расійская мова, матэматыка, фізыка).

Новыя праграмы ў другім паўгодзьдзі і іх глыбокая прапрацоўка, як у часе зімовай настаўніцкай канфэрэнцыі, на сэкцыйных мэтадычных аб'яднаньнях, так і сьценах самай школы, далі вялізарны зрух.

Былі складзены дэталізаваныя вытворчыя пляны, шмат увагі аддавалася на складаньне падрабязных дэкадных плянаў з дакладным вызначэньнем працы на кожны паасобны дзень, а таксама заданьняў з дазіроўкай працы ў часе, плянам і мэтадамі працы. Высунута жорсткае патрабаваньне своечасовай здачы ўсіх плянаў і заданьняў навучаль-

[1]) У лічбе 15 паказаны групавод, які вядзе матэматыку ў 5-х групах.

[2]) Сярод іх па 5 год і болей настаўнікі маляваньня і сьпеваў, якія маюць 1—2 лекцыі на дэкаду.

най часткі школы для папярэдняга прагляду і зацьверджаньня. Была перабудавана, як агульна-гарадзкая, так і ўнутрышкольная мэтадычная работа настаўніцтва.

У выніку гатай перабудовы ў школе ўтварыліся чатыры вытворчыя нарады—„0"—1—2 груп, 3—4 груп, II канцэнтру і вытворчага навучаньня.

Прынцыповыя мэтадычныя, мэтадалёгічныя і палітычныя пытаньні разьбіраліся на сумесных паседжаньнях усіх вытворчых нарад школы. У пляны працы нарад быў унесены шэраг пытаньняў, напр.: 1) барацьба з няпісьменнасьцю і пастаноўка пісьма ў школе, 2) выкладаньне матэматыкі ў ФЗС, 3) падлік пасьпяховасьці ў ФЗС, 4) практыка вучнёўскіх дзёньнікаў, 5) лябараторны мэтад працы ў ФЗС і інш.

У выніку пераводу працы на новыя формы значна ўзрасла зацікаўленасьць настаўніцтва да мэтадычнай літаратуры. Школа папоўніла сваю бібліотэку новымі мэтадычнымі дапаможнікамі, выпісала 19 назваў газэт і 68 назваў часопісаў, сярод якіх шмат мэтадычных па асобных дысцыплінах. Пашырылася практыка наведваньня лекцыі таварышоў з мэтай азнаямленьня з лепшымі прыёмамі працы і зьнішчэньня заўважаных недахопаў шляхам таварыскай крытыкі. Частай зьявай стала абгаварэньне працы таго або іншага настаўніка на вытворчых нарадах, на зьлётах ударнікаў, абгаварэньне працы асобных вучняў і мэтадаў узьняцьця іх пасьпяховасьці, а таксама мерапрыемстваў па выхаваўчай працы і палепшаньні працдысцыпліны. Пашырылася ў школе ўжываньне актыўных мэтадаў. Інспэктар узорных школ НКА ў выніку агляду школы канстатаваў, што выкладаньне роднай мовы, грамадазнаўства і расійскай мовы вядзецца лябараторна-дасьледчым мэтадам.

Значным штуршком у справе мэтадычнага перавыбраньня зьявіўся „месячнік штурму за аўладаньне тэхнікай педпрацы", калі асабліва пашырыўся сярод настаўнікаў абмен вопытам, як на паседжаньнях, так і праз штурмоўкунасьценгазэту асьветніцкага калектыву школы, даўшы значны зрух у бок вочнага і завочнага навучаньня (6 новых завочнікаў), атаксама ў часе „конкурсу на лепшую школу і настаўніка", калі для праверкі працы настаўніцтва і яе глыбокага аналізу, апрача асьветнікаў-ударнікаў, былі прыцягнуты вучні (піянэрыя, камсамол, самакіраваньне, прадстаўнікі бацькоў, вытворчасьці, і шэфы школы) чыгуначнага вучэбнага камбінату пры 5-м эксплёатацыйным раёне Заходніх чыгунак.

Але вялікім недахопам у мэтадычнай працы зьяўляецца адсутнасьць у школе інструкцыйнага матар'ялу. Такая літаратура, як „Сэрыя інструкцыйна-мэтадычных лістоў" школьнага сэктару НКА РСФСР, павінна зьяўляцца настольным дапаможнікам кожнага настаўніка, не гаворачы ўжо аб узорнай школе. На вялікі жаль, толькі два з гэтых лістоў школе давялося дастаць і то ў часовае карыстаньне, на некалькі дзён. Такім шляхам быў распрацаваны ліст „Аб лябараторным пляне ў другім канцэнтры ФЗС і ШКМ" ужо ў пачатку конкурсу. Настаўніцтва наяўна ўбачыла ўсе свае памылкі ў карыстаньні гэтым мэтадам. Але-ж гэтага мала... Трэба, каб кожны настаўнік мог карыстацца гэтым лістом у штодзённай сваёй працы, пры складаньні заданьняў, пры плянаваньні самастойнай работы вучняў і г. д. Неабходна, каб Дз. В. Б. перадрукавала ўсе гэтыя лісты і шырока забясьпечыла імі школы, бо сучасная крытыка гэтых лістоў вымагае іх дакладанага веданьня з мэтай выпраўленьня ўсіх недахопаў.

Ня лепш справа стаяла і з другім лістом „Аб падліку пасьпяховасьці ў ФЗС і ШКМ".

Змаганьне з „карэнным недахопам" паказала настаўніцтву школы ўсю неабходнасьць стала пабудаванага падліку, які мог-бы яскрава асьвятляць веды і працу вучня і групы, усе недахопы ў працы і шляхі іх выпраўленьня, які-б даваў дынаміку росту вучня на працягу чвэрці году і ўсяго пабыту ў школе.

Па абвестках у „ЗКП" мы даведаліся аб існаваньні інструкцыйна-мэтадыч-

нага ліста на гэту тэму. Пачалося літаратурнае паляваньне на гэты ліст, пакуль не знайшлі ў Аграпэдінстытуце. У прысутнасьці Інспэктара ўзорных школ НКА быў заслуханы даклад аб падліку пасьпяховасьці, разгледжаны і зацьверджаны формы штодзённага і падагульняючага падліку—журнал настаўніка па прадмету.

У журнале даецца сьпіс вучняў групы па брыгадах і далей паасобныя слупкі на 15—20 см. у адпаведнасьці з кожным заданьнем або пісьмовымі работамі. У гэтых слупкох настаўнік коратка але дакладна фіксуе працу брыгады цалкам і ступень засваеньня матар'ялу заданьня кожным паасобным вучнем, дае характарыстыку рабочых запісаў, вызначае глыбіню прапрацоўкі, слаба прапрацаваныя разьдзелы і захады для зьнішчэньня недахопаў і інш. У слупку для пісьмовых прац вызначаецца аналіз працы вучня, яго пісьменнасьць, характэрныя памылкі і таксама захады па зьнішчэньні ўсіх выяўленых недахопаў.

Такі падлік працы шмат дае вучню і настаўніку. Першаму—падрабязны фіксаваны аналіз працы, адзнаку недахопаў і вызначэньне шляхоў для зьнішчэньня іх, і другому—кантроль за правільнай пастаноўкай выкладаньня, мэтадамі выкладаньня і вынікамі іх ужываньня.

На падставе штодзённага падліку ў канцы кожнай. чвэрці і году складаецца зводка па групе кожным настаўнікам па сваім прадмеце.

Тут, акрамя адзнакі аб ступені засваеньня праграмнага матар'ялу за дадзены адрэзак часу, даецца падрабязная падсумовая характарыстыка працы вучня па ўсіх разьдзелах—самастойнасьць у рабоце, рабочыя запісы, глыбіня прапрацоўкі, арганізаванасьць работы, уменьне прыстасоўваць веды, праца ў калектыве і інш, а таксама шляхі выпраўленьня недахопаў, канчатковая ацэнка і інш., меркаваньні настаўніка ў залежнасьці ад характару дысцыпліны.

На падставе гэтых зводак выкладчыкаў групарганізатар складае адну агульную зводку па групе, дзе, акрамя якаснага падліку, даецца і колькасны падлік (спазьненьні, пропускі), а таксама грамадзкая нагрузка, удзел у сацспаборніцтве і ўдарніцтве і інш. Гэты матар'ял абагаварваецца на групсходах, вытворчых нарадах і зацьвярджаецца школьным саветам з запісам яго пастаноў і намечаных мерапрыемстваў у адносінах кожнага паасобнага вучня ў апошнім слупку. У канчатковым выглядзе гэты матар'ял (разам са зводкамі ўсіх настаўнікаў) здаецца ў навучальную частку школы.

Што дае гэты матар'ял школе? Апрача вышэйпералічаных дадатных бакоў, для кожнага вучня і настаўніка, такі падлік працы дае магчымасьць правільна ацаніць вучня на падставе шэрагу характарыстак усіх настаўнікаў, унікнуць выпадковых памылак, суб'ектыўнасьці ў ацэнцы, устанавіць адзіны погляд на вучня і правільны падыход да выхаваньня яго, для накіраванасьці ў патрэбным напрамку і г. д.

Апрача таго, наяўнасьць такога фіксаванага падліку ў школе з чвэрці ў чвэрць, з года ў год дасьць багаты матар'ял аб кожным паасобным вучні, пры ўважлівым скарыстаньні *якога кожным* новым настаўнікам магчыма да мінімальнасьці скараціць так званыя пэрыяды азнаямленьня з вучнямі, якія ў некаторых „глыбокіх псыхолёгаў" расьцягваюцца на паўгодзьдзе, а іншы раз і больш, ствараючы безадказнасьць за працу.

Карыстаньне ў школе зацьверджанымі формамі падліку на працягу 2- апошніх месяцаў дало значныя вынікі, ня толькі ў справе больш дакладнага азнаямленьня з вучнямі, але і ў справе значнага узьняцьця пасьпяховасьці вучняў, палепшаньня якаснага засваеньня матар'ялу вучнямі, а таксама ў справе больш удумчывай ацэнкі настаўнікамі вынікаў працы, адчуваньня адказнасьці за тую або іншую ацэнку. Дзякуючы таму, што ўся кляса заслухоўвала дакладную характарыстыку кожнае прапрацоўкі таго або іншага матар'ялу кожным паасобным вучнем, павялічыўся значна ўдзел самога вучнёўства ў змаганьні з „карэнным

недахопам". Кожны разьдзел працы фіксаваўся вучотнай брыгадай, і на выжываньне недахопаў накіроўвалася ўвага ў першую чаргу групкому, а таксама і ўсёй групы. Прымацаваньне мацнейшых таварышоў да слабейшых, грамадзкі буксір, выклік на сацспаборніцтва, ацэнка выкананьня ўдарнікамі сваіх абавязкаў—вось тыя мерапрыемствы ў групах, якія выкліканы былі новымі формамі падліку. Трэба было толькі падлік правесьці за 2 дэкады да сканчэньня працы, тады быў-бы час на ліквідацыю выяўленых недахопаў (бо мала зафіксаваць недахоп, трэба дабіцца яго зьнішчэньня).

І толькі ўмяшаньне Гаркому вырашыла справу на карысьць школы. Нашлося і месца, нашліся і дні. Адзін з лепшых цэхаў заводу, мэханічны, непасрэдна зьвязаўся са школай у парадку грамадзка-палітычнай працы і шэфпрацы ў падшэфным заводу Церахоўскім раёне; І.Т.Р. заводу вызначаны два прадстаўнікі (інжынэр і вылучэнец на кіраўнічую тэхнічную працу) для дапамогі ў справе наладжваньня працы на вытворчасьці і ўвязкі тэорыі з практыкай.

На заводзе 10 цэхаў—вагонны цэх (3 корпусы), калёсны, кавальскі, ліцейны, мэханічны, зборачны, дрэваапрацоўчы, будаўнічы, электрастанцыя і галоўная кантора, зараз заканчваецца пабудова сталяліцейнага цэху і запраэктавана пабудова ФЗВ і сталовай. Выпушчае завод паштовыя і пасажырскія вагоны, а таксама ўтварае капітальны рамонт паравозаў і іншых складаных машын і нарыхтоўвае часткі трактароў і інш. Працуе ў тры зьмены на бесьперапынцы.

Прымаючы пад увагу тое, што школа прымацавана ў сярэдзіне навучальнага году, ніякай працы па складаньні асобных плянаў вытворчага навучаньня і дагавароў паміж школай і вытворчасьцю не рабілася. Школа вымушана была далучыцца да існуючага ўжо пляну, складзенага ІТР для раней прымацаваных школ, а таксама і да дагавору паміж школамі і вытворчасьцю, існуючага з пачатку гэтага навучальнага году. Але пасьля азнаямленьня з плянам школа пераканалася, што плян гэты не адпавядае сапраўднай палітэхнізацыі, бо пры складаньні пляну зусім ня прымаліся ў разьлік школьныя праграмы па прадметах. Стварылася палажэньне, што навучальная і выхаваўчая праца ў школе—сама па сабе, а вытворчае навучаньне—само па сабе.

У аснову пляну працы па вытворчасьці ўзяты завод, як ён ёсьць. Галоўныя цэхі—вагонны і зборачны цэхі створаны аб'ектамі вучэньня, а поплеч з імі пастаўлены прымыкаючыя да іх дапаможныя цэхі. Такім, чынам, маецца на мэце вывучэньне вытворчасьці ў цэлым (тэхніцызм, а не палітэхнізм).

Школа пераканала старшыню ІТР заводу ў неабходнасьці перагляду пляну вытворчага навучаньня. Цэлы шэраг пасяджэньняў займаюцца вывучэньнем школьных праграм, прыкладных плянаў вытворчага навучаньня, урэшце выдзяляецца мэтадычнае бюро з прадстаўнікоў ІТР і ад школы—для складаньня новага пляну, які-б адпавядаў запатрабаваньням сучаснай палітэхнічнай школы. Але ў гэты час адбываюцца зьмены ў складзе бюро ІТР заводу. Новае кіраўніцтва зусім ня цікавіцца гэтай справай, і плян да канца навучальнага году застаецца без перагляду. Каб выправіць недахопы пляну, школа ўвесь цяжар працы пераносіць на школьныя нарады па вытворчым навучаньні. Прадстаўнікі ІТР, адміністрацыя школы, інструктары вытворчага навучаньня, выкладчыкі фізыкі, матэматыкі, маляваньня і інш. дысцыплін на сваіх паседжаньнях разьбіралі дакладна існуючы плян і падпарадкавалі зьмест яго вучэбна-выхаваўчым мэтам школы, шляхам увязкі тых або іншых разьдзелаў працы з адпаведнымі дысцыплінамі, скарыстоўваючы ўсе моманты работы па вытворчасьці, структуру вытворчасьці, мэтады працы, удзел школы ў правядзеньні грамадзка-палітычных і гаспадарчых кампаній на заводзе, у шэфпрацы у выхаваўчых мэтах.

На падставе гэтае прапрацоўкі вызначаліся на нарадзе сталыя рабочыя месцы ў цэху, неабходныя замалёўкі, кантрольныя пытаньні, уступныя гутаркі спэцыялістаў, або выкладчыкаў адпаведных

дысцыплін. Навучальнай часткай разам з інструктарамі складаліся заданьні па працы на вытворчасьці, з разьлікам часу, паказам работ і іх дэталізацыяй (гл. заданьні № 1, 2, 3). У часе працы асноўнае кіраўніцтва знаходзілася ў руках інструктара, але для дапамогі і тлумачэньня прыцягваліся і брыгадзіры, майстры і тэхнічныя сілы цэху, а ў паасобных выпадках і прадстаўнікі ІТР. Усяго па пляне вызначана было 96 гадавых гадзін, якія па паасобных цэхах разьмяркоўваліся наступным чынам: вагонны цэх—36 г., паравоза-зборачны—30 г., мэханічны—12 г., калёсны—2 г., кавальскі—4 г., ліцейны—12 г., (Апошнія 2—у экскурсійным парадку).

На завод дапушчаны былі толькі 7-я група і дзьве 6 групы, тры 5-я групы і дзьве 4-я групы працавалі ў школьных майстэрнях сьлясарнай і сталярнай, а 3, 2, 1 і „0“ групы працавалі ў сваіх клясных памяшканьнях, скарыстоўваючы інструмант, закуплены школай у невялікай колькасьці для гэтай мэты—ножніцы, калаўрот з пёркамі, сьвердлы малыя, цыркулі, адкруткі, кусачкі, плоскагубцы, напільнікі і інш. Палітэхнічныя экскурсіі праведзены школай, з мэтай азнаямленьня з іншымі відамі вытворчасьці, наступныя—на завод Ланцуцкага, Сельмаш, Скурзавод, Хлебазавод, Палітэхнічную станцыю, Завод „Спартак“, саўгас РЖСТ, Клінкерны завод і інш. Спэцыяльнага прагляду кіно-фільм з мэтай палітэхнізацыі школай не практыкавалася за адсутнасьцю такой магчымасьці, але школа ўлічыла гэты недахоп і зараз закупіла ў Белдзяржкіно стацыянарны кіно-апарат за 1385 рублёў, і ў наступным навучальным годзе гэты недахоп будзе выпраўлены, пры наяўнасьці адпаведных кінофільмаў.

Трэба адзначыць, што ўдзел настаўніцтва ў справе вытворчага навучаньня абмяжоўваўся толькі працай на вытворчай нарадзе ўводнымі гутаркамі паасобных настаўнікаў паводле заданьня, работай у клясах з вучнямі, настаўнікамі малодшых груп, правядзеньнем экскурсій на заводы, а таксама скарыстаньнем вытворчага навучаньня ў вучэбна-выхаваўчых мэтах. Што-ж датычыць вытворчага практыкуму на заводзе самога настаўніцтва, дык яго зусім ня было ў другім паўгодзьдзі з тае прычыны, што допуск вучняў на завод выстараўся ў строга рэглямантаваныя дні і часы, дэкады, а менавіта: 4, 5 і 9 і 10 дні, с 12 да 3 гадзін дня. Агульныя выходныя дні школы былі 3 і 8-мы, а ў рабочыя дні настаўнікі былі занятыя—першая зьмена да 1 г, 45 х., а другая зьмена распачынала працу пасьля 2-гадзін. Такім чынам, накіраваць настаўнікаў на завод разам з вучнямі ня было магчымасьці, даць-жа школе дадатковыя дні вытворчасьць не згадзілася.

Былі спробы наладзіць сэмінары для настаўніцтва школ, прымацаваных да заводу Ланцуцкага, пад кіраўніцтвам ІТР заводу. Кіраўніцтва ІТР нават і згоду сваю дало, але ажыцьцяўленьня практычнага, ня гледзячы на ўсе захады школы, з гэтае згоды не атрымалася.

Зараз шэфства над 3-й чыгуначнай школай, як узорнай, узяў Гомельскі чыгуначны вучэбны камбінат пры 5-м эксплёатацыйным раёне Заходніх чыгунак, які абяцаў школе наладзіць сэмінары па палітэхнізацыі настаўніцтва, адчыніць курсы падвышэньня кваліфікацыі школьных інструктароў і стварыць брыгады з студэнтаў старэйшых курсаў рознай спэцыяльнасьці ў дапамогу інструктаром пры кіраўніцтве вытворчым навучаньнем школьнікаў на заводзе. Акрамя таго, вучэбны камбінат абяцаў аказаць дапамогу праз сваіх спэцыялістаў пры складаньні новага пляну вытворчага навучаньня на наступны 1932-33 год.

Заўком заводу ад справы вытворчага навучаньня стаяў у баку, абмяжоўваючыся запатрабаваньнямі дапамогі школ у правядзеньні грамадзкай працы на вытворчасьці, гаспадарча-палітычных кампаній, трывогі і інш., мастацкага афармленьня (лёзунгі, дыяграмы, насьценгазэты) і ўдзелу ў барацьбе з прагульшчыкамі, асабліва ў дні рэлігійных сьвят. Трыкутнік прымацаванага цэху больш цесна ўвязаўся са школай, прымаючы актыўны удзел ва ўсіх разрэзах вытворчай і грамадзкай працы школы

шляхам сталага прадстаўніцтва. Намячалася цэхам і выдзяленьне сацнамесьніка-загадчыку школы, але ў жыцьцё ня было праведзена ў гэтым годзе. Удзел у конкурсе на лепшую школу і настаўніка быў самы шырокі з боку цэху; тры прадстаўнікі цэху ўваходзілі ў склад штабу конкурсу і прымалі актыўны ўдзел у абсьледваньні і наладжваньні працы школы.

Падлік працы вучняў на вытворчасьці праводзіўся ікструктарамі, як у часе непасрэднай працы у цэху, так і па заключных гутарках па заданьнях. Была школай выпрацавана спэцыяльная вучотная картка наступнага зьместу:

| Цэх | № заданьня | Дата | Зьмест працы | Адзнака аб выкананьні | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

У картцы мелася на мэце адзначаць: у якім цэху праводзіцца праца, па якім заданьні (яго № і тэрмін), дата кожнага паасобнага выхаду на вытворчасьць, зьмест працы ў гэты выхад, і характарыстыка выкананьня працы дадзенай вучням. Апошні разьдзел карткі „Заўвагі" мог запаўняцца ня толькі інструктарам, а і брыгадзірамі і тэхнічным пэрсаналам цэху, пад непасрэдным назіраньнем якіх працуюць вучні ў цэху.

Але гэтыя карткі ў гэтым годзе яшчэ ня былі ўведзены ў практыку за немагчымасьцю іх надрукаваць у патрэбнай колькасьці на добрая каснай паперы.

Вынікі працы на вытворчасьці былі-б зусім станоўчыя, калі-б намечаная на заданьнях праца вучняў часта ня зрывалася з-за адсутнасьці ў цэхах вольных варштатаў і струманту. Трэба будзе дабівацца на наступны навучальны год, каб на час працы вучняў у цэху тыповыя варштаты 1—2 пакідаліся вольнымі для непасрэднай практыкі вучняў, бо інакш палітэхнізацыя траціць свой ьмест.

Наогул-жа вучні за час мінулага паўгодзьдзя ўразумелі прынцыпы пабудовы вагонаў—прызначэньне хадавой часьці 2-і 4-восьных вагонаў, кузаву, рамы, стандартызацыю пры масавым вырабе, сыстэму тармажэньня і інш.), а вучні 7-й групы, акрамя таго, азнаёміліся на практыцы з часткамі паравозу і іх пабудовай (кацёл, топка, залатнік, куліса, хадавая частка—вядучыя і счайныя колы, тэндэр і інш.). Поплеч з гэтым, яны асвоілі працэсы працы стандартнымі матар'яламі па абшыўцы кузаву вагону, сьвідраваньне пнэўматычнымі прыборамі, струганьне, даўбёжка, расьпілоўка і інш. Гэтыя веды былі падпарадкаваны вучэбным мэтам пры праходжаньні тых або іншых дысцыплін. Так фізык шырока скарыстаў практыку на вытворчасьці пры вывучэньні паравых машын, сьціснутага паветра і інш., выкладчык матэматыкі, маляваньня шырока скарыстоўвалі дадзеныя практыкуму.

Да вывучэньня паравозу уступная гутарка праводзілася настаўнікам фізыкі.

Рэарганізацыя вучнёўскага самакіраваньня, на падставе новага палажэньня аб ДСК, адчыніла перад школай шырокія магчымасьці па ўцягненьні актыву вучнёўскіх мас у змаганьне за якасьць вучобы і за сьвядомую дысцыпліну. Палажэньне аб ДСК было распрацавана на школьным савеце. На вучнёўскіх і групавых сходах былі абраны вучком і групсаветы. У склад вучкому ўвайшлі прадстаўнікі адбацькоў і вытворчасьці. Адразу былі складзены пляны і календарныя графікі ўсіх зьвеньняў самакіраваньня, распачалі па групах працу брыгады самакіраваньня. Асабліва добра працавалі вучэбна-вучотныя брыгады; гаспадарчыя і санітарна-бытавыя. Ажывілася праца школьнай насьценгазэты з утварэньнем групавых рэдкалегій, добра запрацавалі насьценгазэты

ў групах. Была перагледжана і ўпарадкавана нагрузка вучняў, адстаючыя разгружаліся ад грамадзкай працы ў першую чаргу. У асноўным пакідалася адна нагрузка па лініі піянэрарганізацыі і камсамольскай ячэйкі, праводзілася жорсткая барацьба за паказальную якасьць вучобы і дысцыплінаванасьць. Была зьдзейсьнена цесная ўвязка паміж імі і самакіраўніцтвам праз арганізацыю пэрыядычных справаздач членаў самакіраваньня, піянэраў і камсамольцаў, даваліся належныя ўстаноўкі ў працы. Гэта паставіла працу на належную вышыню, стымулюючы адказнасьць за працу перад сваёй арганізацыяй. Частая практыка падліку вынікаў працы па лініі вучнёўскіх арганізацый, піянэратрадаў і камсамольскай ячэйкі стварылі ўважлівыя адносіны да вучобы, а жорсткі адпор усім праявам недысцыплінаванасьці, барацьба са спазьненьнямі і прагуламі, за ашчадлівыя адносіны да школьнай маёмасьці далі вялізарныя вынікі. Самакіраваньне ліквідавала канчаткова абязьлічку ў карыстаньні вучнямі школьнай мэбляй, падручнікамі, прыладамі і інш. рэчамі, што з першых дзён у коране зьмяніла адносіны вучняў да прымацаваных рэчаў. Паломка мэблі, псаваньне падручнікаў стала рэдкім, выпадковым зьявішчам. Адміністрацыя школы, групарганізатары і групаводы дружна працавалі з вучнёўскім самакіраваньнем, папраўляючы і праводзячы праз органы самакіраваньня ўсю адміністрацыйна-гаспадарчую і значную частку выхаваўчай працы, адкінуўшы канчаткова мэтады былых адчытак, „натацый“. І гэта рабіла куды большы уплыў. Цесная сувязь самакіраваньня з сем'яаі паасобных недысцыплінаваных і адстаючых вучняў, вывучэньне праз вылучаныя брыгады карэньняў дрэнных паводзін і адсталасьці у вучобе, уплыў на гэтых вучняў з боку лепшай часткі вучнёўскай масы далі найлепшыя вынікі.

Грамадзкая праца ў школе праводзілася ў трох кірунках—1) у школе і раёне школы, 2) на вытворчасьці і ў Чырвонай арміі і 3) у падшэфных сельсаветах прыгараднага Гомельскага раёну і падшэфнага вытворчасьці Церахоўскага раёну. Да ўсякіх гаспадарчых і палітычных кампаній і рэвалюцыйных сьвят складаліся па школе адзіныя пляны, у якіх вызначаліся задачы і канкрэтныя разьдзелы работы з вылучэньнем адказных па лініі асьветніцкага і вучнёўскага калектыву. Па гэтых плянах праводзілася шырокая падрыхтоўчая праца па паасобных дысцыплінах, гуртках, таварыствах і г. д., вылучаліся і рыхтаваліся дакладчыкі як з настаўнікаў, так і з вучняў, маляваліся лёзунгі, дыяграмы, выпускаліся спэцыяльныя нумары насьценгазэт, рабіліся выстаўкі кампанійскай літаратуры, брыгады рыхтаваліся да вылазак у Чырвоную армію і на вытворчасьць, да выездаў у падшэфныя сельсаветы. Па выкананьні пляну падводзіліся вынікі праробленага, з шырокім асьвятленьнем на агульных сходах, у насьценгазэтах, з мэтай скарыстаньня ў вучэбнавыхаваўчых інтарэсах.

У школе існавалі гурткі—беларускі і антырэлігійны для бацькоў і для вучняў—палітычны. антырэгілійны, вайсковы, мастацкі, сьпеваў, спортгурток, драмгурток юнкораўскі і радыстаў, і таварыствы—МОПР, Озэт, „Асаавіахэм“, „Ваяўнічых бязбожнікаў“, Шэфтаварыства“, „Прэч няпісьменасьць“ і Чырвонага крыжу і Аўтадор. Пры школе існавалі дзьве групы лікпунту з абслугоўваньнем у грамадзкім парадку, апрача таго, 15 вучняў працавалі па індывідуальным навучаньні і з чырвонаармейцамі падшэўнай часьці, якія жадалі пашырыць свае веды па паасобных дысцыплінах. Школай сабрала шмат попелу для прыгараднай гаспадаркі РЖСТ і ўтыльсыравіны, і мабілізаваны значныя грашовыя сродкі: пазыка—„З рашаючы“, ашчадкаса, матарызацыя пагранвойск, трактарная калёна, падводная лодка „Ваяўнічы Бязбожнік“, Самалёт Гомельшчыны, эскадрыльля „Асьветнік“, білеты лётарэі „Асаавіяхэм на літаратуру падшэфным калгасам—усяго па калектыву асьветнікаў і вучняў на суму 69—45 р. 20 к.

У апошнія дні навучальнага году праведзена кампанія падпіскі *на пазыку* „4-ты, заключны, год пяцігодкі“, якая дала па асьветніцкім калектыве 6405 руб., або 144,5 проц. месячнага заработку, і 647 руб. па вучнёўскім калектыве. Сабрана вучнямі і настаўнікамі ў пад-

шэфныя калгасы больш 300 кніжак. За працу т-ваў—„Ч. крыж", „Аса" і ліквідацыю няпісьменнасьці школа і асобныя работнікі прэміраваны. Па працы „В. Бязбожнік" на першым месцы сярод школ гораду.

На вытворчасьці, у прымацаваным да школы мэханічным цэху, рэгулярна праводзіліся чыткі і даклады, аздабленьне цэху лёзунгамі і дыяграмамі, дэманстрацыі трывогі з прычыны небясьпекі прарываў ў выкананьні прамфінпляну, дапамога ў выпуску штодзёнак брыгад, абмен нататкамі і г. д. Разам з цэхам і пад кіраўніцтвам шэфцэх'ячэйкі праводзілася праца ў падшэфных сельсаветах, якая асабліва шырока разгарнулася ў часе падрыхтоўкі да 3-й бальшавіцкай сяўбы і ў часе яе правядзеньня, мабілізацыі насенфондаў, па папулярызацыі пастаноў партыі і ўраду аб сельгаспадатку, мяса—і хлебазагатоўках і калгасным гандлі, а зараз па праполачнай кампаніі і падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю. Школа шэфпрацу і выезды праводзіць па сталым пляне (гл. дадатак). Вялікая праца прароблена школай у падшэфных с/саветах ў часе месячніку штурму за аўладаньне тэхнікай пэдпрацэсу, калі настаўнік школы працаваў у вясковых школах на працягу-$^{1}/_{2}$ месяца, наладжваючы плянаваньне, вучот, разбор новых праграм і мэтадычную дапамогу, праводзячы кампанію заключэньня сацумоў па спаборніцтве і г. д., *а таксама* ў час конкурсу, калі былі *высланы* настаўнікі ў школы абодвух падшэфных с/саветаў, дзе распрацавалі задачы конкурсу, дапамаглі ў складаньні плянаў конкурсу і змагаліся супроць фармальных адносін да працы па вылучэньні лепшых школ і настаўнікаў і вывучэньні іх працы, абмену вопытам і падцягваньня адстаючых. Пры сканчэньні навучальнага году настаўнікі школы працавалі ў падгародных школах, прымацаваных да нашай школы, па падвядзеньні выніку мінулага навучальнага году і дачы заключэньняў аб працы школы. Камсамольская ячэйка школы высылала брыгаду ў падшэфны сельсавет для правядзеньня працы ў сувязі 10 годзьдзем піанэраганізацыі.

Да гэтага году ў школе зусім мала лічыліся з тым, як у школьніка разьмеркаваны яго дзень. Перапынкі паміж лекцыямі былі скарочаны да максымальнасьці, пазашкольная праца працягвалася часта вельмі позна, нагрузкі вучняў зусім не рэгуляваліся, і шмат было перагружаных вучняў, якія паступова адставалі ў вучобе.

Пытаньне аб хатніх працах афіцыйна ня ставілася, кіраўніцтва імі ня было, але на кожным прадмеце значная доля працы настаўнікамі пераносілася на хатнюю працу, без усялякага падліку часу і нарміроўкі паміж прадметамі. У часе перапынкаў паміж лекцыямі, выходных дзён і інш, вучні былі прадастаўлены самім сабе: чым яны займаліся, дзе бывалі і што рабілі—нікога гэта ня цікавіла. Дрэнны быў выгляд і самай школы—на падлозе сьмецьце, кавалкі паперы, увесну вецьце і кветкі ўсьцілалі падлогу.

У гэтым годзе, у выкананьне яскрава акрэсьленых пастаноў, школа прыняла ўсе захады да правільнага разьмеркаваньня часу школьніка. Малыя перапынкі ўстаноўлены 10-ці хвілінныя, а вялікія—30 хвілін. Заняткі пачыналіся а 8-й гадзіне раніцы, і ўся праца у школе, як пазашкольная, так і чытаньні, заканчвалася а 8-й гадзіне ўвечары, пасьля чаго ніводнага вучня не заставалася ў школе. На бацькоўскіх сходах было дакладна растлумачана аб значэньні рэжыму часу школьніка, і вынесена пастанова, каб у сем'ях адносна вучняў таксама падтрымоўваўся адпаведны рэжым—сваячасовы сон, неперагружанасьць хатнімі работамі, унікненьне пасылак вучняў у чаргу, падвоз у школу з прыгарадных пасёлкаў і г. д.

Нагрузкі вучняў былі перагледжаны ў бок зьмяншэньня нагрузак адных і раўнамернага перакладаньня іх на другіх, якія чаму-небудзь да гэтага часу ня былі ўцягнуты ў грамадзкую працу. Хатнія працы строга разьлічаліся ў памеры 30 проц. часу школьнай працы па прадмету. Пры тым усе хатнія працы прадугледжваліся дэкаднымі плянамі і заданьнямі з паказам патрэбнай колькасьці часу на іх выкананьне. Даваньне хатніх прац і разьлік іх у часе правя-

раліся, і ў выпадку перагрузкі (напр. матэматыка) рабіліся катэгарычныя прапановы настаўнікам зьменьшыць іх, строга ўлічваючы памер матар'ялу ў залежнасьці ад устаноўленай нормы часу. Вялікі перапынак і час пасьля лекцый стаў праводзіцца арганізавана. Зімой—у залі школы, а ўлетку—на вольным паветры арганізоўваліся калектыўныя гульні, спорт, спаборніцтвы з суседняй ФЗС.

Увечары штодзённа (ад 6 да 8 гадзін) у школе працавала чытальня з дзяжурным настаўнікам для консультацыі. Там чыталі часопісы, газэты, літаратуру, шырока карысталіся слоўнікамі і энцыклёпэдыяй, рыхтаваліся да лекцый па маючыхся ў чытальні падручніках: у чытальні выдаваліся розныя гульні, з якімі вучні накіроўваліся ў суседні пакой і там гулялі пад наглядам вызначанага дзяжурнага вучня. У выхадныя дні праводзіліся стралковыя і спартыўныя спаборніцтвы паміж гурткамі, з іншымі школамі, наладжваліся вылазкі за горад, ваенныя паходы і інш.

Ужо ўсе папярэднія мерапрыемствы значна палепшылі санітарнае становішча школы. Але поплеч з гэтым адміністрацыя школы, разам з усім пэдкалектывам, вучнёўскім самакіраваньнем ужывалі ўсе захады па падвышэньні санмінімуму ў школе. Ударнікі—тэхпрацаўнікі выконвалі свае абавязкі па ўборцы школы сумленна і старанна. Вялізная сьветавая плошча, правільная вэнтыляцыя, змазваньне флюрантам падлогі, выцяжная шафа з электрычным вэнтылятарам у хэмічнай лябараторыі, сыстэматычны нагляд за чыстатой у школе паставілі школу на такі узровень, што інспэктар узорных школ НКА ў часе абсьледваньня шкоды асабліва падкрэсьліў узорную чыстату і парадак у школе, як прыклад для многіх іншых школ і прапанаваў прэміраваць школу і тэхпрацаўнікоў. На асьветніцкай канфэрэнцыі ў канцы навучальнага году 2 лепшых ударнікі—тэхпрацаўнікі школы за добрую працу па ўтрыманьні ў чыстаце школы прэміраваны па 75 р. кожны.

У асноўным сацыяльна здаровае асяродзьдзе вучняў з пераважнай пралетарскай праслойкай (77,5 проц. дзяцей рабочых), на 92,7 проц. ахопленых дзіцячым рухам, зьяўлялася клясава-вытрыманым пралетарска-сьвядомым. Але паасобныя выпадкі і клясава-варожыя настроі ўсёткі мелі месца ў школе. Так, вучань 7-й групы Бандарэнка, сын селяніна-аднаасобніка, на лекцыі грамадазнаўства выказаў думку, што ў СССР экспляатуецца сялянства, былі выпадкі з боку 3 вучняў антысэмітызму, частка вучняў пасьля рэлігійнага сьвята „вялікадня", у дзень памінак нябожчыкаў, накіравалася гуляць на могілкі. Навакол гэтых выпадкаў была разгорнута выхаваўчая праца, мабілізавана думка вучняў, бацькоў і грамадзкасьці. У адносінах Бандарэнкі, які працягваў адстайваць свае погляды, вучні выступілі вельмі рашуча, патрабаваўшы ад яго прызнаньня і аналізу сваіх памылак са зьмяшчэньнем гэтага аналізу ў групавой і агульна-школьнай насьценгазэце, што ім і было добрасумленна выканана.

Былі зарэгістраваны выпадкі карыстаньня шкоднымі, часоў царскай улады, патрыётычнымі кніжкамі, парнаграфічнай і мяшчанскай літаратурай, гульня на грошы і дробныя крадзяжы (апошняе асабліва ў 1 канцэнтры). Усе гэтыя выпадкі суправаджаліся шырокай выхаваўчай працай, навакол іх стваралася грамадзкая думка, дописы юнкораў з аналізам выпадкаў зьмяшчаліся ў насьценгазэтах, літаратура і рэчы забіраліся для школьнай выстаўкі, як паказ перашкод у працы.

Правільна пабудаваная выхаваўчая праца, умелы паказ шкоднасьці ўсіх выпадкаў, шырокае асьведамленьне грамадзкасьці стварылі ўмовы для выжываньня гэтых зьяў, і да канца навучальнага году яны зусім амаль зьнікалі.

Паказ лепшых узораў працы школы ў гэтым годзе ня меў дастатковага месца. Сярод школ Гомельскага чыгуначнага вузла школа мала правяла работы, калі ня лічыць дакладаў на партсходзе і Гармэтадбюро з шырокім актывам настаўніцтва. Трэба сказаць, што ў гэтым напрамку ня было да апошняга часу яскравай устаноўкі з боку АНА і Мэтадкому. Толькі ў часе конкурсу пачалі

напрыклад, высоўвацца патрабаваньні даваньня узорных лекцый. Была праробленa вялікая праца ў сэнсе аказаньня мэтадычнай дапамогі вясковаму настаўніцтву. Але галоўная праца па паказу лепшых узораў сваёй работы школай была прыўрочана да сканчэньня навучальнага году праз школьную выстаўку. Папулярызаваліся школай распрацаваныя ёй формы штодзённага і падагульняючага падліку працы (зводачную форму падліку працы па групах ГАРАНА распаўсюдзіла на ўсе школы гораду і раёну ў друкаваным выглядзе), праца майстэрняў, графіка, мастацкае афармленьне ў школе насьцендруку і інш. Школьная выстаўка была перанесена на час канфэрэнцыі ў спэцыяльнае памяшканьне, разам з выстаўкамі іншых школ.

Выстаўка сабрала шмат гледачоў. Запісы наведвальнікаў (між іншым вельмі супярэчлівыя) сьведчаць аб увазе да вырабу майстэрняў, якія якасьцю апрацоўкі выклікалі ў некаторых недаверлівасьць, што яны зроблены вучнямі. Вялікая ўвага аддавалася вітрыне „Што перашкаджала працы школы". Цікава адзначыць, што формы вучоту абгаварэньню гледачоў не падвяргаліся, і большая частка наведвальнікаў—настаўнікаў зусім амаль на іх не зварочвала ўвагі.

Выставачнае журы адзначыла выстаўку школы ў ліку двух лепшых школьных выставак, зазначыўшы поплеч з гэтым і шэраг недахопаў. Галоўным недахопам сваёй выстаўкі школа лічыць тое, што яна дае статыку працы, а ня дынаміку па паасобных разьдзелах. Але інакш ў гэтым годзе і быць не магло, бо школы да выстаўкі рыхтаваліся лічаныя дні. Інакш будзе пастаўлена выстаўка ў гэтым навучальным годзе, калі паказ вынікаў працы ў працэсе яе паступовасьці кожным настаўнікам, кіраўніком гуртка і інш. будзе ўключаны ў свой вытворчы плян.

Мэдатычнай дапамогі з боку Гарана і Мэтадкому школе, як узорнай, пераважна перад іншымі школамі гораду не аказвалася. Амаль ніякага кіраўніцтва па лініі МК і вытворчага сэктару нябыло і з боку Гаркому саюзу працасьветы ў адносінах вытворчай працы. Адпаведны сэктар Гаркому зусім не працаваў на працягу году.

На роўных умовах з іншымі школамі гораду наша школа прымала ўдзел у агульнагарадзкіх мэтадычных аб'яднаньнях, пры чым чатыры настаўнікі школы былі вылучаны кіраўнікамі агульнагарадзкіх мэтадычных сэкцый (родная мова і групавыя сэкцыі I канцэнтру). Інструктар мэтадысты Гарана быў выкладчыкам фізыкі ў 7 групе нашай школы і ў часе працы ў школе аказваў мэтадычную дапамогу індывідуальнымі парадамі паасобным настаўнікам, а таксама ўдзельнічаў у працы вытворчых нарад школы, школьных саветах і паседжаньнях калектыву асьветнікаў школы, дапамагаючы ў наладжваньні працы.

Значная мэтадычная дапамога аказана школе інспэктарам узорных школ НКА т. Пісарчыкам у часе абсьледваньня школы шляхам падрабязнага аналізу працы паасобных настаўнікаў, крытыкай недахопаў, маючых месца ў працы школы і настаўнікаў, папулярызцыяй дадатных момантаў працы і правядзеньнем узорнай лекцыі для настаўнікаў 1 канцэнтру.

На новы навучальны год, у выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б), 3-й Гомельскай чыгуначнай узорнай школай намячаецца наступнае:

1. Абсталяваць больш поўна рабочы пакой, даабсталяваць школьныя майстэрні, устанавіць у іх 4 дынамаматоры, якія павінны рухаць сьвідравальны і стругальны варштаты, 2 такарныя па дрэву і мэталю і тачыльныя камякі.

2. Скласьці падрабязныя пляны працы ў рабочым пакоі і школьных майстэрнях, а таксама пляны вытворчага навучаньня на заводзе імя Ланцуцкага, улічыўшы асаблівасьці рабочых месц і строга вытрымаўшы асноўны прынцып палітэхнізацыі—падпарадкаваньне вытворчага навучаньня вучэбна выхаваўчым мэтам школы.

3. Кінафікаваць школу і заключыць дагавор з Гомельскім аддзяленьнем Белдзяржкіно на рэгулярную дастаўку школе кінафільмаў па пытаньнях палі-

тэхнізацыі і ілюстрацыі паасобных дысцыплін. Радыёфікаваць школу.

4. Даабсталяваць фізгабінэт новымі прыладамі і замяніць тыя, якія прышлі ў нягоднасьць, а таксама папоўніць хэмгабінэт рэактывамі.

5. Заключыць новы дагавор з вытворчасьцю, а таксама з дамацаваным цэхам—мэханічным на ўзаемаабслугоўваньне і дзейную дапамогу ў справе вытворчага навучаньня, а таксама з шэфам школы-чыгуначным вучэбным камбінатам.

6. Уцягнуць усё настаўніцтва школы ў справу камплектаваньня паралельных груп больш аднародным складам вучняў, у сэнсе іх разьвіцьця і падрыхтаванасьці, а таксама наладжваньня працы і органаў дзіцячага самакіраваньня.

7. Спачатку навучальнага году пад адказнасьць кожнага групавода і групаарганізатара правесьці сталае вывучэньне хатніх умоў кожнага вучня свае групы, матар'яльнага забясьпечаньня сям'і, выявіць стан здароўя вучня, яго нахілы і г. д., з мэтай выдаленьня і зьмены ў лепшы бок усяго няспрыяючага пасьпяховасьці вучня.

8. Ускласьці адказнасьць на групавода і групаарганізатара, а таксама і выкладчыкаў паасобных дысцыплін за забесьпячэньне вучняў падручнікамі і вучэбнымі прыладамі па прадметах, а ня толькі на адміністрацыю школы.

9. З самага пачатку навучальнага году, яшчэ раз праверыўшы і абгаварыўшы практыку падліку мінулага году, наладзіць сталы штодзённы падлік пасьпяховасьці вучняў, падагульняючы гэты падлік па групах ня меней аднаго разу ў чвэрць, прымаючы ўсе захады па аказаньні дапамогі адстаючым вучням шляхам арганізацыі заняткаў з імі.

10. Наладзіць афармленьне паказу пасьпяховасьці пасьля кожнага падагульненьня па групе шляхам дыяграм і графікаў.

11. Наладзіць у школе пакой для вячэрніх заняткаў па падрыхтоўцы да лекцый для тых вучняў, якія па хатніх умовах ня могуць пасьпяхова займацца дома.

12. Абавязаць кожнага настаўніка сыстэматычна праводзіць праверку хатніх і клясных пісьмовых работ вучня па сваім прадмеце, не прапускаючы ніводнай памылкі ня толькі граматычнай і стылістычнай, а і па іншых пытаньнях, зьвязаных з другімі прадметамі, прыняўшы захады для выпраўленьня яе і растлумачэньня вучню.

13. Пашырыць практыку акадэм. баёў у пазалекцыйны час паміж паралельнымі групамі з мэтай заахвочваньня вучняў да ўменьня выявіць здабытыя веды, афарміўшы іх у слоўнае выражэньне.

14. Практыкаваць у чытальні калектыўную чытку мастацкіх літаратурных твораў, разбор іх і ўсебаковую ацэнку ў мэтах крытычных адносін да твораў, да карыстаньня кніжкай.

15. Да пачатку навучальнага году арганізаваць прапрўцоўку праграм і вытворчых плянаў кожным настаўнікам па сваім прадмеце на год і семестровых на першыя 2-3 месяцы з дакладным вызначэньнем вучэбна-выхаваўчай работы, сувязі яе з вытворчай і грамадзкай работай і паказаньнем мэтадаў работы (імкнучыся надаць ім больш актыўнасьці).

16. У вытворчыя пляны ўключыць пункт аб падрыхтоўцы матар'ялаў на школьную выстаўку ў працягу году, а таксама да канца навучальнага году, які-б навочна паказаў вынікі карыстаньня актыўнымі мэтадамі працы, дынаміку працы па прадмету і ролю вучня групы.

17. Арганізаваць сталую працу вытворчых нарад папоўніўшы зьмест працы канкрэтнымі пытаньнямі штодзённай мэтадычнай работы настаўніка, адвёўшы месца для штомесячных справаздач настаўнікаў аб выніках працы групы, або па прадметах, шырокага абмену вопытам і высоўваньня канкрэтных прапаноў па зьнішчэньні ўсіх недахопаў, якія выявіліся за гэты час у рабоце.

18. Наладзіць рэгулярнае наведваньне лекцый настаўнікаў адміністрацыяй

і таварышамі з мэтай дапамогі, своечасовага выжываньня ўсіх недахопаў, а таксама папулярызацыі лепшых дасягненьняў адданых сваей справе настаўнікаў.

19. Правільна разьмеркаваць грамадзкія нагрузкі сярод настаўніцтва па працы з грамадзкасьцю, з бацькамі вучняў, у прымацаваным цэху і Чырвонай арміі, у падшэфным сельсавеце, у гурткавой працы, таварыствах і самакіраваньні, не дапускаючы палажэньня, каб настаўнік быў у баку ад гэтай працы, але-ж ствараючы ўмовы для недастаткова падрыхтаваных настаўнікаў працаваць над падвышэньнем сваёй кваліфікацыі.

20. Наладзіць справу дакладнага вывучэньня свайго прадпрыемства (заводу імя Ланцуцкага) кожным настаўнікам школы з такім разьлікам, каб кожны настаўнік II канцэнтру мог прыняць удзел у кіраўніцтве грамадзка-вытворчай працай вучняў на прадпрыемстве, а кожны настаўнік I канцэнтру дакладна ўяўляў сабе тое прадпрыемства, на якім яго вучань павінен будзе працаваць пасьля пераходу ў II канцэнтр.

21. Арганізаваць сталы паказ лепшых узораў працы школы праз друк, пэрыядычныя даклады, пастаноўку ўзорных лекцый, кансультацыю па паасобных пытаньнях у вуснай і пісьмовай форме, шырокую магчымасьць наведваньня ўзорнай школы ў час працы, а таксама праз выстаўкі.

# ЗА ПЭДАГАГІЧНЫЯ КАДРЫ

С. Я. Вольфсон

## Палепшыць якасьць працы вышэйшай і сярэдняй школы [1])

Новы навучальны год, на парозе якога мы знаходзімся, павінен быць пераломным годам у сэнсе ўзмацненьня барацьбы за якасьць працы вышэйшай і сярэдняй школы.

Мы маем вялікія дасягненьні ў справе будаўніцтва вышэйшай і сярэдняй школы БССР. Дастаткова паказаць, што першы варыянт 5-гадовага пляну намячаў да канца 1932 году па БССР—3 ВНУ з 4.150 студэнтаў, а зараз мы маем 32 ВНУ, у якіх навучаецца 15.132 студэнты. Гэты-ж плян намячаў да канца 1932 году па БССР 37 тэхнікумаў, з 9.850 студэнтаў, а мы маем зараз 130 тэхнікумаў, у якіх навучаецца 32.198 студэнтаў.

Аб значэньні гэтых нашых посьпехаў можа сьведчыць той факт, што па БССР на кожных 10.000 чал. насельніцтва налічваецца 30 студэнтаў ВНУ, у той час, як у Германіі гэтая лічба вызначаецца ў 18 чал., у Ангельшчыне—у 14, у Францыі—у 8,7. Вось, якія перамогі ў галіне будаўніцтва вышэйшай і сярэдняй школы атрыманы БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б, дзякуючы няўхільнаму правядзенню ленінскае нацыянальнае палітыкі.

Было-б памылкова лічыць, што мы маем толькі колькасныя дасягненьні ў галіне вышэйшае і сярэдняе асьветы. Побач з колькаснымі мы маем і буйныя якасныя дасягненьні. Гэтыя апошнія ў тым, што нашы ВНУ, ВТНУ і тэхнікумы—гэта сапраўды кузьні кадраў пралетарскіх спэцыялістых, што яны сьцісла ўвязваюць сваю працу з усім нашым сацыялістычным будаўніцтвам, што яны яднаюць тэарытычнае і вытворчае навучаньне, што яны выхоўваюць студэнцтва як ініцыятыўных і адданых барацьбітоў за сацыялізм, як барацьбітоў за дыялектыка-матар'ялістычны сьветапогляд.

Аднак было-б недапушчальным зачыняць вочы на той факт, што пры ўсіх сваіх вялізарнейшых дасягненьнях наша вышэйшая школа мае яшчэ ў сваёй працы значныя недахопы,—гэтыя недахопы прыводзяць да таго, што нашы ВНУ часам даюць недастаткова кваліфікаваных спэцыялістых, што іх прадукцыя часамі аказваецца „бракам“.

Выкананьне высунутай т. Сталіным гістарычнай задачы—утварэньня ўласнай вытворча-тэхнічнай інтэлігэнцыі рабочай клясы,—задачы падрыхтоўкі кадраў пралетарскіх спэцыялістых патрабуе самай жорсткай барацьбы з тым „бракам“, які выпускае часамі наша вышэйшая і сярэдняя школа.

Мы павінны дабіцца ў самы кароткі час таго, каб наша школа давала добраякасную прадукцыю, г. зн. узброеныя маркса-ленінскай мэтадалёгіяй, адданыя справе сацыялістычнага будаўніцтва, добра ўладаючыя сваёй спэцыяльнасьцю, маючыя дастакова глыбокія веды кадры інжынэраў, настаўнікаў, дактароў, эканамістых і г. д. Дзеля таго, каб дабіцца гэтага, мы павінны ўзьняць усю працу школы на вышэйшую якасную ступень.

Зразумела, што праца вышэйшай і сярэдняй школы ў значнай ступені залежыць ад становішча школы масавай. У гэтым напрамку мінулы год прынёс вялікі зрух. Мінулы навучальны год прынёс аздараўленьне жыцьця масавай

[1]) Прамова на пасядж. прэзыдыуму ДВС, 16 ліпеня 1932 г.

школы ўсяго Савецкага Саюзу, у тым ліку і школы БССР. Пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай школе зрабіліся адпраўным пунктам перабудовы ўсёй школьнай працы. Мы маем ўжо значныя дасягненьні ў справе ліквідацыі карэннага недахопу школы— недастатковасьці агульна-адукацыйных ведаў; настаўнік робіцца цэнтральнай фігурай пэдпрацэсу; паляпшаецца працоўная дысцыпліна і г. д.

Зразумела, што гэта яшчэ далёка ня ўсё, чаго патрабуе ад нас пастанова ЦК. Ёсьць яшчэ ў нашай школе шэраг недахопаў, напружаная праца па зьнішчэньні якіх патрабуе максымальнай увагі ўсіх органаў народнай асьветы, усёй пралетарскай грамадзкасьці; але дасягненьні мінулага году ўжо забясьпечваюць значнае палепшаньне тых кадраў, якія масавая школа дае сярэдняй і вышэйшай. Адначасова высоўваецца задача такой перабудовы нашых ВНУ і тэхнікумаў, якая ўзьніме іх на вышэйшую якасную ступень.

Першыя крокі па шляху гэтай перабудовы ўжо зроблены.

Дэкрэт Саюзнага СНК ад 7/VII-32 г. устанаўляе: што „у мэтах ператварэньня стыпэндый у сапраўдны рычаг падвышэньня якасьці вучобы"—выдача студэнцкіх стыпэндый і яе памеры залежаць выключна ад якасьці вучобы.

14 ліпеня г. г. СНК БССР зацьверджаны „Правілы ўнутранага распарадку ў ВНУ, ВТНУ і тэхнікумах". Гэтыя правілы значна рацыяналізуюць працу студэнцтва, устанаўляюць падпарадкаваньне грамадзкай працы студэнта выхаваўча-адукацыйным мэтам школы, забясьпечваюць сапраўднае адзінаначальле ў ВНУ і т-мах.

Гэтае палажэньне мае мэтай зьнішчыць тое становішча, аб якім гэтымі днямі гаварыў т. Бубноў: „Нам патрэбна забясьпечыць магчымасьць студэнтам займацца. Я не хачу сказаць, што яны не займаюцца, але іх трэба паставіць у адпаведныя ўмовы, трэба зьнішчыць элемэнты „запорожской сечи", якія дзені-дзе маюцца ў нашых ВНУ, трэба зрабіць так, каб прафэсар і выкладчык стаялі на тым месцы, на якім яны павінны стаяць і па сваім становішчы і па сваіх ведах".

Адначасова СНК БССР зацьвердзіў новае палажэньне аб навуковых працаўніках. Гэтае палажэньне мае мэтай зьнішчыць абязьлічку, якая пачала ў апошнія часы панаваць у нашых ВНУ. Гэтая абязьлічка прыводзіла да сьціраньня межаў паміж навуковымі працаўнікамі рознай кваліфікацыі. Дзякуючы ёй, высокакваліфікаваны прафэсар і пачынаючы працу асыстэнт ставіліся на адно месца ў пэдагагічным працэсе. Новае „палажэньне" канчае з гэткім становішчам. Адначасова яно ўстанаўляе новыя, больш сур'ёзныя ў сэнсе кваліфікацыі і стажу патрабаваньні да пэўных катэгорый навукпрацаўнікоў. Нарэшце, трэба назваць у шэрагу дакумантаў, выдадзеных у апошнія часы з мэтай ўзьняцьця якасьці працы ВНУ,—і „палажэньне аб катэдрах" Дзяржаўнага вучонага савету. Гэтае палажэньне ўстанаўляе, што катэдра зьяўляецца асноўнай вытворча-пэдагагічнай і навукова-дасьледчай адзінкай ВНУ.

У гэтым годзе ўстанаўляюцца павышаныя патрабаваньні агульна-адукацыйных ведаў ад паступаючых у ВНУ. Зьяўляецца ненармальным тое, што часамі кіраўніцтва некаторых ВНУ зьвяртала галоўную ўвагу на фармальнае выкананьне кантрольных лічбаў прыёму, ігнаруючы пытаньне падрыхтаванасьці залічаемых у ВНУ.

Мы павінны дабіцца таго, каб наш новы набор у ВНУ і тэхнікумы знаходзіўся на тым агульна-адукацыйным узроўні, які зробіць магчымай яго пасьпяховую вучобу. Усякія гутаркі аб тым, што суровыя агульна-адукацыйныя патрабаваньні сарвуць кантынгэнты прыёмаў, зьяўляюцца зусім недапушчальнымі. Трэба добра памятаць паказаньне XVII-й партканфэрэнцыі наконт таго, што „колькасны рост тэхнічных кадраў у Савецкім саюзе ні ў якай меры не павінен умаляць пытаньня аб іх навуковай кваліфікацыі, аб абавязковасьці адпаведнага засваеньня імі ўсіх асноўных дасягненьняў сусьветнай навукі і тэхнікі".

„Праўда" у адным з сваіх перадавых артыкулаў нядаўна таксама падкрэсьлівала, што „фарсіраваныя тэмпы падрых-

тоўкі кадраў нельга супроцьстаўляць якасьці іх падрыхтоўкі; ня гледзячы на неабходнасьць хутчэйшага пашырэньня колькасьці, асноўным зьявяном застаецца якасьць".

У барацьбе за якасьць прадукцыі нашых ВНУ асаблівае значэньне набывае пытаньне аб мэтадах выкладаньня. Трэба заўважыць, што гэтае пытаньне да апошняга часу яшчэ не займала належнай ўвагі кіраўніцтва нашых ВНУ, ВНУ яшчэ не павярнуліся, як сьлед, тварам да мэтадычных пытаньняў.

Дыскусія, якая разгарнулася ў апошнія часы адносна мэтадаў выкладаньня, выявіла шэраг значных недахопаў, якія маюцца ў гэтых адносінах. Ужо I сэсія ДВС БССР, якая адбывалася ў пачатку мая г. г., канстатавала шэраг найглыбейшых скажэньняў актыўных мэтадаў выкладаньня, калі „ярлычкамі актыўнасьці „лябараторнасьці", „брыгаднасьці" маскавалася славесна-схалястычная вучоба. Адначасова на сэсіі выявіліся і выпадкі „лявацкіх" перагібаў, прыводзячых да абязьлічкі, да зьніжэньня ролі кіраўніка, да мэтадычнага пражэкцёрства, да мэтадычнага нігілізму.

Аднэй з шкодных праяў мэтадычнага пражэкцёрства зьяўляецца імкненьне адзін з існуючых мэтадаў выкладаньняператварыць ва ўсёаб'емлючы, унівэрсальны, бяз усякага ўліку ўмоў, што маюцца для яго ажыцьцяўленьня. У апошнія часы асабліва моцным было імкненьне ператварыць у такі адзіны і ўсё „спасаючы" мэтад—лябараторна-брыгадны.

Вось некалькі прыкладаў таго, як ажыцьцяўлялася гэтае ператварэньне. Газэта „Гарняк на вучобе" заяўляла: „Усякае супраціўленьне правядзенью лябараторна-брыгаднага мэтаду ў жыцьцё павінна быць расцэнена ня інакш, як супраціўленьне справе лепшай падрыхтоўкі кваліфікаваных інжынэрна-тэхнічных кадраў". ВНУ лічыліся маючымі лепшыя паказчыкі працы тады, калі яны маглі „казырнуць" 100-проц. пераводам усёй сваей работы на брыгадналябараторны мэтад.

Так, напрыклад, у шматтыражцы нашага Хэміка-тэхналёгічнага камбінату „За пралетарскія кадры", № 8, 1932 г. мы чытаем: „З 1 красавіка амаль усе дысцыпліны пераведзены на лябараторна-брыгадны мэтад, які, бязумоўна, дае значны пералом ва ўсёй нашай рабоце". Такое-ж захапленьне лябараторна-брыгадным мэтадам праявілася і ў першапачатковым праэкце мэтадычнага ліста ДВС, які імкнуўся нават ператварыць лябараторна-брыгадны мэтад у „сыстэму".

Усякага, хто выражаў сумненьне ў магчымасьці зрабіць лябараторна-брыгадны мэтад адным і адзіным,—часам ператваралі амаль у праціўніка падрыхтоўкі пралетарскіх кадраў.

Газэта „ЗКП" ад 7-8/VII так характарызавала падобнага роду праявы: „чуточку сомневающихся лиц, брали на „карандаш", как людзей являющихся в лучшем случае агентурой классового врага на методическом фронте, а то и не прикрытыми „методическими" кулаками и нэпманами. При этом, для пущей важности, бригадно-лабороторный метод отождествлялся с методом... материалистической диалектики".

Адным з найбольш шкодных скажэньняў, якое практыкавалася пры ажыцьцяўленьні лябараторна-брыгаднага мэтаду было зьніжэньне ролі навуковага працаўніка, стаўка на „адміраньне" прафэсара—тая-ж самая зьява, што і вядомае „адміраньне" настаўніка, зганьбаванае пастановай ЦК.

Вось прыклады таго, як ажыцьцяўлялася такое адміраньне,—газэта „Сталь" надрукавала ўзорны плян працы ў брыгадзе. У гэтым пляне меўся наступны пункт: „Произвести проверку качества, степени усвоения теоретических дисциплин... (подготовку проводит староста, профуполномоченный с преподавателями") і далей „треугольнику обеспечить препадователями и расписанием занятий на следующий цикл, обсудить предварительно с преподавателями метод преподавания и форму учета усвоения до 27-го марта (ответственен за выполнение—треугольник").

Гэтым самым выкладчык фактычна ператвараўся ў „кансультанта", „экспэрта", але ні ў якім разе не разглядаўся, як кіраўнік пэдпрацэсу.

Гэтыя тэндэнцыі праявіліся таксама ў перадавым артыкуле газэты „За мэд. кадры" Беларускага дзяржаўнага мэд-

інстытуту, ад 6/VI-32 году. Аўтар зусім правільна гаварыў у гэтым артыкуле, што „неабходна падагуліць вопыт мэтадаў прапрацоўкі выкладчыкамі кожнай катэдры, на падставе чаго вызначыць для застаўленьня ў далейшай працы тыя мэтады, якія больш за ўсё забясьпечваюць узорнасьць прапрацоўкі і лепшую усваяемасьць студэнтамі“, але пасьля такой правільнай устаноўкі ён даваў дырэктывы: „зараз-жа прымацаваць да кожнай студэнцкай брыгады пэўнага асыстэнта; старэйшым брыгадзірам, разам з партыйнымі і прафарганізацыямі курсу да 10-га чэрвеня пабудаваць на наступны год брыгады, выходзячы з устаноўленай дэканатам колькасьці студэнтаў для кожнай брыгады“....

Вядома, што ў некаторых выпадках адміраньня прафэсароў вылілася ў сапраўды анэкдатычныя формы. Так ужо паведамлялася ў спэцыяльнай прэсе аб тым, што рабілася ў Самарскім машынабудаўнічым інстытуце. У гэтым ін-це ўся справа ацэнкі студэнцтва была сканцэнтравана ў руках брыгадзіраў, зацьвярджалася трохкутнікам, абгаварвалася навучальна-вытворчымі сэктарамі, грамадзкімі арганізацыямі і г.д. За выкладчыкам-жа заставалася права згаджацца з гэтымі ацэнкамі ці ад іх нават... устрымлівацца, пры гэтым была нават знайдзена цэлая сыстэма „сьветафораў“ якія павінны былі выяўляць думку прафэсора наконт пасьпяховасьці студэнтаў. Напрыклад, адна і тая-ж адзнака „добра“, адзначаная чырвоным, выражае думку і брыгады і пэдагога. Зялёны колер азначае, што пэдагог нязгодны... жоўты колер—выкладчык не сказаў сваёй думкі!...“.

„ЗаКП“ мела поўную рацыю, што пры такой ўстаноўцы прафэсарператвараўся ў ... „трэцяга, лішняга“. Ня дзіўна, што ў выніку такога роду тэорый“ мелі часамі месца эксцэсы, як, напрыклад, той, які нядаўна адбыўся ў камвузе БССР, дзе студэнт Вярбіцкі ў часе кансультацыі па хэміі на заўвагу кансультанта, што трэба пачытаць матар'ял,—адказаў: „Гэта ня ваша справа, вы за кансультацыю атрымоўваеце грошы, дык і кансультуйце“... Трэба адзначыць, што партыйныя арганізацыі і кіраўніцтва Камвузу адразу рэагавалі і рашуча асудзілі гэтыя адносіны да выкладчыка, але такі эксцэс зрабіўся магчымым толькі ў выніку стаўкі на „адміраньне“ выкладчыка.

Шмат скажэньняў мы маем пры ажыцьцяўленьні брыгад. У брыгадзе шырака распаўсюджана хаваньне слабага за сьпіны больш моцных. У брыгадзе часта ня выяўляюцца здольнасьці паасобных студэнтаў, ўсё гэта рашчыняецца ў агульнай „сярэдняй“ ацэнцы, што фактычна вядзе да самай шкоднай і недапушчальнай абязьлічкі. Брыгады часта замыкаюцца ў вузкай ячэйцы, вядучай да нівеліроўкі ведаў і здольнасьцяй.

У нумары ад 10/VII, у артыкуле т. Райтэра „Неотложные вопросы перестройки работы комвузов“—„Правда“ пісала: „Важнейшим рычагом в борьбе за качество работы комвузов, является решительное изгнание обезлички из всей организации учебно-педагогического процесса. В практике применения бригадного метода работы, получившего в Комвузах широкое распространение, дело не редко доходит до того, что работы отдельных членов бригады механически соединяются вместе, выдаются за „коллективную“ работу бригады, при чем докладчиком выставляется какой-нибудь один член бригады, „представительствующий“ от других, докладывающий за них и от их имени. Разумеется, докладчиком выдвигается более сильный, более подготовленный. Кроме того, этот более подготовленный товарищ не только докладывает за других, но обязан еще „помогать“ в бригаде менее подготовленным товарищам. А эта „помощь“ большей частью идет именно в том направлении, что отстающий товарищ, вместо того, чтобы проработать самостоятельно тот или иной вопрос, ограничивается получением „помощи товарищей“.

Гэтыя словы могуць быць цалкам аднесены ня толькі да камвузаў, але і да ўсіх нашых ВНУ. У маёй асабістай практыцы ёсьць выпадак, калі студэнт, працаваўшы ў мяне ў сэмінары, прасіў мяне не гаварыць брыгадзе аб тым, што ён пасьпеў прапрацаваць дадатковы матар'ял, бо тады яго адразу

„прапішуць“ у насьценгазэце, як „індывідуалістага“ і выскачку...

У нашым камвузе, як аб гэтым паведамлялася на канфэрэнцыі сэкцыі навуковых працаўнікоў, некаторыя таварышы нават узьнялі пытаньне аб ліквідацыі так званых „тихих читален“, бо хтоніхто „тихие читальни“ гатоў быў абвясьціць „індывідуалістычным перажыткам“.

У адносінах да мэтаду выкладаньня вельмі распаўсюджана ўпрашчэнства і фармалізм.

Тав. Хаіт у „ЗКП“ нядаўна характарызаваў гэты фармалізм наступным чынам: „студенту приходится аккуратно отсиживать не только „преподовательские“, но и „бригадные“ часы, иначе его сочтут прогульщиком и „подрывателем труддисциплины“. Сплошь и рядом встречаешься с заявлениями, что на бригадных занятиях коллективно решаются задачи, выполняются упражнения и т.д. За то в бригаде ведется точный учет посещаемости по часам и даже минутам. Попробуйте не досидеть до конца бригадного часа, попробуйте пропустить занятия, тут тебе спуску не будет. Важно, чтобы „присутствовал“, давал 100-проц. посещаемость, а остальное само сабой приложится“.

Вось прыклад такога фармалізму, як ён адбіўся ў газэце „За мэд. кадры“ ад 3/VI-32г. Тут зьмешчан артыкул: „На барацьбу з бракам“. Ідэя вельмі добрая. Але які сродак прапануе аўтар для зьнішчэньня браку ў нашых ВНУ—ён піша: „Пры прыёмцы абавязкова высьветліць у трыкутніка брыгады ўдзел кожнага студэнта ў палітычным і грамадзкім жыцьці. На адвароце вучотнай карткі акадэмпасьпяховасьці, складзенай на ўсю студэнцкую брыгаду, якая прыступае да працы, робяцца адзнакі: „здаў брыгаду“ (подпіс) „прыняў брыгаду (подпіс)“.—Ці патрэбны лепшыя прыклады бюракратычнай творчасьці замест сур'ёзнага мэтадычнага кіраўніцтва?..

У сувязі з вышэйпаказаным, трэба сказаць некалькі слоў адносна выпушчанага нядаўна ДВС ліст аб лябараторна-брыгадным мэтадзе ў ВНУ і тэхнікумах. Гэты ліст дае шэраг правільных установак. Сюды адносяцца паказаньні аб тым, што „трэба рашуча адмовіцца ад апартуністычнага скажэньня брыгаднай формы працы, скажэньня, якое ўнесла поўную абязьлічку ў працу студэнтаў і навуковых працаўнікоў, поўную адмену ўліку пасьпяховасьці і вынікаў працы паасобных студэнтаў, што рэзка зьнізіла якасьць навучальнай работы, а ў паасобных выпадках давяло колькасьць і якасьць засвоеных студэнтамі ведаў амаль што да нуля“. Ліст правільна ўказаў, што „сыстэма навучаньня павінна перш за ўсё забясьпечыць актыўны ўдзел у арганізацыі пэдагагічнага працэсу з боку выкладчыка, як галоўнага арганізатара і кіраўніка пэдагагічнага працэсу, які нясе поную адказнасьць за пасьпяховасьць гэтага працэсу. Разам з тым гэтая сыстэма павінна забясьпечыць актыўнасьць, як у арганізацыі пэдагагічнага працэсу, так і ў яго правядзеньні з боку студэнцтва.—Ён гаворыць аб тым, што „брыгадныя заняткі павінны весьціся выключна на падставе папярэдняй індывідуальнай працы членаў брыгады“. Ліст таксама неаднаразова ўказвае, што для правядзеньня лябараторнага мэтаду, неабходны пэўныя і сур'ёныя ўмовы, бяз якіх гэты мэтад дасьць зусім адмоўныя вынікі.

Але, адначасова, мы сустракаем у лісьце і некаторыя памылковыя месцы. Сюды адносіцца, напр., катэгарычнае сьцьвярджэньне, што „лябараторна-брыгадны мэтад сапраўды, а не фармальна актывізуе работу навуковага працаўніка і разам забясьпечвае найбольшую актыўнасьць і самастойнасьць студэнтаў у працэсе набыцьця ведаў“.—Таксама памылкова ўказана, што „ўступная гутарка навуковага працаўніка павінна мець сваёй мэтаю вызначэньне асноўных установак, галоўным чынам, мэтадалёгічнага і мэтадычнага зьместу, якія неабходны для прапрацоўкі заданьня“.—Між тым, уступная гутарка павінна ня толькі даваць асноўныя мэтадычныя і мэтадалёгічныя паказаньні, але і раскрываць у пэўнай ступені самы зьмест. Таксама недапушчальным зьяўляецца наступнае месца ліста: „Актыўны ўдзел студэнтаў у заключнай канфэрэнцыі можа прыняць форму справаздачы брыгад, якія высоўваюць дакладчыкаў (лепш—па ўзгадненьні з навуковым працаўніком) і адказу

на кантрольныя пытаньні выкладчыка, якія павінны ахапляць асноўныя моманты прапрацаванага заданьня“.

Які вынік можна зрабіць з усяго сказанага вышэй:—ніводзін з мэтадаў выкладаньня ня можа быць ператвораны ва ўнівэрсальны і ўсеахапляючы, найлепшы мэтад той,—які дае, пры дадзеных умовах, найлепшую эфэктыўнасьць у сэнсе засваеньня ведаў, які больш даступны і карысны для пралетарскага студэнцтва нашых ВНУ, і адначасова найбольш адпавядае зьместу працы нашых ВНУ; па-другое—неабходна больш рашуча ўкараніць у жыцьцё ВНУ—лекцыі. Трэба рашуча парваць з агульным асуджэньнем і адмаўленьнем лекцыі, як такой формы выкладаньня, якая быццам супярэчыць устаноўкам і ўмовам савецкіх ВНУ.

Належным чынам арганізаваная і праведзеная лекцыя, зьвязаная з іншымі мэтадамі,—можа прынесьці і прынясе вялікую карысьць нашаму студэнцтву.

Далей,—лябараторны мэтад намі не абвяшчаецца „па сваёй прыродзе варожым“, клясава-чужым і гэтак далей. Трэба лябараторны мэтад паставіць на сваё месца, зрабіць яго адным з многіх мэтадаў, якія ўжываюцца ў нашай школе. Калі на гэты мэтад будзе падаць, скажам, 25-30 проц. навучальнага часу, калі будзе ў дастатковай ступені завострана ўвага супроць тых яго скажэньняў, аб якіх мы гаварылі,—ён зможа прынесьці пэўную карысьць. Бязумоўна, пры гэтым трэба адмовіцца ад стаўкі на брыгаду, як на асноўную вытворчую адзінку. Брыгада павінна быць пабудавана на прынцыпах строгай добраахвотнасьці студэнтаў. Калі студэнт можа дабіцца пасьпяховых вынікаў шляхам індывідуальнай працы,—было-б грубапамылковым перашкаджаць яму ў гэтым.

Апошняе—наконт уліку пасьпяховасьці. Трэба дабіцца строга індывідуальнага ўліку пасьпяховасьці, з тым, каб гэты ўлік утвараўся выключна пад адказнасьцю выкладчыка. Утвараўся-б на падставе вывучэньня выкладчыкам студэнтаў на працягу ўсяго курсу, так і быў вынікам падвядзеньня іх пасьпяховасьці, шляхам канчатковай праверкі пасьля сканчэньня курсу.

Гэтыя асноўныя мерапрыемствы, якія, як нам здаецца, мы павінны ў першую чаргу ажыцьцёвіць дзеля таго, каб дабіцца сур‘ёзнага палепшаньня якасьці працы нашых ВНУ. Ажыцьцяўляючы гэтыя выключна складаныя і сур‘ёзныя задачы, мы ні на хвіліну не павінны забываць таго, што наша вышэйшая школа застаецца, як і раней, адным з важнейшых вучасткаў клясавае барацьбы. Ня толькі пытаньні мэтадалёгіі, але і пытаньні мётодыкі вырашаюцца ў абставінах гэтай барацьбы,—вось чаму мы павінны ўздымаць якасьць працы нашых навучальных устаноў, рашуча змагаючыся на два франты. Мы павінны даць рашучы адпор усім тым, хто будзе імкнуцца сучасны паварот нашай школы скарыстаць дзеля таго, каб зьвярнуцца да старога, дарэвалюцыйнага ўнівэрсытэту, з яго затхлым акадэмізмам, з яго экзамэнацыйнай тропкай нэрваў. Мы павінны памятаць, што наша мэтодыка—гэта мэтодыка клясавая, што ўсялякія разважаньні аб „пазаклясавай“ не мэтадалёгічнай мэтодыцы зьяўляюцца шкоднымі і варожымі.

Адначасова мы павінны накіраваць агонь супроць „левых“ пражэкцёраў, якія не разумеюць усёй сур‘ёзнасьці таго павароту ў барацьбе за якасьць, які робіць цяпер наша вышэйшая і сярэдняя школа супроць усіх тых, хто імкнецца працягваць старую лінію „лявацкага“ пражэкцёрства, „лявацкіх“ загібаў і ўпрашчэнства.

У нас ёсьць усё магчымае і патрэбнае, каб пабудаваць працу вышэйшай і сярэдняй школы Савецкай Беларусі так, каб рыхтаваць кадры, адданыя справе сацыялістычнага будаўніцтва і ўладаючыя дастаткова навуковымі ведамі.

Навакол лепшага вырашэньня, пад кіраўніцтвам партыі гэтай задачы, павінна быць шырака мабілізавана думка навуковай грамадзкасьці БССР, думка шырокіх мас пралетарскага студэнцтва, думка ўсёй нашай савецкай грамадзкасьці.

М. Лазарэнка

# Узмацнім барацьбу за якасьць кадраў для сацыялістычнай сельскай гаспадаркі

Вялізарнейшыя посьпехі на фронце барацьбы за выкананьне пяцігодкі ў 4 гады забясьпечылі завяршэньне пабудовы фундаманту сацыялістычнай эканомікі ў СССР. Пытаньне „хто каго“ у нашай краіне вырашана беспаваротна ў карысьць сацыялізму. У сельскай гаспадарцы маецца карэнны пералом, які выразіўся ў канчатковым павароце да сацыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. „Савецкі саюз з краіны дробнага і драбнейшага земляробства перабудаваўся ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на аснове калектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага ўжываньня машыннай тэхнікі. Гэтая перамога сацыялізму, вырашаючая самую галоўную і самую цяжкую задачу пралетарскай рэвалюцыі, мае сусьветнае гістарычнае значэньне“. (З рэзалюцыі XVII партканфэрэнцыі).

На падставе дасягнутых посьпехаў партыя і рабочая кляса пастанавілі: „асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, параджаючых клясавыя адрозьненьні і эксплёатацыю, і перадоленьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва“. (З рэзалюцыі XVII партканфэрэнцыі).

Дырэктывы партыі патрабуюць ў другой пяцігодцы, у галіне сельскай гаспадаркі, ажыцьцёвіць завяршэньне сацрэканструкцыі з тым, каб машынна-трактарныя станцыі ахапілі ўсе калгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Саўгасы павінны ўзмацніць сваю ролю ўзораў сацыялістычнай арганізацыі вытворчасьці і ўжываньня ў сельскай гаспадарцы высокай машыннай тэхнікі і ўсіх дасягненьняў сучаснай агранаміі і заатэхнікі.

Гэта асабліва востра ставіць пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў сацыялістычнага земляробства, бо „наша краіна ўступіла ў такую фазу разьвіцьця, калі рабочая кляса павінна стварыць сваю ўласную вытворча-тэхнічную інтэлігенцыю, здольную забараняць яе інтарэсы ў вытворчасьці, як інтарэсы пануючай клясы“ (Сталін). Праблема кадраў набывае рашаючае значэньне для пераможна сацыялістычнага наступленьня.

Капіталістычны сьвет перажывае нябачаны ў гісторыі крызіс, які ахапіў усе галіны вытворчасьці (за выключэньнем ваеннай). Зачыняюцца прадпрыемствы. Скарачаецца дзейнасьць навуковых інстытутаў і ВНУ. Скарачаецца кантынгэнт студэнтаў і вучняў. Рабочаму і бедняку селяніну зусім зачынены дзьверы у вышэйшую школу.

Адначасна з гэтым у Савецкім саюзе адбываецца бурны рост навукова-дасьледчых інстытутаў, ВНУ, тэхнікумаў, разгорнута ў шырокіх памерах навуковая праца, растуць з нябывалай шпаркасьцю кантынгэнты студэнцтва з рабоча-калгаснай моладзі. У галіне стварэньня кадраў для сацыялістычнага земляробства маюцца значныя дасягненьні. Гэта пацьвярджаецца наступнымі лічбовымі дадзенымі:

**Колькасьць навучаючыхся па СССР**

| Гады | У с/г ВНУ | У с/г тэхнікумах | На рабфаках сыстэмы НКЗ СССР |
|---|---|---|---|
| 1929-30 . . . . . | 29550 | 68000 | 6000 |
| 1930-31 . . . . . | 49550 | 112000 | 28000 |
| 1931-32 . . . . . | 82000 | 197000 | 44000 |

Гэтаму адпавядае і значнае пашырэньне сеткі с-г. навучальных устаноў:

| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|---|
| С-г. ВНУ . . . . . | 40 | 76 | 98 | 143 |
| С-г. тэхнікумы . . . | 135 | 446 | 794 | 1000 |
| С-г. рабфакі . . . | 30 | 46 | 200 | 300 |
| Саўгасвучы . . . . | — | 18 | 186 | 500 |

Адначасова з колькасным пашырэньнем сеткі с/г навучальных устаноў зьмяніўся і якасны сацыяльны склад студэнцтва. Калі царская школа была для сынкоў памешчыкаў, дваран, дзяцей кулакоў, то наша савецкая школа ў асноўным складаецца з дзяцей рабочых і калгаснага сялянства.

Праведзена ў асноўным рэарганізацыя с-г. асьветы па спэцыяльных галінах. Шматфакультэтныя с/г ВНУ падзяліліся на спэцыялізаваныя галінавыя інстытуты і ВТНУ, шырока ахапляючыя раёны, аўтаномныя вобласьці і нацрэспублікі. З паявлічэньнем агульнай колькасьці вучняў паявілічыўся і ахоп падрыхтоўкай кадраў для сельскай гаспадаркі з карэнных нацыянальнасьцяй. Існуючая сетка с-г. навучальных устаноў вельмі характэрна адбівае Ленінскую нацыянальную палітыку—барацьбу за кадры з карэннага насельніцтва данай рэспублікі ці вобласьці. За апошнія гады гэта сетка прадстаўлена па рэспубліках у наступным выглядзе:

| ГАДЫ | | РСФСР | УССР | БССР | ЗСФСР | Сяр. Азія |
|---|---|---|---|---|---|---|
| С-г ВНУ | 1930 | 50 | 26 | 2 | 5 | 2 |
| | 1931 | 55 | 26 | 6 | 8 | 6 |
| С-г тэхнікумы . | 1931 | 271 | 256 | 11 | 47 | 23 |
| | 1932 | 369 | 256 | 32 | 90 | 31 |

Рост студэнтаў с/г ВНУ і тэхнікумаў БССР характарызуецца наступнымі лічбамі:

| ГАДЫ | ВНУ | Тэхнікумы |
|---|---|---|
| 1931 . . . . . . . . . . . | 1085 | 2175 |
| 1932 . . . . . . . . . . . | 1833 | 3348 |

У 1932-33 нав. годзе ў БССР уноў адчыняецца с-г ВНУ—1, с-г тэхнікумаў-4 і шэраг школ саўгасвучу.

Акрамя с-г ВНУ, тэхнікумаў і саўгасвучаў падрыхтоўка с-г. кадраў праходзіць па другіх крыніцах: курсавая сыстэма, навучаньне без адрыву ад вытворчасьці, завочнае навучаньне, у цэнтральнай калгаснай школе і г. д. Прыступлена да рэарганізацыі вячэрняй асьветы дарослых—перадачы школ рабочых саўгасаў і калгасьнікаў НКЗ і Калгасцэнтру; гэтыя школы будуць рыхтаваць брыгадзіраў, кваліфікаваных рабочых адпаведнай галіны с-г., рулявых-трактарыстых і г. д.

Калі пытаньне аб падрыхтоўцы неабходных нам кадраў для сацземляробства востра стаіць ува ўсім СССР, то ў Беларусі гэта пытаньне набывае асаблівую вастрату. Пры царызьме Беларусь зусім ня мела прафтэхнічных навучальных устаноў, якія рыхтуюць кадры, а таму мы вымушаны былі пачынаць гэтую справу, арганізоўваць прафтэхнічныя навучальныя ўстановы, ня маючы таго вопыту, які быў у другіх саюзных рэспубліках. У галіне падрыхтоўкі кадраў для народнай гаспадаркі наогул і для сацыялістычнай сельскай гаспадаркі ў прыватнасьці БССР мае вялізарныя посьпехі.

Зусім зразумела, што такіх вялізарных вынікаў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва працоўныя масы савецкай Беларусі дасягнулі выключна дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі і правільнаму правядзеньню ленінскай нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыяй, ставячай сабе задачу усямерна дапамагаць і падцягваць работу па гаспадарчым і культурным будаўніцтве адсталых нацыянальнасьцяй.

Побач з гэтым зроблена карэнная зьмена ў самым навучальна пэдагагічным працэсе. Старая схаластычная сыстэма выкладаньня заменена больш шырокай, актыўнай прапрацоўкай вучэбнага матар'ялу самімі студэнтамі на аснове шырокага ўжываньня мэтадаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва. У даны момант шырока разгорнута работа па адшуканьні новых мэтадаў выкладаньня; узьнята барацьба з „левым пражэкцёрствам“, супроць антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“ і ролі выкладчыка.

Барацьба за новыя мэтады падрыхтоўкі кадраў спэцыялістых, за ўвязку тэорыі з практыкай мае за апошні час станоўчыя вынікі. Ва ўсіх с-г ВНУ і тэхнікумах уведзена нясупынная вытворчая практыка; студэнты прымаюць удзел у галоўнейшых гаспадарча-палітычных кампаніях: вясеньняй пасяўной, уборачнай і г. д. Для асобных спэцыяльнасьцяй уведзена і зімовая вытворчая практыка.

Працуючы на вытворчасьці, значная частка студэнцтва пераносіць практычны вопыт у навукова-дасьледчую лябараторыю, дзе праверае яго, аўладаючы складанай тэхнікай перадавой сацыялістычнай мэханізаванай сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Кадры новага пралетарскага студэнцтва ў большасьці вядуць барацьбу за аўладаньне тэхнікай, за павышэньне якасьці падрыхтоўкі.

Змагаючыся на два франты супроць правага ухілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, і „левага“ апартунізму, а таксама розных вілаў прымірэнцтва да іх, партыя штодзённа дабіваецца ўсё новых і новых посьпехаў па ўсіх фронтах вялікай будоўлі у тым ліку і на фронце падрыхтоўкі кадраў. Партыя разьбіла шкодныя буржуазныя і псэўдамарксыцкія тэорыі, меўшыя ў мінулым досыць шырокае распаўсюджваньне ў нашых сельска-гаспадарчых вузах (чаянаўшчына, кандрацьеўшчына, суханаўшчына, прышчэпаўшчына, рубіншчына і г. д.). Зараз мы маем паварот большай часьці прафэсарска-выкладчыцкага складу ў бок актыўнай работы па стварэньні кадраў для сацыялістычнага земляробства.

Вынікі 1931-32 навучальнага году па шэрагу с-г. вузаў і тэхнікумаў паказываюць шмат дасягненьняў, ідучых па лініі канкрэтызацыі кіраўніцтва, барацьбы з унівэрсалізмам, паляпшэньня пастаноўкі выкладаньня спэцыяльных дысцыплін. Значна палепшылася матар'яльна-бытавое абслугоўваньне студэнцтва. У асноўным распрацаваны профілі спэцыялістых, канкрэтызаваны вучэбна-вытворчыя пляны і праграмы, прыступлена да распрацоўкі прыватных мэтодык і г. д.

Па колькасных паказчыках у галіне падрыхтоўкі кадраў для сацземляробства, мы дабіліся вялікіх посьпехаў. Але ў той жа час вынікі паказваюць, што побач з дасягненьнямі мы маем і буйнейшыя недахопы, у галіне якасьці. Калі маладыя спэцыялісты, выпускаемыя нашымі ВНУ і тэхнікумамі у большасьці ўладаюць шырокім палітычным кругазорам і зьяўляюцца арганізатарамі вытворчай актыўнасьці мас, то патрэбна прызнацца, што гэтыя маладыя спэцыялісты часта аказваюцца зусім недастаткова падрыхтаванымі да самастойнага і хуткага разьвязаньня задач, якія высоўваюцца сучаснай навукай і тэхнікай.

Маладыя спэцыялісты, дзякуючы нездавальняючай пастаноўцы работы многіх вузаў і тэхнікумаў, становячыся тварам да вытворчага працэсу, часта аказваюцца ў бездапаможным стане. Гэта няэьбежна адбіваецца на тэмпах вытворчасьці, на якасьці прадукцыі. Усё гэта гаворыць аб тым, што многія навучальныя ўстановы не перабудавалі сваей работы ў адпаведнасьці з паказаньнямі т. Сталіна аб аўладаньні тэхнікай і яго 6 умовамі. Патрэбна дадаць, што некаторыя ВНУ і тэхнікумы да гэтага часу ня маюць яскравых профіляў тых спэцыялістых, якіх яны павінны рыхтаваць. З гэтым недахопам не вядуць належнай барацьбы трэсты і гаспадарчыя аб'яднаньні, якія рыхтуюць кадры.

Справа ўскладняецца і тым, што наша масавая сярэдняя школа яшчэ не ліквідавала свайго „карэннага недахопу“ і дае ВНУ і тэхнікумам недастаткова пісьменныя і ўладаючыя асновамі навук кантынгенты.

Гэта прыводзіць да таго, што значная частка вучэбнага часу ў спэцыяльнай с-г школе траціцца на засваеньне праграмы сямігодкі, рабфаку, што ня можа ня зьніжаць якасьці спэцыяльнай асьветы, ня зьніжаць узроўню падрыхтоўкі новых спэцыялістых для сацыялістычнай с-гаспадаркі.

Такім чынам, хутчэйшая ліквідацыя „карэннага недахопу“ у масавай школе зьяўляецца папярэдняй і абавязковай умовай павышэньня якасьці работы усей сеткі прафтэхнічнай асьветы.

Верасьнёўскія пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе сканцэнтравалі ўвагу на барацьбе за ўзьняцьце якасьці работы школы, узьнялі актыўнасьць асноўных мас насельніцтва, узмацнілі ўвагу партарганізацый да гэтага важнейшага вучастку культурнай рэвалюцыі, далі стымул для прыкладнай работы настаўнікаў і г. д. Як вынік цэлы рад школ закончылі 1931-32 нав. год з яскрава паказальнымі посьпехамі. Аднак бюро ЦК КП(б)Б у сваей пастанове ад 30 ліпеня 1932 году канстатуе, што зруха ў параўнаньні з тымі вялікімі

задачамі, якія прад'яўляюцца школе сучасным этапам сацыялістычнага будаўніцтва, зусім незначныя, што тэмпы рэалізацыі пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б застаюцца нездавальняючымі і належнага павароту ў рабоце школ яшчэ няма. Карэнным недахопам школ па-ранейшаму застаецца нявыстарчальны аб'ём агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняючае вырашэньне задачы падрыхтоўкі для тэхнікумаў і ВНУ зусім пісьменных людзей, якія-б добра ўладалі „асновамі навук".

Нездавальняючая якасьць прадукцыі нашых прафтэхнічных навучальных устаноў стала аднэй з сур'ёзьнейшых і пакуль неадхіленых перашкод у барацьбе за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну і пагражае затармазіць выкананьне дырэктыў партыі па другой пяцігодцы, асноўнай і рашаючай задачай якой „зьяўляецца завяршэньне рэканструкцыі ўсей народнай гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі".

Улічыўшы вынікі мінулага навучальнага году, інтэнсыўна разгортваючы бальшавіцкую сустрэчу новага, мы павінны працягваць пашыраць кантынгенты вучняў, з усей рашучасьцю і вастратой паставіць задачу павышэньня якасьці вучобы, якасьці падрыхтоўкі майстра, інжынэра, агранома. Гэта адна з асноўных задач наступаючага 1932-33 навучальнага году ў с-г ВНУ, тэхнікумах і саўгасвучах. Кожнаму вузу, тэхнікуму і саўгасвучу неабходна даць яскрава акрэсьлены профіль. Неабходна яскрава сказаць, якога спэцыялістага, для якой галіны сацыялістычнай сельскай гаспадаркі дадзеная навучальная ўстанова рыхтуе.

Спэцыялізаваныя с-г вузы і тэхнікумы, перададзеныя непасрэдна гаспадарчым аб'яднаньням, яшчэ ў многім церпяць ад неканкрэтнага кіраўніцтва з боку сэктароў кадраў. Гэта адбіваецца ў першую чаргу на распрацоўцы профіляў спэцыялістых. Ня гледзячы на дырэктывы партыі і ўраду аб галінавай падрыхтоўцы, многія гаспадарчыя аб'яднаньні, дырэктары трэстаў і саўгасаў не сказалі свайго канчатковага слова, якога-ж профілю спэцыялістага патрабуе даная вытворчасьць. У гэтых адносінах асабліва яскрава вызначаецца Белнасентрэст, які і да гэтага часу ня ведае акрэсьленага профілю спэцыялістага, дзякуючы чаму застаюцца не распрацаванымі нав. пляны і праграмы па спэцыяльных прадметах падпарадкаваных Насентрэсту тэхнікумаў.

Такое становішча тлумачыцца тым, што работнікі сэктару кадраў зачастую ня ведаюць дасканала сваей вытворчасьці, слаба арыентаваны ў яе запатрабаваньнях да спэцыялістага, што ў практычнай рабоце пры распрацоўцы профілю прыводзіць альбо да непатрэбнага унівэрсалізму альбо да празьмернай спэцыялізацыі. Другой ня менш важнай прычынай зьяўляецца тое, што працаўнікі с-г. навучальных устаноў, галоўным чынам навуковыя працаўнікі-прафэсары, дацэнты, асыстэнты, а таксама і сэкцыя навуковых працаўнікоў, недастаткова прымаюць удзел у распрацоўцы гэтага важнага пытаньня.

У пытаньні якасьці спэцыялістага асабліва важнае месца займае пастаноўка вучэбна-мэтадычнай працы. Тут у першую чаргу патрэбна заняцца падборам і замацаваньнем кадраў, здольных паставіць вучэбна-мэтадычнае кіраўніцтва такім чынам, каб яно ўвесь вучэбны працэс падрыхтоўкі кадраў падпарадкавала задачам, якія пастаўлены партыяй і ўрадам. Адміністрацыя ВНУ і тэхнікумаў павінна аказваць сыстэматычную і канкрэтную дапамогу ў рабоце катэдр, габінэтаў, лябараторый, павысіць іх удзельную вагу ў барацьбе за якасьць вучобы. У штодзённай рабоце многіх катэдр далёка ня ўсё добра. Вельмі часта адсутнічае моцнае кіраўніцтва, кантроль, не вядзецца сур'ёзная навукова-дасьледчая работа, пануе самацёк і абязьлічка, дзякуючы чаму катэдры, лябараторыі і габінэты ня выконваюць ускладзеных на іх задач. За якасьць падрыхтоўкі студэнтаў у першую чаргу павінен адказваць прафэсар-выкладчык. З „адміраньнем" выкладчыка трэба раз назаўсёды пакончыць. У многіх ВНУ і тэхнікумах нехапае прафэсараў выкладчыкаў. Прыкладам можа служыць Трудаўскі птушкаводны тэхнікум, які на працягу году

ня меў ніводнага спэцыяліста-агранома-выкладчыка. За адсутнасьцю спэцыялістых—выкладчыкаў дырэктыва партыі і ўраду аб пэдагагізацыі ВНУ і тэхнікумаў засталася нявыкананай. Адведзеныя па навучальных плянах гадзіны на асновы марксыцка-ленінскай пэдагогікі амаль усе с-г. ВНУ і тэхнікумы скарысталі на іншыя дысцыпліны. Гісторыя марксыцкай тэхнікі ВНУ не прапрацавана. Патрэбна перш за ўсё правільна расставіць і замацаваць маючыяся ў нас лепшыя пэдагагічныя кадры. Патрэбна павысіць матар'яльнае і становішча прафэсароў і выкладчыкаў. Патрэбна перагледзець сыстэму пэнсіі, ліквідаваўшы тут ураўнілаўку.

Абязьлічка і ўраўнілаўка з найбольшай сілай выявіліся ў адсутнасьці кіруючай ролі ў большасьці прафэсарска-выкладчыцкага складу, у адсутнасьці ў апошніх належнай адказнасьці за засваеньне аб'ёму навук вучнямі. Назіраюцца выпадкі, калі самі прафэсары і выкладчыкі ў пагоні за заробкам, перагружаныя саўмяшчэньнем, актыўна садзейнічаюць такой абязьлічанай і безадказнай арганізацыі вучобы, якая не патрабуе вялікіх затрат часу, на падрыхтоўку курса, на прапрацоўку паасобных яго частак і г.д.

Сучасная пастаноўка вучоту працы ў ВНУ і тэхнікумах ня вытрымлівае крытыкі.

Нам патрэбен такі вучот працы, які-б стымуляваў палепшаньне падрыхтоўкі студэнта. Гэтага магчыма дасягнуць перш за ўсё павышэньнем у вучэбна-пэдагагічным працэсе ролі выкладчыка і яго адказнасьці за падрыхтоўку кожнага студэнта. Неабходна весьці сыстэматычную індывідуальную праверку ведаў кожнага студэнта непасрэдна выкладчыкам.

Адсутнасьць добра абсталяваных лябораторый, недастатковасьць належных дапаможнікаў, літаратуры, моцна адбіваецца на якасьці вучобы. Тут навучальныя ўстановы павінны праявіць максымальную гнуткасьць—з аднаго боку, для ашчаднага рацыянальнага скарыстаньня таго, што ёсьць, з другога боку—патрэбна набыць новае. У нас ёсьць магчымасьці стварыць гэта новае, мы толькі часта ня ўмеем гэтыя магчымасьці скарыстаць. Работа бібліятэк пастаўлена нездавальняюча. Кнігі, якія маюцца у бібліятэках, скарыстоўваюцца няўмела. Папаўненьне бібліятэк ідзе марудна. Гэта тлумачыцца недахопам бібліятэчных кадраў, нізкай іх кваліфікацыяй і бягучасьцю. Усё гэта таксама робіць уплыў на якасьць падрыхтоўкі кадраў.

У с-г ВНУ і тэхнікумах вельмі слаба скарыстоўваецца замежная кніжка. Аўладаньне перадавой замежнай тэхнікай патрабуе ўменьня чытаць замежную літаратуру па адпаведнай галіне спэцыяльнасьці.

Навучальныя ўстановы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на паляпшэньне пастаноўкі вывучэньня замежнай мовы.

Становішча грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах, да абгаварэньня ліста т. Сталіна, было зусім не на належнай вышыні. Спачатку навучальнага году ня былі забясьпечаны дастатковыя бальшавіцкія тэмпы ў рабоце катэдр, ня былі сваячасова абгавораны праграмы грамадазнаўчых дысцыплін, студэнцкія масы у абгаварэньні праграм у большасьці ня прымалі ніякага ўдзелу. Праграмныя матар'ялы, якія былі ў карыстаньні навучальных установаў да абгаварэньня ліста т. Сталіна, аказаліся няпрыгоднымі і былі забаронены, а новыя, адпавядаючыя ідэалёгічным запатрабаваньням, яшчэ ня былі распрацаваны. Гэта паставіла выкладаньне грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах у поўную залежнасьць ад навуковай кваліфікацыі і ідэалёгічнай вытрыманасьці навуковых працаўнікоў. Пры такім становішчы мы ня мелі сыстэмы значных ідэалёгічных скажэньняў у справе выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін, а мелі толькі шэраг паасобных буйнейшых памылак, то гэта таму,—што ў большасьці, як правіла, яны забясьпечаны выкладчыкамі—камуністымі, ці палітычна-ідэалёгічна блізкімі да нас асобнымі таварышамі беспартыйнымі. У сучасны момант катэдры грамадазнаўчых дысцыплін ня робяць мэтадалёгічнага ўплыву на катэдры дакладных навук. Выкладчыкі-грамадаведы (асабліва для матарыялізму) павінны, апрача добрага веданьня свайго прадмету, добра аўладаць асноўным прадметам спэцыяльных

дысцыплін таго ВНУ, дзе яны выкладаюць. Напрыклад, выкладчык дыямоту на аддзяленьні культуры лёну павінен ведаць культуру лёну і г. д. Толькі пры гэтых умовах ён зможа аказаць мэтадалёгічны уплыў на спэцыяльныя навукі сваёй ВНУ. Гэтую зусім правільную думку патрэбна ажыцьцёвіць, каб пытаньне аб мэтадалёгічным уплыве грамадазнаўчых навук на спэцыяльныя паставіць на належныя рэйкі.

Асабліва востра стаіць пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў без адрыву ад вытворчасьці і на самой вытворчасьці. Пытаньне падрыхтоўкі кадраў на самой вытворчасьці зьяўляецца адным з рашаючых у выкананьні дырэктыў партыі аб кадрах. „Вытворча-тэхнічная інтэлігенцыя будзе фармавацца ня толькі з людзей прайшоўшых вышэйшую школу, яна будзе рэканструявацца таксама, з практычных работнікаў нашых прадпрыемстваў, з кваліфікаваных рабочых, з культурных сіл рабочае клясы, на заводзе, на фабрыцы, у шахце“ (Сталін). Гэта паказаньне т. Сталіна ў поўнай меры аднос цца і да сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасьці. Рабочаму, калгасьніку, кіруючаму складу саўгасаў, калгасаў, МТС павінна быць забясьпечана поўная магчымасьць пастаяннага, нясупыннага вытворча-тэхнічнага і тэарэтычнага росту, шляхам злучэньня тэарэтычнай вучобы з практычнай работай, з самой вытворчасьцю.

Пры поўнай мабілізацыі сіл партыі і рабочае клясы будуць забясьпечаны неабходныя бальшавіцкія тэмпы і высокая якасьць падрыхтоўкі кадраў з рабочых і калгасьнікаў для сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

А. Гуцэвіч

## Вышэйшы пэдагагічны інстытут—у дапамозе масавай школе

Пастановамі ЦК ЎсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе перад пэдагагічнымі ВНУ ставяцца важнейшыя задачы—канкрэтнай дапамогі масаваму настаўніцтву ў яго барацьбе за ўзьняцьце якасьці працы, за зьнішчэньне карэннага недахопу школы, за аўладаньне марксыцка-ленінскай тэорыяй пэдагогікі, пэдалёгіі, за аўладаньне тэхнікай і мэтодыкай пэдагагічнага працэсу ў школе.

У сваёй пастанове ЦК КП(б)Б ад 21/12-1931 году па дакладу ВПІ адзначыў як адзін з буйнейшых недахопаў у працы інстытуту наступнае: „адарванасьць пэдінстытуту ад работы сярэдняй і масавай школы, выкладчыцкі, а таксама і студэнцкі склад не ўцягнуты у распрацоўку актуальных пэдагагічных проблем, якія пастаўлены ЦК Ўсе КП(б) і КП (б)Б аб перабудове масавай школы. Інстытут ня стаў яшчэ асяродкам марксыцкай пэдагогікі на Беларусі“.

Для вырашэньня пастаўленых задач партыяй і зьнішчэньне недахопаў у працы інстытутам было пастаўлена ва ўвесь рост пытаньне перад катэдрамі, навуковымі працаўнікамі і студэнцтвам аб дапамозе масаваму настаўніцтву па перабудове школ у адпаведнасьці з гістарычнымі рашэньнямі партыі. Дзеля гэтай мэты была арганізавана спэцыяльная камісія па сувязі з масавай і сярэдняй школай і па правядзеньні пэдолёга-пэдагагічнай прапаганды, сярод шырокіх мас рабочых, калгасьнікаў і настаўніцтва. Асноўнымі галінамі, па якіх разгортвалася работа, былі наступныя:

а) Дапамога ДВС НКА ў распрацоўцы праграм і навучальных плянаў для сярэдняй і масавай школы.

б) Праз пэдгабінэт, настаўніцкія канфэрэнцыі, курсы і рознага роду пэднарады дапамога асьветнікам, як гораду Менску, так і раёнам БССР у вырашэньні цэлага раду, як тэарэтычных, так і практычных пытаньняў.

в) Папулярызацыя сярод шырокіх мас рабочых і калгасьнікаў пастаноў партыі аб школе.

г) Праца сярод бацькоў па пытаньнях камуністычнага выхаваньня .

д) У адпаведнасьці з гэтым, перабудова ўсей працы ВПІ, асабліва катэдр пэдагогікі і пэдалёгіі, якія ва ўмовах пэдінстытуту павінны быць вядучымі у гэтай справе.

У бягучым навучальным годзе, з моманту апублікаваньня рашэньня ЦК аб школе, інстытутам зроблены значныя зрухі ў бок набліжэньня яго да працы масавай і сярэдняй школы, па зьнішчэньні разрыву паміж працай інстытуту і ніжэйшымі зьвеньнямі навучальных устаноў і навукова-дасьледчым інстытутам камвыхаваньня, па зьнішчэньні разрыву паміж тэорыяй і практыкай.

Як галоўны момант праробленай канкрэтнай працы, можна адзначыць наступнае:

1) У распрацоўцы праграм і навучальных плянаў пры ДВС прымалі ўдзел 13 навуковых працаўнікоў. Катэдрамі пэдагогікі, літаратуры, грамадзкіх навук і пэдалёгіі былі распрацаваны перагледжаны і рэцэнзаваны праграмы для тэхнікумаў і іншых навучальных устаноў. Катэдра пэдагогікі разам з НДІ камвыхаваньня распрацавала пытаньні мэтадаў працы па новых праграмах і вытворчым навучаньні для масавай школы.

2) На працягу бягучага навучальнага году 16 навуковых працаўнікоў ВПІ прымалі самы актыўны ўдзел у працы пэдгабінэту гор. Менску, па дапамозе масаваму настаўніцтву ў складаньні заданьняў плянаваньні школьнае працы, у кансультацыі па розных пытаньнях, рабілі даклады ў галіне наступных навук: гісторыі, эканомікі, дыямату, вытворчага навучаньня, камуністычнага выхаваньня, пралетарскае літаратуры, мовы беларускай, нямецкай і г. д. У гэтай галіне працы было шмат зроблена катэдрамі літаратуры і мовы, якія сыстэматычна забясьпечвалі кіраўніцтва адпаведнай сэкцыі пры пэдгабінэце, зразумела, чаму і эфэктыўнасьць у працы маецца значная.

3) У галіне дапамогі аддзелам нарасьветы па падрыхтоўцы новых кадраў для школ і дашкольных устаноў, сіламі студэнтаў 3-х курсаў ВПІ была забясьпечана прапрацоўка пэдалёга-пэдагагічных дысцыплін, пад непасрэдным кіраўніцтвам катэдры пэдагогікі і пэдалёгіі, у гор. Менску—7 настаўніцкіх курсаў і ў раёнах БССР—5, з якіх 4 нацменьшасьцяй.

4) Для дапамогі і кіраўніцтва ў працы раённых настаўніцкіх канфэрэнцый-курсаў, 11 раёнаў БССР былі забясьпечаны сіламі навуковых працаўнікоў і студэнтаў 3-х курсаў спэцыяльных пэдагагічных аддзяленьняў ВПІ., дзе было зроблена 28 дакладаў па пэдагагічных і мэтадычных пытаньнях, а таксама была праробленa вялікая праца па мабілізацыі масавага настаўніцтва на барацьбу на два фронты ў пэдагогіцы, за марксыцка-ленінскую пэдагогіку, за палітэхнічную школу. Разам з гэтым студэнцтва пэдалёга-пэдагагічных аддзяленьняў прымала самы актыўны ўдзел у вырашэньні пытаньняў на Усебеларускай канфэрэнцыі ўзорных школ.

5) У месячнік па ўладаньні тэхнікай пэдагагічнага працэсу ВПІ уключылася с пачатку сакавіка м-ца. Быў выпрацаван канкрэтны плян работы. У гэтай кампаніі інстытутам праробленa наступнае: 10 навуковых працаўнікоў прынялі актыўны ўдзел у рэйдзе, арганізаваным Горана па дапамозе масаваму настаўніцтву.

У гэты час была ўзмоцнена праца ў пэдгабінэце. Створаны былі брыгады з навуковых працаўнікоў і студэнцтва і накіраваны ў школы для дапамогі настаўніцтву па ўладаньні тэхнікай пэдпрацэсу, а таксама некалькі навуковых працаўнікоў і студэнтаў старэйшых курсаў (лепшых мэтадыстых) былі камандыраваны у раёны БССР для дапамогі і арганізацыі гэтай справы у раёнах.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што прапрацоўка самаго курсу пэдагогікі на спэцыяльных аддзяленьнях была пабудавана так, што студэнты на працягу ўсяго навучальнага году тэорыю падмацоўвалі штодзённай практыкай у школе і разам з гэтым дапамагалі масаваму настаўніцтву ў вырашэньні цэлага раду пытаньняў мэтадычнага, пэдагагічнага і інш. парадку. Зразумела, што ў гэтай рабоце маецца шмат недахопаў, але напрамак у перабудове прапрацоўкі курсу пэдагогікі трэба лічыць пра-

вільным, бо такая пастаноўка работы не дае адрывацца студэнту ад штодзённай практыкі школы, апладатварае тэорыю практыкай.

Для абмену вопытам працы пэд. ВНУ і для вызначэньня далейшай працы ва ўсіх галінах падрыхтоўкі пэдкадраў, па ініцыятыве ВПІ была склікана канфэрэнцыя-нарада ўсіх вышэйшых пэдагагічных навучальных устаноў БССР, дзе было прапрацавана цэлы шэраг актуальнейшых пытаньняў, якія стаяць перад Пэд. ВНУ. Уся гэта работа, як першы вопыт набліжэньня ВПІ да масавай школы, зьяўляецца адзіна-правільным шляхам для зьнішчэньня агіднай спадчыны мінулага-разрыву паміж тэорыяй і практыкай, які існаваў да апошняга часу і абагачэньня тэорыі штодзённай практычнай дзейнасьцю школы, і па аказаньні дапамогі сотням і тысячам настаўніцтва, у вырашэньні цэлага раду баявых задач.

Зразумела, што у гэтай рабоце маюцца значныя недахопы. Ня ўсе яшчэ катэдры, ня ўсе навуковыя працаўнікі і студэнты ацанілі поўную важнасьць гэтай справы. Інстытут цесна не зьвязаўся з цэлымі сотнямі, тысячамі школ перэфірыі БССР, не адчувае штодзеннага пульсу іх жыцьця, а гэта неабходна; гэта выцякае з усяго ходу сацыялістычнага будаўніцтва, з задач культурнай рэвалюцыі.

Катэдры пэдагогікі і пэдалёгіі, якія павінны стаць на чале гэтай працы, яшчэ не ўзялі належных бальшавіцкіх тэмпаў, перабудоўваюць працу марудна, адстаюць, не зьвязаліся з працай катэдр іншых пэд. ВНУ, а ў сучасны момант, мамант абвостранай упартай барацьбы за палітэхнічную школу Маркса-Леніна, патрэбна карэнным чынам перабудаваць працу. Неабходна дапамагчы узброіцца настаўніцтву ніжэйшых зьвеньняў марксысцка-ленінскай мэтадалёгіяй, пэдагогікай і пэдалёгіяй, мэтодыкай выкладаньня, падвысіць яго палітэхнічны ўзровень; практычна дапамагчы ў пастаноўцы працы па вытворчым навучаньні, арганізацыі рабочых пакояў, майстэрняў, абсталяваньня іх, арганізацыі палітэхнічных музэяў, арганізацыі працы па вытворчым навучаньні на прадпрыемствах і ў майстэрнях, у адпаведнасьці з пэдалёгічнымі асаблівасьцямі дзіцяці.

Дапамагчы ў пэдагагізацыі і аўладаньні асновамі мэтадалёгіі палітэхнічнага выхаваньня новаму кадру работнікаў-спэцыялістых (аграномам, інжынэрам, тэхнікам і г. д), у аўладаньні тэхнікай пэдагагічнага працэсу. Іншым катэдрам таксама неабходна дапамагчы масаваму настаўніцтву ў вырашэньні аднэй з важнейшых задач, якая пастаўлена партыяй перад школай-зьнішчыць „карэнны недахоп“ у працы школ, папоўніць агульна-адукацыйны ўзровень настаўніцтва новымі дасягненьнямі навукі і тэхнікі і г. д.

Толькі пры такіх умовах, калі ўся грамадзкасьць інстытуту будзе мабілізавана на перабудову працы яго ў адпаведнасьці з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва, на вырашэньне задач пастаўленых партыяй перад ВПІ., можна будзе чакаць, што інстытут будзе ператварацца ў сапраўдны асяродак марксысцка-ленінскай пэдагогікі ў БССР.

# КРЫТЫКА І БІБЛІАГРАФІЯ

Мік. Цыганоў

## Крок ДВС у барацьбе за аўладаньне пэдагагічнай тэхнікай

У барацьбе за рэалізацыю пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе, за аўладаньне пэдагагічнай тэхнікай масаваму настаўніку патрэбны пэўныя дапаможнікі. ДВС зрабіў правільна, калі стаў на шлях выданьня пэдагагічнай літаратуры; невялікая брашура „За аўладаньне пэдагагічнай тэхнікай“ зьяўляецца першым крокам у гэтым напрамку.

Пяройдзем да разгляду выданай брашуры.

Назва зборніку гаворыць аб зьмесьце: у ім надрукавана 17 артыкулаў, большасьць з якіх мае прыкладны характар. Трэба зазначыць, што побач з добрымі артыкуламі маецца шэраг з няправільнымі і з неканкрэтнымі ўстаноўкамі.

Каштоўным зьяўляецца артыкул С.Я. Вальфсона „За адзінства тэорыі і практыкі“: у простай зразумелай форме настаўнік азнаёміцца з вучэньнем марксызму-ленінізму пра адзінства тэорыі і практыкі.

У зборніку ставіцца пытаньне аб правільным скарыстоўваньні перапынку ў школе (Субоціна—„Як правільна арганізаваць перапынак у масавай школе“). Вырашаючы пытаньне, т. Субоціна шырока не асьвяціла яго,—шмат ўзьнікае пытаньняў пры чытаньні артыкулу, якія абыйдзены маўчаньнем, прыкладна, як арганізоўваць перапынкі, калі ў школе 1-2 настаўнікі?

Невядома, чаму т. Субоціна лічыць, што задачы школы ў галіне аздараўленьня дзяцей вырашаюцца ў першую чаргу „ў захаваньні“ а) санітарна-гігіенічнага мінімуму, б) у правільнай арганізацыі перапынкаў, в) дазыроўцы заданьняў і правільным чаргаваньні працы і адпачынку дзяцей“ (стар. 15), зусім не застанаўліваецца на ролі фізычнага выхаваньня.

Каштоўным зьяўляецца артыкул С. Равіна „6 умоў т. Сталіна ў 4-й групе“. Аўтар артыкулу прыводзіць спачатку няправільную гутарку і запіс яе вучнямі (што назіраў у аднэй з школ Менску).

Гутарка прыведзена ў форме дыялёгу. Тав. Равін тлумачыць, як павінна праводзіцца гэтая тэма ў школе і які характар павінен насіць запіс. Тав. Равін досыць правільна папярэджвае ад памылак, памылкі такога характару настаўнікі робяць часта, піша: „фармулёўкі не павінны быць паўтарэньнем з тэксту для дарослых, але павінны быць складзены самімі дзецьмі стылем ім блізкім і зразумелым“. (стар. 31).

У зборніку надрукаваны досыць грунтоўны артыкул А. Савёнка „Мэтад навучаньня грамаце“. У пасьлядоўным парадку аўтар разгортвае перад настаўнікам работу па мэтаду цэлых слоў у „0“ групах, шляхам гука-літарнага аналізу.

Тав. Дрозд („Задачы школы ў пасяўной кампаніі“) намячае ў кароткіх рысах шлях уключэньня школы ў бальшавіцкую вясну на падставе пастановы партыі аб школе і НКА аб нармаваньні дзіцячай нагрузкі. На вялікі жаль, схэматычна вызначыўшы шлях увязкі тэарэтычнага навучаньня з практычнай працай у калгасе па грамадазнаўству, мове, матэматыцы, не зрабіў гэтага па іншых прадметах, а абмяжаваўся наступным указаньнем: „праграмы па прыродазнаўству, па палітэхнічным навучаньні і па іншых дысцыплінах таксама даюць дзецям рад тэарэтычных і практычных ведаў адпаведна іх узросту“ (стар. 57).

Ня гледзячы на паказаны недахоп, артыкул зьяўляецца надта каштоўным. Указаньні, як уключыцца школе ў трэці вясеньні сеў, каб ўся праца была падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам будуць патрэбны для школы ў бліжэйшы час.

Шэраг цікавых указаньняў знаходзім у артыкуле т. Гароткіна „Масавая работа з кнігай па сацспаборніцтву ў школьных бібліатэках". Падкрэсьліўшы, што „школьныя бібліятэкі зьяўляюцца адным з важных зьвеньняў у справе камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня" і што „школьныя бібліятэкі часта яшчэ зьяўляюцца выдатачнымі пунктамі кніг, а ня месцам пэдагагічнага ўзьдзеяньня на маладога чытача" (стар. 53), аўтар намячае крокі для правільнай арганізацыі работы школьных бібліятэк. Ён прапануе для таго, каб зацікавіць дзяцей чытаньнем патрэбных кніжок аб сацспаборніцтве, аб'явіць конкурс на лепшага чытача, рабіць выстаўкі кніг, вітрыны. Для папулярызацыі кніжок скарыстаць насьценгазэту. Пералічаныя формы работы школы ўжываюць мала, а пры дапамозе іх можна было-б пасунуць наперад перабудову працы школьных бібліятэк.

А. Савёнак закранае пытаньне ўжываньня пэрыядычнай дзіцячай літаратуры ў школьнай рабоце. Асноўная яго думка: часопіс „Іскры Ільліча" і газэта „Піонэр Беларусі" павінны скарыстоўвацца для навучальных мэт, бо маюць заўсёды патрэбны жыцьцёвы матар'ял.

У артыкуле „Мастацкая кніжка на дапамогу палітэхнічнаму навучаньню" т. Тэпін правільна ставіць пытаньне, што „праз дзіцячую палітэхнічную кніжку трэба ў дзяцей выхоўваць новыя сацыялістычныя адносіны да працы" (стар. 50). Тав. Тэпін у артыкуле разглядае асартымэнт кніжок выданых БДзВ па палітэхнічным выхаваньні.

Разгледзім артыкулы, прысьвячаныя плянаваньню працы. Застановімся на „рабочым пляне" Гуліса і Даўкша.

Плян складзен грунтоўна, форму можна запазычыць і перанесьці ў практыку школ, але ёсьць адзін недахоп: ня вытрымана чаргаваньне лёгкіх прадметаў з цяжкімі. Гэта чаргаваньне трэба разумець ня так, што, напрыклад, пасьля матэматыкі займацца сьпевамі, затым грамадазнаўствам, а далей фізвыхам; разьмяркоўваць урокі ў залежнасьці ад цяжкасьці трэба так, каб лёгкія прыпадалі на той час, калі ў вучняў працаздольнасьць ніжэйшая, і, наадварот, цяжкімі прадметамі займацца ў час найбольшай працаздольнасьці.

Што-ж робяць т.т. Гуліс і Даўкша? У пляне на 13/III (стар. 22) на другім уроку, калі працаздольнасьць найвышэйшая, займаюцца маляваньнем, а на трэцім, перад перапынкам працаздольнасьць паменшана,—матэматыкай.

Чаргаваньне лёгкіх прадметаў з цяжкімі ў пляне не дасягнута.

Другі недахоп пляну той, што фізвыхаваньне, сьпевы, маляваньне, як прадметы пералічваюцца, але ў пляне не запоўнены разьдзелы: тэма, зьмест, мэта і г. д.

Зборнік ставіць пытаньне аб плянаваньні палітэхнічна-вытворчага навучаньня (іншых не закранае). Пытаньню прысьвячан артыкул А. С.: „Арганізацыя палітэхнічнага навучаньня ў пачатковай школе". Аднак, у артыкуле знайсьці што-небудзь па пытаньні арганізацыі працы нельга, і лепш было-бы даць назву артыкулу „Схема пляну". Артыкул пералічвае пункты, па якіх трэба складаць плян.

У канцы зборніку прыведзен плян палітэхнічнага вытворчага навучаньня для другой групы.

Схэму пляну і схэму плянаваньня, дадзеную ў артыкуле, можна раіць для карыстаньня.

Побач з пералічанымі артыкуламі ёсьць шэраг, якімі карыстацца нельга бяз пэўнага крытычнага падыходу. Застановімся на працах т. Сагаловіча. У артыкуле „Аб матэматычных задачах ў школе і канцэнтру" ён наступным чынам характарызуе прычыны зьяўленьня працы. „Настаўніцтва на канфэрэнцыях цікавіцца гэтым пытаньнем, яму неабходна даць адказ" (стар. 9).

З паданага тэксту бачым, што тэма выклікана жыцьцём і мае досыць актуальны зьмест. Маючы добры намер—ліквідаваць прарыў, які ёсьць у мэтадычнай літаратуры, вырашыў пытаньне павярхоўна нават нядбайна.

У чым тут справа?

Настаўніка цікавіць зьмест задачак, мэтодыка і прыёмы выкладаньня, ці даў на гэта адказ т. Сагаловіч? Не, ня даў, а ў прыведзеных прыкладах дапускае шэраг прыкрых памылак. Каб паказаць гэта, прывяду наступны тэкст. Пры пе-

ралічэньні, якія задачы на складаньне павінны разьвязвацца ў школе, ён піша: „Задачы, у якіх па аднімніку і астачы трэба вызначыць зьменшыва. Напрыклад, пасьля таго, як калгас у гэтым годзе павялічыў засеўную плошчу на 93 га. яна складае 910 га. Вылічыць засеўную плошчу мінулага году“ (стар. 9). Калі мы па аднімніку і астачы будзем знаходзіць зьменшыва, дык павінны будзем рабіць дзеяньне складаньне, калі-ж па данаму прыкладу будзем вылічваць засеўную плошчу мінулага году, дык павінны будзем рабіць адыманьне“.

Ня менш недахопаў і ў артыкуле Навуменка „Сьцябло і яго значэньне“ (мэтадычная распрацоўка тэмы 3-га году навучаньня).

Першае, што неабходна падкрэсьліць, т. Навуменка раіць, у якасьці матар'ялу для прапрацоўкі, падручнік Траяноўскага „Курс естествознания“ і Ульянінскага „Азбука естествознания“.

Першым падручнікам школы даўно не карыстаюцца (калі гэта памылка, т. Навуменка павінен быў-бы на гэтым застанавіцца), а другі ў РСФСР больш году як забаронен для карыстаньня, здан у макулатуру. Падручнік Ульянінскага на беларускай мове таксама забаронен для ўжываньня рэкамендацыйным сьпісам падручнікаў на 1932-33 навучальны год.

Пры разгядзе падтэм зьяўляецца незразумелым, чаму апошняя (7-я „Разьвіцьцё сьцябла“) ідзе пасьля вывучэньня галоўных парод лесу іх скарыстоўваньня, а не пасьля, напрыклад, другой „Значэньне сьцябла для расьлін“, альбо трэцяй „Будова дравяністага сьцябла“. Пры такой перастаноўцы падтэм была-б дасягнута большая сыстэматычнасьць выкладаньня.

Для прапрацоўкі тэмы т. Навуменка раіць назіраньне, досьлед, дэманстрацыю „і толькі для замацаваньня фактаў, якія былі здабыты вучнямі пры назіраньнях, досьледах, патрэбна даваць матар'ял для чытаньня“ (с. III). Аднак, у адносінах да першай падтэмы аўтар лічыць мажлівым, што работу „можна правесьці мэтадам гутаркі і чытаньня“. „Другая падтэма прапрацоўваецца тым-жа мэтадам“, падкрэсьлівае далей, і толькі з трэцяй і чацьвертай падтэмы раіцца прапрацоўка дасьледчым шляхам.

Недахоп разгледжанага мэтадычнага артыкулу: 1) замоўчваньне пытаньня падагульненьня працы, 2) недастатковае асьвятленьне таго, як арганізаваць вучняў на выкананьне работы, 3) ня выпучаны моманты камуністычнага выхаваньня.

Надта недастатковы па сваёй апрацоўцы артыкул т. Гарбацэні „Аб авалданьні вучнямі тэхнікай правапісу“. Тэма вялікая, але высьвятляе адно пытаньне—ролю сьпісваньня ў навучаньні тэхнікі правапісу.

Першая памылка т. Гарбацэні тая, што ён ставіць знак роўнасьці паміж мэтадам і прыёмам.

У артыкуле наступным чынам характарызуецца паяўленьне няпісьменнасьці сярод вучняў: „правапіс зусім адарваўся ад сьпісваньня; законы яго (правапісу) выводзіліся на выпадкова схопленым матар'яле, або на паасобных сказах ці нават зусім на асобных словах. Правілы правапісу завучваліся, як нейкія абстрактныя, вырваныя, жывога слоўнага кантэксту зьявы. І выходзіць тое, што ў такіх выпадках сьпісваньне ідзе само па сабе, а вывучэньне правілаў правапісу само па сабе, і два бакі аднэй зьявы часта мэханістычна разрываюцца, і атрымліваюцца надзычайна дрэнныя вынікі“. (стар. 34). Відавочна, што агульныя прычыны няпісьменнасьці вучняў характарызаваны няпоўна, а паказаць іх неабходна для выяўленьня правільнага шляху ліквідацыі „карэннага недахопу.“

Прычын, якія прывялі школу да карэннага недахопу, значна больш, чым думае т. Гарбацэня, выяўленьне іх дае мажлівасьць хутчэй перамагчы недахоп, а, па думцы аўтара, трэба толькі скасаваць разрыў паміж сьпісваньнем матар'ялу і вывучэньнем правапісу, і вучні будуць пісьменным. У сапраўднасьці гэта яшчэ далёка ня так.

Тав. Гарбацэня падкрэсьліў, што сьпісваньне часам зьяўляецца прычынай няпісьменнасьці, а таму яму неабходна было-б больш застанавіцца на пытаньні, як трэба праводзіць сьпісваньне, які характар яно павінна мець у залежнасьці ад узросту і мэты сьпісваньня. Трэба падкрэсьліць, што ў мэтадычнай літара-

туры існуе думка, што „списывание явится полезным приемом главным образом на младших ступенях обучения, когда еще и самая техника писания недостаточно укреплена и нуждается в образцах правильного графического начертания слов“. (Афанасьев. „Как обучать письму в школе 1-ой ступени“. Учпедгиз, 1932 г., стр. 7).

Артыкул „Прыкладны плян чытаньня вершаў ў школе“ (аўтар Гарбацэвіч) можа дапамагчы настаўніку ў рабоце, ня гледзячы на тое, што мэтадычна новага нічога не дае. Трэба толькі паказаць, на няправільны пераклад вытрымкі з нататак У. І Леніна на тэзісы Н. К. Крупскай: „имел политехнический кругозор“ и начатки, основы политехнического образования“. Перакладаючы: „меў палітэхнічны кругавід і зачаткі палітэхнічнай адукацыі“,-т. Гарбацэвіч выпусьціў слова „асновы“, якое надае сказу пэўны сэнс. У перакладзе пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе на белмову чытаем: „пачаткі асновы палітэхнічнае адукацыі“. Гэты пераклад дакладны, таму лепшбыло-б т. Гарбацэвічу карыстацца ім.

Апроч артыкулаў у зборніку зьмешчан сьпіс школьнай бібліятэчкі для 1 і 2 груп. Працу ДВС у гэтым напрамку трэба прывітаць,аднак неабходна падкрэсьліць, што адбор у сьпісы кніг павінен быць больш строгім, каб непатрэбныя кніжкі ня раіліся. Як на прыкладзе, застановімся на кніжцы Л. Чарняўскай „Лявонка“ (збор. апавяданьняў з быту дзяцей, кніжка раіцца для самастойнага чытаньня ў 1-й групе). У кніжцы чытаем наступнае: „пытаецца ў сына:

— Якая ручка гэта зрабіла?

— Гэта,—працягнуў пальчыкі сын.

— Нашлёпай яе сам, сынок. Няхай шкоды ня робіць. Добра ёй накажы, няхай дзьвярэй не адчыняе. А то адчыніла ручка дзьверы, вылез ты з хаты і бяды нарабіў.

Нашлёпаў сваю ручку Пятручок. Кураненачка няжывога пажалкаваў, сьлёзкі абцёр і пацягнуўся за маткай на гарод“... (стар 14-15).

Ці трэба так пісаць пра быт сучасных савецкіх дзяцей?

Правільна зазначыў т. Якімовіч, што Чарняўская і Зіміенко „добра ведаюць псыхолёгію дзяцей, умеюць для іх пісаць, але тэмы іх кніжок незаўсёды маюць актуальнасьць“. („Камуністычнае выхаваньне“, № 3-4, 1931 г., стар. 77).

У гэтай-жа кніжцы ў апавяданьні „Шалёны сабака“ чытаем:

„Тут, мой каток, дасьледуюць розныя бактэрыі. А бактэрыі, калі хочаш ведаць, гэта такія маленькія, малюсенькія істоты, правільней казаць, ніжэйшыя арганізмы. Яны такія маленькія, што іх без павялічальнага шкла і ня ўбачыш. Бактэрый усюду поўна. Носіць іх вецер разам з пылам, аж кішаць яны ў стаячай вадзе... Усе заразьлівыя хваробы: шкарлятына, тыфус, дыфтэрыт і іншыя разносяцца праз гэтыя бактэрыі. Іх завуць яшчэ бацыламі. Ёсьць бактэрыі і не шкадлівыя“ (стар. 21-22). А далей ідзе апісаньне вопытаў Пастэра.

Зразумела будзе гэта ўсё пры самастойным чытаньні вучню першай групы? Вядома, што не. А гэта кніжка не адзінокая, да яе можна дадаць кніжку Путырскай „Рыжык падшэфны“.

Зборнік „За ауладаньне пэдагагічнай тэхнікай“ мае шэраг прыкрых друкарскіх памылак. Замест слова „Партыя“ друкуецца „портыя“ (ст. 7), замест „гароду“, „гораду“. У артыкуле Гарбацэвіча ў складзе „Які сьлед пакінулі палякі пасьля сябе“, замест „палякі“, „полькі“. У вершы Чарота „Даволі сьлез“, замест „хай“ надрукавана „кай“. Атрымліваецца: „кай хто памерыцца“ (ст. 43), і шмат яшчэ.

Вывады. ДВС пры выданьні інш. зборнікаў неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на адбор матар'ялу, дабівацца поўнага вырашэньня зачэпленых пытаньняў у тых ці іншых артыкулах.

Зборнік, ня глядзячы на недахопы, зьяўляецца каштоўным укладам у нашу, яшчэ невялікую пэдагагічную літаратуру.

ДВС побач з выданьнем прац працаўнікоў БССР павінен наладзіць выданьне ў перакладах—лепшыя творы пэдагічнай думкі. У гэтым напрамку нельга ня вітаць выданую кніжку т. Бубнова „Школа на павароце“.

А. Шашкоў

# Супроць „лявацкіх" рэцыдываў у мэтодыцы выкладаньня

Ня так даўно вышла з друку брашура „Аб мэтадах работы ў школах". Брашура гэта напісана т.т. Баршчэўскай і С. Равіным. Мае дачыненьне да гэтае брашуры і Навукова-дасьледчы інстытут камуністычнага выхаваньня, імя якога значыцца на гэтай брашуры. З боку зьместу ў гэтай брашуры ня ўсё у парадку. Пачынаецца яна досыць аб'ёмістай уступнай часткай. Пасьля гэтае ўступнае часткі разглядаецца чатыры самыя распаўсюджаныя, па думцы аўтараў, мэтады ў масавай школе, а менавіта: гутарка, экскурсійны, дасьледчы і лябараторны мэтады. Пры ацэнцы гэтае брашуры будзем прытрымлівацца таго парадку, які ўласьцівы самой брашуры. Пачнем з уступнай часткі, аб якой скажам вельмі кратка, зробім толькі некалькі агульных заўваг. Якую задачу ставяць перад сабою аўтары ў гэтай першай частцы? Задача ставіцца надзвычайна каштоўная, а менавіта—даць марксыцка-ленінскае абгрунтаваньне мэтадаў вучэбна-выхаваўчай работы ў школе, паставіць гэтыя мэтады ў сувязь з Ленінскай тэорыяй пазнаньня. Трэба сказаць, што замысел аўтараў зьяўляецца вельмі каштоўным. У брашуры, дзе ідзе гутарка аб мэтадах вучэбна-выхаваўчай работы ў школе, такі ўступ зьяўляецца зусім неабходным. Ці справіліся аўтары з гэтай задачай?

На вялікі жаль, аўтары справіліся ня цалкам. У гэтай першай частцы мы маем вялікае нагрaмаджэньне, вельмі каштоўных саміх па сабе, цытат з тэорыі пазнаньня. Але цытаты гэтыя, папершае, мэханічна злучаны паміж сабою, а па-другое, усе яны разам узятыя, у сваю чаргу мэханічна злучаны з другой часткай, той менавіта часткай, дзе гутарка ідзе аб мэтадах вучэбна- выхаваўчай працы ў школе.

Другая частка брашуры пачынаецца з разгляду мэтаду-гутаркі. З тым сьцьвярджэньнем, якое робіцца ў брашуры што гутарка зьяўляецца мэтадам і разам з гэты распаўсюджаным мэтадам, мы зусім згодны. Пытаньне-ж аб актыўнасьці гутаркі як мэтаду ў брашуры заблытана.

У адным выпадку, сьцьвярджаюць аўтары, гутарка зьяўляецца актыўным мэтадам, у другім—напалову актыўным, у трэцім гутарка зьяўляецца зусім пасыўным мэтадам. І нарэшце, пасьля ўсяго гэтага, аўтары гавораць: „Вось чаму мы прыходзім да вываду, што гутарка зьяўляецца адным з актыўных мэтадаў работы ў палітэхнічнай школе" (стар. 16), сьцьвярджаючы гэтым самым, што гутарка ўсё-ж зьяўляецца актыўным мэтадам.

Чаму ў аўтараў атрымалася такая блытаніна? Блытаніна гэта атрымалася, дзякуючы таму, што яны ў азначэньні актыўнасьці мэтаду выходзяць з няправільных пазыцый. Так, напрыклад, з разважаньняў у брашуры вынікае, што асноўнай прыметай актыўнасьці мэтаду зьяўляецца-актыўнасьць вучняў і пасыўнасьць настаўнікаў у працэсе гутаркі. Асноўнай-жа прыметай пасыўнасьці мэтаду, наадварот, зьяўляецца актыўнасьць настаўніка і пасыўнасьць вучняў.

Гэткае сьцьвярджэньне, знаходзіць сабе падмацаваньне на 8-ай і іншых старонках брашуры, дзе выразна падкрэсьліваецца пасыўнасьць гутаркі, як мэтаду нават і ў тым выпадку, калі пытаньні бываюць вельмі цяжкімі і вучні ня могуць адказаць на іх і калі „прыходзіцца рабіць гэта самому настаўніку". Больш таго, у брашуры, па зусім невядомых матывах, такая гутарка, дзе даюцца тлумачэньні настаўнікам, калі вучні самі ня могуць разабрацца, абвяшчаецца чамусьці „зуброжкай"? Гэткая ўстаноўка ў адносінах актыўнасьці мэтаду, пры пасыўнай ролі настаўніка, ня мае нічога агульнага з пастановай ЦК УсеКП(б) ад 25/VIII, дзе гаворыцца

што „ўва ўсёй рабоце школы неабходна дабіцца максымальнага забесьпячэньня вядучай ролі настаўніка".

У далейшых сваіх разважаньнях у адносінах гутаркі і іншых мэтадаў, аўтары застаюцца вернымі гэтай сваёй установоўцы, яшчэ больш яе паглыбляючы. Так, у запытаньнях настаўніка і адказах вучняў, якія маюць месца ў брашуры, з відавочнасьцю вынікае гэтая „лявацкая" канцэпцыя аўтараў. Ва ўстановачнай частцы да гэтых запытаньняў і адказаў вучняў мы чытаем аб тым, што гэтыя запытаньні настаўніка павінны быць толькі наводзячымі, далёкімі ад ісьціны, мудрымі, павінны толькі „штурхаць думку вучняў, што толькі ў такім выпадку аналіз будзе ўспрыняты актыўна, і веды будуць замацаваны" (стар. 13). Гэткае становішча сьцьвярджаецца ў брашуры, абвяшчаючы настаўніка штурхачом думак вучняў.

Пры разглядзе другіх мэтадаў мы знаходзім такія-ж самыя ўстаноўкі на пасыўнасьць настаўніка, на тое, што ён павінен быць толькі штурхачом, і на актыўнасьць вучняў не наогул, ня пры ўздыме актыўнасьці і настаўніка, а на актыўнасьць вучняў у асноўным за кошт актыўнасьці настаўніка. Так, у тэй частцы, дзе ідзе гутарка аб дасьледчым мэтадзе, мы чытаем, што „настаўнік не павінен у мэтавай установоўцы даваць прадрашоныя вывады, не павінен загадзя паведамляць вучням, што глеба складаецца з гліны, пяску, перагною, вады і інш." (стар. 24). Сьледам за гэтым даецца тлумачэньне тых прычын, дзякуючы якім настаўнік не павінен загадзя паведамляць вучням, што глеба складаецца з гліны, пяску і г. д.

Прычыны гэтыя, па думцы аўтараў, заключаюцца ў тым, што вучні потым будуць дрэнна „весьці нагляданьні ў акружаючым жыцьці", што „папярэдняе вырашэньне пытаньня аслабляе зацікаўленасьць вучняў і гэтым зьмяншае напружанасьць іх у нагляданьні за данай зьявай, што вучань, ведаючы раней рэзультаты, можа і менш наглядаць, або зусім не рабіць нагляданьняў" (стар. 24).

Усе гэтыя сьцьвярджэньні не зьяўляюцца пераконваючымі і разыходзяцца з пастановай ЦК УсеКП(б) ад 25 VIII, дзе гаворыцца, што „практычная работа і заданьні даюцца ў меру ауладаньня акрэсьленым курсам ведаў (разьвязваньня задач і практыкаваньняў, работы ў лябараторыях і г. д.)" Зусім незразумела, чаму гэта вучні з большай зацікаўленасьцю будуць выконваць тую або іншую працу альбо праводзіць той або іншы досьлед, калі ім з боку настаўніка ня будзе, хоць бы ў агульных рысах, папярэдня растлумачана тая або іншая зьява.

Нам думаецца, што, папярэдня растлумачваючы асабліва складаныя пытаньні, настаўнік заўсёды зможа і павінен яшчэ больш іх зацікавіць, прыкаваць іх увагу да пэўнага пытаньня і гэтым самым стварыць лепшыя ўмовы для правядзеньня досьледу або тэй ці іншай практычнай работы.

Нарэшце, на 27-ай старонцы аўтары паўтараюць тыя-ж самыя па сутнасьці „лявацкія" ўстаноўкі. Вось што гавораць аўтары: „Мы можам прымяняць яго (дасьледчы мэтад-Ш) і пры праходжаньні граматычнага правіла. Напрыклад, замест таго, каб адразу тлумачыць правілы, а потым ілюстраваць прыкладамі, настаўнік можа даручыць вучням заданьне з гэтымі самымі элемэнтамі прааналізаваць шляхам досьледу". Цяжка сказаць, што можа даць карыснага такі досьлед у граматыцы. Нам думаецца, што вынікі ад такога досьледу могуць быць якраз адваротныя. І так, у разуменьні аўтараў актыўнымі мэтадамі зьяўляюцца толькі тыя мэтады, пры карыстаньні якімі менш за ўсё гаворыць і дзейнічае настаўнік, дзе ён адыгрывае пасыўную ролю, дзе гэта актыўнасьць і дзейнасьць настаўніка пачынаюцца актыўнасьць і дзейнасьцю вучняў, і наадварот,—пасыўнымі мэтадамі. т. І. Баршчэўская і С. Равін абвяшчаюць такія мэтады, пры карыстаньні якімі крыху болей гаворыць і дзейнічае настаўнік, чымся вучні. Ну, скажэце, калі ласка, чым гэтая ўстаноўка Баршчэўскай і Равіна адрозьніваецца ад „лявацкіх" установак Шульгіна і К°, ад стаўкі „левакоў" на актыўнасьць вучняў і пасыўнасьць настаўніка, ад ідэаліза-

цыі „лявакамі“ вучняў і прыніжэньня ролі настаўніка? Амаль нічым!

Так азначаць актыўнасьць і пасыўнасьць мэтадаў ні ў якім выпадку нельга.

Чым жа азначаецца актыўнасьць мэтаду? Пры азначэньні актыўнасьці мэтаду, у прыватнасьці гутаркі, як мэтаду, трэба выходзіць з таго, у якой ступені той або іншы мэтад, пры ўзаемапрасякнавеньні з другімі мэтадамі, забясьпечвае моцнае асваеньне вядомай сумы ведаў, на вядомай узроставай ступені, пры мінімальнай колькасьці часу і затраце энэргіі, скарачае, такім чынам, шлях пазнаньня, робячы яго больш лёгкім, больш простым. Нарэшце, актыўнасьць мэтаду азначаецца яшчэ тым, наколькі гэты мэтад забясьпечвае клясавую накіраванасьць, забясьпечвае выхаваньне актыўных і дзейных, ініцыятыўных будаўнікоў сацыялізму і барацьбітоў рэвалюцыянэраў за сусьветны камунізм. Вось, нам думаецца, асноўныя прыметы актыўнасьці таго або іншага мэтаду. Калі мы разгледзім гутарку, як мэтад, у сьвятле гэтых прымет, то знойдзем, што яна ўсё-ж зьяўляецца актыўным мэтадам.

У брашуры, т. т. Баршчэўская і С. Равін, ходзячы „кругом да около“ гэтых прымет—урэшце вызначаюць іншыя, далёка няправільныя прыметы актыўнасьці мэтаду. У выніку гэтага атрымалася, што гутарка зьяўляецца тым, другім, трэцім і нічым.

Усе гэтыя развažаньні аўтараў аб актыўнасьці мэтадаў у залежнасьці ад актыўнасьці і ролі настаўніка і вучняў пры карыстаньні ім, упіраюцца, нарэшце, у пытаньне аб тым, павінен настаўнік даваць вучням „гатовыя веды, альбо гэтыя веды павінны здабывацца самімі вучнямі, зусім самастойна, пры сякойтакой дапамозе з боку настаўніка.

Пытаньне гэта, як вядома, не зьяўляецца новым пытаньнем. Аб ім шмат ужо гаварылася узьнімалі гэта пытаньне, у свой час і правыя апартуністы ў пэдагогіцы, і асабліва шмат размоў па гэтым пытаньні мы знаходзім у „левакоў“. Правыя апартуністы ў пэдагогіцы, як вядома, даводзілі, што справай вучняў зьяўляецца гэта толькі атрымліваць веды, а справа настаўніка толькі даваць гэтыя веды. „Левыя“ апартуністыя ўдаваліся ў другую крайнасьць. „Левакі“ лічылі вялікім злом, схалястыкай атрыманьне вучнямі „гатовых“ ведаў ад настаўніка. „Левакі“ лічылі, што вучні павінны самі, зусім самастойна гэтыя веды (заўважце) здабываць, і здабываць іх у працэсе ўдзелу ў грамадзкай працы будаўніцтве і клясавай барацьбе дзятвы. А роля настаўніка? Роля настаўніка нізводзілася да ролі маўчальніка, сузіральніка якой-небудзь не актыўнай, а толькі пасыўнай дапамогі „самаразьвіваючамуся“, „самавыхоўваючамуся“ арганізму дзіцяці.

А што-ж атрымлівалася ў выніку гэтага на практыцы? На практыцы вельмі часта атрымлівалася, што пры пазбаўленьні функцыі настаўніка даваць веды вучням, апошнія, „здабываючы“ гэтыя веды, варыліся ў сваім уласным саку, паглыбляючы гэтым самым асноўны, карэнны недахоп школы, робячы больш доўгім, больш цяжкім шлях пазнаньня, шлях аўладаньня асновамі навук. Як-жа мы гэта пытаньне суадносін паміж дачай вучням ведаў і здабыцьцём гэтых апошніх самімі вучнямі павінны вырашыць? Выходзячы з мэт і задач нашай Савецкай палітэхнічнай школы, выходзячы з I і II пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, мы гэта пытаньне павінны вырашыць такім чынам, каб гэтае вырашэньне забясьпечвала спалучэньне таго, што завецца дачай ведаў настаўнікам, з тым, што называецца здабыцьцём, пад кіраўніцтвам настаўніка, самімі вучнямі ведаў у працэсе самастойнай працы над кнігай, у працэсе грамадзка-вытворчай працы, экскурсіі, у лябараторыі, габінэце ды інш.

Мы не павінны баяцца таго, каб настаўнік даваў „гатовыя“ веды вучням, спалучаючы іх зразумела са „здабыцьцём“ ведаў самімі вучнямі. Гэта забясьпечыць самы кароткі шлях пазнаньня, самы кароткі шлях аўладаньня асновамі навук. Т. т Баршчэўская і С. Равін у сваёй брашуры ходзяць навакол гэтых пытаньняў і ў канчатковым падрахунку становяцца на пункт гледжаньня „левакоў“, што вучні ў пераважнасьці павінны веды гэтыя здабываць самастойна, пры такой-сякой пасыўнай дапамозе з боку

настаўніка. Зараз вельмі кароценька спынімся на экскурсійным мэтадзе.

У брашуры безагаворачна сьцьвярджаецца, што экскурсія зьяўляецца мэтадам. А гэта ня зусім так. Экскурсію нельга ставіць на адну вышыню з іншымі мэтадамі—гутаркай, дасьледчым ды інш. Экскурсія зьяўляецца спосабам накапленьня матар'ялу, бо ў працэсе падрыхтоўкі экскурсіі, яе правядзеньня і падвядзеньня вынікаў, мы карыстаемся сумай мэтадаў.

Такім чынам, у далейшым мы і будзем ужываць тэрміны „экскурсійны мэтад" у вызначаным намі сэнсе.

Трэба сказаць, што ў брашуры экскурсійны мэтад, як мэтад накапленьня матар'ялу надзвычайна добра распрацован, значна лепш, чымся ўсе іншыя мэтады. У брашуры зусім правільна патрабуецца вельмі сур'ёзная папярэдняя падрыхтоўка экскурсій—выбар аб'екта, складаньне падрабязнага пляну экскурсіі ды інш. Трэба лічыць вельмі ўдзячным выбар аўтарамі аб'екту экскурсіі на транспарт, у якасьці прыкладу. Вельмі ўдзячна і падрабязна распрацаваны плян экскурсіі на транспарт, які зараз павінен належным чынам прыкоўваць увагу школы. Вялікім недахопам гэтага разьдзелу ў брашуры трэба лічыць тое, што аўтары не распрацавалі мэтодыкі арганізацыі экскурсіі на другія асноўныя віды прамысловасьці.

У адносінах дасьледчага мэтаду, які ў брашуры разглядаецца, зробім толькі ўсяго некалькі заўваг. Першая заўвага зводзіцца да таго, што гэты мэтад вельмі ўсхваляецца, пераацэньваецца. Другая заўвага, што не паказана, як гэтым мэтадам карыстацца ў паасобных групах у адпаведнасьці з узростам і разьвіцьцём дзяцей.

На апошнім так званым лябараторным мэтадзе мы прымушаны спыніцца больш падрабязна. Лябараторны мэтад у брашуры пэўным чынам ідэалізуецца. Цікава, што на аднэй старонцы крытыкуюцца „лявацкія" ўстаноўкі ў адносінах гэтага мэтада, а на другой старонцы потым ізноў усхваляецца, падкрэсьліваецца, што „лябараторны мэтад зьяўляецца адным з актыўных мэтадаў, які дае зусім добрыя пэўныя рэзультаты" (стар. 30.) Гэта, зразумела, ня першая і не апошняя супярэчнасьць у гэтай брашуры. Такіх супярэчных месц у брашуры можна знайсьці багата.

У брашуры зусім правільна адрозьніваюцца розныя самастойныя работы дзяцей ад арганізацыі разгорнутай работы па так званым лябараторным „мэтадзе" з пісьмовымі заданьнямі, уступнымі і заключнымі канфэрэнцыямі. Але-ж, ня гледзячы на гэта, у брашуры ідзе гутарка амаль выключна аб тым, як павінен ужывацца ў школе толькі, так званы, лябараторны мэтад. Аб тым—як і ў якой ступені павінны ўжывацца ў школе розныя самастойныя работы—элемэнт лябараторнасьці, у брашуры амаль нічога не гаворыцца. Мае месца ў брашуры спроба разьмежаваць пытаньне скарыстаньня лябараторнага мэтаду ў I і II канцэнтрах. Але разьмежаваньне гэта нас ня можа задаволіць. Разьмежаваньне гэта зьяўляецца вельмі нявыразным. Гэта нявыразнасьць усугубляецца яшчэ тым, што ў брашуры падкрэсьліваецца той момант, што і ў пытаньні скарыстаньня лябараторнага мэтаду ў I і II канцэнтрах. прынцыповай розьніцы няма.

Пасьля гэтых агульных заўваг, пераходзім да пытаньня па сутнасьці. З гісторыяй лябараторнага мэтаду, відаць, усе знаёмы, а пагэтаму мы на ёй застанаўляцца ня будзем. Першае пытаньне, на якое нам трэба даць адказ—гэта ці зьяўляецца лябараторны мэтад мэтадам? На гэта пытаньне мы даем адмоўны адказ. Удумайцеся добра у сутнасьць таго, што звычайна называецца лябараторным мэтадам, і вы прыдзеце да гэтага выніку. Фактычна пад тым, што называецца лябараторным мэтадам, мы маем суму мэтадаў. Так, напрыклад, уступная канфэрэнцыя праводзіцца лекцыйна-бяседным мэтадам, потым самастойная праца вучняў над кнігай альбо ў лябараторыі, габінэтах, інакш усё гэта апошняе можна назваць дасьледчым мэтадам. У працэсе кансультацый ужываецца мэтад—гутаркі, могуць практыкавацца спэцыяльныя лекцыі, экскурсіі, канчаецца праца па заданьні заключнай канфэрэнцыі, якая ізноў такі право-

дзіцца . лекцыйна бяседным мэтадам. У працэсе ўсёй працы: уступнай, заключных канфэрэнцый,самастойнай працы, можа і павінен шырака ўжывацца ілюстрацыйна-наглядны мэтад. Зразумела, што ніводным гэтым мэтадам мы ня можам і не павінны карыстацца зусім ізалявана ад другіх і толькі ім адным. Мы заўсёды карыстаемся ў нашай працы сумай мэтадаў, чаго вельмі многія не разумеюць, не разумеюць дыялектычнага ўзаемапрасякнавеньня мэтадаў. Такое неразуменьне мы маем і ў брашуры, якая намі разглядаецца. Аўтары, гаворачы аб мэтадах, нідзе не падкрэсьліваюць гэтага дыялектычнага ўзаемапрасякнавеньня мэтадаў.

І так, ад таго, што мы звычайна называем лябараторным мэтадам, фактычна нічога не застаецца. Усё гэта: уступная, заключная канфэрэнцыя, самастойная праца ды інш.,—хутчэй зьяўляецца формай арганізацыі заняткаў, але толькі ня мэтадам. Разам з гэтым мы павінны адзначыць, што гэта форма не зьяўляецца і ня можа зьяўляцца асноўнай формай арганізацыі заняткаў, а толькі другараднай. У пастанове ЦК УсеКП(б) ад 25/VIII ясна і акрэсьлена гаворыцца, што „асноўнай формай арганізацыі вучэбнай работы ў пачатковай і сярэдняй школе павінен зьяўляцца ўрок з дадзенай групай вучняў са строга акрэсьленым раскладам заняткаў і цвёрдым складам вучняў“

Такой арганізацыі клясных заняткаў, у поўнай меры, не забясьпечвае так званая лябараторная форма Далей у пастанове ЦК падкрэсьліваецца, што „г э т а я ф о р м а (урок—Ш) павінна ўключыць у сябе, пад кіраўніцтвам настаўніка, агульнагрупавую, брыгадную і індывідуальную работу кожнага вучня з ужываньнем разнастайных мэтадаў навучаньня“ (з пастановы ЦК). Адгэтуль з неабходнасьцю вынікае, што ў пачатковай і сярэдняй школе гутарка можа ісьці не аб лябараторным не існуючым мэтадзе, не аб лябараторнай разгорнутай форме заняткаў, а толькі аб элемэнце лябараторнасьці, разумеючы пад гэтым розныя самастойныя работы вучняў пад непасрэдным кіраўніцтвам настаўніка—па замацаваньні ведаў, па набыцьці звычак. Элемэнт лябараторнасьці на старэйшых ступенях навучаньня неабходна паступова пашыраць.

Самыя-ж дысцыпліны павінны выкладацца сыстэматычна з ужываньнем розных мэтадаў. У пастанове ЦК УсеКП(б) ад 25/VIII ясна і акрэсьлена гаворыцца, што „выкладчык абавязан сыстэматычна, паступова ізлагаць выкладаемую ім дысцыпліну, усялякім чынам прывучаючы дзяцей да працы над падручнікам і кніжкай, да рознага роду самастойных пісьмовых прац, да працы ў габінэце, лябараторыі, вучэбнай майстэрні і шырока практыкуючы разам з гэтыыі асноўнымі мэтадамі рознага роду дэманстрацыі вопытаў і прыбораў, экскурсіі (на завод, у музэй, у поле, у лес і г. д.)“ З гэтае цытаты з відавочнасьцю вынікае, што ўсялякаму досьледу або практычнай рабоце вучняў павінны прадпасылацца тлумачэньні настаўніка, прадпасылацца сыстэматычнае паступовае выкладаньне дысцыпліны, і толькі пасьля гэтага і „ў меру аўладаньня акрэсьленным курса ведаў“ (з пастановы ЦК) разгортваецца практычная самастойная праца вучняў над падручнікам, кніжкай, праца ў лябараторыі, габінэце, у майстэрні, прадпрыемстве ды інш.

Зусім адваротныя ўстаноўкі даюцца ў брашуры. У брашуры чырвонай ніткай ад пачатку да канца праходзіць тая думка, што досьлед або практычная праца праводзіцца раней тлумачэньняў настаўніка, што настаўнік у гэтым пытаньні заўсёды павінен плясьціся ў хвасьце.

Маюцца ў брашуры паасобныя недакладнасьці. У тлумачэньнях узаемаадносін тэорыі і практыкі ў брашуры падкрэсьліваецца, што сувязь (тэорыі і практыкі—Ш) праяўляецца ў палітэхнічным навучаньні, у часе экскурсіі“ (стр. 15)

Як бачыце падкрэсьліваецца толькі адзін бок сувязі тэорыі і практыкі праз палітэхнічнае навучаньне, не падкрэсьліваецца сувязь тэорыі з практыкай, праз „тэорыю“ не падкрэсьліваецца дыялектычнае узаемапрасякнавеньне тэорыі і практыкі. У брашуры адчуваецца нека-

торая аднабаковасьць, часамі мэханістычнасьць у тлумачэньнях гэтага пытаньня.

Нарэшце, апошняя заўвага зводзіцца да таго, што ў брашуры ўсё-ж ідэалізуецца брыгада, праводзіцца думка абавязковасьці пастаянных брыгад.

Вывад. У брашуры маюцца сякія-такія дадатныя бакі, сякія-такія карысныя парады настаўніку ў яго практычнай працы. У прыватнасьці, мы зазначаем на экскурсійны мэтад як мэтад накапленьня матар'ялу, як на самую лепшую частку брашуры.

Але адначасова з гэтым, сякімі-такімі дадатнымі бакамі, маецца шмат адмоўнага. Усё адмоўнае, што маецца ў гэтай брашуры, мы кваліфікуем як „лявацкія“ рэцыдывы, сутнасьць якіх у асноўным зводзіцца да недаацэнкі ролі настаўніка, ідэалізацыі вучняў у пытаньнях „атрыманьня“ і „здабыцьця“ ведаў. Сутнасьць „лявацкіх“ рэцыдываў, нарэшце, заключаецца яшчэ і ў ідэалізацыі дасьледчага і галоўным чынам так званага „лябараторнага мэтаду“.

У разважаньнях аўтараў адзін крок да ўзьвядзеньня лябаратортага мэтаду у вядучы, галоўны, унівэрсальны мэтад і падпарадкаваньня яму ўсіх іншых мэтадаў.

Пераважная большасьць установак, якія даюцца ў брашуры, карэнным чынам разыходзяцца з пастановай ЦК УсеКП(б) ад 25/VIII 1932 г. Карыстацца гэтай брашурай у школах ні ў якім выпадку нельга.

# ІНФАРМАЦЫЯ

## Конкурс-спаборніцтва на лепшы твор для дзяцей

Краіна саветаў пераможна завяршае першую пяцігодку вялікага сацыялістычнага будаўніцтва за чатыры гады і рыхтуецца да другой пяцігодкі, асноўная палітычная задача якой—пабудова бясклясавай сацыялістычнай грамады.

Гэтую задачу мы зможам выканаць толькі „у змаганьні з рэшткамі капіталізму, даючы бязьлітасны адпор супраціўленьню гінучых капіталістычных элемэнтаў, перамагаючы буржуазныя і дробна-буржуазныя забабоны сярод працоўных і вядучы настойлівую работу па сацыялістычным выхаваньні працоўных“.

Літаратуры, як зброі клясавай барацьбы у гэтым змаганьні за сацыялістычнае выхаваньне новага чалавека належыць вялізарная роля.

ЦК партыі ў сваіх пастановах аб школе, піянэрарганізацыі, у сувязі з яе 10-ці годзьдзем, і аб дзіцячай літаратуры асабліва завастрае ўвагу на камуністычнае выхаваньне падрастаючага пакаленьня, на формы і мэтады выхаваньня, сярод якіх вялікае месца займае дзіцячая кніжка, кніжка, „бальшавіцкі бадзёрая, заклікаючая на змаганьне і перамогу“, кніжка, якая павінна служыць справе „падрыхтоўкі ўсебакова разьвітых членаў камуністычнай грамады“.

Дзіцячая літаратура Беларусі дасягнула за гады першай пяцігодкі сацыялістычнага будаўніцтва значных посьпехаў. Але гэтыя посьпехі характарызуюцца больш колькаснымі, чым якаснымі, паказчыкамі. Кваліфікаваныя пісьменьнікі Беларусі яшчэ зусім мала аддаюць увагі дзіцячай літаратуры. У выніку—дзіцячая літаратура на сёньняшні дзень зьяўляецца ў нашай агульнай літаратуры фронтам найбольш адсталым ад шпаркіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Выходзячы з гэтага, у зьвязку з 10-годзьдзем дзіцячай камуністычнай арганізацыі юных піянэраў імя Леніна, Наркамасьветы БССР, ЦСПСБ, ЦБДКО, ЦК ЛКСМБ, ДВБ, ЦК ДД пры ЦВК БССР, аб'яднаньне савецкіх пісьменьнікаў Беларусі, абвяшчаюць з 1 верасьня б/г шырокі конкурс-спаборніцтва на лепшы літаратурна-мастацкі і навукова-папулярны твор для дзяцей.

### Задачы конкурсу

Конкурс спаборніцтва на лепшы твор для дзяцей ставіць задачай прыцягнуць увагу ўсіх пісьменьнікаў, мастакоў, рабочых-ударнікаў, заклікаваных у літаратуру, настаўнікаў, літаратурную моладзь нашых тэхнікумаў, ВНУ да справы стварэньня новых ідэалёгічна вытрыманых, высока мастацкіх твораў для дзяцей, твораў, якія-б „у яркай і вобразнай форме паказвалі сацыялістычную пераробку краіны і людзей і выхоўвалі дзяцей у дусе пралетарскага інтэрнацыяналізму“.

Конкурс не абмяжоўвае аўтараў у выбары тэм і матар'ялу для твораў. Але разам з гэтым раіцца ўдзельнікам конкурсу асаблівую ўвагу зьвярнуць на распрацоўку наступных галоўных тэм:

1. Сацыялістычнае будаўніцтва ў БССР і СССР (у горадзе і вёсцы), клясавая барацьба, гэроіка нашых дзён і наша будучыня, пераробка людзей у працэсе сацыялістычнага будаўніцтва ў сьвядомых членаў камуністычнай грамады. Культурная рэвалюцыя. Нацыянальная палітыка партыі. Роля партыі і камсамолу ў будаўніцтве сацыялізму.
2. Жыцьцё, быт і работа піянэрарганізацыі, як арганізатара мільённай дзятвары на пасільны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве.
3. Новая палітэхнічная школа Маркса-Леніна.
4. Змаганьне за сусьветны Кастрычнік (жыцьцё і рэвалюцыйная барацьба пра-

цоўных усяго сьвету і іх дзяцей, інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне, роля і значэньне МОПР'у. Жыцьцё і змаганьне працоўных Заходняй Беларусі. СССР, як бацькаўшчына сусьветнага пралетарыяту.

5. Наша мінулае (дарэвалюцыйны час, Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна).

6. Будзем гатовы да абароны (Чырвоная армія, як пільны вартаўнік Савецкага саюзу і ўдзельнік сацыялістычнага будаўніцтва, удзел усіх працоўных і іх дзяцей у падрыхтоўцы да абароны краіны).

7. За аўладаньне тэхнікай.

8. Юныя бязбожнікі

## Умовы конкурсу

1. Кожны твор для дзяцей павінен быць высока-ідэйным і мастацкім творам, поўнасьцю адпавядаць запатрабаваньням сучаснае савецкае пэдагогікі. Ён павінен абуджаць і выклікаць у дзяцей эмоцыі бадзёрасьці, радаснага ўспрыманьня сацыялістычных працэсаў працы і самой працы, як „справы гонару, мужнасьці і гэройства“; павінен выклікаць у дзяцей адчуваньне жывой непарыўнай сувязі з вялікім калектывам, што будуе новае жыцьцё. Дзіцячая кніжка павінна мабілізоўваць чытача на пасьпяховую барацьбу за другую пяцігодку, за пабудову бясклясавай грамады, за новую палітэхнічную школу і ўдарную вучобу, за ленінскую нацыянальную палітыку, супроць шавінізмаў усіх колераў, як праяў клясава-варожых пралетарыяту. Кожны твор для дзяцей павінен быць дзейнай, вострай зброяй у справе камуністычнага выхаваньня дзетвары.

2. Мова дзіцячай кніжкі павінна быць багатай, вобразнай, яркай і адначасна зразумелай шырокім дзіцячым масам. Асаблівае значэньне набывае і ўзбагачэньне дзіцячай літаратуры новымі цікавымі формамі і жанрамі, бяз шырокага разьвіцьця якіх нельга стварыць бадзёрую, жывую, яркую, захапляючую юнага чытача бальшавіцкую кнігу.

3. Творы могуць быць напісаны любой літаратурнай формай (проза, паэзія, драматургія) на адной з моў усіх нацыянальнасьцяй БССР і разьлічаны на дзяцей пэўнага ўзросту: дашкольнага або школьнага (малодшага, сярэдняга, старэйшага). Для дашкольнага ўзросту твор можа быць пададзен з малюнкаў з невялічкім тэкстам.

4. Конкурс будзе праводзіцца закрытым. Гэта значыць, рукапісы трэба прысылаць толькі пад дэвізамі (умоўнымі абазначэньнямі—словамі ці цэлымі сказамі) з дадаткам запячатаных канвэртаў пад тымі самымі дэвізамі; у канвэртах павінна быць паведамленьне аб прозьвішчы і адрасе аўтара альбо па жаданьню аўтара можа быць пастаўлены псэўдонім. Дэвізныя канвэрты ўскрываюцца пасьля канчатковай пастановы камісіі-журы аб выніках конкурсу. Дэвізы тых твораў, якія прэміі не атрымаюць, але якія будуць прызнаны годнымі да друку, ускрываюцца па згодзе на гэта аўтара, прычым, камісія па кіраўніцтву конкурсам захоўвае за сабою права пусьціць некаторыя, па выбару камісіі, творы на папярэдняе абмеркаваньне юных чытачоў і грамадзкасьці як шляхам публічнай чыткі іх, так і друкаваньня ў перыядычнай прэсе, асабліва піянэрскай.

5. Рукапісы прысылаць на адрас: Менск, Савецкая, № 59, ДВБ, Юндзетсэктар, з паметкай „На конкурс“.

Апошні тэрмін прысылкі рукапісаў—1 красавіка 1933 г.

6. За лепшыя творы вызначаны наступныя прэміі:

| | |
|---|---|
| 1 я прэмія . . . . . . . . | 5000 руб. |
| 2-я—дзьве прэміі па . . . . | 3000 „ |
| 3-я— 3 „ „ . . . . | 1000 „ |
| 4-я— 6 „ „ . . . . | 500 „ |
| 5-я— 10 „ „ . . . . | 300 „ |

Для ацэнкі матар'ялу і кіраўніцтва конкурсам-спаборніцтвам арганізуецца камісія-журы ў складзе: намесьніка наркома асьветы БССР т. С. Я. Вальфсон (старшыня камісіі—журы), загадчыка ДВБ т. Ал. Некрашэвіча (нам. старшыні) і членаў: т. т. Майзіт, Гародкіна, Лынькоў, Гарбуз, Якімовіч, Шашкоў, Лібэрман, Сьвярдлоў, Бэйрах, Гараўскі і Каблукоў.

*Рэдкалегія*—**Брыгневіч Г. М., Вольфсон С. Я., Гайдук С. Е., Зарэмбоўскі К. Н., Некрашэвіч А. Я., Панкевіч П. Е., Хомо У. І., Царт Л. А.**

*Нам. адказнага рэдактара* **У. І. Хомо**

